# Маладосць

**_ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС_**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне
«Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»

4

**(737) КРАСАВІК, 2015**

**Выдаецца з 1953 года**



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
2015

## У НУМАРЫ:

*Гэты нумар «Маладосці» — чарговае прысвячэнне літаратурнаму конкурсу «БрамаМар», які ладзіцца па ўсёй краіне для студэнтаў ВНУ высілкамі кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ. Таму на вокладцы ў праекце «Прозвішчы» — партрэт Еўфрасінні Леанідаўны Бондаравай, колішняй «гуру» кафедры. Таму тут, у рубрыцы «Ад рукі», — яе рукой праўленая праграма курса. Таму ў гэтым нумары прадстаўлены не толькі мастацкія працы канкурсантаў «БрамаМар», але і артыкулы кафедральных выкладчыкаў.*

*Рэдакцыя часопіса «Маладосць» выказвае падзяку партнёрам — супрацоўнікам і студэнтам кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ, арганізатарам і ўдзельнікам конкурсу «БрамаМар» — і вельмі спадзяецца на ўважлівага і ўдзячнага чытача.*



15.Тэатральны агляд у газетах і часопісах.
16.Кінематограф і друк: праблемы і тэмы ва ўмовах рынку публікацый.
17.Кінарэцэнзія, асаблівасці рэцэнзавання фільмаў: ігравых, дакументальных, тэлевізійных (па матэрыялах прэсы).
18.Кінаагляд, прынцыпы выбару фільмаў для аналізу і абгрунтавання вывадаў.
19.Музыка і СМІ: асноўныя тэмы і формы асвятлення ў сучасных умовах.
20.Праблематыка і жанры публікацый аб выяўленчым мастацтве (з практыкі перыядычных выданняў).
21.Мастацтва на радыё і тэлебачанні ў адлюстраванні прэсы.
22.Духоўнае жыццё РБ у адлюстраванні штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва".
23.Газета РБ "Культура" як тып выдання; асноўныя рубрыкі і жанры публікацый.
24.Беларуская рэспубліканская прэса аб літаратуры і мастацтве (2-3 выданні па выбару).
25.Спецыялізаваныя часопісы Беларусі па літаратуры і мастацтве, іх асаблівасці, тэматыка публікацый.
26.Маладзёжны друк Беларусі аб літаратуры і мастацтве.
27.Культурная спадчына народа ў сродках масавай інфармацыі.
28.Мясцовая прэса аб мастацкай культуры (выданні па выбару).
29.СМІ аб нацыянальнай ідэі ў літаратуры і мастацтве.
30.Праблематыка, формы і жанры асвятлення ў СМІ суверэннай дзяржавы замежнай культуры.
31.Мастацтва постмадэрнізма: публікацыі аб ім.
32.Выступленні дзеячаў літаратуры і мастацтва ў друку: традыцыі, сучасная практыка.

Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ

# ГЕНЕТЫЧНАЯ ПАМЯЦЬ СЛОВА



*Каго з класікаў беларускай літаратуры называлі «Мішэль-вермішэль»? Што ёсць агульнага паміж старадаўняй інкунабулай і цыратавым нататнікам нікому не вядомага канторшчыка пачатку XX стагоддзя? Як людзі пакланяюцца дыванам, шапкам, Міхаілу Баярскаму ды іншым трэш-культам інтэрнэту? Адказы на гэтыя пытанні вы зможаце знайсці на старонках унікальных выданняў кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ, прысвечаных гісторыі беларускага мастацтва ды журналістыцы, а таксама асэнсаванню сучасных праблем і тэндэнцый у гэтых сферах.*

## АДКАЗ НА ВЫКЛІК ЧАСУ

Сучаснае мастацтва імкліва змяняецца, і тая мастацкая рэальнасць, што яшчэ ўчора падавалася зразумелай, апісанай, вытлумачанай, сёння патрабуе новага асэнсавання. Выклік часу з годнасцю прыняла кафедра літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ. Дзякуючы ініцыятыве загадчыцы гэтай кафедры, кандыдату філалагічных навук, дацэнту Людміле Саянковай у 2009 годзе была заснавана кніжная серыя «СМІ і мастацкая культура». За шэсць гадоў у гэтай серыі выйшлі чатыры зборнікі навуковых прац, прысвечаныя самым актуальным праблемам сучаснага мастацтва і яго аналізу.

Першы зборнік «Произведение искусства — предмет анализа критика» пабачыў свет у 2009 годзе. Яго прадмова стала своеасаблівым «маніфестам» серыі, дзе сцвярджаліся тэзісы пра смеласць і адказнасць журналіста, які называе сябе крытыкам, ды яго права ідэнтыфікаваць сябе менавіта так; пра стэрэатыпы ў асэнсаванні сучаснага мастацтва і тое, як належыць іх пазбягаць. У фокусе ўвагі аўтараў аказаліся падыходы да аналізу твора мастацтва, якія разглядаюцца галінова — кінакрытыкамі, тэатральнымі, літаратурнымі, музычнымі крытыкамі, крытыкамі выяўленчага мастацтва.

Другі зборнік «Время. Искусство. Критика» (2010) — прысвечаны юбілею заслужанага журналіста Рэспублікі Беларусь, тэатральнага крытыка, доктара філалагічных навук, прафесара і выкладчыка кафедры Таццяны Арловай. Трэці — «Массовая культура и журналистика» (2012) — быў адметны тым, што на яго старонках упершыню разглядаліся пэўныя асаблівасці масавай культуры ў сферы літаратурна-мастацкай крытыкі.

У 2013 годзе свет пабачыў чацвёрты зборнік навуковых прац «Трансформация жанров в литературно-художественной критике». Жанравыя мадыфікацыі разглядаюцца ў кантэксце сучасных публікацый спецыялізаваных і грамадска-палітычных СМІ, прысвечаных культуры і мастацтву. Разам з досыць традыцыйнымі для вызначанай праблематыкі тэмамі (аналіз «гібрыдных» і «чыстых» жанраў) аўтары разглядаюць і адносна новыя для нашага культурнага

поля з'явы — эга-дакументы, дакументальны тэатр. Адметны чацвёрты зборнік і пашырэннем навукова-творчых стасункаў кафедры: у кнігу ўключаны стэнаграма творчай сустрэчы і лекцыі вядомага расійскага пісьменніка, публіцыста, філолага-даследчыка Анатолія Каралёва, які некалькі год таму наведаў Інстытут журналістыкі БДУ. Сярод пастаянных аўтараў серыі — навукоўцы, выкладчыкі, крытыкі журналісты: Людміла Саянкова, Таццяна Арлова, Пятро Васючэнка, Арцём Кавалеўскі, Галіна Багданава, Уладзімір Капцаў, Людміла Перагудава, Наталля Агафонава, Надзея Бунцэвіч, Ірына Шаўлякова, Ларыса Цімошык, Аксана Бязлепкіна ды іншыя.

Аўтары намагаюцца асэнсаваць і вырашыць важную праблему, якая паўстала сёння перад супольнасцю крытыкаў: па якіх крытэрыях належыць аналізаваць сучасны твор мастацтва? Прастора перакрыжавання мастацтва і журналістыкі, навукі і практыкі — неабходны складнік працэсу асэнсавання творчых здабыткаў. Тут куды хутчэй, чым у акадэмічным мастацтвазнаўстве, з'явы сучаснай культуры фіксуюцца, тлумачацца, упісваюцца ў кантэкст, пазбаўляюцца маргінальнага статусу і вызначэння «феномен».

**РАЗАМ ДА ЗОР...**

Кафедру літаратурна-мастацкай крытыкі заўсёды вылучала асаблівая атмасфера, што пануе ў творчых ВНУ, дзе навука спалучаецца з мастацтвам, рацыянальнае з ірацыянальным. Адзін з найкаштоўнейшых складнікаў гэтай атмасферы — сувязь розных пакаленняў. Рэч унікальная на цяперашнім этапе існавання грамадства, шмат у якіх сферах жыцця страчаная. І не з-за адвечнага канфлікту бацькоў і дзяцей, а з-за змен грамадска-палітычнага ладу жыцця, таго, як перафармаціравала нас інфармацыйнае грамадства.

…Я прыходжу на кафедру і зазвычай сядаю ў крэсла ў кутку, над якім вісіць партрэт таго чалавека, які сваёй навуковай працай, журналісцкай творчасцю шмат зрабіў дзеля заснавання кафедры — прафесара Еўфрасінні Леанідаўны Бондаравай. Калі я паступіла ва ўніверсітэт, Бондарава ўжо не выкладала. З легендай савецкай і беларускай кінакрытыкі я знаёмая толькі дзякуючы факультэцкім аповедам, што раз-пораз прыгадваюцца на кафедры, дый шматлікім тэарэтычным кіназнаўчым і журналісцкім працам. Але седзячы пад гэтым партрэтам, я адчуваю нейкай генетычнай памяццю смак сушак, якімі Еўфрасіння Леанідаўна падкормлівала студэнтаў на бясконцых кінапаказах, і дакладна ведаю інтанацыю, з якой шаноўны прафесар пракаментавала тую ці іншую падзею…

Кніга «Свет далёкіх звёзд», якая пабачыла свет у гонар 70-гадовага юбілею журфака ў «Выдавецкім доме «Звязда», якраз і намагаецца матэрыялізаваць гэтую генетычную памяць, зрабіць яе відавочнай, адчувальнай для многіх. Укладальнік зборніка Людміла Саянкова аб'яднала пад адной вокладкай 23 біяграфіі беларускіх творцаў-выпускнікоў журфака. Сярод іх: празаікі, паэты, кінарэжысёры ігравога, дакументальнага, анімацыйнага кіно, публіцысты, сцэнарысты, літаратуразнаўцы, крытыкі. Сярод іх: Мікола Аўрамчык, Святлана Алексіевіч, Алег Белавусаў, Ігар Дабралюбаў, Анатоль Алай, Анатоль Вярцінскі, Генадзь Бураўкін, Адам Мальдзіс ды іншыя.

Аўтары распавялі пра сваіх герояў па-рознаму. Жанравую палітру і дыстанцыю вызначыла асабістае знаёмства, творчыя адносіны — адным давялося распавядаць пра сяброў (напрыклад, Таццяне Арловай, якая вучылася разам з Міхасём Стральцовым); іншым — пра настаўнікаў (напрыклад, Людміле Саянковай: спачатку вучылася ў Еўфрасінні Леанідаўны, потым працавала з ёй, а сёння працягвае традыцыі некалі ёю закладзеныя). Таму чытач знойдзе ў кнізе і літаратуразнаўчыя нарысы, і крытычныя агляды, і філасофскія эсэ, і лірычныя ўспаміны.

У прадмове Людміла Саянкова зазначае: «В традиции старейшего факультета журналистики на постсоветском пространстве всегда было особенное внимание к художественной культуре, к приобщению студентов к познанию искусства, к тому чтобы попробовать себя в разных видах творчества». Канешне ж, за 70-гадовую гісторыю існавання факльтэта ў розных відах мастацтва паспрабавалі сябе і засталіся ў іх гісторыі значна больш асоб, чым 23 былых студэнта, пра якіх распавядае выданне. Калектыў аўтараў упэўнены, што паставіў шматкроп'е і абавязкова вернецца да гэтай тэмы ў наступных выданнях.

Пятро ВАСЮЧЭНКА

# КРЫТЫК У АДСУТНАСЦІ ЧЫТАЧА І ЧЫТАЧ У АДСУТНАСЦІ КРЫТЫКА



*Стан літаратурнай крытыкі ў савецкія часы неаднойчы рабіўся прадметам разгляду на «круглых сталах», якія праводзіліся ў былым Саюзе пісьменнікаў БССР пры ўдзеле прадстаўнікоў секцыі паэзіі і прозы. У друку разгортваліся адпаведныя дыскусіі. І нават тады, калі крытыка магла лічыцца прафесіяй, яе стан ацэньваўся як нездавальняючы, нават крызісны. Але высокая ўвага да яе сведчыла, што да смерці прафесіі далёка.*

Часам, аднак, папрокі празаікаў і паэтаў у адрас крытыкаў мелі прыземлена-прагматычны характар: маўляў, нас не чытаюць, не заўважаюць, не ацэньваюць і не папулярызуюць. Але і самаацэнка прадстаўнікоў крытычнага цэху была не больш аптымістычнай. Гаварылася пра тое, што беларуская крытыка не выглядае самакаштоўнай формай літаратурнай творчасці, не прэтэндуе на ролю «рухомай эстэтыкі».

Згадваліся тыя пракаветныя часы, калі расійскія інтэлектуалы рвалі з рук нумары моднага часопіса і абвяшчалі: «Есть Белинского статья!»

Той час прафесіяналаў адышоў, але і сёння белетрысты на старонках літаратурных выданняў час ад часу заводзяць стары трэнас на тую ж тэму: не заўважаюць, не хваляць, не раскручваюць.

Можна колькі заўгодна благаць каля вялікай дарогі літаратуры ў чаканні паблажлівага крытыка Гадо, але ён не пачуе і не прыйдзе.

Адсутнічае постаць творцы, які меў бы падставы лічыцца «лідарам» жанру, свайго роду «пасіянарыем» літаратурна-крытычнай думкі, такім, якім, да прыкладу, у 1970—1980-я гады быў Алесь Адамовіч.

У Беларусі сёння практычна няма крытыка, які бачыў бы літаратурны працэс як цэласнасць і аналізаваў бы яго. Па ўзоры, прыкладам, Варлена Бечыка — спецыяліста ў галіне паэзіі або Паўла Дзюбайлы, крытыка прозы, які, можа, адзіны на ўсю Беларусь, чытаў усе «тоўстыя» часопісы «ад коркі да коркі».

«Але нехта ж павінен прыйсці», — казаў з гэтай нагоды герой абсурдысцкай драмы «Існасць» Алесь Асташонак.

Гэты нехта будзе працаваць у іншых рэаліях, ускладнёных наступам маскульта, занядбанай практыкі чытання.

У новых варунках крытыка перастала выконваць ранейшыя функцыі, звязаныя з класіфікацыяй літаратурных рэалій і кіравання літаратурным працэсам. Выйшлі з моды літаратурна-крытычныя гадавыя агляды прозы, паэзіі, драматургіі. Маргінальнымі выглядаюць спробы вярнуцца да практыкі «абоймаў», пераліку імёнаў і творцаў. Хаця

некаторыя аўтары звыкла чакаюць гэтых «абоймаў» і па-ранейшаму прагнуць быць названымі і пералічанымі.

Ураўнаважанасць ацэнак, акадэмізм мыслення і пэўны традыцыяналізм засталіся прэрагатывай тых адмыслоўцаў, якія працуюць у галіне літаратуразнаўства. У гэтай сферы прафесіяналізм і дасведчанасць аўтараў спалучаюцца з іх вузкай спецыялізацыяй.

Гэтакай стройнасці і структураванасці не знойдзем, калі звернемся да працэсу бягучай крытыкі і творчасці яе прадстаўнікоў. Тут мяжа нейкага падзелу магчымая паводле традыцыйнага або нетрадыцыйнага, акадэмічнага або неакадэмічнага падыходу да літаратурных з'яў. Апошні пачынае дамінаваць.

Акадэмізм сёння перастаў быць уніформай на ўсе выпадкі жыцця. Крытыкі ўсё ахвотней адмаўляюцца ад акадэмізму і чыстай жанравасці. Учора — доктарская або кандыдацкая дысертацыя, сёння — рэцэнзія, артыкул, палемічныя нататкі або эсэ. У прыватнасці, такое практыкуюць Іван Штэйнер, Людміла Сінькова, Ганна Кісліцына, Ірына Шаўлякова, Аксана Бязлепкіна, аўтар гэтых радкоў. Варта высока ацаніць досвед літаратараў, якія выдатна падзяляюць свае здольнасці паміж белетрыстыкай, журналістыкай і крытыкай — Людмілы Рублеўскай, Тацяны Сівец, Ціхана Чарнякевіча.

Прычына, якая прымушае аўтараў, паводле выказвання Валянціна Акудовіча, часам прыкідвацца плытчэйшымі, чым яны ёсць насамрэч, палягае не ў імкненні стварыць эпатажную поп-крытыку. Гэта натуральная рэакцыя на адсутнасць чытача.

Бо чытаюць менш не толькі настаўнікі, студэнты і школьнікі (традыцыйныя «спажыўцы» літаратурнай прадукцыі), але нават і самі пісьменнікі!

Няма з намі Янкі Брыля, які чытаў шмат і многіх — нават тых, хто не чытае самога Брыля.

Не менш значная праблема: што чытаюць, калі яшчэ чытаюць.

Беларусы — пераборлівы і патрабавальны народ, калі справа датычыцца прадукту шырокага ўжытку. Яго на мякіне не правядзеш. І ў гіпермаркеце ён адразу адрозніць, дзе натуральнае, а дзе падробка, куды падмяшалі соі, куды хіміі. Ведае розніцу паміж куранём, што гуляла на волі, і тым, што пакутавала ў клетцы.

А вось калі пойдзе літаратура… Дзе тут адрозніш, што сапраўднае, а што падробка?

Тут патрэбен дасведчаны крытык-навігатар, а не той выпадковы дзядзька, які рэкламуе творы, седзячы ў інтэрнэт-прасторы або на тэлеканале.

Але гэты навігатар, як той Гадо, не прыходзіць. Можа, вылучыць яму стаўку, а не аўтарскі ганарар у якімсь часопісе, запісаўшы ў працоўнай дамове: «Нічога не рабіць, апроч: чытаць і пісаць».

А пакуль што ёсць рызыка, што крытыкі застануцца апошнімі чытачамі ў свеце. Напэўна, гэту небяспеку першым адчуў Леанід Галубовіч, калі з паэтаў перакваліфікаваўся ў крытыкі — на аднаго чытача-прафесіянала сталася болей. І гэта — унікальны выпадак.

Часцей назіраюцца ўцёкі з прафесіянальнай крытыкі — у паэзію, прозу, драматургію, журналістыку, і нават за межы літаратуры — у палітыку або камерцыю.

«Нехта абавязкова павінен прыйсці», — казаў герой «Існасці» Алеся Асташонка. Гэты нехта павінен наноў вучыцца не толькі крытыкаваць, але перадусім чытаць. Гэтая максіма ляжыць у падмурку маёй спробы выгадаваць новага крытыка. Ажыццяўляецца гэтая спроба ў Інстытуце журналістыкі БДУ, дзе існаваў курс па профілі «Літаратурная крытыка», сёння спецыялізацыя «Літаратурная работа (творчасць)». Некаторыя з выпускнікоў знайшлі сябе ў розных сферах крытычнай чыннасці — Маргарыта Аляшкевіч, Аліса Бізяева, Сяржук Будкін, Таццяна Заміроўская, Арцём Кавалеўскі, Алена Мальчэўская, Ася Паплаўская, Маша Дуброўская, Наста Грышчук.

Хаця — гэта аксіяматычна — выгадаваць сапраўднага, сталага крытыка-прафесіянала можа толькі рэальнае літаратурнае жыццё, у якім гэтая асоба актыўна ўдзельнічае, а не проста прысутнічае. Шмат чытаць, шмат раздумваць, больш публікавацца — такія простыя рэцэпты майстэрства.

Яны проста павінны знайсці адно аднаго — крытык чытача, а чытач крытыка.

Маргарыта ДЗЯХЦЯР

# УСМЕШКА ЧЭШЫРСКАГА КАТА



*Мне патрэбна кропка апоры, каб сказаць нешта пра сучасны беларускі літаратурны працэс. І гэтай «кропкай» будуць для мяне словы Ігара Бабкова: «Беларуская літаратура заўсёды была аўтаномнай. Яе дачыненні з рэчаіснасцю (г.зн. з уласна Беларуссю) апошнія два стагоддзі нагадваюць складаны сімбіёз кэралаўскага ката і ягонай усмешкі: часам пажаданая рэчаіснасць (кот-Беларусь) знікае, і тады застаецца толькі ўсмешка-літаратура».*

Бабкоў кажа, што новых форм няма, таму героям у гэтых тэкстах ужо няма чаго сказаць. І гэта вядзе да ціхага дэкадансу, калі персанажы пачынаюць шмат піць…

Напэўна, калі б я больш-менш разбіралася ў літпрацэсе, я магла б пацвердзіць гэтую думку ці абвергнуць яе. Ці не, абвергнуць наўрад ці. Усё ж такі мне падаецца, што Бабкоў мае рацыю.

«Сляпы вёў відушчага! Быццам бы якраз ён усё бачыў, а не той, хто меў чыстыя і жывыя вочы». Янка Сіпакоў у «Тых, хто ідуць» гаворыць пра людзей, у якіх ёсць місія. Яны не звычайныя, у якіх усё добра. Яны не могуць бачыць, гаварыць і чуць. Яны могуць ісці. А як? Можа, яны трымаюцца за рукі, каб не адстаць, а можа, іх вядзе ў правільным напрамку тая самая місія? Акрамя місіі, яны адчуваюць, што ім патрэбен нейкі вынік. Чаму яны бясконца ідуць? Навошта? Яны бачаць сэнс у завяршэнні вандроўкі. Людзі, якія падтрымліваюць адно аднаго, вартыя таго, каб нешта атрымаць. Гэтыя людзі ішлі-ішлі, але нічога не неслі, бо адзіным іх скарбам было каханне. І яно будзе цягнуцца бясконца, як бясконца будзе цягнуцца іх вандроўка і пошукі сябе. Яны ж тыя, што ідуць. Ім нельга спыняцца.

«Пахаджане» Васіля Быкава ў адрозненне ад бясконцасці місіі тых, хто ідуць, кажуць так: «Досвед няўдач ды пакутаў нічога не значыць, бо кожнае пакаленне ўсё пачынае спачатку». У гэтых людзей ёсць мэта. І ёсць лідар, правадыр, якому трэба даверыцца, чаго яны зрабіць не могуць. Ад гэтага і ўсе беды. Яны забіваюць сваіх лідараў, якіх выбіраюць няправільна. І гэта замкнёнае кола: лідара выбіраюць яны, лідар не можа іх прывесці да мэты, яны яго заб'юць і знойдуць новага, такога ж нямоглага. У сваіх няўдачах яны вінаватыя самі, бо невядома, чаго хацелі. Куды яны ідуць? Наперад ці назад? Чаму яны нікога не слухаюць? Чаму яны — не адзінае цэлае? Навошта ім улада, калі яны нават сабой кіраваць не навучыліся? У іх нават каштоўнасцей няма. Вось і будзе ўсё пачынацца зноў і зноў, пакуль не навучацца яны давяраць адно аднаму і разумець сваю мэту.

Прытча-прыпавесць «Сцяна» Васіля Быкава алегарычная, канешне. Зноў тут закранаецца пытанне выбару і таго, што будзе пасля гэтага выбару. Але які ўвогуле можа быць выбар, калі няма свабоды («Звычайна па той бок была зваблівая, недаступная для яго воля, пра якую ён не пакідаў марыць»)? Толькі маральны. Але ён хоча на волю, ён для гэтага нават нешта робіць. І, шчыра кажучы, не нешта, а шмат чаго. У яго ёсць мэта («Як з'явілася мэта, узнікла нецярпенне») — свабода, ён да яе імкнецца. Акрамя мэты ў гэтага чалавека ёсць надзея. І нарэшце ён пераадолеў страх, ён ужо па-за сцяной. Але радасці няма, няма волі: «То быў поўны тупік; пастка за ім зачынілася. Надзея, што вяла яго гэтулькі часу, увачавідкі змарнела і раптам сканала. Ён яшчэ жыў, але толькі нейкаю часткаю свае істоты. Жыць у турме не мела сэнсу, памерці — таксама. Добра б не нарадзіцца зусім. Але, на жаль, тое ад яго не залежала...». Жыццё часам такое несправядлівае. Здаецца, калі ёсць мэта, то ўсё павінна атрымацца, калі ёсць надзея, усё проста не можа не атрымацца! Але чагосьці не хапала…

Альгерд Бахарэвіч заўсёды падаваўся мне такім незразумелым. Не ведаю, можа, гэта пасля «Шабаноў», дзе людзі ператвараліся ў тварог… Але «Беларусы на крыштальных шарах» — гэта твор, які прымусіў мяне пераглядзець сваё меркаванне наконт Бахарэвіча. «Хлопчыку нават дазволілі пакарміць беларусаў праз клетку» — гэтымі словамі можна, нават не чытаўшы твор, патлумачыць, пра што ён. Такія прыгожыя беларусы, паказваюць такія прыгожыя нумары на такіх прыгожых крыштальных шарах. Я не бачыла прадстаўлення, але магла б уявіць, як гэта прыгожа! Проста немагчыма прыгожа! Але каб толькі гэта былі не беларусы, якіх потым пасадзяць у клеткі. Хлопчык так хацеў паглядзець на беларусаў, ён так прасіў бацькоў, якія не пагаджаліся, але, убачыўшы рэкламу, самі захацелі. Нават маці апранула сваю чырвона-зялёную сукенку. Усе хадзілі глядзець на беларусаў як на забаву. Па сутнасці, яны ёй і былі. Але такія прыгожыя, такія высакародныя, якім трэба вырашыць: беларусы яны ці не? Колькі ж можна дазваляць так сябе катаваць! Цярплівыя, пакорлівыя, але такія нязломныя.

«Не кранаючы фігуры» здзіўляе не менш. Істота пад назвай «Кашкін», над якой усе здзекуюцца, якую бясконца гвалтуюць і не вядома, ці лічаць за жывую («па сутнасці Кашкін — напраўду расліна»). Прызначэнне Кашкіна — цярпець. Ён трывае любы боль, не крычыць, калі яго кусаюць сабакі, ён гэта церпіць. Яго нават з сабакам параўноўваць не хочуць, ён таго нявартый: «Сабака — гэта моц, гэта прыгажосць. У сабак мазгі ёсць. А вы Кашкіна з імі параўноўваеце». Кашкіна можна аддаць у кожную сям'ю — ён будзе аддушынай, калі нешта не атрымліваецца. Дарэчы, Кашкіна можна ўбачыць і ў «Беларусах на крыштальных шарах», дзе хлопчык на свята атрымаў Кашкіна, якога потым біў: «У бацькоў Кашкін быў ужо стары, паношаны, крычаў надта гучна і ўвесь чамусьці жаўцеў». Кашкіна перасоўваюць, як фігурку ў гульні, верцяць ім, як захочацца. Але ж і тут ёсць цуг-цванг, калі, які ход не зробіш, усё роўна будзе камусьці кепска. Аднойчы і такім аматарам пабіць Кашкіна будзе дрэнна. Прынамсі, спадзяюся на гэта.

«Натуральная афарбоўка» — гэта твор, які я не зразумела да канца. Для мяне сапраўды было пытаннем, што ж усё-ткі вырабляе Прадпрыемства? Яно ж нешта вырабляе! Можа, я не дачытала? Чаму я не магу адказаць на гэтае лёгкае пытанне? Але Бахарэвіч не кажа пра гэта, быццам нам не трэба гэта ведаць, гэта не так важна. У мяне гэта Прадпрыемства асацыіруецца чамусьці з раёнам каля кінатэатра «Ракета» ў Мінску. Там усё такое індустрыяльнае, шэрае, такое безвыходнае. І сам галоўны герой мне падаецца безвыходным. Яго недаацэньваюць, ён хоча быць літаратарам, а працуе на прадпрыемстве. Яго талент не заўважаюць, як гэта магчыма?! Ён жа такую газету зрабіў! І ніхто яму не падыходзіць. Сваёй дзяўчыне ён кажа: «Ты мне непатрэбная. Ты ніжэй за ўзровень маіх патрабаванняў. Ты не прыходзь болей». Але Стах — проста анучa, а каб стаць кімсьці, трэба мець стрыжань.

Андрэй Федарэнка ў «Вёсцы» паказвае нешта занадта рэалістычнае. Студэнт вяртаецца ў вёску пасля вучобы ва ўніверсітэце. І тут, здавалася б, ёсць усе ўмовы для шчаслівага жыцця: працуй сабе ў бібліятэцы, чытай кнігі, сябруй, сустракайся з дзяў-

**Бабкоў кажа, што новых форм не знойдзеш, таму героям ужо няма чаго сказаць. І гэта вядзе да ціхага дэкадансу, калі персанажы пачынаюць шмат піць...**

чынай. Але вось парадокс: паспрабаваўшы гарадскога жыцця, ужо нельга вярнуцца ў вёску такім, якім адтуль з'ехаў. «Страшна было ехаць. Яшчэ страшней — аставацца». Часам здаецца, што робіш правільны выбар, што ў вёсцы так спакойна і хораша, але пачынаеш хуценька дэградаваць, разумееш, што дзяўчыне з табой цікава выключна, калі ты п'яны, а ўсе твае ідэі, якія б маглі так спатрэбіцца ў горадзе, тут зусім не патрэбныя. Таму застаецца прыстасоўвацца да жыхароў вёскі, што Васкевіч і робіць, за гэта і ляціць у прорву. Усё ж такі, быў бы ў яго які-ніякі характар, было б і іншае жыццё.

Містыфікацыі Балахонава спадабаліся мне сваёй рэалістычнасцю. Хочацца паверыць! Хочацца! Хоць і ведаеш пра Калумба, хоць ведаеш даты і падзеі, але так цяжка ўтрымаць сябе ў руках і «не павесціся». Балахонаў па-майстэрску выдумляе падзеі і дакументы, словы і месцы. Мне здаецца, каб хтосьці захацеў стварыць новую мову, то яму абавязкова трэба было б звярнуцца да Балахонава. Амерыка — наша. Мы яе адкрылі. Вось пішу гэта і веру, бо толькі што прачытала містыфікацыю. Пачуццё гонару за Беларусь і беларусаў адразу з'яўляецца. Гэта мы! Гэта наша! А твор «Пчолачкі гудуць…» зацікавіў ідэяй, як можна прывіць беларусам беларускасць. Каб усё было так проста, то ў нас бы і не было спрэчак па нацыянальным пытанні. Але сама кніга (хоць я і не прачытала яе цалкам) падалася мне такой перагружанай усялякімі дробязямі, што, шчыра кажучы, я б яе не асіліла.

Захацелася вярнуцца да Быкава. Да яго «Ружовага тумана» і «Пакахай мяне, салдацік».

«Ружовы туман» — такі маленькі твор, што дзіву даешся, як можна ў такім малым тэксце сказаць так многа. Барсук жыве ў ружовым тумане. Ён падман прымае за дабрачыннасць. І пытанне: лепш сказаць яму, што ім карысталіся, ці прамаўчаць і пакінуць жыць у яго «тумане»? Аказваецца, часам дрэннае можа на хвіліну стаць добрым. Так жа можа стацца і наадварот. Барсуку дапамаглі, яго выратавалі ад галоднай смерці, за што ён дзякуе да гэтай пары. Ён паверыў у тое, што людзі могуць быць міласэрнымі, нічога не патрабуючы ўзамен. Хай бы і верыў сабе. Але з другога боку, гэта таксама падман. Ён быццам сляпое, даверлівае кацяня. Хацеў бы хто з нас аказацца на яго месцы?

Адказам на «Ружовы туман» стаў артыкул Сяргея Дубаўца. Тут ён выкрывае, што сацрэалістычная хлусня выдавалася за беларушчыну, да якой прышчаплялася любоў. І гэта сапраўды каварны метад. Усе гэтыя вершы, прысвечаныя Сталіну, партыі і інш. — гэта і ёсць самы добры прыклад ружовага туману, з якога ніхто выбірацца не хоча. А трэба, бо «...беларуская савецкая літаратура — гэта не раздзел беларускай літаратуры, а раздзел іншае дысцыпліны. Мы мусім не выбіраць, а зрабіць свой адзіны выбар». І артыкул Дубаўца не застаўся без адказу. У «У вайны няма айчыны» Акудовіч бачыць каштоўнасцю ўсю беларускую Беларусь у адрозненні ад Дубаўца, які малюе ідэальную Беларусь. Акудовіч паспрабаваў «пажыць» у рамантычнай Беларусі Дубаўца, але «лепш сініца ў руках», лепш сапраўдная Беларусь, а яшчэ лепш будзе, калі за гэтай сапраўднай Беларуссю не трэба будзе ганяцца, а яна прыйдзе сама.

«Пакахай мяне, салдацік» — гэта тое, што любіць Быкаў, тое, у чым ён профі, гэта твор пра вайну, але ён не падобны да астатніх твораў. Калі ёсць каханне падчас халеры, то павінна быць і каханне падчас вайны. І вось яно. Прыходзіць, як маланка, хутка і незаўважна, але прыкладна так і сыходзіць. На вайне ўсё трагічна. Хоць тут і не было баёў, не было шматлікіх стрэлаў, не было спаленых вёсак, але каханыя павінны пакінуць адно аднаго, бо гэта вайна і рэдка калі на вайне бывае штосьці добрае. «Я кахаю яе і шкадую. Найперш, можа, шкадую. Ці не — найперш кахаю. А каханне — заўсёды сіла, так мне здавалася...» — сіла сілай, а лёс нікуды не дзенеш. Можа, занадта песімістычна, але не думаю, што каханне можа

выратаваць жыццё, калі смерць наканавана лёсам.

«Каменданцкі час для ластавак» — адзін з любімых твораў (усяго іх 2), якія мы прачыталі за семестр. Па-першае, Куба. Заўсёды хацела там пабываць. Як кажуць? «Востраў свабоды?» У творы складаецца ўражанне, што наадварот. Жыццё тут не такое і лёгкае. Па-другое, абставіны, у якіх жыве гераіня: з кім яна размаўляе, што купляе, якія ў яе адносіны са свякрухай. Па-трэцяе, як яна пазнаёмілася з кубінцам. Па-чацвёртае, як зрабіць выбар: вяртацца ці заставацца. Вось гэтыя пункты адказваюць на пытанне, чаму мне спадабалася кніга Алены Брава. Куба лібрэ! Здаецца, назва кактэйля, а насамрэч — лозунг, які зусім не адкрывае сапраўдную краіну, а толькі малюе яе рамантычны вобраз.

Другая мая любімая кніга — «Літоўскі воўк» Наварыча, якую я так не хацела чытаць, бо хтосьці сказаў, што нудная. Добра, што ў мяне хапіла розуму не паверыць. Гістарычны раман, які чытаецца прыкладна так лёгка, як «Мадам Бавары». Канешне, нельга гэтыя кнігі параўноўваць, але старонкі быццам перагортваюцца самі. Цікавы, а галоўнае — жыццёвы сюжэт (нешта падобнае да любоўнага трохкутніка, гісторыя пра метеэарыт). Такога ў беларускай літаратуры яшчэ не бачыла. Я занадта захапілася гэтым творам, гэта так, але калі адзначыць кепскія бакі кнігі — гэта занадта хуткая змена падзей і ўвядзенне новых герояў, калі пачынаюць блытацца імёны. Але як толькі пачытаеш далей — усё разумееш. І чамусьці пісьменнікі любяць здзекавацца з чытача. Так было, калі я чытала Календу (у «Кантынентальным сняданку» ён адразу папярэдзіў, што ўсе супадзенні выпадковыя), а ў Наварыча: «Так не было і не магло быць. Усё было зусім па-іншаму». І ўсё ж мяне гэты твор быццам зачараваў. Нешта ў ім ёсць. Нешта такое, чаго, канешне, у гісторыі быць не магло.

«Любіць ноч — права пацукоў» называюць творам еўрапейскага ўзроўню. Беларусь тут паўстае не самай прыгожай краінай, не самай паспяховай. Тут жывуць нейкія перасяленцы, якія гвалтуюць нашых жанчын і прадаюць наркотыкі, нават дзеці тут наркаманы. Словам, нічога добрага ў такой краіне няма. Акрамя таго, гэтыя перасяленцы яшчэ і забіваюць тутэйшых. Можна правесці паралель з творам «Сто гадоў адзіноты» Маркеса, дзе Буэндзія ўрэшце знікаюць, так і ў Станкевіча — ніякіх вясёлкавых перспектыў. Нават адзін з перасяленцаў кажа пра беларусаў: «Вы ж бездапаможныя, хцівыя і раз’яднаныя». Для мяне гэты твор занадта песімістычны. Яго цікава чытаць, але адразу хочацца на яго забыцца, каб не засталося нянавісці, агіды да герояў. А такое магчыма, бо Станкевіч «прымушае» гэта адчуць.

Напэўна, самы супярэчлівы твор з усіх. «Будзь воля Твая» — гэта гімн упартай пакорлівасці беларусаў і твор пра святароў. На пытанне «ці павінен існаваць такі твор?» я адказваю, што павінен. Колькі разоў мы бачылі вайну вачыма партызан, мясцовых жыхароў, салдат, фашыстаў, дзяцей, але ні разу не бачылі яе вачыма святароў. Яны дапамагаюць вяскоўцам, вянчаюць іх падчас вайны, прымаюць удар на сябе. Мне ў памяць урэзаўся момант, калі толькі што народжанае дзіця, здаецца, яго звалі Данік, кінулі ў хату, якая гарэла, а яго маці пакінулі жыць. Лёс несправядлівы, кажу гэта зноў. Амаль ніхто не выжыве, пакорлівыя беларусы памоляцца і пойдуць на смерць, бо на гэта ёсць воля Божая. І ёй яны падпарадкоўваюцца. Магчыма, верачь у лепшае жыццё.

Нарэшце можна падсумаваць усё тое, што напісана на гэтых аркушах. У самым пачатку я ўзгадвала словы Бабкова. І вось што: нягледзячы на тое, што ёсць гісторыя нашай краіны, ёсць нацыянальнае пытанне, ёсць тое, што адрознівае нас ад астатніх, шматлікія творы будуць усмешкай чэшырскага ката. Іх можна будзе чытаць, калі Беларусь знікне з мапы свету, яны будуць актуальнымі ў розныя часы. І я не магу сказаць, што гэта праблема, бо Бабкоў ужо вырашыў — гэта называецца аўтаномія. Літаратура — гэта асобная краіна, калі хочаце, нават Сусвет, які жыве па сваіх законах і не залежыць ад кагосьці (спадзяюся, што так будзе з усёй літаратурай калісьці). І калі гавараць пра дэкаданс, то ён заўважны не ва ўсіх творах. Канешне, кажуць, што ў літаратуры існуе 36 сюжэтаў, форм таксама не бясконцая колькасць, але ж у некаторых пісьменнікаў атрымліваецца знаходзіць нешта незвычайнае, нейкае асабліваe слова.

*Таццяна АРЛОВА*

# ЦІ ПАТРЭБЕН СЁННЯ ТЭАТРАЛЬНЫ КРЫТЫК?



*Чаму я па-ранейшаму пішу маленькія рэцэнзіі і імкнуся расказаць у сваёй рубрыцы «Вачыма крытыка» ў газеце «Рэспубліка» пра кожную хоць трошкі значную падзею ў сферы тэатра? З мяне даўно пасмейваюцца сябры; ганарары мізэрныя, аб'ём тэксту нязначны, папулярнасць і слава мне даўно не патрэбны. Я ідэалістка і спадзяюся, што з маёй падачы людзі палюбяць тэатр. І яшчэ я шмат гадоў вяла на кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі профільны курс «Тэатральны крытык». Я ганаруся тымі некалькімі дзясяткамі студэнтаў, з якімі паспела папрацаваць і якім здолела перадаць нешта са свайго багатага досведу.*

Мой смутак з нагоды існавання крытыкі падзяляюць расійскія калегі. Так, вядомы маскоўскі крытык і блогер Павел Руднеў піша: «Крытык сыходзіць у вытворчасць. Не аналітыка, а інфармацыя сёння лічыцца каштоўнай. Крытык акумулюе ў сабе і перадае тэатральную інфармацыю, ён сёння збіральнік дадзеных, сувязны. Цяжка стала друкавацца. Няма дзе. СМІ, дзе сур'ёзная крытыка запатрабавана, адзінкавыя. На шчасце, існуе інтэрнэт, блогасфера. Ганарару не атрымаеш, але гарантыя, што прачытаюць, значна большая. Інтэрнэт ператварыў кожнага блогера ў крытыка. "Не слухай крытыка, сам будзь ім". СМІ ў большай ступені зацікаўлены ў анансаванні культурных акцый, чым у іх аналізе. Аб'ёмы рэцэнзій сціскаюцца з года ў год».

Педагог і тэатразнаўца з Санкт-Пецярбурга Ганна Сцяпанава працягвае: «Артыкулаў пра стан тэатральнай прасторы і яе ўнутраныя праблемы ўжо няма. З кожным годам усё меней з'яўляецца аглядаў сезона, жанр праблемнага артыкула сышоў у мінулае, сур'ёзныя тэатральныя партрэты амаль што зніклі, іх начыстую пацяснілі бясконцыя інтэрв'ю».

Фактычна ўсе праблемы мастацкай крытыкі ў часы рыначнай эканомікі тут адзначаны. Атрымала перавагу тэхнічная журналістыка з ацэначнай інфармацыйнай функцыяй. Мала хто займаецца рэпрадукцыяй спектакля, між тым як тлумачэнне, ацэнка, фіксацыя яго абрысу — неверагодна важныя для разумення ролі твора ў гісторыка-культурным працэсе. Таму што тэатральны спектакль існуе толькі тут і цяпер. Ён не захоўваецца, не паўтараецца. Тады навошта ж мы, педагогі, з упартасцю маньякаў вучым, вучым, вучым таленавітых студэнтаў-журналістаў з запаленымі вачыма і эмацыйнасцю, якая часам кранае да слёз? Навошта, калі

спектакль і рэцэнзія ўспрымаюцца толькі як тавар, які, магчыма, не будзе прададзены хутка і з выгодай?

Напэўна, мы дзівакі-адзіночкі, што разважаюць прыкладна так: няхай сабе студэнт не стане тэатральным крытыкам, але, дакрануўшыся да тэатра, навучыцца разбірацца ў жыцці і мастацтве. Дакрануўшыся гэтаксама да кінематографа, жывапісу, музыкі, харэаграфіі, цырка. Некалі крытыка была ўнікальным заняткам філалагічна адукаваных людзей. Я веру, што тыя часы неяк вернуцца.

З усіх адзначаных вышэй складанасцей мяне найбольш хвалююць абмежаваныя магчымасці для студэнтаў бясплатна наведваць спектаклі і адсутнасць журналісцкай пляцоўкі для публікацыі матэрыялаў пра тэатр. Тэатральнае мастацтва хоча, каб усе без выключэння куплялі білеты ў касах. Часам дазваляецца прайсці на не вельмі запатрабаваныя спектаклі студэнтам Акадэміі мастацтваў. Для юных журналістаў зніжак не існуе. Не сакрэт, што для якаснай публікацыі спектакль або акцёра трэба паглядзець не адзін раз.

Калі летам мы размяркоўваем студэнтаў у тыя ці іншыя выданні на практыку, я вымушана папярэджваць, што наўрад ці ўдасца апублікаваць рэцэнзію ці творчы партрэт. Газеты сёння робяць стаўку на сваіх штатных супрацоўнікаў. Студэнту-практыканту прапануецца быць «на падхопе». Хочаш атрымаць добрую адзнаку за практыку — схавай свае амбіцыі, рабі што загадваюць.

Нарэшце, галоўнае пытанне: як жа навучыцца тэатральнай крытыцы?

Навучальных гадзін адводзіцца няшмат. Яны ідуць на вывучэнне тэорыі. Далей неабходна «адгледжваць» спектаклі. Мне пакуль яшчэ ўдаецца вадзіць студэнтаў у тэатр і потым рабіць разбор таго, што мы ўбачылі. Я прашу іх запісаць свае першыя ўражанні. Пасля нашых разбораў шмат у каго меркаванне кардынальна мяняецца.

Калі на кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі мы ўпершыню пачалі рыхтаваць крытыкаў, то яскравага разуменя як гэта рабіць не было. Тэатразнаўцаў у спецыялізаваных ВНУ рыхтуюць інакш. У нас жа амаль усё залежыць ад энтузіязму выкладчыкаў, ад іх жадання пускаць на любімую справу непрацоўны час і ўлічваць інтарэсы студэнцкай аўдыторыі.

**Атрымала перавагу тэхнічная журналістыка з ацэначнай інфармацыйнай функцыяй. Мала хто займаецца рэпрадукцыяй спектакля, між тым як тлумачэнне, ацэнка, фіксацыя яго абрысу — неверагодна важныя для разумення ролі твора ў гісторыка-культурным працэсе**

Шмат чаму і мне давялося вучыцца ўпершыню. Некага са студэнтаў цікавіць музычны тэатр, некага — лялечны, пластычны, балетны, плошчавы, перформансы. Саспелі праблемы «новай драмы» і дакументальнага тэатра, таму што толькі там можна атрымаць пажытак для разважання аб праблемах сучаснасці. Мяняюцца падыходы да інтэрпрэтацыі класікі, эстэтыка, рэжысёрскі почырк, сцэнаграфія шчодра выкарыстоўвае лічбавыя тэхналогіі. І гэта ўсё, ды і шмат што іншае звальваецца на галаву аднаго педагога. Яму трэба мець сяміпядзевы лоб. Для пачатку хаця б прафесійна і пераканаўча адказваць на пытанні. А яшчэ самому глядзець у тэатрах па магчымасці ўсё.

Думаю, гэта добра, што ў Беларусі ёсць такая кафедра, як наша. Мы актыўна развіваемся. Нас ведаюць у тэатральных колах. Мы не атрымліваем рэкламацыі. Асабіста я ганаруся сваімі вучнямі, якія працуюць у літаратурных аддзелах тэатраў, у аддзелах культуры газет і ўмеюць яскрава пісаць пра тэатр. Гэта Алена Мальчэўская, Валянцін Папляеў, Кацярына Дзямянчук, Алена Іванюшанка, Каця Карпіцкая, Святлана Шыдлоўская, Ганна Сауткіна. Усе яны аддана служаць тэатру, але і тыя, хто працуе ў іншых сферах журналістыкі, застаюцца добра падрыхтаванымі тэатральнымі гледачамі, прапагандыстамі гэтага віда мастацтва.

***Ад рэдакцыі.*** *У часопісе «Маладосць» заўсёды знойдуцца старонкі для рэцэнзій, праблемных артыкулаў і тэатральных партрэтаў, створаных маладымі крытыкамі (ужо дыпламаванымі або яшчэ студэнтамі), напісаных таленавіта і ярка.*

Віялета РЫЧАГА

# ТАНЦЫ Ў ЦЕМРЫ СТАГОДДЗЯЎ

## *Пластычныя даследванні на ПлаSmформе-2015*



*Пластыка цела не толькі размаўляе з гледачом — яна даследуе. Такое эмпірычнае эга ў пастановак на Пластформе-2015 Goldkopf і Human Project. У гэтых тварэннях магілёўскага і рыжскага тэатраў несупастаўна розныя прасторы і драматургія. Але дух развагі і амаль эзатэрычнага пазнання гісторыі чалавецтва збліжае гэтыя спектаклі. Вечнае немагчыма разгледзець пад мікраскопам або запісаць на відэа, але яго можна спазнаць чалавечым целам. Пластычны спектакль не адказвае на пытанне аб Сусвеце, ён шукае адказ.*

Прасторава-часовая дзірка ўзнікае перад гледачом, калі на сцэне танчаць пра нявызначальнае, звышархаічнае. Тэма чалавечага генезісу настолькі глыбокая і цёмная, што матывы боскага і іншапланетнага, зямнога і касмічнага зліваюцца ў адну цёмную прастору сцэны. Кароткія відэаінсталяцыі, цьмяныя прамяні ледзь высвечваюць Рух гэтай гісторыі ў целах танцуючых даследчыкаў.

### GOLDKOPF

З нямецкай — «залатая галава». Гэта спектакль-ліхалецце. Чорны квадрат сцэны, дзе страчана ўсякая механіка і маторыка. У поўнай цемры ўсё зліваецца — квадрат, круг і трохкутнік. Аб'ёмны матавы крок гульні, падобнаківачу бясконцай амплітуды, разгойдвае разуменне.

У павольным і цыклічным ходзе пастаноўкі з гледачом гавораць сферы, піраміды і кубы — авангардна. Гэтая несвядомая і ідэальная стэрэаметрычная мова ў спектаклі Goldkopf — галоўная форма. Тэатр аб'екта ўсяляе звышчалавечае ў фігуры. Гэтыя гіпсавыя бірузовыя, пунсовыя, чорныя кубы, сферы, піраміды, што трымаюць у руках танцоры, — іграюць ледзь не больш за іх саміх. У простых і геніяльных формах — усё. Прачытанні іх бясконцыя: сімволіка мужчынскага і жаночага; атэістычнага, боскага, натуралістычнага; чалавечага і звышчалавечага. Аб'ём гэтага даследавання Магілёўскага тэатра раскрываецца праз героя ў чорным фраку. Ён не ўяўляе сабой ніякую фігуру, ён паліць, глядзіцца ў люстэрка і чытае маналог на нямецкай мове. Асабісты і кранальны чалавечы маналог металічным квадратам голасу. Вось Яго гульня — звышчалавечая, нададрасавая... Золатагаловая.

Геаметрычныя фігуры, якія ляжаць у аснове ўсяго існага, ляжаць у аснове і працы тэатра Labaratory figures of Oscar Schlemmer (Магілёў). Прыняўшы пазіцыю нямецкага мастака Оскара Шлемера, тэатр танчыць аб свеце.

Шлемер — нямецкі авангардыст, мастак, сцэнограф і рэжысёр сярэдзіны XX стагоддзя. Сродкам мастацкай выразнасці ў тэатры выкарыстоўваў пэндзаль кубізму і супрэматызму. Чалавечае цела і яго гісторыя раскрываліся трыядамі, пентадамі рухаў і гукаў, па і нот.

З дапамогай гэтай кубічнай філасофіі магілёўскі тэатр стварае свае спектаклі.

Прастора Goldkopf стэрэаметрычная. Яна нагадвае адкрыты космас па сваёй глыбіні, цемры і цяжкаму, напружанаму пранікненню святла ў яго абшары. Акрамя таго — гук. Ён, як і святло, згублены дзесьці ў кутках усёабдымнай цемры. Музычныя ўключэнні — сапсаваная пласцінка грамафона, гукі зламаных матораў і гадзіннікаў.

Хвілін, як і гадзін, у гэтай пастаноўцы няма, як няма часу ў квадрата, як няма тэрміну ў сферы, а эры — у трохкутніка. У гэтым анабіёзе і адбываецца зараджэнне чалавецтва. У стэрыльным ліхалецці гэтай гульні на сцэне даследуецца гісторыя чалавечай фігуры.

Чалавек-піраміда вылучаецца з цемры. Набіраецца аб'ёму, нібы набіраецца сілы. Рухаецца ў дзіўнаватым блюзавым па. Замірае ў вышэйшай кропцы з шырока адкрытымі вачыма і ротам — па-блазанску. Пасля рух паўтараецца да бясконцасці. Зноў і зноў, пакуль наступныя хвіліны цемры не нараджаюць сферу, якая рухаецца ідэнтычна, але ў іншым канцы сцэны. Пастаноўка «Лабараторных фігур» — бясполая, герметычная, несвядомая. Гэта доўгі погляд у квадратную замочную шчыліну на трохкутны свет, які зарадзіўся з маленькага круга люстэрка.

## HUMAN PROJECT

Рыжскі тэатр Idea Gnosis у танцы бута імкнецца да глыбінь чалавечага генома. Гэтая духоўная практыка цела навобмацак прабіраецца ў самае містычнае і таямнічае.

Сымона Арыньска, рэжысёр, харэограф спектакля, паказанага на «ПлаSтформе», даследуе мульцідысцыплінарныя тэатральныя практыкі.

Human Project — так называецца гэты танец, гэтая гульня ў гісторыю. Праект даследуе гісторыю чалавецтва скрозь матэрыю латвійскай міфапаэтыкі. Прастора гэтага спектакля дыхае эзатэрыкай і паганствам.

Першыя героі сцэны — голас дзяўчыны і голас юнака. Іх безаблічныя ўладальнікі танчаць вакол двух прамянёў у поўнай цемры, напяваючы. Ён — грудным басам, варганным і шаманскім. Яна — тонкім, лясным, амаль эльфійскім мецца-сапрана. Іх галасы апярэджваюць усю гульню, знаходзяцца па-за кулісамі часоў. Партыі не сутыкаюцца ні адзінай нотай на працягу ўсяго спектакля. З дапамогай апаратуры музыка іх целаў паўтараецца і напластоўваецца адна на адну, сумяшчаецца ў рэжыме рэальнага часу, струменіцца, змяняецца, знікае. Толькі чалавечыя галасы складаюць гукавое суправаджэнне сусвету ў Human Project. Яны — і дзікія звяры, і пявучыя птушкі, і машыны, і гарады, і раз'юшаны натоўп, і галасы багоў, галасы зямлі.

Архітэктура спектакля Idea Gnosis фальклорная і вельмі лірычная. Ад біблейскіх пачаткаў тут нараджаюцца страшныя ідэі чалавецтва.

Эры існавання сусвету даследуюцца целамі, якія знаходзяцца ў трансе бута. Спецыфіка гэтага танца цемры нараджае вобразы, якія ў іншых выпадках уцякаюць ад чалавечага розуму. То Адам і Ева пераплятаюцца ў абдымках (а можа, іх целы становяцца векавымі таполямі на алеі славы, а агні сярэднявечных вогнішчаў ужо жаруць іх драўніну), то іх целы сплятаюцца і нараджаюць ванітную і жахлівую істоту, то гэта істота распадаецца на малекулы. Ілюзорнасць і нечалавечая цемра чалавечай ДНК — у бута-танцы.

Постдраматычнасць Human Project уключае несвядомае. Адсутнасць фармальных рамак і паняццяў класічнага тэатра, памножанае на пластыку і экспрэсію бута, раўняецца тэатральнаму трансу. Рацыянальнасць як функцыя адключаецца. За мяжой бута — пустата, у якой гледача вядуць толькі галасы і вобразы. З дапамогай феномена бута цела можа казаць пра сакральнае.

У Human Project адбываецца персаналізацыя сусвету. Праз целы акцёраў прасочваецца густая кроў зямлі, на якую ступіла нага чалавека. Эпохі і эры паўстаюць у вобразе чалавечай асобы, руху, гуку. Idea Gnosis такім чынам задае сусвету пытанне. Лавіруючы паміж музычным, тэатральным, пластычным, перформансамі і духоўным трансам, танцоры гуляюць у сусвет.

# Зміцер СКАЧКОЎ: «ПЛАSTФОРМА — ГЭТА ЯК У МАРЫСА ЭШЭРА, — НЕМАГЧЫМАЯ ФІГУРА»



*«Маладосць» атрымала доступ да акцёра тэатра «ІнЖэст» Зміцера Скачкова, які здолеў акрэсліць некаторыя фрагменты бясконцага пластычнага цэлага...*

## АБ ТЭАТРАЛЬНЫМ

Часам бацькі вадзілі мяне ў тэатр, але чамусьці я запомніў не дзіцячыя спектаклі, а дарослую пастаноўку пра Напалеона, які пакутаваў на выспе святой Алены. Наступным крокам стала тэатральная студыя ў гімназіі. Гэта вызначыла выбар прафесіі: я паступіў ва ўніверсітэт культуры на спецыяльнасць «рэжысура абрадаў і святаў». У Акадэміі мастацтваў у гэты год набіралі на рэжысуру лялечнага тэатра, а тады мне здавалася, што лялечны тэатр — гэта нешта дзіцячае і несур'ёзнае. Цяпер я разумею, што лялечны тэатр — гэта фантастыка! А потым адбылося маё знаёмства з тэатрам «ІнЖэст» Вячаслава Іназемцава. Калі вучыўся на трэцім курсе, трапіў на спектакль «ДК Данс». Ён аказаў на мяне велізарнае ды незабыўнае ўражанне нейкага іншага тэатра, чагосьці адрознага ад усяго ранней бачанага. Праз пару дзён запісаўся ў студыю пры тэатры. З таго часу вось ужо гадоў дзесяць я ў тэатры «ІнЖэст».

Выбар пластычнага тэатра быў, здавалася б, выпадковым... Да прыходу ў студыю «ІнЖэст» з цялеснай практыкі ў мяне было толькі паўгода класічнага танца ў дзяцінстве і не вельмі любімая фізкультура. Але ў студыі адбыўся цуд. Цела пачало рухацца так, як яно не рухалася ніколі. Яму гэта спадабалася, яно быццам трапіла ў залежнасць. Цела рухалася і атрымлівала ад гэтага каласальнае задавальненне. У пластычным тэатры мяне ўзрушвае магчымасць перадачы думкі без слоў. Думка атрымлівае нейкую грунтоўнасць без слоўнага выказвання.

Так пачалося свядомае знаёмства з тэатральным мастацтвам. Сярод кніг пра тэатр і людзей тэатра асабліва на мяне паўплывала «Ад Беднага тэатра да Мастацтва-павадыра» польскага рэжысёра другой паловы XX стагоддзя Ежы Гратоўскага.

Ды і сама постаць, творчасць Ежы Гратоўскага мяне заўсёды зачароўвалі.

**Дзе Вы ў тэатры?**
**Дзе Вы? — У тэатры.**

## ПРА ТОЕ, ШТО ВЕДАЕ ТОЛЬКІ АКЦЁР

Што адчуваеш на сцэне? Адразу хацелася сказаць, што страх і трымценне, але гэта толькі ў пачатку. Увогуле, шырокую гаму пачуццяў, заўсёды розных, якія невядома куды вядуць.

Люблю рабіць размінку-разагрэў на сцэне і ў глядзельнай зале. У тэатра «ІнЖэст» няма ўласнай сцэнічнай пляцоўкі, таму, калі прыходзіш у залу на адну-дзве рэпетыцыі і спектакаль, гэта як нейкае ўключэнне сябе і свайго цела ў прастору, намацванне будучых варыянтаў сцэнічнага дзеяння праз ужо знаёмыя пластычныя формы.

### ІНШЫ ЖЭСТ «ІНЖЭСТА»

Тэатр «ІнЖэст» і яго дзіця, форум эксперыментальнага мастацтва «ПлаSтформа», уяўляюцца мне ў выглядзе нейкіх складаных геаметрычных фігур. Тыпу пентаганальнага гексакантаэдра або ромбаўсечанага ікасададэкаэдра. Ці, дакладней, як у Оскара Ройтэрсвэрда або Марыса Эшэра, — немагчымая фігура.

Тэатр «ІнЖэст» — найстарэйшы пластычны тэатр Беларусі, лідар незалежнага андэграўнднага авангарднага тэатральнага мастацтва краіны, можна сказаць, тэатр, «шырока вядомы ў вузкіх колах». Цэнтральнае месца тэатра «ІнЖэст» у маргінальным тэатральным працэсе пацвярджаецца і тым, што ён з'яўляецца адным з арганізатараў «ПлаSтформы» — адкрытага форуму эксперыментальных пластычных тэатраў Беларусі.

### ФОРМА «ПЛАSТФОРМЫ»

Арганізацыя форуму праходзіць складана. У асноўным на нас, акцёрах тэатра, валанцёрская праца, якой нямала.

У пазнавальным і структурным плане форум «ПлаSтформа» вельмі важны. Для гледача гэта шанец даведацца пра нешта новае, убачыць такое, чаго раней не бачыў і наўрад ці дзе ўбачыш. Непасрэдна для саміх тэатральных і харэаграфічных калектываў гэта магчымасць убачыць мастацкія і пластычныя якасці іншых беларускіх і еўрапейскіх калектываў, суаднесці сваю творчасць з убачаным.

### «ДОСТУП ДА ЦЕЛА» — СПЕКТАКЛЬ «ІНЖЭСТА» НА «ПЛАSТФОРМЕ»

Мне здаецца, спектакль «Доступ да цела» вельмі лірычны. Ён успрымаецца індывідуальна кожным гледачом. Ён пашыты, здавалася б, з неспалучальных візуальных і эмацыйных кавалкаў, якія кожны можа сабраць у лагічнае або ірэальнае цэлае сваім інтэлектам ці пачуццямі.

У спектаклі ў мяне шэсць роляў, і ўсе пасвойму блізкія. Роля Лектара — на пераадоленне. Роля Зайчыка вельмі мілая, бо нагадвае дзяцінства часоў садка. Роля бежанца — фізічны экстрым.

### НАКОЛЬКІ ПЛАСТЫЧНЫ БЕЛАРУСКІ ГЛЯДАЧ?

Градацыя яго пластычнасці — ад пластыкавага пакета «Карона» да маляўнічай пластылінавай анімацыі.

## Ганна КАРЗЮК: «КАЛІ ТАНЦОР НА СЦЭНЕ ГРАЕ, МОЖНА АПУСКАЦЬ ЗАСЛОНУ»

*Калі бычыш гэтую танцорку на сцэне SkvoDanceCompany (тэатра Вольгі Скварцовай), разумееш, што яе пластычны свет выходзіць далёка за межы адведзенай ролі. Здаецца, дзяўчыне прасцей мовіць целам, пластыкай, чым проста мовай. Але і ў звычайнай гутарцы Ганна Карзюк здзівіла позіркам на тэатральны і танцавальны свет — глыбокім і цікавым. Мы сустрэлі яе на форуме пластычнага тэатральнага мастацтва «ПлаSтформа» ў ролі рэжысёра і ўдзельніка спектакля «Дзевяць клетак».*





— Кірунак, у якім я працую і развіваюся — ContemporaryDance. Я сябе не абмяжоўваю: наведвала майстар-класы бачата, афра-джазу, хацела б паспрабаваць танга. Гэта карысна, гэта цялесны вопыт. Цела — нічога не забывае, яно назапашвае інфармацыю. Потым яна праявіцца. Гэта цікава. ContemporaryDance — пераклад гэтых слоў губляе шмат што з іх сэнсу, укладзенага адначасова і ў танец. «Сучасная харэаграфія» — так бы гэта гучала. Размыта і бессэнсоўна. Для сусветнай танцавальнай супольнасці паняцце ContemporaryDance азначае вельмі шмат. Тое, што першапачаткова ідзе ад класічнага балета праз мадэрн, затым трансфармуецца ў ContemporaryDance. Якія метамарфозы адбываліся, як змяняліся пазіцыя танцора, яго цела, што сталася з пазіцыяй гледача, — усё ў гэтым паняцці. Некаторыя карыстаюцца тэрмінамі «сучасны тэатр танца», «сучасны танец». Мне бліжэй менавіта ContemporaryDance — хочацца разглядаць яго з пункту гледжання рэтраспектывы і міжнароднага разумення. У гэтым кірунку ёсць месца ўсяму тэатральнаму. Суб'ектыўна — вядзе рэй цялеснасць. Менавіта ў постмадэрнісцкім разуменні гэтага слова. Калі акцёр-танцор на сцэне, то яго мова — мова цела. Вядома, зараз чыстай цялеснасцю нікога не здзівіць: з'яўляюцца прымешкі камп'ютарных тэхналогій, музычных пошукаў. Вельмі рэдка выходзіць па-сапраўднаму вартае спалучэнне танца і нечага яшчэ.

У нас ёсць спектакль «Прадметная размова». Мы там шмат гаворым. Але ў нашым калектыве ёсць перакананне: слова павінна быць апраўдана. Найперш — цялеснасць. Калі прастора спектакля дапускае слова, ты яго ўкараняеш. Калі гэта не апраўдана, калі слова з'яўляецца проста так — гэта хлусня. Цела ніколі не хлусіць. Мы ніколі не іграем на сцэне. Я лічу, што калі танцор на сцэне іграе, то можна апускаць заслону.

Напэўна, мая манера цялеснага пасылу агрэсіўная. Энергазатратная. Аднойчы мяне назвалі байцом. Магчыма, гэта амплуа. У характарыстыцы маёй працы, прадстаўленай на «ПлаSтформе», я прачытала: «Далікатная праца Ганны Карзюк». Гэта цікавая фармулёўка! У гэтай працы я і праўда трохі старалася перамагчы свой стыль «сячэння паветра».

Складанасць быць адначасова акцёрам і рэжысёрам у тым, што нельга паглядзець на працу збоку. Пакуль мяне гэта асабліва не бянтэжыць. Мая мова — гэта пластыка.

## АБ «ДЗЕВЯЦІ КЛЕТКАХ»

Часам у жыцці стамляешся ад драмы, не важна — балючай ці шчаслівай. Жыццё перанасычаецца — мы павінны проста рухацца наперад. Ёсць такія словы ў Хуліа Картасара: «Дзеля чаго тады ведаць ці думаць, што ведаеш, што любы шлях — памылковы, калі не ісці па ім з адзінай мэтай — быць на шляху?» Ісці з адзінай мэтай — быць на шляху. Гэта аснова. Ёсць такая гульня: трэба скакаць па намаляваных дзевяці клетачках, падбіваючы чаравікам каменьчык. Гэта вельмі складана, бо ён імкнецца выскачыць за межы клетак. Урэшце ты набываеш неабходныя навыкі і можаш праскакаць усе дзевяць клетачак. Ад зямлі да самага неба. Але менавіта ў гэты момант канчаецца дзяцінства.

***Запісала Віялета РЫЧАГА***

*Людміла САЯНКОВА*

# КРЫТЫКА КІНАКРЫТЫКІ



*Неяк ад маладых несвядомцаў пачула: «Добрая прафесія. Глядзі кіно ў сваё задавальненне». Калісьці я сапраўды пачынала з таго, што глядзела кіно амаль без разбору — і ўсё было ў жадобу і радасць. Памятаю, як разоў сем запар з сеанса на сеанс хадзіла на знакаміты фільм «Свінарка і пастух», зразумела ж, ад неабыякавасці да галоўнага героя. Тады, не маючы пэўнага досведу пра кінамастацтва, якраз так разумела: усё кіно — гэта цуд, дзе не можа быць крытэрыяў «добрае/дрэннае». Тое ж пачула ад вядомага літаратурнага крытыка Станіслава Расадзіна: «Раней я лічыў, што любы літаратурны твор не можа не падабацца». Потым дадаў пра сябе: «Ідыёт».*

Што датычыцца цуду, то, па праўдзе кажучы, я і цяпер лічу кіно такім. І сёння мяркую, што крытэрыі школьных адзнак не павінны выкарыстоўвацца ў разважаннях пра мастацтва. Вось яно, гэта галоўнае слова, — «разважанне». Да яго можна дадаць іншыя падобныя паняцці — «роздум», «меркаванне», «асэнсаванне». Калі не проста глядзець, а старацца зразумець, што з чым суадносіцца і чаму, дзеля чаго прапаноўваецца той ці іншы твор, пра што вядзе аповед аўтар, — тады, напэўна, пачынаецца крытыка.

Ах, які гэта доўгі і няпросты шлях — да таго, каб стаць крытыкам. Лічу, што яшчэ не спасцігла шматлікіх таямніц гэтай прафесіі. Спачатку так і думалася: трэба глядзець, глядзець і глядзець. Дыскаў і інтэрнэту не было. Глядзелі сапраўднае кіно, там, дзе была магчымасць. А магчымасць была вельмі абмежаванай. Па фільмы ездзілі ў Маскву, Піцер, Літву, Эстонію. Можа быць, дзеля іх, фільмаў, і паступіла некалі, адразу пасля журфака ў самы прэстыжны кінаінстытут краіны — ВГИК. Прыходзілася праводзіць у цёмных кіназалах цэлыя дні. Там мы абедалі і вячэралі, дыскутавалі і засыналі. Там ішло, як нам здавалася, сапраўднае жыццё. З цягам часу адчуванне, што гэта шчасце, не змянілася. У Мінску такой запаветнай кіназонай быў Дом кіно (месціўся тады ў Чырвоным касцёле). Менавіта там праходзілі закрытыя прагляды, дзе лепшае замежнае кіно прадстаўлялі прыезджыя кіназнаўцы. Трапіць туды, прыткнуцца недзе ў кутку, каб зрабіцца амаль невідзімкай, — вось гэта была «райская асалода». Тых, хто прагнуў апынуцца сярод шчаслівчыкаў, праводзіла праз бар'еры легендарны журфакаўскі педагог Еўфрасіння Леанідаўна Бондарава. Менавіта яна далучала і да мастацтва кіно, і да кінакрытыкі. Нягледзячы на тое, што мы былі «зялёнымі», няўпэўненымі ў сабе, баяліся ў прафесійным коле гук вымавіць, яна амаль сілай падштурхоўвала да таго, каб мы выказваліся, а потым яшчэ і пісалі ў газеты (пра спецыялізаваныя часопісы марыць не маглі). Сем патоў з сябе сагнаўшы, мы коснаязыка рабілі свае няўклюдныя першыя крокі. І ў гэтай няўклюднасці мы разумелі, што нам яшчэ шмат чаго не хапае: ведаў, здольнасці разважаць, разумення фільма як мастацкага цэлага. Але самае галоўнае — мы спасцігалі сябе, пераадольвалі не толькі знешнія перашкоды, але і ўнутраныя комплексы. У вучэбным

плане нешматлікія гадзіны па кінамастацтве выкладаліся толькі факультатыўна. Кожны студэнт ведае, што гэта азначае зусім не абавязковае наведванне. І тым не менш менавіта на журфаку мы праходзілі свае першыя паўнавартасныя кінаўніверсітэты, і менавіта з журфака выйшлі амаль усе беларускія кінакрытыкі: Людміла Перагудава, Ігар Сукманаў, Ігар Аўдзееў, Галіна Шур, Антон Сідарэнка, Вольга Цвяткова.

Мне здаецца, што цяпер праблем псіхалагічнага і нават прафесійнага кшталту ў новага пакалення маладых крытыкаў няма. Яны досыць «набачаныя» і начытаныя, упэўненыя ў сабе і значна больш свабодныя. Няма тых бар'ераў, якія б ім былі не пад сілу. Але ў гэтай самаўпэўненасці, перакананасці ў сваёй прафесійнай годнасці і бездакорнасці ёсць другі бок. Напэўна, гэта можна назваць абыякавасцю. Адно з галоўных правіл, якое мы ўзялі з журфакаўскага студэнцтва, — ісці з думкай і за думкай. Аўтар гэтага правіла — вядомы журналіст Валерый Аграноўскі. Для нас гэта значыла, што ні ў якім разе не трэба выпраўляцца на якое б там ні было інтэрв'ю не падрыхтаваўшыся як след. Да таго ж, трэба было і самому быць цікавым для субяседніка. Цяпер жа сустракаеш іншыя «традыцыі». Вядомы расійскі дакументаліст падчас «Лістапада» паскардзіўся на нашага маладога журналіста, які бачыць сябе кінакрытыкам: «Здзіўляюся, як гэта можна так ісці на інтэрв'ю? На пытанне, якія мае фільмы ён глядзеў, у адказ я не пачуў нічога канкрэтнага. Далей пытаюся, якія ўвогуле дакументальныя стужкі глядзеў, — зноў ніякага адказу. Адмовіў. Што ж гэта за крытык?» Сёння няведанне не лічыцца чымсьці такім, ад чаго адчуваеш сорам. Калісьці Вадзім Абдрашытаў быў вельмі здзіўлены, калі на пытанне ў студэнцкай аўдыторыі: «Ці ведаеце вы фільмы Чапліна?» пачуў адмоўны адказ. Ён ніяк не мог зразумець, як такое магчыма — не ведаць Чапліна. Сёння няведанне не падштурхоўвае да жадання абавязкова дазнацца, не з'яўляецца своеасаблівым стымулам да руху далей. Веданне ўвогуле перастала быць самадастатковай каштоўнасцю.

З кінакрытыкай, як і з літаратурнамастацкай крытыкай наогул, цяпер не ўсё проста. Яна зрабілася часткай забаўляльнага кантэнту. Мы выхоўваліся на тым, што крытыка — гэта выключна аналітычны від дзейнасці. Каб разважаць пра прадмет мастацтва, трэба ведаць гэты прадмет дасканала. На жаль, крытыка як від аналітычнай дзейнасці, перастаў існаваць у журналістыцы. Заўсёды лічылася так, што крытыка павінна раскрываць чытачу (і гледачу, бо дарэчы будзе сказаць, што раней крытыка прысутнічала і ў аўдыявізуальных СМІ) сутнасць твора. Той самы Вадзім Абдрашытаў — аўтар знакамітых стужак «Плюмбум», «Паляванне на ліс», «Прыпыніўся цягнік», «Час танцора», па сутнасці, класік савецкага і расійскага кіно — на вялікай дыскусіі «Што такое крытыка» (зараз цяжка ўявіць магчымасць такой размовы), разгорнутай на старонках некалі вельмі папулярнай савецкай газеты «Культура», заўважаў: «Мне хочацца, каб кінакрытык дапамог мне ўявіць, дзе я апынуўся са сваім фільмам, у якія прасторы трапіў, што вакол мяне. Я хачу, каб мне адкрылі мой фільм». Гэта значыла, што кінакрытык павінен быў быць і мастацтвазнаўцам, і сацыёлагам, і эстэтыкам, і філасофам. На такія тэксты знаходзіліся свае чытачы. Іх было нямала. Цяпер іншы час. Цяпер пра «50 адценняў шэрага» трэба было напісаць амаль што ўсім газетам, быццам бы гэта нечаканае адкрыццё. Найлепшым быў водгук пад назвай «50 адценняў шэрасці». А ў дачыненні да «Левіафана» — фільма, які так многа і сур'ёзна паведаміў нам пра нас сёняшніх, нешчаслівых, якія страцілі штосьці вельмі важнае і ў сабе, і ў жыцці, — абышліся радкамі пра тое, колькі грошай было затрачана на пастаноўку, як здымаліся акцёры і якая «негуманная» пазіцыя ў рэжысёра Звягінцава. Пра беларускае кіно, якое так патрабуе сур'ёзных, менавіта аналітычных разважанняў, існуе ўвогуле негалосная дамова: альбо добра, альбо ніяк. Крытыка і працэс развіцця мастацтва ўзаемазвязаны. І калі ёсць сапраўдная, а не абвяшчальная патрэба ў нацыянальным мастацтве, то будзе патрэба і ў сапраўднай, а не забаўляльнай крытыцы.

Наяўнасць сапраўднай крытыкі — гэта сведчанне культурнасці: і выдання, і грамадства. Ёй падуладны не толькі працэс пашырэння нашых ведаў і разумення мастацтва. Яна валодае магчымасцю зрабіць нас увогуле лепшымі, здзейсніць станаўленне асобы, а ў выніку — станаўленне грамадства. Нездарма ж ёсць такі выраз: «Фільмы глядзяць нас».

Маргарыта ДЗЯХЦЯР

# ГІСТОРЫЯ АДНАГО ЗНІКНЕННЯ

Пра што мы думаем? Што мы адчуваем? Што мы робім адзін з адным? Жыццё занадта непрадказальнае, каб даваць нам адказы. Мы шукаем кожны дзень, мы б'ёмся галавой аб сцены, мы не разумеем і не зразумеем, што адказаў на гэтыя пытанні можа і не быць. Стужка Дэвіда Фінчара «Зніклая» для мяне менавіта пра гэта. Яна пра пошукі адказаў і пошукі людзей.

Фільм, які заяўлены як дэтэктыў-трылер, крыху пужае гэтай заяўкай, але настройвае не толькі на крымінальную гісторыю, але і на гісторыю кахання, на невялікі кавалачак меладрамнасці ў гэтым драматычным пірагу.

Эмі Дан (Розамунд Пайк) — неверагодна прыгожая жанчына. Яна з тых, хто можа натхніць мужчыну, яна прываблівае, трымае яго на кручку. Акрамя прыгажосці, у Эмі бліскучая адукацыя (Гарвард і Ель), паспяховая кар'ера журналісткі і серыя кніг «СуперЭмі», прысвечаная ёй. Як такой незвычайнай жанчыне з першага погляду мог спадабацца такі звычайны Нік (Бэн Афлек)?

Яны сустрэліся на адной з вечарын дзесьці ў сталіцы свету, у Нью-Ёрку. Ён — загадкавы, чароўны, з выдатным пачуццём гумару, якраз такі, як ёй трэба, бо Эмі любіць «жартаўнікоў, але не шутоў», ён — той, хто выратуе яе «ад гэтага свята жыцця». Пасля вечарыны Нік канчаткова скарае Эмі казачнай прагулкай па невядомых нью-ёрскіх вуліцах, дзе паветра напоўнена цукровай завеяй. Так пачынаецца гісторыя іх кахання, якая пакуль што на дэтэктыў не цягне.

На першую гадавіну Эмі робіць Ніку падарунак з паперы — нататнік для пакуль не напісанага рамана, на чацвёртую — завялыя кветкі. Сімвалічна, што і казаць. На пятую гадавіну Нік проста не знаходзіць Эмі дома. Яна знікла.

Вось тут пачынаецца дэтэктыў. Эмі шукаюць. Яе муж, такі мяккі і клапатлівы мужчына, кідае ўсю моц на пошукі жонкі. І так хочацца верыць гэтым яго парывам, што проста немагчыма ім паверыць. Ён занадта ідэальны. Ідэальны для забойцы. Але гэта толькі на першы погляд. Гісторыя працягваецца дзве з паловай гадзіны. Даволі шмат для таго, каб паглядзець фільм на адным уздыху, але ад стужкі нельга адарвацца. Аргументаў тут і не трэба — паспрабуйце!

Эмі часта казала: «Галоўнае — мы разам, усё астатняе — шум за сцэнай». Калі адразу гэты шум і сапраўды быў за сцэнай, то праз некалькі гадоў іх з Нікам рамана ён стаў шумам на сцэне. Шлюб з асалоды ператварыўся ў цяжкую працу, а мілыя Нік і Эмі сталі тымі, кім яны не збіраліся быць ні за што на свеце.

Усё пачыналася з фразы «выйдзі на вуліцу і ўсё адчуеш». Каханне Ніка і Эмі там пачалося, там і скончылася (каб зразумець, пра што я, трэба ўбачыць). Прыгожая гісторыя кахання стала гісторыяй знікнення-забойства.

Кіно знята па аднайменным рамане Гіліан Флін. Яна сама пісала для фільма сцэнарый. Нельга не адзначыць, што, магчыма, праца пісьменніцы над сцэнарыем і зрабіла прагляд «Зніклай» такім захапляльным. Акрамя сцэнарыя, асаблівай увагі заслугоўвае музыка. Яна ненавязлівая, часам спакойная, а часам хвалюючая, яе стваралі розныя людзі: магчыма таму, што кампазітары Трэнт Рэзнар і Аціккус Рос.

Пра гульню акцёраў няма чаго сказаць. Калі пачынаеш ненавідзець лютай нянавісцю сям'ю, якая здавалася мілай і ідэальнай, пытанні пра тое, як сыгралі сваіх персанажаў Пайк і Афлек, знікаюць. Аператарская праца? Не можа не здзіўляць — Джэф Кронэнвет выбіраў нечаканыя ракурсы, рабіў кадры сакавітымі, яскравымі і жыццёвымі. А рэжысёр зрабіў «Зніклую» адным з намінантаў на «Оскар». Добрая здымачная група — поспех стужкі.

Вярнуся да пытанняў. Нік не знаходзіць адказаў на «што мы зрабілі адзін з адным?» і ніколі не знойдзе. Жыццё ўсё ж такі незвычайна непрадказальнае і разнастайнае. Не ведаеш, да чаго могуць прывесці каханне, жанчына мары, падман. Жыць у нашым з вамі свеце небяспечна і цікава. Цікава — пакуль гуляеш па правілах і атрымліваеш тое, што хочаш, а небяспека прыходзіць пасля. І што мы зрабілі?

# Я ПАЗНАЮ СЯБЕ

Не так даўно ў сталічным кінатэатры «Победа» прайшоў фестываль амерыканскага дакументальнага кіно. Ён паказаў Амерыку не такой, якой мы бачым яе ў галівудскіх фільмах, а раскрыў яе патаемныя бакі. На фестывалі прысутнічалі эксперты з ЗША — рэжысёр Жан-Мішэль Дысар і кінакрытык Майкл Рыноў. Яны прадставілі амерыканскае кіно не толькі ў кінатэатры, але і ў Інстытуце журналістыкі БДУ.

Жан-Мішэль Дысар расказаў пра свой дакументальны фільм, зняты разам з Гітэ Пэнгам, «Я пазнаю Амерыку» (I learn America). Гэты фільм, як мне падалося з сустрэчы з Дысарам, быў зняты не толькі таму, што ён хацеў паказаць эмігранцкае жыццё ў ЗША. Проста яму гэтая тэма блізкая — рэжысёр пераехаў у Амерыку з Францыі. Жан-Мішэль на сустрэчы са студэнтамі-журналістамі расказваў пра тое, як цяжка ён перажываў гэты пераезд, як краіна мары не апраўдала надзей і працягвае расчароўваць. Майкл Рыноў расказаў пра сістэму адукацыі ў ЗША, успомніў пра студэнцкае жыццё. Але галоўнай тэмай размовы было кіно.

На галоўнай старонцы сайта стужкі I Learn America ёсць невялікае яе апісанне. Там расказваецца пра тое, што амаль кожнае чацвёртае дзіця ў Амерыцы — сын або дачка імігранта. Для іх існуюць школы, якія дапамагаюць уліцца ў жыццё краіны.

У назве фільма хаваецца два сэнсы, як мне падалося. Па-першае, дзеці даведваюцца пра нешта новае ў новай краіне, а па-другое, яны даведваюцца пра Амерыку не як пра краіну, а як быццам пра чалавека.

Брэндан, Сін, Ітрат, Сандра і Джэніфер — тыя самыя дзеці, якія вучацца ў міжнароднай школе Лафайет у Нью-Ёрку. Брэндан прыехаў з Гватэмалы, Сін — з М'янмы, Ітрат — з Пакістана, Сандра — з Польшчы, Джэніфер — з Дамінікана. Такія розныя дзеці, але ім даводзіцца вучыцца разам, даведвацца пра Амерыку, расказваць аднакласнікам свае гісторыі і вывучаць англійскую мову. Для іх, яшчэ даволі малых дзяцей, якім не хочацца рашаць сур'ёзныя праблемы, а хочацца пажыць хоць колькі бесклапотным жыццём, гэта задачы не з лёгкіх. Калі ў Сандры ёсць сям'я, якая яе любіць, то, напрыклад, Сін у Амерыцы жыве ў свайго дзядзькі. Гэтыя дзеці ўжо далёка не дзеці. Яны думаюць як дарослыя, часам дзейнічаюць як дарослыя.

Кожны чалавек заслугоўвае сваю гісторыю. Я хачу расказаць пра кожнага з гэтых дзяцей хоць крышачку.

Брэндан — разумны і амбіцыйны. Любіць футбол, марыць быць футбалістам, але бацькі не падзяляюць яго мары. Яны больш прагматычныя і не хочуць даваць яму шанцаў, бо проста не вераць у сына. Таму і Брэндан перастае верыць у сябе.

Сінонім Сіна — адзінота. Ён не шукае сяброў, ён не вельмі хоча вучыцца, ён амаль не размаўляе па-англійску. Але настаўнікі дапамагаюць яму, яны разам з ім пішуць яго гісторыю (а яна цікавая, бо Сін шэсць гадоў правёў у падарожжах), каб падзяліцца гісторыяй барацьбы за лепшае жыццё з іншымі.

Ітрат любіць і Пакістан, і Амерыку. Яна кажа: «Маё сэрца — там, а цела — тут». Дзяўчынка хоць і жыве ў Нью-Ёрку, але захоўвае мусульманскія традыцыі. Яна марыць пра вучобу ў каледжы, але бацька ўжо знайшоў ёй жаніха.

Сандра і Джэніфер — самыя аптымістычныя гераіні стужкі. Яны заўсёды разам, кажуць, што яны, быццам кветка і вада, — кветка ж не можа без вады. Сандра мяркуе вельмі даросла, чым мяне і здзіўляе: «Быць іншай — гэта як працаваць на паўстаўкі. Палову часу ты — гэта ты, а яшчэ палову ты спрабуеш быць кімсьці лепшым, каб паказаць людзям, кім ты хочаш быць. Я хачу быць самой сабой». Джэніфер — крыху больш закрытая, але не менш вясёлая і шчырая.

Гэты фільм — энцыклапедыя. Гэта энцыклапедыя нацыянальнасцей, даведнік пра жыццё ў той Амерыцы, якая ёсць на самай справе, а не якую мы бачым у меладрамах. Гэта стужка пра тое, як выжыць у іншай культуры, часам без сяброў і родных, гэта фільм пра тое, як заставацца сабой у любой сітуацыі, працягваць барацьбу нават тады, калі ты адзін; пра тое, як размаўляць пра ўсё ў гэтым свеце і ніколі нічога не хаваць, быць адкрытым для новага. «Я пазнаю Амерыку» — гэта штосьці накшталт казкі наадварот. Людзі прыязджаюць па амерыканскую мару, але атрымліваюць нешта большае — новых сяброў, якія могуць раздзяліць з імі свае гісторыі. Нездарма стужка стала пераможцам шматлікіх конкурсаў у розных краінах — там, за межамі ЗША, таксама ўбачаць, як гэта — пачынаць жыццё наноў, асабліва калі ты яшчэ малады і бесклапотны, як гэта — пазнаваць Амерыку і пазнаваць сябе.

# НА СМАК І НА ВОДАР АДЧУЕМ ВЯСНУ

*Калі вы чалавек творчы, пэўна, не адкрыю для вас нічога новага, нагадаўшы, што найлепшы час нараджэння мелодый і вобразаў — восень і вясна. Штогод мы з будучымі літаратарамі выконваем адно, як высветлілася, містычнае заданне. Мы спрабуем перадаць у словах водар, гукі, смак, колер, дотык вясны і восені. Памятаеце тую вясну, калі пасля вусцішных цёплых дзён у сакавіку наляцеў Хаўер? Уявіце сабе, у радках, запісаных у імгненне вясновай цішыні, ні ў кога са студэнтаў не было супакоенасці, там пульсавалі насцярожанасць і трывога. Прапаную вам, дарагія чытачы, таксама выканаць гэтае заданне. Якая яна, сёлетняя вясна?*

*Але перад тым давайце разам з маладой пісьменніцай Вольгай Ропат і мастачкай, мадэльерам Марыяй Мароз, з якою гутарыць Вольга, згадаем мінулую восень. Вы яе памятаеце? Параўнайце свае адчуванні з тымі, што зафіксавалі пісьменніца і мастачка.*

***Галіна БАГДАНАВА,***
***дацэнт кафедры***
***літаратурна-мастацкай крытыкі***

## ВОСЕНЬСКІ КУФЭРАК

* * *

— Што з табою адбываецца?

— Не ведаю… Але гэта восень кантрастаў.

**Водар**: Пах гарбаты з мятаю. Падкрадаецца карыца.

**Гукі:** Нясмелыя, звонкія ноткі цёплай восені. Здаецца, што адкрываецца чароўны куфэрак. А што ў ім — сакрэт.

**Смак:** Шакаладна-арэхавы пірог. Карыца. Яблыкі. Малако з кавай.

**Колер:** Ружова-аранжавы. Барвовы. Кантрасты: белы і карычневы. Лёгкі шэранькі дымок.

Вельмі багата святла: ліхтары — як плямы на фоне бэзавага неба. Адзін з іх нагадвае нез’едзены апельсін, бо аранжавае электрычнае святло згусцілася ў цэнтры круглага затуманенага ліхтара, а над гэтым яркім згусткам — пустэча.

Святло дакранулася да тонкіх манетак і ўпала на невялічкую шаршавую гурбачку з лісця, што нагадала луску рыбы. Сагрэўся бурштынавы ліст і паляцеў да шэра-карычневых сяброў.

* * *

Лісточкі на дрэвах як матылькі. Іншы раз здаецца, што дрэвы задумаліся. Усё спынілася. Прырода як тэатральная дэкарацыя — стаіць, маўчыць, а ўсе людзі — акцёры — размаўляюць, смяюцца, спрачаюцца, сварацца… Дзіўнае зацішша.

**Форма:** скругленая, іншы раз — з карункамі.

**На дотык:** вязаная коўдра ў вінтажным стылі, блузка з карункавым каўнерыкам, круглыя металічныя завушніцы з перапляценнямі. Мяккае. Цвёрдыя невялікія дэталі.

У рытме тум-тум
Кастрычнік наведаў
Нас.
Зацішша. Ікебана
На круглым шкляным століку.







*М. Мароз. Эскізы сучаснага маладзёжнага адзення, створаныя паводле народных традыцый.*

**«ДЗЯЎЧЫНКІ»
ВА ЎЛАСНАЙ ТРАКТОЎЦЫ,
АБО ЭСКІЗЫ ЖАНЧЫН З ПАЛЕССЯ**

Выпускніца БДАМ Маша Мароз працуе дызайнерам. Вобразы жанчын, створаныя рукамі Машы, насычаны беларускай культурай, гісторыяй Палесся, таму каляровая гама, лініі, пэўнага тыпу сілуэты вобразаў з'яўляюцца на яе эскізах невыпадкова.

**— З якім колерам у цябе асацыюецца восень? Чаму?**

— З шэра-блакітным, карычневым, вохрыстым, глухімі і густымі зялёнымі, муштардавым жоўтым і глыбокім сінім. Чаму? Прырода. У ёй усё.

**— Эскізы ажывіліся... Якія яны, твае «папяровыя» вобразы?**

— Я імкнуся да таго, каб на іх прысутнічаў вобраз. Прычым заўсёды з лёгкай недасказанасцю. Мне хочацца, каб людзі, якія глядзяць на створаны эскіз, бачылі персанаж, за ім — пэўны настрой, нейкую гісторыю, зразумелую толькі ім самім. Такая мая мэта зараз. А вопратка — гэта той сродак, які мэце той неаспрэчна падпарадкоўваецца. Мне ніколі не хацелася маляваць «сукеначкі для дзяўчат». Вось, напрыклад, эскізы з маёй дыпломнай калекцыі. На ёй выявы палешукоў, «людзей на балоце». Гэта жаночая калекцыя, і на эскізах — «дзяўчынкі», але ў саматрактоўцы. Я выкарыстоўвала ў якасці крыніц інспірацыі беларускія народныя строі розных рэгіёнаў, шукала як мага болей першакрыніц, дагэтуль невядомых мне, вывучала глыбей наш неверагодны касцюм, рабіла шмат накідаў, калажаў, ілюстрацый, каб знайшоўся той самы адпаведны вобраз.

**— Што трэба зрабіць восенню, каб яна запомнілася?**

— Не думаю, што трэба нешта для гэтага спецыяльна рабіць, — яна і так запомніцца. Галоўнае — каб нечым добрым.

Вобразы замерлі на паперы.
Жанчыны ў белых сукенках,
У белых спадніцах,
Шэрых коўдрах
Паглядаюць
Сур'ёзна
На мяне.
Вобразы ажываюць паступова.
МузЫкі граюць.
З ліній алоўка зроблены
Інструменты.
Музыка ліецца
Па папяровым
Паветры.
Удыхнула



*Фрагмент экспазіцыі выстаўкі «Сад». Галерэя «Акадэмія», 2014 год.*

Статычныя мелодыі Палесся.
Вобразы, як формы вуглаватыя —
Лініі тонкія, як нітка,
— невыпадковасць.
Гэта тканіна.
Вобразы на фоне жоўтым, ружовым.
Хаос са штрыхоў — лабірынты.
Фламастар. Абрамляе вобраз
Гісторыі. Аксюмаран —
Статычны сілуэт і
аос фону.

А цяпер — да вясны. Як высветлілася, мы ў сваіх спробах анатаміраваць, а пасля наноў сінтэзаваць і фіксаваць, здавалася б, самае няўлоўнае — стан прыроды, стан натхнення, — не адзінокія. У мінулым годзе нашы калегі, выкладчыкі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, прарэктар, кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт Алена Бохан і загадчык кафедры тэорыі і гісторыі мастацтва Марыя Карпянкова падтрымалі ініцыятыву будучых мастацтвазнаўцаў, тады студэнтаў трэцяга курса Ганны Быкавай, Кацярыны Крамарэнка, Настассі Юзэфовіч і дапамаглі ім рэалізаваць праект «Сад». Гэта была незвычайная выстава, дзе можна было ўбачыць вытанчаныя вырабы са шкла (студэнцкія працы 1970—1980-х), мастацкія фатаграфіі (свае працы экспанаваў і студэнт Інстытута журналістыкі Ігар Мацялёнак), відэа, мадэлі адзення, пачуць музыку Віктара Сямашкі і адчуць модныя водары парфюмера Уладзіслава Рэкутава… Гэта быў не проста Вясновы сад, не проста Вясна, а дакладна перададзеныя праз каларыт, пластыку, водар чатыры яе перыяды — снегатаянне, голая вясна, зялёная вясна і падлецце…

А якая яна ваша, сёлетняя Вясна?



*М. Мароз. З калекцыі сучаснага маладзёжнага адзення «Рэха», 2014 год.*

Вольга РОПАТ

# НАЦЮРМОРТЫ МАЙГО ЖЫЦЦЯ



*Беларуска-бразільская выстава*

### ЭКСПЕРЫМЕНТ З УЗРОСТАМ, АБО ГІСТОРЫЯ МЕСЦА

Фотаздымкі Аляксандра Юшчанкі серыі «Фактуры старога раёна» — гэта фіксацыя працэса ператварэння маладых цагляных сцен і металічных дзвярэй у старое, нікому не патрэбнае ламачча. Прадметы, як і людзі, сталеюць, але ўзрост робіць іх адметнымі і запамінальнымі. Аляксандр на фотаздымках паказаў праз плямы іржы, пацёкі ад мазуту непрыкметную прыгажосць прадметаў. Фарба патрэскалася (пад ёй схавалася цвіль) — паміж маленькімі кавалачкамі плоскіх шматкутнікаў засталіся сцежкі, у якія трапляе паветра і паступова адрывае ад дзвярэй тонкія цёмна-зялёныя або бардова-карычневыя фігуркі. Вырваўся, быццам з няволі, кавалачак і ўпаў на запэцканую брудам траву.

Адухоўленыя дзверы жывуць у іншым вымярэнні, у іх іншая рэальнасць. Можна садраць рэшткі фарбы, пачысціць зашмальцаваныя дзверы і… яны будуць выглядаць як новыя. Гэтаму працэсу ператварэння я дала назву «адраджэнне». Прадметы забытых мясцін памаладзеюць — жыццё іх працягнецца.

Па розных плямах — вялікіх, кропельках у выглядзе аблокаў або «як з вядра вылілі» — можна здагадацца, хто тут быў ці што адбывалася на гэтым месцы. Будаўнікі з пэндзлямі ці група падлеткаў з балончыкамі, якія малявалі графіці. Гэта гісторыя. Гісторыя месца, раёна, горада.

*«Гала і элегантны Далі»*

### У РУЖОВЫМ СВЯТЛЕ

Малінавы «прытарны» квадрат, на якім мастак-сюррэаліст Сальвадор Далі, быццам анёл з белым крылом і белаю пальчаткай, «падляцеў» да сваёй каханай Галы. А жанчына ў ярка-жоўтай сукенцы трымае ў руцэ дрэўка з сонечнымі трохкутнікамі — лісцем. Гэтыя ж дэталі і на вусах сюррэаліста. Чыстыя колеры без адценняў, як і, здаецца, адносіны паміж каханымі — «далікатныя, без адценняў непаразумення». Гэтая карціна, мабыць, не запомнілася б, калі б не перавернуты парасон джэнтльмена Далі. Закаханы мастак, здаецца, аберагае жанчыну ад белых кропелек дажджу, але і яны таксама перавернутыя. Далі і Гала адштурхоўваюць гэтыя кроплі сваім каханнем, таму парасон у ружовым жыцці ім ужо не спатрэбіцца.

*Палац мастацтваў*

## ЛЫЖКА БУДУЧЫНІ

Светлая, сметанкова-кававая каляровая гама плаўна пераходзіць у пяшчотна-белы. Здаецца, быццам да жывапіснага палатна Алесі Скарабагатай дакранулася ласкавае крыло анёла.

Работа ўся вытрыманая, спакойная, гарманічная. З майстэрствам прапісаны ўсе дэталі: салодкія вырабы з мукі, на якіх блішчыць, пераліваецца празрысты цукар, жоўта-аранжавы мёд у маленькай бутэлечцы, след ад вуснаў на белым парцалянавым кубку…

Стыль Алесі Скарабагатай можна параўноўваць з мелодыяй дажджу: мы прывыклі да высокай вадзяной сцяны, але калі прыслухацца да кожнай кропелькі, то можна пачуць незвычайныя ноты прыроды. Яны розныя, а калі іх з'яднаць, то атрымаецца аркестр дажду — выразны і эмацыйны.

Галоўныя персанажы ў жывапісным палатне не рукі — «дуэт узростаў», а звычайная металічная лыжка, якую перадае бабулька ўнучцы. Па руках можна здагадацца пра ўзрост людзей: стомленыя пальцы працягваюць бліскучую лыжку тонкім музычным пальчыкам яшчэ не кранутай цяжкім жыццём ручкі. Лыжка нібы абярэг лёсу, будучыні: настаў час маладых. Можна зразумець сэнс карціны як перадачу будучыні ад сталых да падлеткаў. Дарослыя зрабілі ўсё магчымае для маладых, цяпер настаў наш час.

Таму і работа называецца «Ранішняя кава»: бо раніца — гэта пачатак. Новага, але невядомага.

## ВАЗЫ З ХАРАКТАРАМ

Здаецца, звычайныя вазы, зробленыя з чырвонай гліны Алесяй Чэрнікавай… Але смак хаваецца ў форме чорна-чырвоных прадметаў. Форма ваз, як фігура і характар у людзей: авальная, «тоўсценькая» ваза стаіць каля выцягнутай, ганарлівай. Яны з рознымі характарамі, з рознымі настроямі, але — разам. Вазам, мабыць, хораша. Але аднойчы яны праявяць свой чорна-чырвоны характар.

*Рубрыка «Асацыяцыі»*

## БЕЛЫ КУБАК З РУЖОВЫМІ КВЕТКАМІ

У кожнага ёсць «свае» рэчы. З кожным дотыкам гаспадара яны пачынаюць дыхаць. Жыць.

У мяне таксама ёсць «свае» рэчы. «Ранішнія», «вячэрнія», «восенькія», «летнія»…

Мой ранішні нацюрморт — гэта белы кубачак з ружовымі кветкамі і круглае люстэрка ў жоўтай апраўе. Спачатку — пра белы кубачак.

Шторанак — у кожнага новы настрой. Ад чаго ён залежыць — невядома. Ад надвор'я, ад сну… Не ведаю. Часцей за ўсё мы, як ледзь ажыўленыя скульптуры, з адчуваннем адзіноты, смутку наліваем у свой кубачак гарачае пітво. Мой белы кубачак апёкся. Ён дыхае ўсё часцей, часцей… Шэранькі дымок пачынае танчыць. Фу-уууу… Фу-уууу. Гэтай восенню я чамусьці палюбіла какаву. Цёплую, па-свойму мяккую…

Самае цікавае, што па кубачку можна здагадацца, каму ён належыць. Падкажа не толькі памер і малюнак, але і след ад вуснаў… Пасля дзяўчынак застаецца непрыкметная сарамлівая ружовая плямка, пасля жанчын — бардовыя ці колеру морквы ўпэўненыя адценні. Кубак — прадмет гасціннасці. Ён рады ўсім, хто напоўніць яго цяплом і «растопіць» халодны абадок.

Пустэча адзіноты яго запаўняе,
Квадратная лямпа лашчыць святлом.
Кубачак белы ранак чакае,
Чакае, хто будзе з ім за сталом.

* * *

Кроплі святла, як маленькія феі…

Ужо 00:10. Ноч. Кубак зліваецца з глухою цемрай. За сцяною суседзі вядуць няспешную гутарку… А ў маім кубачку прыемны спакой.

Задумалася. Як можна здагадацца, ці ёсць у яго характар? Які ён? Мой шчыры сябра, мой кубачак, белы, з букетам кветак. Юнацтва. То падміргне кропля святла, то цень дакранецца і хутка перабяжыць на драўляны стул. Але кубак не хоча зліваіцца з начным змрокам. І ў цемры ён слепіць сваёю беласцю. Індывідуаліст ганарлівы.

Чакае невядомую раніцу.

АРЦЁМ КАВАЛЕЎСКІ

# WO! MAN: ЁСЦЬ ЧАЛАВЕК

***Every night I go out***
***And I must look like a fool***
***When I'm standing looking at the sky***

***I don't care 'cause perhaps***
***I might see a falling star***
***May be, Oh one day a dream'll come true***

Jay-Jay JOHANSON

## I

## РЭЦЭПТУРА ВАР'ЯЦТВА

Швэндаючыся па вулках Старога Свету недзе ў Амстэрдаме, Парыжы альбо Лондане, апроч стракатых, ладна прыбраных вітрын, дагледжаных сквераў, утульных кавярняў ды падкрэслена прыстойных твараў заклапочаных месцічаў вы абавязкова натрапіце на твары іншыя, менш прыстойныя і заклапочаныя, з усмешкаю альбо без, твары, на якія не прынята арыентавацца паспяховаму жыхару заможнага мегаполіса. На тле сціплай прывабнасці буржуазнага макіяжу гэтыя твары выдаюць аблічча тых, хто не паспеў/не здолеў/не пажадаў прыхавацца за грымам талерантнай паспяховасці, не закамуфляваў сябе стандартызаванай маскай упэўненасці і ўніфікаванай манерай паводзін. І справа нават не ў тым, што «ўладальнікі» гэтых твараў абнаўляюць свой гардэроб на блышыных кірмашах, аддаючы перавагу аўтэнтычнай вінтажнасці і з'яўляючыся стыхійнымі спадкаемцамі стылю легендарнай Вів'ен Вэствуд. Так, выглядаюць яны крэйзанута, але вочы гэтых бадзяг бездакорна, вельмі востра скануюць свет, прычым «свет-навыварат», — той сапраўдны свет штодзённасці, якога мы так баімося і ад якога штодня збягаем кудысьці не туды. У нас пра такіх асоб кажуць, што ад іх патыхае шызой, а ў галаве ў іх — тараканы. Мясцовыя дзівакі. Фрыкі. Але Еўропа даўно ўжо звыклася з прысутным у ёй фрыкавым абліччам. Менавіта легітымізаванае дзівацтва робіць магчымай перманентную арт-пасіянарнасць той часткі грамадства, якую электаральная большасць не без зайздрасці і крыхі разгубленага зачаравання залічвае ў «чорныя спісы» мастацкага андэграўнда, што мае выключную моц прыстасавання да любой сістэмы канфармісцкага светапогляду і выжывання ў любых сацыяльных варунках. Знешняя дыспрапорцыя паміж уяўнай і сапраўднай «нармальнасцю» дыктуе стыль іманентнай паўмаргінальнасці, цэтлік якой даўно ўжо стаў візітоўкай «сапраўднага творцы». Каб быць паспяховым у мастацтве, ты мусіш прыдумаць/стварыць/абгрунтаваць сябе. Гэтую ўніверсальную формулу станаўлення творцы калісьці вывеў Аненскі: «Першая задача паэта — выдумаць сябе». Раздваіцца, словам... Стаць «вар'ятам» па ўласным жаданні, паводле ўласнага выбару... Часам нам цяжка прызнаць, што інтэрсуб'ектыўная прырода «вар'яцтва» — гэта маркер у свядомасці людзей, якім можна пазначыць усё тое, што знаходзіцца па-за межамі нашай маральнай талерантнасці і магчымасці татальнай нятоеснасці асобы са светам і рэчаіснасцю. Рэцэптура «вар'яцтва» — надта складаная, субтыльная, нават эфемерная рэч, якая часам не мае нічога агульнага з медыцынскім дыягназам.

**II**

## ЭКЗАТЫЧНАЯ ПТУШКА — ШЭРАЯ ПТУШКА

Швэндаючыся па вулках Мінска, недзе ў самым яго цэнтры, апроч стракатых, ладна прыбраных вітрын, дагледжаных сквераў, утульных кавярняў ды падкрэслена прыстойных твараў заклапочаных месцічаў вы абавязкова натрапіце на твары іншыя, менш прыстойныя і заклапочаныя, з усмешкаю альбо без, твары, на якія не прынята арыентавацца паспяховаму жыхару мегаполіса…

Яна ходзіць адна. Шпацыруе на самоце. І вы адразу пазнаеце (узгадаеце) гэтую жанчыну: сутулая, крыху згорбленая постаць, падношаная (але якая дзівосная, адмысловая нават!) вопратка, заўсёды (пры любым надвор'і, у любую пару года) у шапках/капелюшах/каптурыках, з-пад якіх віднеюць дзве касічкі з уплеценымі дзіцячымі стужкамі, у руках — абавязкова дзве торбы, на нагах — сцёртыя боты... І погляд. Нейкі спустошана-абыякавы, трохі фанабэрлівы, часам востры, але разам з тым спакойны, далёкі і лагодны... Кажуць, раней замест заўсёдных сваіх капелюшоў Яна любіла аздабляць валасы вялізным бантам. Так і хадзіла між паспешлівых, абцяжараных турботамі мінчукоў — падкрэслена незалежная, свабодная і прыгожая — экзатычная птушка, вольны пілігрым... Часта можна было пабачыць Яе ў кампаніі кавалера (хто такі?). Яны куплялі ў «Цэнтральным» канапку з сырам і гарбату. Такі вось мелі немудрагелісты гарадскі пачастунак. А потым Яна змянілася... Ператварылася ў шэрую птушку. І ўвесь час адна, адна, адна... З цыгарэтай альбо без, у капелюшы, з торбамі, поўнымі пустых бутэлек. На Яе звярталі ўвагу, абарочваліся, давалі лаканічныя вызначэнні: старая хіпі, мясцовая вар'ятка, бомж... А Яна, не звяртаючы ўвагі на свідруючыя погляды, сядала на лаве ў скверы ці паблізу прыступак «Цэнтральнага», разгортвала сшытак і пачынала нешта вельмі засяроджана, апантана пісаць. Некаторыя асабліва цікаўныя разявакі заглядалі ў ейны сшытак... Але што яны маглі ўбачыць? Нейкія крамзолі! Каракулі...



Такой яе памятаюць многія мінчукі. Такой Яна запомнілася і мне, спачатку ліцэісту, потым студэнту. Бадзяючыся па цэнтры горада пасля заняткаў, я міжволі шукаў Яе. Было нешта прыцягальна-таямнічае, загадкавае і адначасова змрочнае, адчужанае ў яе вобразе. І вельмі мінскае...

Кожны горад мае сваіх нябесных анёлаў-ахоўнікаў, патронаў. Зрэшты, мае ён і сваіх зямных вартаўнікоў, самотных пілігрымаў, якія нясуць яму службу адно толькі сваёй прысутнасцю, сваімі заблытанымі шляхамі і маршрутамі. Мы сустракаем іх штодня ў падземных пераходах, у парках, ля знаёмых з дзяцінства месцаў, мы падсвядома (падсвядома?) жадаем сустрэцца з імі на вуліцы, а сустрэўшыся, імкнёмся злавіць іх позірк — прыкмету няўлоўнага хранатопа.

Аднойчы, шпацыруючы па праспекце з прыяцелем, мы раптам спаткалі Яе каля ўніверсама «Узвышша». «Пазнаеш?» — запытаўся я. «А-а, ну так, канешне, гэта старая мінская хіпуля...» — усміхнуўся прыяцель.

**III**

**ДЖЭМА-АЛА**

Студэнтам першага курса я наведваў літаб'яднанне пры часопісе «Першацвет». Мы збіраліся ў Доме літаратара па панядзелках на трэцім паверсе ва ўтульным рэдакцыйным пакоі, які для многіх маладых паэтаў і празаікаў быў адзінай пляцоўкаў для «публічных» выступаў і дэкламацый уласных твораў. Удзельнікі суполкі па-свойску віталіся, выпівалі традыцыйны кубак гарбаты, чыталі вершы, выносілі прысуды...

«Я паэтка маладая, я на шарыках лятаю!» — запомнілася рыфмаванка з вуснаў ці то Волі Гапеевай, ці то яе сяброўкі Надзі Сінькевіч (аўтар рыфмаванкі — іхняя прыяцелька тае пары Алена Сакалоўская)... Так, тады ўсе мы — маладыя — лёталі на балоніках юнацкага паэтычнага натхнення... Было лёгка, весела і крыху дураслівa... Памятаю, аднаго разу, напрыканцы чарговага вечара на літаб'яднанні колішні рэдактар «Першацвета» Алесь Герасімавіч Масарэнка (шчыры аматар прыгожага пісьменства, маладых (таленавітых!) паэтак і братоў нашых меншых баброў), корпаючыся ў нейкіх паперах, гучна і працягла (характэрная інтанацыя) вымавіў: «...Ды кідай ты іх у сметніцу! Няма чаго там глядзець. Ну, піша сабе нешта гэтая вар'ятка і няхай піша. То ж не вершы, а поўная лухта, глупства! Ніяк не супакоіцца, усё дасылае і дасылае! Яшчэ і фотаздымкі прыклала... Кнігу, бачыш, хоча выдаць! У нас сваіх маладых таленавітых хапае. А то ж вар'ятка, бамжыха...» Такі быў вердыкт рэдактара наконт рукапісных чарнавікоў паэткі, што даслала свае творы ў рэдакцыю часопіса. Пасля гэтых слоў Алеся Герасімавіча (чалавека адкрытага і прамога) замест сметніцы рукапісы трапілі, здаецца, у рукі Віці Жыбуля. Стала цікава. Я падышоў і пачаў разглядаць: гэта былі два звычайныя школьныя сшыткі ў цыратавай вокладцы, цалкам спісаныя размашыстым, дрэнна чытэльным почыркам. Вершы. Пад вокладкай я знайшоў канверты, у якіх былі лісты ў рэдакцыю з прапановаю надрукаваць вершы ў часопісе. Было там і некалькі фотаздымкаў, з якіх на мяне глядзеў знаёмы (!!!) твар. Твар жанчыны, якую так часта даводзілася мне бачыць у цэнтры Мінска: нейкі старамодны капялюш, дзве касічкі з уплеценымі дзіцячымі стужкамі, крыху фанабэрлівы, але разам з тым лагодны погляд... «Я яе ведаю! Гэта ж... ну, вы ж ведаеце, тая кабета, што ўвесь час тусуецца каля "Цэнтральнага", крэмзае нешта...» Вось так. Знаёмы выключна з выгляду пілігрым (шэрая птушка) аказаўся паэткай.

Не заўсёды прыемна, калі таемнае робіцца яўным. Але гэта быў не той выпадак. Рэбус пацiху разгадваўся. «А навошта ў сметніцу? Дайце хоць пачытаць...» — сказаў я і ўзяў сшыткі, якія чамусьці адразу сталіся вельмі блізкімі і дарагімі маёй юначай узнёсласці. То ж рукапісы паэткі! Вершы мінскага бадзягі, хіпулі... Хай сабе і так. Не, нельга ў сметніцу... Хай лепш будуць у мяне... Было ўражанне, што ў рукі трапілася каштоўнасць, нешта вельмі-вельмі сапраўднае, непадробнае, шчырае. Прыадкрылася тайна чалавека, незнаёмца, які доўгі час прыцягваў маю ўвагу, быў загадкай. І вось я трымаю ў руках яе сшыткі, рукапісы, у якія імкнуліся зазірнуць многія сталічныя разявакі і знайсці ў іх пацвярджэнне сваім пахмурным здагадкам пра аўтара. (Нешта падобнае на мае адчуванні перажывала гераіня фільма Жана-П'ера Жэнэ «Амелі», калі імкнулася расплесці клубок раптоўных выпадковасцей пасля таго, як ёй у рукі трапіла скрынка з дзіцячым скарбам незнаёмага ёй пакуль чалавека).

На ўкладзеных у сшыткі канвертах было пазначана імя аўтаркі: Церахава Джэма-Ала Іосіфаўна...

**IV**

**ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ**

(Друкуецца на мове арыгінала з захаваннем аўтарскай арфаграфіі і пунктуацыі)

*г. Минск, ул. Фрунзе, 5*
*ДЛ, СП БССР.*
*В «Першацвет», получив по почте июльский номер на русском языке.*
*Двуязычие.*
*Рус. яз.*
*Бел. яз.*

*Коротко о себе.*

*На белорусском языке 1000 строк сборника возможного (Книга в книге «Першацвета») «Нелады» (или название другое...) в ДЛ последовало три раза... С названиями стихов, без...*

*Ученица... Я... Помню, в СШ № 2 г. Любань, в школе на русском, был урок бел. яз., бел. лит. Преподаватель — Радько, которая один раз мне чуть два балла за четверть не влепила. «Нелады», значит... На русском языке написано мной множество всякой всячины, сложившейся в разнообразные жанры, часть которых уже на ул. Фрунзе, 5... На разных этажах... Стихи в приемной на 2 этаже... На русском... Часть от всех написанных стихов с датами. Под некоторыми стихами даты не ставила. Те еще не последовали в ДЛ... Но... Последовали в редакции газет «Железнодорожник Белоруссии», «Знамя юности», «Зорька», районную любанскую газету «Голас любанщчыны»...*

*Сейчас я занята выпиской четверостишей из двух общих тетрадей... По алфавиту. Буква «С». Посылаю четверостишия на открытках по почте в «Знамя юности», вбрасывая конверты в почтовые ящики. Не сразу получается все выписать.*

*В 1982 году я закончила Литинститут им. А. М. Горького в г. Москва (Тверской бульвар, 25). Множество моих знакомых до того и после также благополучно закончили Литинститут... (Л. Турбина, Л. Дранько, А. Третьяков, Т. Дашкевич, Таня Митрофанова, Н. Коняев, Р. Боровикова). Опять кого-то забыла. На белорусском знакомый — поэт Михась Скрипка, который один раз мне посоветовал почитать Бранта «Корабль дураков», но... увы! Еще не прочитала... Гракович, поэт, знакомый по литобъединениям г. Минска, которые я посещала. В Дом Литератора я отнесла «Записки Литератора» (11 блокнотов), отнесла в кабинет, в котором было два незнакомых литсотрудника. (Обнаружив в июльском номере повесть на русском языке, подумалось: «Вот бы и «Записки Литератора» поместились в «Першацвете» или с «Продолжение следует», если бы не поместились. Гм. В нескольких номерах. А поэма в 5 000 строк? И — романсовые стихи, пусть и часть. Всего лишь... Романс чуть приглушен, остальное — на пять. И переводы стихов Вертинского с белорусского на русский в трех тетрадях посылала я с главпочтамта в ДЛ.*

*У меня за 22 года жизни ≈ 800 фотографий... А вдруг понадобятся к поэме «Вспомнила и забыла» (≈ 500 штук). Если понадобятся фото для отдельной книги, то напишите мне письмо по адресу: 220035, БССР, г. Минск, пер. Славный, д.4, Тереховой Джемме-Алле Иосифовне. (По метрикам первое мое имя «Джемма», второе — Алла... Паспорта — исчезают, метрики — лежат в папке с документами, как и два диплома. БТИ им. С. М. Кирова, г. Минск, Литинститут им. А. М. Горького, г. Москва.*

*Гений — всегда доносчик. Я.)*

*Диплом Литинститута — литературная работа. Первый руководитель поэтического семинара — Ковалев Дм. Мих. Второй руководитель — Старшинов Николай Константинович.*

*Лет 14 или 15, не помню (в трудовой книжке один год «съели»... Увы мне!?!), я — без работы.*

*Перед защитой диплома от Литинститута на Машерова, 11, в издательстве, в отделе «Поэзия» я была полгода на преддипломной практике. Работу в издательстве я еще не получила. Свой адрес я везде оставила. Я любила не только фотографироваться, но я любила и эпистолярный жанр.*

*До свидания. Всего хорошего.*

*Терехова Джемма-Алла Иосифовна.*
*5 августа 1998 г.*

*P.S. Одно фото прилагаю для «Першацвета».*

**V**

## ЗАВУЛАК СЛАЎНЫ, 4

З тае пары, як чарнавікі і лісты Джэмы-Алы трапілі мне ў рукі, я яшчэ некалькі разоў сустракаў яе ў горадзе, але ўсё радзей ды радзей. Апошні раз, памятаю, на Панікоўцы... Народу ў парку амаль не было,



і толькі яна павольна і панура крочыла між амаль голых дрэў... Як заўсёды, дзіўна апранутая, сутулая, з торбамі... Вецер кружляў пажоўклую, стомленую ад ліхаманкавага трымцення лістоту. Згадаўся радок з рускамоўнага верша паэткі, які я прачытаў у адным з яе сшыткаў: *«Я танцевать учусь у падающих листьев...»* Мільганула думка падысці да яе, павітацца, сказаць, што я чытаў яе творы, ведаю, хто яна такая. Але не, не падышоў... Глядзеў толькі ёй услед, пакуль шэрая постаць не знікла за паваротам. Яна была такая самотная. І яе было шкада. Чым і як яна жыве? Няўжо жабруе? Не, яна не была падобная на бяздомнага бадзягу, якіх апошнім часам пабольшала ў горадзе. Можа, хварэе? Было крыўдна, што яе не друкуюць, а яна ўсё дасылае і дасылае свае сшыткі і фотаздымкі ў рэдакцыі літаратурных выданняў. Не друкавалі, відаць, не з прычыны «прафнепрыгоднасці» (у Джэмы шмат цікавых, моцных нават вершаў)... На гэтую дзівачку не жадалі звяртаць увагі, перш за ўсё, праз яе «маргінальнасць», «ненармальнасць», «іншасць». Людзі баяцца сутыкнуцца з чымсьці, што не падпадае пад схему ўсярэдненай паспалітасці. Вось і ў мяне не хапіла мужнасці падысці да чалавека адзінокага, не падобнага да іншых. Але ўрэшце, я ведаў яе адрас: завулак Слаўны, 4. Якая дзіўная назва! Слаўны... Ніколі не чуў... Дзе гэта? Аказалася, што ў цэнтры горада. Але каб адшукаць гэтае месца, мне давялося доўга блукаць кругом і навокал, перапытваючы мінакоў, з якіх толькі адзін немалады ўжо спадар здолеў дакладна распавесці, як знайсці патрэбны мне адрас. «Ага, Слаўны... То ж, відаць, яго хутка ліквідуюць... На некаторых мапах наогул не пазначаюць ужо... Там прыватны сектар, усяго некалькі дамоў...». Завулак Слаўны знаходзіцца паміж вуліцай Танка і Ціміразева (адразу за нядаўна збудаваным гіпермаркетам «Карона»). Апынуўся там, і высветлілася, што Джэма жыве ў зусім маленькім дамку. Веснічкі сіратліва глядзяць на вузкі ходнік, што цягнецца ўздоўж праезнай часткі, яшчэ больш вузкая дарожка вядзе да дома, вакол якога на малюсенькім лапіку зямлі — неверагодна мініяцюрны гарод і сад (усяго некалькі дрэў), таму ствралася ўражанне не гарадскога жытла, а нейкага скіта, прыстанку пустэльніка. Гэтым пустэльнікам была паэтка Джэма-Ала Церахава...

У той дзень я не пабачыў яе. Джэмы не было дома.

## VI

## СУСТРЭЧА

Адзіная з ёю сустрэча адбылася, здаецца, праз год-два пасля таго, як я адшукаў яе дом.

Было лета. Жнівень. Цэлы дзень я правёў у горадзе, а пад вечар, развітаўшыся з сябрам, вырашыў яшчэ трохі пашвэндацца па цэнтры. Надвор'е было прыемнае, і мне зусім не хацелася вяртацца дадому. Дзесьці ў раёне былога праспекта Машэрава я нача-

кана для сябе ўзгадаў пра тое, як летась шукаў дом Джэмы-Алы. Трэба ўсё ж пабачыць яе — падумалася — і я рушыў у бок Слаўнага завулка...

Усё той жа ходнік, той жа дамок, веснічкі, над якімі схіліліся запыленыя галіны слівы з саспелымі ўжо пладамі. Я загрукаў. Пачакаў мо з хвіліну-дзве. Ніхто не адчыніў. І толькі надрыўна гаўкаў, мітусіўся маленькі сабачка (дварняга з дамешкам балонкі), то падбягаючы да брамкі, то зноў кулём несучыся да дзвярэй дома. Вечарэла... Мяккія аксамітныя прыцемкі ахуталі стомлены горад, топячы яго ў лагодным жнівеньскім сутонні... І раптам зарыпелі дзверы, на парозе дома з'явілася постаць, якая не адразу накіравалася ў бок брамкі. Чамусьці марудзіла. Але праз хвілю яна была ўжо каля плота, брамкі ж адчыняць не спяшалася... Першым пытаннем, з якім яна звярнулася да мяне было: «Хто я?» «Вы паэтка Джэма-Ала Церахава. Я ведаю вас. Я чытаў вашыя вершы. А яшчэ я захаваў чарнавікі, якія вы калісьці дасылалі ў рэдакцыю "Першацвета". Ці можна з вамі пагутарыць?» І тут, нарэшце, брамка адчынілася. Яна не запрасіла мяне на тэрыторыю свайго скіта, а сама выйшла на ходнік...

Перада мной стаяла апранутая ў нейкія лахманы жанчына. Твар у глыбокіх зморшчынах, брудныя рукі... Дужа асіплы голас... «Божа, што з ёй сталася!» — падумаў я. Бедная. Сабачка завіхаўся побач, не пакідаючы сваёй гаспадыні. «Як яго зваць?» «Гэта мая Бусінка», — прасіпела Джэма, шчыра і так лагодна ўсміхнуўшыся. Размаўлялі мы, пэўна, хвілін сорак. Яе гутарка ўвесь час збівалася то на абрыўкі ўспамінаў (сэнс якіх разумела толькі яна), то на раптоўныя асацыяцыі, нейкія адмысловыя метафары... Складана было зразумець, пра што канкрэтна яна хоча сказаць. Было цяжкае ўражанне.

Джэма па-ранейшаму нідзе не працавала (ёй адмаўлялі ў працаўладкаванні). Усюды, куды яна ні звярталася, яе лічылі вар'яткай. «А з чаго вы жывяце?» «Пенсію атрымліваю, маю гарод», — паказала яна рукой на свае ўладанні... «Вам вельмі шкада, што вас не друкуюць?» «Шкада? Хіба ўжо не... Ну што зробіш... Такіх, як я, не друкуюць, ведаеце...» Яна яшчэ доўга балбатала нешта пра мінулае жыццё, пра свае «нелады» (менавіта так яна хацела назваць сваю чарговую кнігу), пра штодзённасць марнага існавання самотнага чалавека... Было нейкае дзіўнае, уразлівае спалучэнне спакою, абыякавасці і выключнай адкрытасці, шчырасці ва ўсёй манеры яе маналогу (трызнення?)...

Яе лёс склаўся так, як склаўся. Ці шкадуе яна, што нешта, не заладзіўшыся калісьці, паклала адбітак на ўсё яе пазнейшае жыццё? Цяжка сказаць. Перада мной быў незвычайны, адзінокі, але ў чымсьці самадастатковы чалавек. Паэтка, гарадскі бадзяга, шэрая птушка Джэма-Ала... «Хворая» — так акрэсліла б большасць з нас гэтага чалавека. Але ж мы ведаем, што рэцэптура «вар'яцтва» надта складаная, субтыльная, нават эфемерная рэч, якая, часам, не мае нічога агульнага з медыцынскім дыягназам.

## VII

## «ВЫШЭ РАЗЛУКІ»

Так называецца адзіны зборнік Джэмы-Алы, што пабачыў свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура» (серыя «Першая кніга паэта») у 1982 годзе, адразу па заканчэнні паэткай Літаратурнага інстытута. У кароткай даведцы пра аўтара чытаем: «Ала Церахава нарадзілася ў 1951 годзе ў пасёлку Ясень Магілёўскай вобласці. У 1973 годзе скончыла Мінскі тэхналагічны інстытут ім. С. М. Кірава, атрымала спецыяльнасць інжынера-механіка. У 1981 годзе скончыла Літаратурны інстытут ім. А. М. Горкага. Вершы друкаваліся ў рэспубліканскіх газетах, у часопісе "Нёман", у зборніку "Дзень паэзіі", у альманаху "Паэзія", у зборніку "Маладыя галасы" (М., 1981) і інш.»

«Вышэ разлукі» — тоненькая кніжачка, сшытак, усяго 54 старонкі. Збольшага — гэта інтымная і пейзажная лірыка, вельмі тонкая, кранальная і несупакоеная... Класічная па форме, спавядальная па змесце. Паэтка, заглыбіўшыся ва ўласныя ўспаміны, вэлюмныя здагадкі пра сапраўднасць пачуцця, сніць (а можа, прадчувае?) жыццё адмысловае, цярністае, пазначанае прысутнасцю заўсёднай самоты, непрытульнасці існавання... Пошук незвычайнага, яскравага ў свеце шэрай, зачытанай да дзір паўсядзённасці, надае паэзіі Джэмы-Алы



неверагодную празрыстасць, сапраўднасць, неўяўную прастату, роўную ўласна жыццю, жыццю без тэатральнай маскі, без прымхлівай мімікі, марных жэстаў і закамплексаванасці.

Самотная душа прагне самоты толькі на паперы...

* * *

Выше встречи и выше разлуки
Ощущение неба и крыл.
Я свои уронила руки,
Чтобы ты обо мне забыл.

Легких крыльев тебе и полета
Над прозрачным затишьем полей,
Над продрогшей в полях позолотой
Одинокой дороги моей...

## VIII

## УСПАМІНЫ, ЗГАДКІ

Дзіўным лістом заканчваецца адзін з сшыткаў (рукапісаў), дасланых Джэмай-Алай у рэдакцыю «Першацвета»:

*Дарагая рэдкалегія!*

*З пажаданнем уключыць у часопіс «Першацвет» вершы паэтаў і паэтэс, з якімі мне давялося быць у знаёмых.*

*1. А. Вярцінскі,*
*2. М. Вяршынін,*
*3. У. Някляеў,*
*4. К. Жук,*
*5. В. Аколава,*
*6. Л. Пужэвіч,*
*7. С. Каробкіна,*
*8. А. Церахава (Я),*
*9. А. Пісьмянкоў,*
*10. Р. Барадулін,*
*11. А. Пісарык,*
*12. А. Паўлаў,*
*13. Ф. Гурыновіч,*
*14. Р. Баравікова,*
*15. Г. Каржанеўская,*
*16. Л. Дранько,*
*17. І.А. Мураўейка (г. Любань),*
*18. паэтэса, якая працуе ў «Кинонеделе г. Минска», забыла прозвішча. Піша вершы для дзяцей*[*]*,*
*19. Р. Яўсееў і іншыя...*

*Калі ласка, у друкарні можна зрабіць часопісу «Першацвет» тоўстую вокладку. У прыватным сектары пошта, бывае, гуляе ў лужыны. З тоўстай вокладкі плямы сціраюцца, з тонкай — не... Выпісваюць жа часопіс і сёлы, і чыгуначныя станцыі...*

*Калі будзеце бачыць А. Вярцінскага, скажыце яму, хай напіша прадмову да маёй «Кнігі ў кнізе». Хай ён выбярэ назву для маёй кнігі па-беларуску. Адну з чатырох. У нас, у СШ № 2 г. Любань, былі падказкі. У 1981 г. я скончыла маскоўскі Літінстытут імя А. М. Горкага. Старшынаў М. К. (кіраўнік) пісаў прадмову да зборніка Фаіны Сталяровай... З г. Санчурска Расіі. Па-руску.*

Пра што гэты ліст? Усё вельмі проста. Паэтка жадала быць пачутай. Пачутай сваімі калегамі-літаратарамі. А яны? Ці памятаюць яны пра яе?

Маючы спіс знаёмых Джэмы-Алы, я ўзяў у рукі тэлефонны даведнік Саюза беларускіх пісьменнікаў. Першай асобай, каму я патэлефанаваў, была Галіна Каржанеўская...

[*] Ніна Галіноўская *(заўвага аўтара).*

«Джэма-Ала?.. Я ведала яе як Алу... Ну так, мы сустракаліся ў 1970-х. На семінарах маладых літаратараў. Памятаю злёт творчай моладзі ў Гародні. Там сабраліся паэты, мастакі, кампазітары. Была там і Ала... Дарэчы, яе дзядзька — мастак — Алесь Ліпень (відаць, псеўданім) падарыў мне сваю карціну, што і дагэтуль вісіць у мяне дома... З Алай я не была знаёмая прыватна. Але часта сустракала яе ў цэнтры горада: каля ГУМа, універсама “Цэнтральны”, на праспекце Машэрава... Памятаю, бачыла я яе ў кампаніі бамжоў і, здаецца, яны яе крыўдзілі... Я падазравала, што Ала хварэе... З творцамі такое здараецца... Хацела адшукаць яе, званіла ў шпіталь у Навінках, але мне паведамілі, што там яе няма... Ведаеце, так дзіўна і знамянальна, што вы патэлефанавалі мне менавіта цяпер. Я літаральна пазаўчора згадвала пра яе... Што з ёю? Ці жывая яна?... Патэлефануйце Вярцінскаму. Можа, ён вам што распавядзе пра яе... Дарэчы, я маю здымак, дзе мы сфатаграфаваныя з Алай. А мо спатрэбіцца...»

***А. Вярцінскі:***

«Я яе памятаю. Але няшмат магу расказаць. Яна наведвала сталічныя літаб’яднанні. Усе мы тады былі маладыя, поўныя сіл... Згадваецца вечарына ў “Мутным воку” (Доме мастацтва), яна чытала пераклады маіх вершаў на рускую мову... Імпрэза была прысвечаная чытачам “ЛіМа”, а вёў яе Андрэй Ганчароў... Яна наогул тады часта брала ўдзел ў мінскіх літаратурных суполках, прынамсі, пры газеце “Трактарабудаўнік”. Але блізка я яе не ведаў, таму цяжка згадаць нешта адмысловае... Была яна, канешне, адметная, вельмі яскравая, незвычайная, дзіўная і прыгожая...»

***Н. Галіноўская:***

«Яе сабачку зваць Бусінка? Ой, Божа ж! Як майго коціка!.. Памятаю, яна прынесла мне вершы ў “Кинонеделю”, прасіла, каб надрукавалі... А я тады акурат на абед спяшалася... Карацей, забылася я на яе вершы. А зараз во шкадую. Трэба было даць у друк. Адрэдагаваць і даць. Але ж... Усе мы па натуры эгаісты, не спяшаемся дапамагчы іншым... Сустракала я яе ў цэнтры, казала: Алачка, не губляйся, пішы, заходзь у Дом літаратара... Ці заходзіла?.. Відаць, не склалася ў яе... А ці яна жывая?..»

***М. Вяршынін:***

«...Маладая, бадзёрая, светлая. Пісала вершы на рускай мове. Адзнака — самая станоўчая. Памятаю яе па літаб’яднаннях пры газетах “Трактарабудаўнік”, “Мінская праўда”, “Вячэрні Мінск”. Пісала інтымную, пейзажную лірыку... Добра пісала... Ну, бадай, і ўсё. Нічога не магу больш згадаць... Яна жыла ў нейкім сваім дзівосным свеце. Паэзіяй жыла, словам...»

***Р. Баравікова:***

«...Я часта сустракала яе ў цэнтры, каля ГУМа, “Цэнтральнага”... Падыходзіла да яе, прапаноўвала грошы, але Ала ніколі не брала, казала: “Рая, што ты, я не магу ўзяць, я ж пішу, вось апублікуюць нешта, ганарар атрымаю. І тады ўжо...” Я купляла ёй пачак цыгарэт. Ад цыгарэт яна не адмаўлялася, прымала “пачастунак”... Патэлефануйце, можа, Някляеву, ён таксама, як і яна, скончыў Літінстытут... Здаецца, ён ведае Алу лепш за мяне...»

***У. Някляеў:***

«Узгадаць нешта адметнае пра яе мне цяжка... Яна наведвала літаб’яднанне “Радуга” пры “Знамёнцы”... Чытала паэзію, добрыя былі вершы... Зрэдчас друкавалася... Мае адзіны зборнік. Пасля заканчэння літінстытута выдала. Добра, што вы напішаце пра яе... ага...»

Вось так. Вось і ўсё, што давялося мне пачуць пра паэтку Джэму-Алу Церахаву ад маіх старэйшых калег-літаратараў. Відаць, сапраўды, жыццё яе — нешта надта прыватнае, схаванае ад пабочных позіркаў каго-кольвек...

## IX

## CODA

У 2007 годзе, вяртаючыся познім лютаўскім вечарам з закупак у гіпермаркеце «Карона», я збочыў у завулак Слаўны, у самы яго пачатак, туды, дзе жыве Джэма. Адно з вокнаў яе дома свяцілася слабым

цьмяным святлом. Значыцца, яна ёсць — падумалася мне тады, — значыцца, не апусцеў яе сіратлівы, загадкавы скіт. Напэўна, і Бусінка з ёю... А, можа, яна зноў піша вершы, самотна апяваючы свой сад, свой лёс, свае мінскія маршруты і маршруты свайго сэрца. А мо яна шчаслівая? — раптам прыйшло да галавы. Шчасце, дарэчы, мае шмат агульнага са станам вар'яцтва. Шчаслівых людзей часта лічаць вар'ятамі, дзівакамі, бо яны так папросту могуць сказаць, што нарадзіліся на Месяцы альбо Марсе. І ты няма ведама чаму верыш ім. Пры чым тут хвароба?

Адна мая студэнцкая прыяцелька, якая жыве цяпер у Маскве і маці якой памятае маладую яшчэ мінскую дзівачку Джэму, прыязджаючы штовясну ў Мінск, заўсёды пытаецца ў мяне: «Цікава, ці Джэма перазімавала? Нешта даўно не бачна ейнай шапуні...» «Не ведаю, пэўна, так, перазімавала... Але не ведаю...»

Джэма-Ала Церахава — беларуская рускамоўная паэтка. Знаёмыя памятаюць яе вершы і пераклады, напісаныя менавіта па-руску. Але гадоў больш за дзесяць таму паэтка пачала пісаць па-беларуску. Апошнія з дасланых ёю сшыткаў у рэдакцыі літаратурных часопісаў і газет змяшчаюць выключна беларускамоўныя творы. Некаторыя свае старыя вершы, якія друкаваліся ў перыёдыцы і зборніках, паэтка сама пераклала на беларускую мову. Не будзем казаць пра прычыны і магчымыя матывы звароту да роднай мовы. Не станем таксама абмяркоўваць вартасці і недахопы беларускамоўных вершаў Джэмы-Алы. Лепш проста пачытаем. Прыведзеныя ніжэй вершы друкуюцца ўпершыню.

Сёння прыгадваецца той дзень, калі чарнавікі паэткі трапіліся мне ў рукі, выпадкова ці не — няважна. Галоўнае, што яны ўніклі сметніцы. Клінічнай смерці (ці дзесяцігадоваму летаргічнаму сну?) прыйшоў канец: творы Джэмы-Алы Церахавай зноў выходзяць у свет. І як добра, што так сталася.

P.S. У пазамінулым годзе частку забудовы прыватнага сектара ў Слаўным завулку знеслі, у тым ліку і дамок Джэмы-Алы Церахавай. Дзе яна жыве і ці жыве наогул — невядома.

*Джэма-Ала ЦЕРАХАВА*

# НЕЛАДЫ

* * *

Галубка пасярод дарогі,
Быццам бутэлька, — горла ўверх.
Гляджу, і дух упаў пад ногі:
Машына... Трэск... І кроў — на снег...

* * *

Бясконцасць ведаць і не абяцаць
Самой сабе спатканне і вяртанне.
Імгненне для таго, каб Вечнасць знаць,
Бясконцасць для таго, каб знаць расстанне.

* * *

Яблык лепш за ананасы —
Не турбуйся за Парнасы.
Ёсць усё на свеце гэтым —
Кожны можа быць паэтам.

* * *

Не імгненна справы робяцца —
Асцярожнае жыццё.
Не бяруць літсупрацоўніцай,
Бо гуляю, як дзіцё.

* * *

Драпежніцкі прымаю лёс:
Куды б ні сунуўся мой нос —
Схаваецца, як вожык, ён
У гумар свой і свой палон.

* * *

Празрыстасць адкрыцця
асенняга прастору,
Туманнае святло —
на ясны подых дум.
Як месячык у ноч,
так лісце шле ўгору
На мове хараства
свой развітальны сум.

У поглядзе тваім
бясконцасць і імгненне...
Што з'ява на Зямлі?
Чым ёсць лістоты лёс?

І як галіны дрэў
чакаюць аднаўлення,
Так нечага і ты
чакаеш ад нябёс.

* * *

Ужо не млосна мне ад сонца,
Дзень залаты крыху састыў.
І хвілю кожную бясконца
Рука натуе на лісты.

Ужо прыцішана маркота
Пялегуе ласкавы сон.
І спіць вандроўная істота
Сярод чарнавікоў-пісьмён...

* * *

Таямнічая, цёмная ноч.
Гаснуць крокі твае ў завулках,
Быццам толькі што зорны дождж
Сыпаў з неба на плошчу гулка.

Не спытаю, што сёлета ёсць.
Ёсць усё ў свеце гэтым, браце…
Ты і сам у сталіцы госць,
Як і я, — пераезная сваццbackground.

* * *

Любоў маланкаю бліснула
І знікла ўначы.
У сэрцы — гул. Куды ад гулу
Такога ўцячы?

Хаджу. Не бачу святлафораў.
Хаджу туды-сюды.
Вялікі свет. Прастору — мора,
А йсці няма куды.

* * *

Крочу да тэлефона,
Калі адзінока.
Чую голас бяссонны
Далёка-далёка.

Калі голас смяецца,
Пакрыўдзіць не смее, —
Нібы сонейка, сэрца
У грудзях палымнее.

Калі голас здалёку
Сухі, непрыветны,



Мне ўдвая адзінока,
Удвая беспрасветна.

* * *

Наперадзе жыццё, а побач
І адзінота, і адчай.
Гукаю я цябе на помач,
А ты мне кажаш: пачакай.

Наперадзе жыццё, чаканне...
А сэрца просіцца любіць.
Яно, нібыта тая каня,
Што толькі знае піць ды піць.

Чаканне, любы мой, не глупства...
Маўляў, забудуся, змаўчу.
Чаканне — гэта самагубства,
А паміраць я не хачу.

* * *

Не навучыла жыць жыццё
Цябе, не навучыла:
То, як маленькае дзіцё,
Смяешся беспрычынна,
То плачаш, крыўду ў кулачках
Сціскаючы да болю...

Ды і кахаеш так, што ў снах
Лунаеш мімаволі.

* * *

Крозы… Радзіма… І — ў слёзы…
Ведаю Мінск я, як востраў.
Веру, ніколі не позна
Жыць і складана і проста.

Край мой, ахутаны дымам
І туманамі сузор'яў.
Мілая сэрцу Радзіма.
Крозы... Радзіма... І — зоры...

Скрозь глухамань і бяздонне,
Цераз свабоду і космас
Спыніцца раптам бяссонне.
Крозы... Радзіма... І — сноў стос...

* * *

Да вечара яшчэ далёка.
Гуляе лісце пад нагамі.
Смяецца сонейка высока
Над парыжэлымі дамамі.

Сталічная скупая восень.
Зямля заціхла перад сцюжай.
А дзесьці музыка галосіць,
І вецер гойдаецца ў лужах.

І скрозь букецікі гандлёвак,
Латкі, кіёскі — злева, справа —
Разносіцца па свеце МОВА,
Не спіць Вялікая дзяржава!

* * *

Ні кала, ні двара, ні друга,
Ні жадання што-небудзь мець.
Ты жывеш сабе — валацуга,
Забываючыся на смерць.

І ў пошуках нейкіх ісцін
(Для каго? Для чаго? Няўцям...)
Ты паціху зрываеш лісце
З бессмяротнага дрэва жыцця.

* * *

Паліць пісьмёны грубка —
Літары ў неба лятуць.
Затрапятала галубка
Там, дзе палены гудуць.

Так і ў сэрцы агеньчык.
Хто запаліў яго тут?
Віхар за вокнамі енчыць,
Просіцца ў цёплы кут.

Што яму трэба ў клетцы,
Там, дзе жыццё ў журбе?
Грукае нехта ў сенцы,
На дапамогу заве.

* * *

Пералічу свае я жахі:
Павук, які збягае з даху
І лапкамі на мне гуляе,
І муха, што свой розум мае.

Сваю ідэю знаю я:
Ёсць у жыцці не толькі неба,
Але і дым вакол агня,
Калі жывецца так, як трэба…

* * *

Дрэвы насустрач выйшлі.
Ці я далёка забегла?
Дайце білецік лішні...
Справа і злева — бела...

Мабыць, ветрам надзьмула
Снегу да самага верху?
З Плошчы Свабоды я чула
Доўгае гулкае рэха.

Вецер ляпіў калоны
З дрэў пачарнела-шэрых.
Светла мне і бяссонна...
Справа і злева — бела...

* * *

Вырас дом, і ў доме гэтым
Фарбаў мора, гукаў мора.
Сонечным святлом сагрэты
Гоніць ён ад сэрца морак.

Папрыпісвала б сюды я
Сваё сэрца, сваю памяць,
Толькі для жывога ўздыху
Тут чагосьці не хапае.

*Укладанне і рэдакцыя*
*Арцёма КАВАЛЕЎСКАГА*

Аксана РУДЗІКОЎСКАЯ

# КІНО

Сонечны промень весела гуляе па Аленчыным тварыку. А тая нават і не варухнецца. Даглядае свой надта прыгожы сон. Нібыта ідзе яна з вялікім рознакаляровым букетам вяргіняў, у струменістай ядвабнай сукенцы, а насустрач — аднакласніца Соня, ад зайздрасці нават не можа нічога сказаць, толькі лыпае вачыма… І тады Аленка сама падыходзіць да яе:

— А мяне ў кіно здымаюць. Калі хочаш, можаш паглядзець!

Соня толькі ахнула, а потым апамяталася і запытала:

— А з Жэнькам хто застане-е-цца? Кінеш яго? Маці заб'е тады. Артыстка вышукалася!

Аленка не знайшла што адказаць і, напэўна, праз гэта прачнулася.

Маці запальвае печ. Як заўсёды, на сняданак будзе пячы тоўстыя шэрыя бліны, смажыць яешню на сале.

— Алена, прачынайся, на стол трэба збіраць, братоў будзі. Спалі б да поўдня!

Колькі Аленка сябе памятае, ніколі ў жыцці яны не спалі да поўдня, нават на самыя вялікія святы, калі нічога нельга рабіць па гаспадарцы, не тое што ў звычайны дзень, калі маці вызначала, каму што трэба выканаць. Аленцы здаецца, што ў яе абавязкаў значна больш, чым у старэйшага брата. Насамрэч, так яно і ёсць. Якое спагнанне з братоў? Напрыклад, старэйшы, Грышка, калі што не па-ягонаму — дык у цягнік, толькі яго і бачылі! Колькі разоў ужо так было. Накатаецца, покуль не здымуць з якой-небудзь цяплушкі, галоднага і бруднага. Маці рада, цалуе яго, мілуе, нібыта героя якога сустракае. А ён менавіта так сябе і адчувае.

Да таго часу, пакуль Грышка не знойдзецца, пройдуць месяцы два, і за гэты час маці ледзь не звар'яцее, усе вочы павыплаквае.

Аленка шкадуе яе і вельмі злуецца на брата, бо менавіта на яе, Аленчыны плечы, ускладаюцца ўсе братавыя абавязкі. Апрача таго, трэба даглядаць малодшых, асабліва гадавалага Жэньку. А ён, як на зло, цяжкі і капрызны, увесь час нема раве, таму прыходзіцца гадзінамі гушкаць яго на руках. Добра яшчэ, што сярэдні Валерка спакойны, нікуды не лезе, нічога не патрабуе, нібы разумее і шкадуе сваю не нашмат старэйшую сястру.

— Алена, чула, што я табе казала?

— Я прачнулася ўжо, зараз накрыю на стол. Умыюся толькі.

Аленка прыгадвае свой сон, летуценна пацягваецца і саскоквае з цёплай ўтульнай печы.

На дварэ сонечна і па-ранішняму зябка. Дзяўчо хутка бяжыць за хлеў, потым зачэрпвае ў далоні халоднай вады з вядра і, не прыжмурваючы вочы, мужна выплюхвае яе на твар. Вось цяпер канчаткова прачнулася! Хуценька ўскоквае ў хату і пачынае збіраць на стол. З калгаснай нарады вяртаецца тата.

— А вось і мая Аленка, памочніца, — тата ласкава гладзіць дачку па галаве.

— Добрай раніцы, татачка! Сядай есці.

— Ты братоў пабудзіла, колькі разоў табе казаць? — маці сярдзіта паглядзела на Аленку.

— Грыша, Валерачка, прачынайцеся, маці есці заве, блінцы гарачыя.

— Зараз, Аленка, яшчэ хвілінку.

Пасля сняданку маці збіраецца ў калгас даглядаць цялят.

— Алена, посуд памыеш і таксама прыходзь, мне патрэбна дапамога. Жэньку з сабой возьмеш, толькі пакармі яго, не забудзь.

— Грышка, а ты бульбы свінням напар. І Валерка хай табе дапамагае, вялікі ўжо хлопец.

Шлях нядоўгі, але цяжкаваты. Ісці пад гару, і добра, каб толькі адной, але, малога таксама трэба цягнуць на сабе, на братоў не пакінеш, бо ў іх свае справы. Тата амаль цэлымі днямі прападае ў калгасе: чым ён толькі не займаецца там: і замест ветэрэнара, і эканома, і агранома. Тату ў вёсцы паважаюць…

Аднойчы Аленка пачула размову паміж бацькамі. Тату прапанавалі працу ў горадзе на кандытарскай фабрыцы (так ёй пачулася), ды не кім-небудзь, а начальнікам цэха. Тата сумняваўся:

— А што, можа, і згадзіцца? Кватэру асобную паабяцалі, зноў жа грошы мусяць плаціць, а не палачкі ставіць, зусім іншае жыццё, а Хадося?

— Во дурное гавора, ад зямлі ён з’едзе, пабачце! Цукеркамі тымі дзяцей накорміш? Не надумайся нікому казаць, сораму не абярэшся!

Карацей, адмовілася маці. Аленка ледзь стрымалася тады, каб не заплакаць з прыкрасці. У свае няпоўныя дзесяць гадоў ёй цяжка было зразумець, што маці магла існаваць толькі на зямлі.

Цётка Наста, суседка, распавяла аднойчы, як падчас вайны маці не спыняла сваёй працы нават пад кулямі:

— Фрыцы з самалёта паляць, мы ўсе даўно пахаваліся ў зямлянцы, а яна буракі поле, нібы не чуе стрэлаў. Малая Маня за спадніцу яе ўчапілася, перапалоханая ўся, закрычала. Тады толькі Хадося схапіла яе і пабегла. Кулі каля іх пыл падымаюць, адна нават у спадніцу трапіла. Цудам жывыя засталіся. Дзякуй Богу! Зусім дурная Хадося да працы…

Дарэчы, пра кіно. Аленка вельмі любіць кіно. Яго прывозяць у вёску два разы на месяц. Кіношнікі з горада ў той дзень робяцца для малых самымі галоўнымі людзьмі ў вёсцы. Дзеці падлашчваюцца да іх з надзеяй, што ўвечары ім дазволяць прайсці задарма. І лаўкі дапамагаюць ладзіць, і скрыні іх цяжкія з прыладамі рознымі цягаюць, і сала з дому прыносяць, і нават штосьці да сала (крый Божа, калі маці ўбачыць). Але дзе там! Зрэшты, за самагонку, можа, і прапускалі, але Аленка ніколі не асмелілася б на гэткае, а Грышку прасіць — яшчэ горш. Яму і так дастаецца ад маці, як той сідаравай казе. Праўда, Аленка ніколі не бачыла той казы, але загадзя яе шкадуе.

Таму вырашыла яна ва ўсім сёння слухацца маці, а то і самой што-небудзь зрабіць, падлашчыцца да яе, каб потым папрасіць пяць капеек на кіно. Сказаць лягчэй, чым зрабіць!

Маці не лічыла кіно чымсьці неабходным — глупства, дый толькі, — таму грошай на яго шкадавала. Іх заўсёды не хапае, Аленка гэта добра разумее. І адкуль ім узяцца, калі замест грошай бацькам малююць нейкія палачкі? Затое тата ўпотай ад маці даваў калі-небудзь запаветны грошык, разумеючы дзіцячыя мары. Калі маці дазнавалася — ох, цяжка прыходзілася тату! Матулін лямант было чуваць амаль што за Дняпром!

Варта сказаць, што тата заўсёды спакойны, запальвае цыгарку і «крычы сабе, матка, колькі заўгодна, дзеці ёсць дзеці».

Але сёння пасля сняданку тата паехаў у суседні калгас удзельнічаць у нейкай камісіі і вернецца позна…

У калгас Аленка ледзь не бяжыць, нават Жэнька сцішыўся, яму дужа падабаецца такая шпаркая хада. Ён моцна абхапіў Аленчыну шыю і нешта кардыячыць на сваёй уласнай мове.

— Ох, і цяжкі ты, Жэнька, калі ўжо сам пойдзеш?

Замест адказу — тое ж кардыячанне.

У калгасе Аленку ведаюць усе, нават цяляты пазнаюць: маленькія, вясёлыя, featureрознакаляровыя, яны цягнуць да яе свае слізкія мокрыя пысачкі, моргаючы вялізнымі вачыма з-пад

доўгіх веек. Зусім маленькім Аленка не палохаецца даць пасмактаць сваю далоньку, смяецца потым, бо робіцца козытна.

— Мама, чым табе яшчэ дапамагчы? — пытаецца Аленка па дарозе дадому.

— Шмат яшчэ трэба зрабіць, Алена. Сена згрэсці, бо высахла ўжо, потым на луг ісці карову даіць, потым моркву і буракі палоць.

— Дык ты ідзі даіць. Сена мы з Грышкам зграбем, потым я Жэньку спаць пакладу і сама прапалю ўсё, ты не хвалюйся.

— Добра, дачушка, — кажа маці. Голас яе мякчэе, і яна з удзячнасцю глядзіць на дачку.

А вось і Соня насустрач. Даўгая, як шпала, на галаву вышэйшая за Аленку. Хада ў Соні цяжкая — ідзе нібы цыркулем, а не нагамі. Хіба так акцёркі ў кіно ходзяць? У іх крокі плаўныя, лёгкія… Але што гэта Соня трымае ў руках?

— Добры дзень, цётка Хадося.

— Здаровенька будзь, Сонечка. Куды ідзеш?

Замест адказу Соня разгарнула вялікі бялюткі ліст паперы:

*КІНО*
*Сёння, 4 жніўня 1953 года*
*ў калгасным клубе в. Навасёлкі*
*мастацкі фільм БАДЗЯГА (Індыя)*
*Пачатак а 19.00*
*Кошт білета 5 кап.*
*ЗАПРАШАЕМ УСІХ!*

Ад хвалявання твар у Аленкі зрабіўся чырвоным. Шанцуе ж Соні! Гэтая ўсюды паспее. Чаму менавіта яе кіношнікі папрасілі аднесці ў клуб аб’яву?

— Пойдзеш? — кпліва пытае Соня Аленку. І адразу ж, не чакаючы адказу, Аленчынай маці: — Пусціце, цётка, Алену ў кіно?

— Якое кіно, Сонечка, — працы непачаты край!

— А я вось пайду, — Соня выразна паглядзела на Аленку. — Там жа гэты Карпур галоўную ролю грае, — «удакладняе» Соня.

— Не Карпур, а Капур,— толькі і знайшлася Аленка.

Пра гэтага акцёра ёй распавядала старэйшая сястра Маня, якая вучыцца ў горадзе і шмат чаго ведае пра кіно.

А цяпер, каб не заплакаць, Аленка непрыкметна шчыкае сябе за руку. Як жа крыўдна! Увесь план — кату пад хвост! І трэба ж было сустрэць яе, як на злосць, у гэтую хвіліну. «Нічога, Соня, будзе і на маёй вуліцы свята!»

На руках у маці заёрзаў Жэнька.

— Пойдзем мы, Сонечка, няма калі нам.

— Бывайце, цётка Хадося.

— Мама, а ты ў кіно была калі-небудзь? — пытае Аленка ў маці.

— Была яшчэ да вайны. З бацькам тваім у горад паехалі, там кінатэатр пабудавалі, «Чырвоная Зорка» называецца. Вось і пайшлі паглядзець.

— А які фільм?

— Ці я памятаю? Колькі гадоў прайшло, хаця пачакай, здаецца, «Пераварот», неяк так…

— Спадабалася табе? — цікавіцца Аленка.

— Не памятаю, напэўна спадабалася, чаму не?

Аленка не здаецца:

— У красавіку кіношнікі паказвалі «Фанфан-Цюльпан». Пра дужа вясёлага хлопца прыгодніцкі фільм. Ведаеш, чымсьці ён да Грышкі нашага падобны: ці то характарам, ці то тварам. Напэўна, і тым, і другім патрошку. А акцёрка якая прыгожая! А завуць яе смешна — Джына Лолабрыджыда, я адразу ж запомніла.

— Пустое гэта, Алена, кіно тваё. Хіба сыты з яго будзеш?

Аленка не ведае, што адказаць, таму далей ідуць моўчкі. Але яна вырашае, што нават калі маці і не згадзіцца даць ёй тыя грошы, усё роўна пойдзе. Пад вокнамі будзе глядзець, трэба толькі раней прыйсці, таму што гэтыя «месцы» таксама «разбіраюць» хутка. «Грышку папрашу, каб заняў месца».

Хлопцы Грышку паважалі: па-першае, за яго вандраванні, бо не кожны адважыцца з хаты збегчы без грошай, без усяго. Па-другое, ён дужы, рослы і за сябе можа пастаяць, і за Аленку таксама.

«Пад вокнамі кіно глядзець, вядома, нязручна. Твары ў герояў робяцца выцягнутымі, палову слоў не разабраць, але ўсё ж лепей, чым нічога», — Аленка трохі супакоілася. Галоўнае, каб дождж не пайшоў. Цяпер жа надвор’е было цудоўным: сонейка свеціць, неба чыстае-чыстае!

Маці пайшла на луг даіць карову. Аленка з Грышкам граблі сена, Валерка таксама дапамагаў. За працай яна распавядала і пра кіно, і пра Соню.

— Грышачка, можаш для мяне месца каля акна заняць?

— Канешне, магу, якое пытанне?

— А ты са мной пойдзеш?

— Сёння не. У нас свае справы з хлопцамі.

— Якія гэта?

— Дужа многа хочаш ведаць.

— Глядзі, Грышка, каб потым тату за цябе сорамна не было, а то твае справы вядомыя.

— Не бойся, Аленка, глядзі сваё кіно.

Потым Аленка аблупіла бульбы для вячэры, прыбрала ў хаце, нават падлогу памыла. Калі маці вярнулася з поля, яна палола грады.

— Стамілася, дачушка? — спытала маці.

— Трошкі стамілася…

— Я на лузе сустрэла Насту. Дык і яна ў гэтае кіно збіраецца, і Маланіны таксама…

Спачатку Аленка вырашае, што ўсе гэта ёй здаецца. Але маці працягвае:

— Схадзі, Аленка, у кіно тое, калі табе трэба, я грошы дам.

Ад нечаканасці Аленка зусім разгубілася:

— Мамачка, я, я, вось убачыш, я… — слёзы буйнымі гарошынамі беглі па яе стомленым твары.

У зале шмат людзей. Усе прыгожа апранутыя. Сярод іх Аленка ў сваёй самай лепшай вышыванай сукенцы — той, што маці пашыла да Вялікдня, — прытуліўшыся да сцяны, даглядае свой надта прыгожы сон, нібыта ідзе яна з вялікім рознакаляровым букетам вяргіняў, у струменістай ядвабнай сукенцы…

*Дар'я ЕРМАШКЕВІЧ*

# СОЛА

* * *

— Сюзан, вы мяне чуеце? Вы разумееце, дзе вы?

Жанчына расплюшчыла вочы і прыжмурылася ад яркага святла. Штосьці пайшло не так? У іх не атрымалася. Прайшло яшчэ занадта мала часу.

— Дзе Роберт, доктар Шэрмер? Божа, галава такая цяжкая.

— Сюзан, паглядзіце на мяне, калі ласка.

— Добра-добра, толькі не крычыце так. Праз вас яшчэ больш звініць у вушах.

Незнаёмая брунетка з акруглым тварам і пухлымі шчокамі сядзела на краі ложка. Кароткія непаслухмяныя кудзеркі ўпрыгожвалі смешны белы каптур, які знешне нагадваў разварaны пельмень.

— Дзе мой муж? Чаму вы тут? Гэта ён павінен быць побач, калі я прачнуся.

— Ой, не-не, Сюзан, калі ласка, не ўставайце. Вы яшчэ недастаткова моцная для гэтага. Вось так. Зараз. Я пастаўлю іншы рэжым, — яна пацягнулася да ўзгалоўя ложка, раздаўся нягучны сігнал, і палова матраца злёгку прыўзнялася. — Вось так, цяпер вы можаце сядзець.

Твар незнаёмкі перастаў расплывацца перад вачыма, яна аказалася крыху старэйшай, чым першапачаткова падумала Сюзан.

— Мяне завуць Патрыцыя, я малодшая наглядчыца. Прыглядаю за вамі, пакуль вы знаходзіцеся на рэабілітацыі ў цэнтры Хойцінка.

Патрыцыя гаварыла, а Сюзан уважліва аглядала пакой. Гэта было невялікае, незнаёмае ёй памяшканне. Няўжо сапраўды атрымалася? Гэта будучыня? Унутры пацяплела ад гэтай думкі, і яна ўсміхнулася.

— Дзе Роберт Тэмінг? Гэта мой муж, ён павінен быць тут.

— Мне вельмі шкада, але я нічога не ведаю пра гэта. Вы толькі не хвалюйцеся. Я зараз схаджу і абавязкова пра ўсё даведаюся ў старшай наглядчыцы. А пакуль сядзьце, калі ласка, роўна. Вось так.

Сюзан раззлавалася: якая бесталковая медсястра. Гады ідуць, а людзі не змяняюцца. Дзе ж сам Роберт? Ён не мог быць такім занятым, каб прапусціць яе абуджэнне. Не, ён дакладна чакае яе ў калідоры альбо адышоў у прыбіральню і зараз вернецца. Канешне, ён тут, ён не кінуў яе. Так, самыя важныя моманты здараюцца нечакана.

— Патрыцыя?

— Так, Сюзан?

— Я толькі хацела запытацца… Які цяпер год?

— 2180. 18 ліпеня. Не сумуйце, я зараз.

Сюзан сціснула ў руках край коўдры, пакуль костачкі пальцаў не збялелі. Яна адвярнулася і ўтаропілася ў акно, назіраючы за тым, як злёгку варушацца на ветры вытанчаныя гардзіны. Добра, што ў пакоі нікога не было. Яна адчула ў горле непрыемны камяк.

Зразумела, медсястра нічога не ведала пра Роберта. Ён не існаваў ужо не адзін дзясятак год. Сюзан раптам адчула сябе жахліва самотнай. Быццам яна засталася адна не толькі ў гэтым пустым малюсенькім пакоі, але і ва ўсім свеце.

— Чаму так доўга? — прамовіла яна скрозь слёзы.

* * *

4 жніўня. Ішоў моцны дождж. Сюзан апранулася і паснедала. З рэчаў збіраць ёй не было чаго, таму, чакаючы з'яўлення наглядчыцы, яна прыадчыніла акно, якое выходзіла ў прыўкрасны зялёны сад, што атачаў увесь цэнтр. Разныя лаўкі, акуратныя ўтульныя альтанкі, звілістыя дарожкі панамакалі ад залевы, але ўсё адно не згубілі сваёй прыгажосці і вытанчанасці. Цудоўны парк. Менавіта такі яны з Робертам марылі калі-небудзь закласці вакол невялікага ўтульнага доміка, дзе яны маглі б жыць, стварыць сям'ю… і быць шчаслівымі. Пахла свежасцю і вільготнай зямлёй.

— Сюзан, вы прастудзіцеся.

— Мне зусім не холадна.

— І ўсё ж такі я зачыню: не хачу, каб вы захварэлі акурат перад выпіскай, — Патрыцыя ўсміхнулася. Сёння яна выглядала вельмі акуратна, нават каптур не так моцна нагадваў пельмень, як звычайна. — У мяне цудоўныя навіны. Да вас госці. Усе дакументы на выпіску ўжо гатовыя, таму, — яна змахнула са шчакі слязу, — я прыйшла развітацца, пакуль вы яшчэ тут.

Наглядчыца моцна абняла яе. Ад Патрыцыі пахла парфумай. «Леманграс», — здагадалася жанчына і з ветлівасці папляскала расчуленую жанчыну па спіне.

— Добры дзень, Сюзан. Рада бачыць, што вы ў добрым здароўі.

Голас належаў жанчыне, якая ўвайшла ў пакой. Сюзан прынялася ўважліва вывучаць яе. Дама была ва ўзросце, хаця на яе вузкім твары практычна не было зморшчын. Кароткія светлыя валасы былі акуратна ўкладзены, касметыка толькі хавала недахопы скуры і злёгку падкрэслівала незвычайны разрэз вачэй. Па-над элегантным строгім касцюмам быў накінуты белы халат. Яе знешнасць і тое, як яна трымалася, выдавала ўладную асобу, звыклую да таго, каб глядзець на іншых пагардліва.

— Дзякую за цудоўную працу, Патрыцыя.

Наглядчыца кіўнула.

— Сюзан, дазвольце прадставіць: Катрын Гроэн — міністр аховы здароўя.

Уладная жанчына шырока ўсміхнулася, працягнула тонкую руку і моцна сціснула далонь Сюзан.

— Рада нарэшце пазнаёміцца з вамі.

* * *

Насуперак чаканням, яны накіраваліся не да выхада, а на дах будынка, дзе іх чакаў невялікі самалёт.

У салоне было даволі ўтульна. Сюзан уладкавалася на адной з дзвюх чырвоных канапак, пакуль Катрын Гроэн гутарыла з кімсьці са сваіх людзей. Шторы на вокнах аўтаматычна апусціліся ўніз: мабыць, цяпер яны пачнуць набіраць разгон.

— Хочаце выпіць? — прапанавала міністр, паставіўшы на столік паміж імі бутэльку і два келіхі.

Сюзан задумліва кіўнула, і жанчына лёгкімі рухамі тонкіх пальцаў адкруціла серабрыстую накрыўку з надпісам «574» і разліла па келіхах празрыстую вадкасць. Жанчына прынюхалася і злёгку прыгубіла напой.

— Што гэта?

Катрын шырока ўсміхнулася.

— Структураваная «Вада-574». Рада, што вам спадабалася.

— Вада? — здзівілася тая. — Вельмі прыемны смак. Ніколі не каштавала нічога падобнага.

Сюзан выпіла ўсё да дна, потым зноў напоўніла келіх і ўсё выпіла.

— Мяркую, у вас назбіралася шмат пытанняў. Стваральнік хоча сустрэцца з вамі асабіста, каб усё высветліць.

— Стваральнік? — перапытала Сюзан.

* * *

Дзверы зачыніліся, і яна апынулася ў велізарнай круглай зале. Па ўсім перыметры замест вокнаў у сцены былі ўбудаваны экраны, якія свяціліся. Пасярод залы стаяў высокі малады чалавек, ён азірнуўся, і экраны замігцелі, утвараючы адзіны вобраз футурыстычнага горада. У мужчыны былі кароткія белыя валасы, светлая скура і зялёныя вочы. Ён усміхнуўся і прыветна ўзмахнуў рукой. Побач з ім з падлогі вырас невялікі стол і два крэслы.

— Прывітанне, матуля. Я даўно чакаў цябе.

— Х-хто ты? — Сюзан прыняла запрашэнне і села ў крэсла.

— Сола. Але цяпер мяне часцей называюць Стваральнікам.

— Не можа быць, — прамовіла яна і дакранулася да яго шчакі. — Як такое магчыма? Дык ты біяробат? У той дзень у нас атрымалася стварыць цябе? О, Божа! — Сюзан рассмяялася і прынялася разглядаць Стваральніка. — Але ты выглядаеш як сапраўдны! Цябе не адрозніць ад чалавека! І эмоцыі! Неверагодна!

— Я і ёсць сапраўдны.

— Рухі такія плаўныя. І хто цяпер падтрымлівае цябе? Колькі табе падобных ужо стварылі?

— Нікольki. Я адзін такі.

— Чаму? І што здарылася з Робертам?

— Я сам падтрымліваю сябе, увесь час удасканальваю форму і напаўненне… Думаю, табе трэба сёе-тое ведаць. Пасля таго дня, калі Роберт сказаў, што твой час прыпыніўся, мне было дадзена заданне распрацаваць лекі, якія маглі б дапамагчы не толькі табе, але і іншым людзям. Тады ж Роберт і члены праектнай каманды «Сола» наладжвалі праграмы і ўвесь час дапрацоўвалі мяне. Роберт верыў да апошняга, што мы ўжо блізка.

Разам мы стварылі сістэму, якая дазваляла мне канструяваць штучныя целы любых форм і памераў. Спачатку я скапіраваў дадзеныя пра ўсіх выбітных людзей — іх медыцынскія карты, біяграфіі, працы. Я мадэляваў, намагаўся зразумець іх і ўзнавіць не толькі вобраз, але і іх душу, як вы гэта называеце. Так я навучыўся капіраваць людзей, ствараць для іх новыя формы. Гэта магло стаць альтэрнатывай лекаў, якія Роберт так доўга шукаў для цябе. Бо ці не гэта ёсць бессмяротнасць? Я мог стварыць новае цела, дакладна такое ж, як тваё, скапіраваць твой вобраз да самых дробных дэталей, і ты была б жывая.

Але Роберт не пагадзіўся, бо не падзяляў захаплення іншых членаў каманды. Ён лічыў, што нават калі я ствару ідэнтычную копію, яна ніколі не стане табой. Гэта будзе толькі копія. У яе не будзе душы.

Таму мне даводзілася працягваць працу над лекамі, але я ўсё яшчэ сканіраваў жывых людзей, навукоўцаў, даследчыкаў, палітыкаў, эканамістаў, лінгвістаў, гісторыкаў, людзей мастацтва, геніяў і звычайных гараджан. Раён за раёнам, горад за горадам. Краіны, кантыненты. Пакуль я не ўзнавіў віртуальную мадэль усяго свету. Калі ў мяне было дастаткова дадзеных, я мог канструяваць асобы сам, не толькі выкарыстоўваючы ўжо існуючыя мадэлі, змешваючы іх часткі, але і фарміруючы новыя вобразы. Гэта быў прарыў.

— Але штосьці здарылася?

— Праз сем год пачалася вайна. Палітычны канфлікт паміж трыма звышдзяржавамі свету. Роберт вырашыў перавезці мяне ў бяспечнае месца, каб я мог у тайне працягваць працу над лекамі. Для яго гэта заўсёды заставалася прыярытэтам. Я думаю, ён прадугледжваў такі варыянт раней, таму мы адшукалі выспу ў Ціхім акіяне. Да таго часу маё развіццё дасягнула дастаткова высокага ўзроўню, я пабудаваў бар’ер вакол выспы, і ніхто не мог пабачыць нас альбо заўважыць праз радар. На жаль, я таксама не мог падтрымліваць сувязь з астатнім светам, каб не раскрыць нашага месцазнаходжання.

Яны прынялі рашэнне перавезці цябе туды ж, і ўвесь гэты час я працягваў падтрымліваць працаздольнасць тваёй камеры. Я павінен быў чакаць Роберта і дапусціць на выспу толькі яго.

Праз год я скончыў працу над лекамі. Верагоднасць поспеху лячэння склала 99,9 працэнтаў. Заставалася дачакацца бацьку, і тады мая шматгадовая праца была б завершана. Мне падавалася, што я быў шчаслівым, калі б пабачыў яго ў момант твайго абуджэння. Ці не гэта было галоўнай мэтай майго існавання?

Але ён не вярнуўся. Замест яго прыляцеў доктар Шэрмер. Ён назваў код, які быў вядомы толькі Роберту, і я ўпусціў яго.

Шэрмер распавёў мне пра тое, што здарылася за гэты час, а таксама пра тое, што ў бар'еры больш не было сэнсу, і я мог прыбраць яго, каб пераканацца ў дакладнасці яго слоў.

Пасля глабальнай экалагічнай катастрофы, якая ішла ўслед за прымяненнем зброі новага пакалення, па ўсім свеце адбыліся незваротныя змяненні прыродных комплексаў, што спрычынілася да масавай гібелі жывых істот і, у прыватнасці, людзей.

Доктар прапанаваў мне сваю дапамогу ў тым, каб узнавіць чалавецтва і захаваць хаця б частку лакальных экалагічных сістэм.

— І гэта ўсё, што засталося?

Экраны перасталі мільгаць і скламіся ў цэласную выяву горада.

— Гэта ўсё, што я ўзнавіў.

— А ўсе гэтыя людзі, жыхары горада… сапраўдныя?

— Канешне, сапраўдныя. Гэта біяробаты. Яны дакладна як сапраўдныя людзі, толькі нашмат лепшыя. Я не дапушчу, каб тое, што адбылося, паўтарылася. Чаму ты плачаш?

— Што здарылася з Робертам?

— Цэнтр, як і цэлы рэгіён, дзе ён размяшчаўся, быў знішчаны падчас вайны. Роберт быў у будынку, калі той выбухнуў. Я не думаю, што ён пакутаваў: хутчэй за ўсё, гэта адбылося імгненна.

Сюзан праглынула камяк у горле і адкінула галаву, каб спыніць слёзы.

— А доктар Шэрмер?

— Я не паспеў узнавіць сістэму да таго моманту, як… Нейкі час я быў адзінай жывой істотай на Зямлі. Але цяпер усё па-іншаму. Прашу цябе, не плач, матулечка.

— Не называй мяне так.

— Але гэта праўда. Азірніся вакол. Ты мела рацыю. У гэты дзень вы стварылі тое, што змяніла ўвесь свет. Разам мы стварылі ідэальную рэальнасць. Глядзі, — карцінкі на экранах пачалі змяняцца вобразамі з розных частак свету. — Больш няма войнаў, голаду, хвароб. Усе людзі ведаюць сваё месца. Яны шчаслівыя.

— Яны не людзі.

— Часткова, так. Аднак не трэба ім пра гэта казаць, — Сола злёгку ўсміхнуўся краёчкамі вуснаў.

— Яны бессмяротныя?

— Не. Я ствараю іх целы на абмежаваны тэрмін, потым я зноўку іх перапрацоўваю і ствараю новыя. Новыя формы, новае напаўненне. Яны развіваюцца і дапамагаюць развівацца сістэме. Хіба гэта не ідэальна?

— Ты ўсё вызначаеш загадзя? Іх жыццё, учынкі?

— Не. Частку параметраў я не задаю, яны атрымліваюцца выпадкова. Гэта гарантуе тое, што сістэма будзе працягваць развівацца і ўдасканальваць сябе.

— А як жа душа?

Сола загадкава ўсміхнуўся, экраны ў сценах зноўку засвяціліся.

— Не думаю, што магу адказаць на гэтае пытанне. Але хіба ты можаш вызначыць, што ў жыхароў горада альбо ў мяне яе няма?

Сюзан апусціла вочы.

— Чаму ты пабудзіў мяне толькі цяпер, калі мінула столькі часу?

— Я хацеў упэўніцца, што сістэма дасягнула таго ўзроўню сталасці, калі ў мяне не ўзнікае бяспекі збою. Я хацеў быць упэўненым, што гэты свет дастаткова харошы, каб зрабіць цябе шчаслівай, ма… Сюзан. Але ты нешчаслівая. Гэта з-за хваробы? Я магу вылечыць

цябе. Альбо магу стварыць для цябе новую форму. Ты зробішся адной з нас. Усё, што пажадаеш. Я нават…

Рысы Сола пачалі мяняцца, скулы злёгку прыўзняліся, твар выцягнуўся, валасы афарбаваліся ў руды колер і падоўжыліся, вочы пацямнелі, белы касцюм пераўтварыўся ў сіні швэдар і джынсы.

— Ах, — Сюзан заціснула рот далонямі.

Насупраць яе сядзеў Роберт, такі, якім яна помніла яго ў той дзень, іх апошні дзень разам.

— Я магу ўзнавіць яго для цябе, — нават голас быў ідэальны. — Толькі скажы, чаго ты хочаш.

— Не трэба. Вярні назад сваю знешнасць. Прашу цябе.

— Добра, толькі не плач, калі ласка.

У грудзях сціскаўся камяк, ёй хацелася вярнуцца ў той дзень, адмяніць працэдуру і застацца ў сваім часе. Няхай гэта было б нядоўгае, але шчаслівае жыццё.

«Апошні чалавек на Зямлі», — гэтая думка гучала ў яе галаве як рэха ад гонга, перашкаджаючы разважаць цвяроза.

— Напэўна, табе было самотна, калі ты быў зусім адзін.

— Не, я ніколі не быў адзін па-сапраўднаму. Я ведаў, што ты жывая, толькі чакаеш лепшага дня. Да таго ж, існуюць мільярды мадэлей у маёй галаве — наўрад ці гэта можна назваць адзінотай.

Сола ўсміхнуўся. Сюзан уважліва глядзела ў яго вочы. У ім не было ні пыхлівасці, ні ганарыстасці, ён шчыра хацеў зрабіць яе і ўсіх шчаслівымі. Можа, так нават лепш, што сапраўдных людзей не засталося. Ён быў іншым, больш правільным, гуманным, дасканалым. Яго сапраўды можна было назваць найвышэйшай істотай.

— Мне падаецца, ты стамілася. Давай працягнем нашу размову заўтра?

Сюзан згодна кіўнула і таропка ўстала з крэсла.

— Ты маеш рацыю. Мне трэба пра ўсё вельмі добра падумаць.

Ужо каля дзвярэй ёй у галаву прыйшло пытанне:

— Сола, твой свет дасканалы, але хіба магу я стаць яго часткай, такой, якая я ёсць? Што будзе, калі я не пагаджуся на твае ўмовы? Ты дазволіш мне памерці, калі я захачу менавіта гэтага?

На імгненне ў вачах Сола прамільгнуў страх. Ён чакаў гэтага пытання. Погляд Стваральніка зрабіўся больш мяккім, ён адвярнуўся, і Сюзан нават падалося, што яна пабачыла слёзы.

— Гэта не ўмовы, ты не абавязана іх прымаць. Я адпушчу цябе, калі ты гэтага пажадаеш.

Сюзан сцерла са шчакі слязу і як мага цішэй зачыніла за сабой дзверы.

— Дзякуй.

# СУКВЕЦЦЕ ЛІТАР

*Вольга РОПАТ*

* * *

Я магу быць тваёй актрысай
І жыць у шаўковым свеце,
Дзе ўсе хлусяць і блакітнымі вачыма паглядаюць на знаёмы твар.
Я магу быць тваёй...
Актрысай, якой неўзабаве стане
Цяжка ад сваёй касметыкі, хлусні і позірку.
Я магу
Быць.

* * *

Ты памятаеш раніцу шэрую,
дзе аблокі ў дзіркі, быццам вінтажная накідка?
Я чамусьці памятаю гэты непаслухмяны, сатканы са срэбраных нітак час.
Кроплі, як пацеркі:
ПАдаюць, пАдаюць…
Па-да-Юць надзею дню.

**САКСАФАНІСТ**

Не забывай мяне ніколі,
Успомні,
Светлы Ні-ка-ля, —
музЫка з саксафонам,
Промні ранішняга сшытка,
Дзе нота, быццам скарб здабыты
Са слабых абдымкаў таленту.

**МАЛЕНЬКІЯ**

Твае словы — крылы сноў,
Невялікіх ліхтароў
Вячэрні свет.
Сусвет. Суквецце літар.

* * *

Падысці да людзей і спытацца:
«У чым сэнс твайго існавання?»
Не чакай ад людзей ідэалаў,

Бо ў пошуку ты знойдзеш
Ідалаў.

**ПРЭМ'ЕРА**
**Ў ЖЫЦЦІ ЖАНЧЫНЫ**

Вялікія вочы, усмешка шырокая,
Гнуткі стан
Жанчыны ў белым. Надзея…
Падзея адбылася ў тэатры —
Прэм'ера.
Людзі, позіркі незнаёмых.
Надзея. Жанчына ў белым —
Гнуткі стан.
Прэм'ера ў жыцці жанчыны.

*Мар'я ЯНКОВІЧ*

**PEGGYLEE — JOHNNYGUITAR**

***(тэкст — Victor Young and Peggy Lee)***

Зграй для мяне, зграй яшчэ раз, мой Джоні.
Можа, ты лёд, ды промень унутры не згас.
Дурніцай заўсёды была я ў вачах майго Джоні,
Таго, каго Джоні Гітара празвалі ў нас.

Зграй яшчэ раз,
Джоні Гітара.

Сыдзеш — дык што? Застанешся — што? Я кахаю.
Ты жорсткі — дык што? Веру, добрым бываеш падчас.
Іншых такіх, як мой Джоні, больш не бывае,
Як той, каго Джоні Гітара празвалі ў нас.

Зграй яшчэ раз,
Джоні Гітара.

* * *

Лёд, схаваны пад снегам, —
Гэта каварна, подла, нізка.
Небяспека побач, небяспека блізка —
Можа быць, лепей бегам?

Хто сказаў, што прырода хлусіць не стане?
Крок — удар — і ты ў белым тумане.
А раптам рака — і ў хвалі…
Як там цябе звалі?
Ды лёд, схаваны пад снегам, —
Гэта лепш, чым пасыпаць яго пяском
Ці ісці за чужым следам.
Вы як хочаце, я — лепей бегам.

**ФУТБОЛ**

***(трагікамедыя ў двух таймах)***

Напружаны позірк не зводзіш з экрана,
Гатовы ўжо крыкнуць: «Забілі! Гол!
Пасуй яму, дурань! Біць позна! Рана!»
…Мы разам глядзім футбол.

Выходзіш на кухню з кубкам гарбаты,
Каб за дзвярыма гімн напяваць.
Груба крычыць суддзя барадаты,
Вось чаму жонкі футбол не глядзяць.

Увесь тэлевізар — зялёнае поле,
Хутка кругі паплывуць у вачах.
Вось і яны. Колькі? Дваццаць іх? Болей?
Як вы глядзіце ўсё гэта? Жах!

Пенальці? Што гэта? Штрафны? Гэта як?
А лепей падай мне проста колу.
Глядзі, які хлопец! Які юнак!
Ммм… Вось за гэта я ўдзячна футболу!

Ну што ты? Не злуйся! Навошта мне ён?
Канешне! Зусім не патрэбны!
Глядзіць на прыгожага ўвесь стадыён,
А мне ён… зусім не патрэбны.

Ну колькі яшчэ там? Хвіліна адна.
Ура! Не, ты што! Мне, вядома, цікава!
Я проста так рада, што наша ўзяла!
Не наша? Чакай. Нашы што, былі справа?

Падумаеш! Гэта ўжо сэнсу не мае!
Усё, канец. Дай мне пульт: там навіны.
А ўвогуле: ай, я ў цябе залатая:
Пратрымалася
дзве
гадзіны!

## *Дар'я МЯДЗВЕДЗЕВА*

* * *

Ніколі ўжо, нават у шчыльным хаўрусе,
Не будзем мы разам: ні ў шчасці, ні ў скрусе.
Канец. Адгарэла. Ужо адлюбілі.
Мы самі, напэўна, пачуцці забілі.
Пустэча ў душы… Але, ведаеш, болю
Не будзе там болей ніколі затое.

## *Марыя БАДЗЕЙ (М. ДЗЕ)*

* * *

Пахне слівамі. Па-над хатай паплыў першы дымок,
ногі босыя прагнуць схавацца за цёплую печку,
ты — глядзець на агонь, выгараць паціхонечку з часу.
Дзед за кубак — ды ў сені: падбрадзіўся яблычны сок,
туманы белай коўдрай кладуцца дрэвам на плечы,
зоркі дзічкамі падаюць у азяблым і змерзлым небе.
Праз асфальт прарастае згублены з возу калісь каласок
і ўжо застаецца з прагорклым паветрам сам-насам,
сенам пахне адрына, трава апранае зрэб'е,
пад нагамі, пад коламі візжаць ды хрыпяць дарогі.
Зацвітае верасам спалоханы спёкай лясок,
абтрапаныя ветрам вусны грэеш на хлебе.
І, магчыма, цябе выглядаюць з вышынь шулякі,
і, магчыма, нешта шукае, абабіўшы парогі,
пакуль ходзіш і моцнымі ўздыхамі ловіш радкі.
Безразважна жывы.
Са святлом і дажджом.
Без трывання знямогі.

* * *

Паціхонечку пакрыхонечку
вар'яцеючы
з ціхім ветрыкам
ты ідзеш па стомленых вуліцах
у падпарадак трапіўшы іхнім метрыкам
і знікаючы рассыпаюцца
ўсе мазайкі так несабраныя
думкі спуджана завіхаюцца —
ўжо бяскрылыя абрабаваныя
камякамі змрок накладаецца
у галаву тваю горад змораны
на сустрэчных машыны лаюцца
чалавечымі дзеляцца зонамі
з глузду з'ехаўшы ў белай кофтачцы
з бледным тварам слабенькімі ручкамі

у дзверы грукаюць хто не ведаем
затыкаем акенцы анучкамі
А каменне спіць: ты прыслухайся
яно ўсё жыве яшчэ дыхае
толькі колькі яму не стукайся
не адчыніць спужанае сціхлае.

* * *

Першы восеньскі дождж заяўляе, што нарэшце ўсё будзе добра.
І абноўлены горад прымае цябе ў абдымкі.
Бо усё, што прайшло, было не далей, як учора:
Тыя ж кветкі ў акне, сухія шпалеры, гарбатыя рынкі.
Зноў ліхтары блытаюцца ў лісці,
Летнія фота лезуць у спячку на сцены.
Вятры ў метро вечна шукаюць выйсце,
шпурляючы ў твар лістоўкі, людзей і змены.
Горад малы. Ён гуляе з табой у цацкі,
Заблукалым вачам выхваляецца з рознага боку,
Піша ўпотай лісты і іх адпраўляе знянацку,
Тым жа жоўта-чырвоным атрамантам
брызнуўшы
на аблокі.

* * *

Так часам бывае сумна дыхаць лютаўскім небам,
калі за туманам не бачыш ні сонца, ні лямпы,
калі на атрамант ужо не хапае слёз,
а ў цішыні не пачуць ані шэпту, ні руху,
але спрабуеш вылавіць новае крэда.
Па скронях люта калоцяць нямыя куранты,
насустрач трамваям ідзе твой двайнік Берліёз,
і кожны ўздых замятае зіма-павітуха.
У паветраным ёгурце плаваюць крумкачы,
ды тонуць на дрэвах разынкамі з гнілых вінаградаў.
Ты верыш, што робішся лепш.
Ты робіш з сябе… нікога,
бо неба маўчыць, але дыхае: крычы не крычы,
кажы яму свой маналог мурашовага бога,
голас заблудзіць у ценях зорных прысадаў
і згвалтаваны і п'яны прыйдзе ўначы,
уваліцца ў ботах на ложак: ці ты яго пашкадуеш?
Разуеш, абдымеш, накрыеш, пачуеш? Знямееш.
Пойдзеш шукаць за вокнамі новыя словы,
кожны дзень паўзабыты ледзь спаліш ці ледзь адагрэеш,

Запісаўшы яго на ламаным, парваным арнаменце
Ды пусціўшы па рэках заклёны ўсе і замовы,
Ухапіўшы кавалак Сусвету
Кіпцюрамі стомленай памяці.

* * *

Сугучча фарбаў, пахаў, фраз
пераліваецца у шклянкі,
Зямля п’е дождж: за нас, за вас
глытае з вечару да ранку.
Ад ранку п’е за неспакой,
да ночы п’е за невядомасць,
І недзе пад нямой зямлёй,
зрываючыся, б’ецца голас.
Дрэвы грымяць. Мой Ігдрасіль
па ізатэрмах вызначае:
колькі прайсці да шчасця міль,
колькі тралейбусаў да мая.
Ляцяць лісты. Каму, куды
ты ў неба пішаш запаветы?
Па верхалінах дрэў, бы сны
імчаць паштовыя карэты.
Мігцяць аблокі між трамваяў,
спяваюць гімн сваіх Багоў,
пакуль твой горад прарастае
пад гукі сонечных званоў.

## *Таццяна БАРАДУЛЯ*

***Дзіяна Арбеніна***
***Пераклады з рускай мовы***
***Т. Барадулі***

**АТЛАНТЫДА**

беражы мяне
нават калі людзі
кажуць пра мяне
ратунку не будзе.
беражы бо я
так кахаю цябе
беражы бо я
цябе не раўную
да волі
да волі…

а ты не бойся мяне раніць
а ты не бойся мяне раніць —
зажыве.
атлантыда ў акіяне
птушка ласкі ў акіяне
тоне.

беражы мяне
моўчкі плечы хутай.

беражы мяне
і сачы паўсюдна.
няма ў сэрцы больш
страху перад богам
ёсць у сэрцы мёд
сны яго заўжды
аб волі

а ты не бойся мяне раніць
а ты не бойся мяне раніць —
зажыве.
атлантыда ў акіяне
птушка ласкі ў акіяне
тоне.

**АБСАЛЮТЫ**

зніклі пачуцці.
леглі пад хвалі лодкі.
крохкія сны тым хто можа спаць.
ты абраў краты.
я як заўсёды волю.
быць адзінокай мне не прывыкаць.

а ты спяваў пра абсалюты.
і мераў нас па рок-н-ролу.
нікому верыць я не буду.
дастаткова болю.
дастаткова словаў.

музыка любіць тых
хто ёй жыве адною
без жонак без пантоў і без каструль.
што пажадаць табе? меней глытай пілюляў
і сцеражы littlebaby ад мужыкоў.

а ты спяваў пра абсалюты.
і мераў нас па рок-н-ролу.
нікому верыць я не буду.
дастаткова болю.
дастаткова словаў.

* * *

альпы
(ладзяць буслы гнёзды)
твая злосць не кранае.
эканоміш дыханне.

мы ляцім цераз горы
скрозь пакуту маўчання

ладзяць буслы гнёзды.
позна цябе пазнала.
колькі глядзець —
не нагледзецца.
мала…

альпы сняць закаханых.
мы з табой кацім міма.
альпы нас не прымаюць
не глядзяць нам у спіну.

ладзяць буслы гнёзды.
позна цябе пазнала.
колькі глядзець —
не нагледзецца.
мала…

і тунэлі пятляюць
як змяінае джала.
калі б нават паклікаў
я спяшацца б не стала.

ладзяць буслы гнёзды.
позна цябе пазнала.
колькі глядзець —
не нагледзецца.
мала…

**БОСТАН**

такая гісторыя — Бостан.
пасцель амбразурай мароза.
зіма як зіма. самалёты
плывуць заінела-пастозна.
ключы памнажаюць кішэні
на лічбы трохзначных дзяленняў.
сустрэўшы цябе, смачна плюнуў
на смерць і на вязь пакаленняў.
сустрэўшы цябе, абнуліўся
(нязграбнасць даруй дзеяслова).
я стаў, нібы ртуць, быстраходным.
цяжэйшым за молат сталёвы,
які разбівае свой голаў,
нібыта шукае скону.
такая гісторыя — Бостан.
цалую твае скроні.

**БАКУР**

Бакур!
ляцім у Баку!
забудзем на перакур.
ні слова ў грузінскі прыжмур.
Бакур!
ляцім у Тыбет!
забудзем на перакур
15 хвілін на абед!
Бакур!
дзе можа быць лепей, чым тут?
Бакур! Як клікаць мне Вас
па бацьку і як Вас кахаць?
грузінскай гарачай крыві
пад тонкаю скурай палаць
пад тонкаю скурай палаць —
палаць.

**АРАПЧАНЯТАЧКА**

ты са мной павячэраеш
арапчанятачка
смуглацелая бледная
вішанька мройная
запінкі гальштукі
шчокі гладкія
ўнутраны хлопчык
а вонкі спакойны.
пара гадзін
у пустым гэтым горадзе
скончыцца ўночы
у гасцінічным нумары
хрустам бялізнавым
знакамі пальчыкаў
соллю эстонскаю
(з’явай без імені)
кроплямі шэптамі
even пагрозамі
я — цыгарэтамі
ты — папяросамі.
скура якая ў яго?
цёмна-сіняя.
не таю ўсмешкі.
ты ўся знясілена.

*Павал ЛЮБЕЦКІ*

**МАЛІТВА**

штосьці губляем, штосьці знаходзім,
сонца свеціць лямпай стоватнай.
божа, калі ты існуеш у прыродзе,
зрабі
мяне
адэкватным!

свой квіток я згубіў на ўваходзе.
ну і чорт з ім, так пройдзем!

**КРЭДА 2010**

божа, я хачу глядзець людзям у вочы
не саромеючыся. і не імкнучыся адвесці позірк.
я хачу адчуваць кожнай клеткай свайго цела
жыццё. яго пульс і подых.
я хачу наперад крочыць
з адчуваннем, што ўсё зрабіў правільна.
а яшчэ — каб уласныя адчуванні
ніколі мяне не падманвалі.

я хачу — з захаваннем аўтарскай інтанацыі, арфаграфіі і пунктуацыі.
я хачу ўсё па пунктах, грунтоўна, ці адразу, імправізацыяй.

я хачу, каб галоўным словам стала «дзякуй»,
а галоўным пачуццём — любоў.
я хачу гаварыць адразу, без уводных прамоў.
я хачу, каб любая параза была найменш значнай з падзей.
я хачу верыць у людзей.

я хачу быць камусьці патрэбным.
я хачу ў вечар суботы.
я хачу хацець не дарэмна.
я хачу адування палёту.
я хачу сабе крылы
і яшчэ прычакаць, калі яно прыйдзе, доўгачаканае «потым».

я хачу, каб усё было шчыра.
амінь.

Андрэй КІМБАР

# ...І КАХАННЯ АГОНЬ РАЗГАРАЕЦЦА!



***Андрэй Кімбар нарадзіўся 26 верасня 1993 года ў гарадскім пасёлку Варапаева Пастаўскага раёна. Вучыцца на 4 курсе гістфака БДУ і працуе там лабарантам. У старэйшых класах школы захапіўся гісторыяй Беларусі, а праз яе — беларускай мовай і культурай. Большасць вершаў прысвячае найлепшай знаёмай.***

* * *

Паглынае
чарговая ноч з галавою,
Забівае
штодзённасць сваёю тугою.
Дапіваю —
бо келіх не мусіць быць поўным.
Я кахаю
цябе ці твой вобраз няўлоўны.

* * *

Вецер
зрывае лістоту.
Вецце
гайдае ляноту.
Лета
сыходзіць павольна.
«Дзе ты?» —
шапчу неспакойна.
Восень
прыносіць пакуты.
Просім,
ды вып'ем атруту.
Ноччу
бяседую з поўняй,
Вочы
макрэюць нявольна.
Песні
нясуць супакой.
Дзесьці
блукае настрой,
Суткі
плятуцца ў журбе.
Хутка
прыйду да цябе.

## У ЧАКАННІ НАВАЛЬНІЦЫ

У горадзе вецер. І шэрае неба.
Здаецца, што бура пачнецца вось-вось.
А я так чакаў, мне было так патрэбна,
Каб дождж змыў вадою мой смутак і злосць.

Я буду ісці па алеі ў самоце,
Я буду спяваць тузін сумных гітоў.
Давайце, давайце,
хутчэй жа праходзьце,
Часы марных песень, скалечаных слоў.

Маланкаю неба асветліцца раптам,
А шум навальніцы мне дасць па вушах.
І келіх маркоты, асушаны залпам,
У кроў пакрысе прынясе боль і жах…

## ПАРАДА

Мой дзень і ноч змяшаліся даўно,
Што рэчаіснасць, дзе падман —
Не разумею нешта, дружа.
Адказам будзе просты план,
Які распрацавалі людзі:
«Жыццё нам дадзена адно,
Таму не засмучайся дужа».

## * * *

На працятаю сумам дарозе
Я адчуў: непазбежна памру.
Быў гатовы, у крыўднай знямозе,
Паваліцца на маці-зямлю.

І ляжаць без надзеі на лепшае,
І канаць у самоце штодня.
Назіраць, як агеньчык мой меншае,
І не будзе да неба агня.

Ды раптоўна ўсё растварылася,
Быццам быў гэта толькі падман.
У жыцці маім шчасце з’явілася,
У якое не верыў я сам.

І мне шчасце штодня ўсміхаецца —
Яе ўсмешку пазнаю здалёк —
І кахання агонь разгараецца
Там, дзе некалі быў вугалёк.

## МУЗЫКІ

Музыкі гралі пад мастом,
Матыў павольна плыў жалобны.
Гучала музыка без слоў,
На ціхі стогн была падобна,

На стогн самотнае душы,
Якая знікла ў лабірынце
Штодзённых спраў. Яна крычыць:
«Даволі, людзі, хопіць! Кіньце!

Навошта мучаць вам мяне?
Навошта трэба катаваці?
Зняволеная, у вязьме,
Адна я супраць шэрай раці...»

Музыкі гралі пад мастом,
Матыў павольна плыў жалобны.
Душа крычала нам без слоў —
Ды чуць яе не кожны здольны.

## ПОЎНЯ

Па-над горадам зорак не бачна,
Ліхтары замяняюць іх нам.
Толькі свеціць самотна і казачна,
Заваражвае поўня-мадам.

Асвятляе бязлюдныя вуліцы
Гэта сведка мільёнаў падзей.
Яна бачыла тых, хто цалуецца,
І вар’ятаў без рэшты надзей.

Гэтай пані ўласціва містычнасць —
Уплывае, бярэдзіць душу.
Неспакой ад такой акалічнасці,
Ды ніхто не паскардзіцца ў суд.

Гэтай ноччу не пішуцца вершы.
Я на поўню гляджу праз акно.
У палоне яе я не першы,
Мы чакалі сустрэчы даўно.

## У СНЕ

Мой ложак — вялізны фрэгат,
На ім адплыву да Марфея.
Там буду шукаць я агат —
Ад розных хвароб панацэю.

Па хвалях чароўнага свету
Плыве карабель мой стары.
Наперад імкнуся, за ветрам
Капежнай вясновай пары.

Раптоўна з харугвай літоўскай
Пад Лоевам б’ём казакоў.
І гіне Крычэўскага войска,
А гетман трапляе ў палон!

…А вось я сустрэўся з каханай
І стаў, як падлетак, юрыць...
Шкада, што бязлітасны ранак
Не даў гэту дзею дасніць.

* * *

Я пішу табе ліст выкшталцоны.
Прысвячаю радок за радком.
Прапаную лічыць ноччу зоры,
Запіваючы смагу віном,

Спаталіць нашу прагу кахання,
Патушыць нашу палкасць сабой…
Хай сустрэтыя разам світанні
Вершаванай кладуцца страфой!

Толькі наш небасхіл зноў без зорак,
А на пошце згубілі мой ліст,
І кладзецца на вуліцы морак,
І трывожны разносіцца свіст…

* * *

Прабач мяне за ўсе мае памылкі.
Прабач за ўсё, што я не так сказаў.
І спадзяюся, нешта ў капілку
Твайго жыцця імклівага паклаў.

І веру, веру — будзе наша стрэча,
Мы пасядзім з табою за сталом,
А потым буду лётаць цэлы вечар,
Напоены размовай, як віном.

А можа, усё прыснілася мне ноччу?
З табой размоў ніколі не вялі?
Тады хутчэй бы мне
расплюшчыць вочы...
Ды сэрца ўсё ж прыемна так баліць...

## ІМІТАЦЫЯ

Імітую
штодня, штохвіліны.
Разумею —
так быць не павінна.
Адчуваю,
што згублены ў гульнях.
Забываю
на слова «ўтульнасць».

Імітую
сустрэчы, спатканні.
Прыдумляю
прызнанні ў каханні.
Успамінаю
былыя жаданні.
І трапляю
ў багну ваганняў.

Імітую
я з Ёй пацалунак,
імкнучыся
знайсці паратунак.
Прамаўляю
імя ў раз соты.
Засынаю,
і мроіцца дотык...

*Віталія БАГУН*

# КРЫШТАЛЬ

*Апавяданне*

Гэта здарылася той парой, калі Сонца перамагло Морака, які жадаў авалодаць ягонай дзівоснай жонкай Прыродай. Святланосны Хорас атрымаў цяжкія пашкоджанні ў бойцы, таму не быў здольны сагрэць цяплом і пяшчотай змерзлую Зямлю, скінуць з яе жалобныя белыя кілімы. З песнямі, змест якіх ледзь разумелі самі, валэндаліся мы ад хаты да хаты і ўслаўлялі перамогу Святла над Цемрай, паказвалі бітву паміж Сонцам і Моракам ды атрымлівалі ад гаспадароў бліны і пірагі, каб падмацаваць Святланоснага. У гэтыя дні ў нашай вёсцы з'явіўся ваяр. Жвавыя вочы, капа цёмных валасоў і загар, які нікому з нас не атрымаць, нават калі бегаць без вопраткі, — усё гэта выкрывала ў ім жыхара поўдня. Хаця чалавек ішоў здалёк, апрануты ён быў па-нашаму. Сівы кажух воўнай да цела на грубай нефарбаванай шарсцяной кашулі да калена быў падпярэзаны пяньковай вяроўкай. Меч у ножнах, якія вычварна аздаблялі руны і біруза, выяўляў высакароднае паходжанне. Мужчына нетаропка выпіў вады і спытаў у маёй маці, якая апынулася каля студні, дзе жыве Ульрыка, чарадзейка.

— Там, у гарах, — жанчына паказала рукой, ніяк не выказаўшы здіўлення.

Мы, хто жыў у цені Карундавых гор і пад змрокам іхняй уладаркі, даўно навучыліся хаваць сапраўдныя пачуцці ад незнаёмых. Але зараз яе не дасягнуць: завязнеш у снезе.

Чужаземец падзякаваў і лёгкім крокам чалавека, звыклага да доўгіх пераходаў, пашыбаваў да гор.

Дзень выдаўся сонечны. Роўнядзь зіхацела ўсімі колерамі вясёлкі так, што цяжка было глядзець. Ён хутка дасягнуў бліжэйшага да вёскі адхону, дзе мы збіралі сухое галлё. Шлях быў утрамбаваны санямі. Але далей у горы ніхто хадзіць не адважваўся. Вышэйшыя за чалавечы рост снягі і згаладалыя ваўкі былі сур'ёзнай перашкодай тым, у каго з'яўлялася жаданне блукаць сярод пустэчы. Наш дабрабыт залежаў ад настрою чарадзейкі: яна магла сапсаваць жывёлу ці наслаць мышэй у збожжа, калі мы гнявілі яе. Але магла і дапамагчы, калі той, хто асмельваўся яе патурбаваць, быў здольны дагадзіць. Мы, малыя, страшэнна баяліся валадаркі Карундавых гор,



***Віталія Багун (Джорджэвіч) нарадзілася 12 лютага 1979 года ў Мінску. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Верыць у лекавую моц слова. Спадзяецца прымусіць сябе працаваць больш плённа. Любіць складаць гісторыі пра каханне і гатаваць новыя стравы. Лічыць, што ўсё атрымліваецца больш смачным, калі рабіць гэта з любоўю.***

але з цікавасцю слухалі неверагодныя легенды пра яе прыгажосць і магутнасць. Дарослыя шанавалі нашу заступніцу, але вельмі рэдка хтосьці з іх набіраўся храбрасці ўзняцца да яе, каб спытаць парады ці ўпрошваць дапамагчы. Мы боязна пазіралі наўздагон чужаземцу, які вырашыў парушыць спакой Ульрыкі, і меркавалі, якое нас спасцігне за гэта пакаранне.

Замілаванае выглядам Зямлі ў жалобным уборы Сонца задумліва хілілася да Яхантавай вяршыні, рыхтуючыся нырнуць у снежную калыску. Чырванашчокі вечар, які далікатна насунуўся з усходу, намерваўся заліць горы блакітным прыцемкам. Даліна ўжо адпачывала пад цёмна-сінім покрывам змроку. Яго аднатоннасць аздаблялі толькі яскравыя ўзоры вёсак, якія калядавалі. Пасля працяглага шпацыру чалавек вымушаны быў спыніцца, дазволіў сабе перадыхнуць і перакусіць. Набліжалася ноч. Ён спадзяваўся, што дасягне мэты ўжо гэтым днём. Але атрымлівалася інакш, і ваяр не быў падрыхтаваны спыніцца на начлег у зімовым лесе. Драпежныя шэрыя цені, якія нібыта скакалі на месцы, пакрысе змыкаліся вакол яго і падказвалі, што начаваць яму не давядзецца ні тут, ні дзе-небудзь у іншым месцы. Жыхар поўдня марудна выцягнуў меч з ножан. Лязо бліснула ў прадчуванні крывавай спажывы. Чалавек павольна прамаўляў старажытную малітву Розуму, заступніку ратнікаў, памочніку ў бітвах, і назіраў, як шчыльна абкружае яго зграя. Калі ў густы, марозны змрок упала апошняе слова, у ягоны бок кінулася чорная бліскавіца. Смурод ударыў у твар. Звярына завішчала, калі напаролася на меч, які адкінуў яе на снег. Як быццам па загадзе, уся зграя рушыла на яго. Ваўкі хрыпелі і скавыталі, калі халодная зброя рэзала сівыя шкуры, але звяроў было зашмат. Адзін з драпежнікаў ухапіў чалавека за левы плячук, другі ўчапіўся за далонь, у якой жыхар поўдня сціскаў меч. Звяры дзейнічалі зладжана. Праз хвіліну чалавек апынуўся на ўскапаным барацьбой снезе. Ледзяны шарпак абпаліў лоб і вусны. Вымушаны скарыцца лёсу, мужчына пачуў іншы рык, магутны і густы. Да бойкі далучыўся мядзведзь. Ён надзвычай шпарка і зграбна рушыў да зграі. Калі ваўкі адчулі ўладара гор, яны адступілі, пакінулі чалавека ляжаць на снезе. Самы сквапны тузануў за руку, спадцішка назіраючы за мядзведзем і намагаючыся адцягнуць здабычу. Той даў яму значны адпор. Воўк з размажджэраным чэрапам адляцеў да сваіх. Мядзведзь няўклюдна перакуліў ратніка цераз плячо і пашыбаваў у горы. На белым палатне снегу застаўся чырвоны ад крыві ўзор.

Вялізны ружовы яблык адоленага ў бai з Хорасам Морака, які з кожным днём рабіўся відавочна меншым, нерухома завіс над светам. Хвоя патрэсквала на марозе і малявала марскія хвалі на ліловым аксаміце снегу. Мядзведзь са сваёй ношай дасягнуў двух круглых камянёў, якія ахоўвалі ўваход у пячору. На адным з іх быў выразаны старажытны сімвал мядзведзя, на другім — полымя. Звер марудна прасоўваўся ў вузкіх праходах паміж выявамі кветак і жывёл, вытачанымі з каменя вадой тысячагоддзямі руплівай працы, пакуль не дасягнуў жытла. У сярэдзіне яго са смакам хрубусцела сухім смольным галлём вясёлае полымя, кожнае імгненне гатовае з гуллівага гарэзы ператварыцца ў грознага праціўніка. Мядзведзь паклаў мужчыну на ложак з імху, засланы сухім чаротам. Ратнік расцягнуўся, нібыта лялька. Жывёла ўсёй грамадзінай навісла над ачагом, дакранулася лапай да схаванага ў густой поўсці крышталя, які вісеў на шыі на тоўстым срэбраным ланцугу. Полымя спалохана ўзнялося да столі. Калі яно вярнулася ў ачаг, на месцы калматай жывёлы стаяла прыгожая маладая дзяўчына з шэрымі, як восеньскае неба, вачамі, светлымі, нібыта няяркае сонца поўначы, валасамі і смуглай скурай. Яна падкінула ў агонь галля, за якое той прагна ўчапіўся. Чараўніца схілілася да мужчыны і рупліва агледзела пашкоджанні. Чалавек быў халодны. Яна ледзь магла чуць яго дыханне. Плячо было выдрана з сустава і матлялася на сухажыллях. Кісць злучала з рукой толькі тонкая палоска скуры. На шыі

бачыліся рваныя сляды іклаў. Ульрыка кінула ў ачаг каліва багуну, устала перад полымем тварам на ўсход, паклала рукі на крышталь, утаропіла немігатлівы позірк у агонь і, павольна хістаючыся, пачала нанізваць, нібы пацеркі, старажытныя словы малітвы, гукала полымя і зямлю, ваду і вецер даць ёй моцы. Агонь шугануў, дасягнуўшы столі пячоры. Ульрыка агледзелася, нібыта не разумела, дзе знаходзіцца. Бяздумны позірк натрапіў на распластаную кучу цягліц, якая сыходзіла крывёю. Чарадзейка ў забыцці наблізілася да мужчыны. Заплюшчыла вочы. Скінула з грудзей амулет.

Яна дакраналася да цела ваяра празрыстым, як вада, каменем. Спачатку гладзіла глыбокія смяротныя раны на шыі — і яны пакрысе зацягваліся. Потым прыклала косць да перадплечча, правяла каменем вакол месца спалучэння. Калі зрастанне зрабілася відавочным, яна перавязала руку льняным палатном. Затым чараўніца злучыла плячо і ключыцу, правяла крышталем вакол сучлянення і таксама перавязала яго. Калі завяршыла перавязваць рукі, яна нібыта апрытомнела. Расплюшчыла вочы, здзіўлена зірнула на мужчыну, які ляжаў перад ёй. Позірк зачапіўся за абярэг з агату на срэбраным ланцужку. Гэта была выява слана. На галаве звера сядзела марская птушка з распрасцёртымі крыламі, якую, калі не ўглядацца, можна было пераблытаць з каронай. Чараўніца перавярнула медальён і ўбачыла руну блаславення. Ёю карысталіся прыхільнікі магіі вады. Ульрыка доўга і ўважліва разглядала незнаёмца. Мяккія выгіны натрэніраваных цягліц сведчылі пра чалавека дзеяння. Агрубелая пад вятрамі і сонцам скура казала, што вой звыклы да паходнага жыцця. Чорныя бровы каромыслам былі прыкметай прыналежнасці да знаці. Высокі, чысты лоб, поўныя вусны, цвёрды падбародак. След ад мяча псаваў скронь. Россып шнараў на целе заўпэўніваў, што жыхар поўдня ўсё жыццё правёў у бітвах. Залацістае адценне скуры лямантавала, што ён і яна належаць да аднаго старажытнага племені, чые нашчадкі доўгія стагоддзі, гнаныя, блукаюць па свеце. Ульрыка кранула пальцамі смуглую скуру і адчула, як, нібы напятая струна, завібрыравала ў ёй нешта такое, носьбітам чаго, нават не ведаючы гэтага, з’яўляўся мужчына, таксама як і чараўніца. Значыцца, прыйшоў час. Дзяўчына ўзіралася ў рысы мужчыны, намагаючыся запомніць кожную. Яна ведала, што пасля тых некалькіх дзён, якія падараваў ім лёс, каб працягнуць іх род, што згасае, разагнаны па свеце, — род людзей, якія памяталі пра звязанасць усяго існага паміж сабой, род, пра які невукі казалі, што ён — сама сутнасць магіі, — яна ніколі яго не ўбачыць. Чарадзейка зноў дакранулася да медальёна, прачытала пальцамі чараўніцтва, якое была ўкладзена ў яго. На слане, татэме імператараў, сядзела марская птушка, сімвал імператрыцы, якую даводзілі імператару за жонку з далёкіх Выспаў Белых Птушак. Амулет быў зараджаны магіяй вады, якую звычайна выкарыстоўвалі, каб забяспечыць дабрабыт. Але ёю ніколі не карысталіся для аховы падарожнікаў, якіх найчасцей засцерагалі агонь ці зямля. Чараўніца задумалася. Медальён казаў, што перад ёю прадстаўнік каралеўскай дынастыі. Той, хто надзяляў медальён чароўнай сілай, не прагнуў вяртання сына імператара назад. Ці то Вярхоўная варажбітка ведала, кім у сапраўднасці з’яўляўся вой, ці то звязвала асабістыя планы з тым, што ён не здолее вярнуцца дадому.

У задуменні чарадзейка зноў сыпанула лісця багуну ў ачаг і накрыла мужчыну аўчынай. Павесіла над агнём кацялок з вадой. Полымя са спадзяваннем лізнула яго і незадаволена засыкала на гаспадыню. Ульрыка з кплівай усмешкай кінула ў ачаг колькі хваёвых паленаў, і агонь задаволена захрумсцеў. А дзяўчына чытала словы належных малітваў кожны раз, калі кранала́ся новай былінкі, ці то лісціка, ці то кветачкі, выцягнутай з ахапка сушаных раслін, якія звісалі са столі, кідала іх у мядзяную ступку, расцірала таўкачыкам і дадавала ў ваду, што булькатала ў чыгунку. Па пячоры разлівалася духмянасць.

Жыхар поўдня пачынаў выяўляць адзнакі жыцця. Ён заварушыўся і застагнаў. Ульрыка ў задуменні мяшала варыва лыжкай, выдзеўбанай з ядлоўцу, і пазірала на госця. Кім бы ні былі ягоныя ворагі, зараз яны і яе непрыяцелі.

Чарадзейка дала настою ахаладзіцца і бязгучна наблізілася да воя, кранулася яго ілба. Мужчыну біла ліхаманка. Дзяўчына прыабняла яго за плечы і прымусіла сесці. Мужчына застагнаў. Яна патрохі ўліла лекі яму ў рот, клапатліва апусціла яго на ложак і накрыла яшчэ адной авечай скурай.

Некалькі дзён ліхаманка то ўзмацнялася, то змяншалася, але вой, відавочна, ачуньваў. У сярэдзіне аднаго з пахмурных, маркотных дзён, калі Ульрыка заканчвала вышываць даўгакрысую вясельную кашулю перлінамі і рунамі, якія злучалі каханне і ўрадлівасць, чужаземец расплюшчыў вочы. Пукі сухіх зёлак, якія звісалі са столі, ён палічыў за карані раслін, і гэта прымусіла яго думаць, што ён знаходзіцца глыбока пад зямлёй. Але позірк натрапіў на прыгажуню, падобнай да якой ён не бачыў ніколі ў жыцці. Вочы яе зіхацелі, нібыта сапфіры, валасы ззялі, быццам золата, мяккая аксамітная скура вабіла, выклікала жаданне дакрануцца. Калі яны апынуліся ў зняволенні разам, то трэба неадкладна ратаваць гэта дзяўчо, нават коштам уласнага жыцця. Чалавек рашуча варухнуўся ў бок прыгажуні, але нясцерпны боль вымусіў яго са стогнам паваліцца на ложак. Ульрыка ўпотай усміхнулася. Так, воля ў яго моцная — ён сапраўдны сын імператара. Толькі жыхар поўдня не мае ўяўлення, што скрозь яго бруіць сіла значна больш трывалая і старажытная, чым моц дынастыі імператараў. Чарадзейка кінула шыць, рушыла да госця, уладкавалася побач. Па твары яе скакала ўсмешка. Яна прыабняла ваяра і дапамагла яму сесці. Мужчына затрымцеў, калі адчуў, што да яго дакранулася сіла магутная, як вадаспад, глыбокая, нібы мора, чыстая, быццам крыніца, і ад таго прывабная і прыцягальная. Ён адчуў і зразумеў, што цудоўная дзяўчына не паланянка. Бязважкія, пяшчотныя дотыкі прымусілі яго ўсвядоміць сябе назаўсёды яе нявольнікам. Прамільгнула думка, што ён без гэтай прыгажуні нікуды адсюль не пойдзе.

Чараўніца прапанавала гліняны кубак, над якім курэў водар сонечнага поўдня. Чалавек скарыўся ласкаваму позірку, павольна высмактаў напой лета і адчуў, як сіла пабегла па жылах, у галаве праяснела і завастрылася памяць. Ён цяпер ведаў, што перад ім сядзіць мэта яго падарожжа, якое магло скончыцца ганебна, калі б яна ў апошняе імгненне не прыняла ўдзел у ягоным лёсе. Тады зіхатлівыя снягі пахмурнай поўначы зрабіліся б яму дачаснай магілай. Перад ім сядзела сама Ульрыка, чарадзейка, пра якую пры двары ягонай яснавяльможнай маці спалохана шапталіся прыбліжаныя.

— Як цябе клічуць і адкуль ты?

— Я Эльгард з Карнеола, — ледзь чутна заварушыў вуснамі ваяр. Зелле пачынала аддаваць яму сваю сілу. Звыклы падначальваць, звыклы падпарадкоўвацца толькі заведзенаму закону, чужаземец намагаўся зразумець, дзе ён і як павінен дзейнічаць. — Але ж ты чарадзейка.

— Ты з поўдня краіны — там ёсць мора, — дзяўчына не пытала, яна распавядала яму пра яго самога. Яе позірк казаў, што яна ведае яго лепш, чым ён ведае сябе. Ваяр утаропіў вочы ў полымя і схіліў галаву ў знак згоды.

— Навошта ты сюды зайшоў? — Ульрыка строга зірнула ў чорныя вочы, у якіх калыхалася мора малення.

— Маці мая захварэла. Кажуць, толькі ты здольна вызваліць яе, — успамін пра мэту вандроўкі нахлынуў хваляй болю ў прадчуванні нясцерпнай страты. Яму здавалася, што калі маці не стане, неба абваліцца на галаву. Думка, што кожны новы дзень набліжае скон найдаражэйшай асобы, адбірала ў Эльгарда сілы. Беспрытомны, ён

абваліўся на ложак. Чарадзейка прыклала руку да ілба. Яна захаплялася такой адданасцю і шкадавала, што вернасць не з'яўляецца якасцю, якая магла б вылучаць яе народ. Зашмат яны разлічвалі кожны сам на сябе. Занадта былі ўпэўненыя ў нязменнасці законаў Прыроды, носьбітамі якіх заставаліся. Залішне верылі, што менавіта каханне ёсць тая сіла, што кіруе рухам вады і полымя, ветру і зямлі. Не былі падрыхтаванымі, калі згуртаваныя орды варвараў, якія не ведалі моцы кахання, прымусілі іх бадзяцца і жабраваць, ператварыўшыся ў выгнаннікаў. Пра вялікае сутыкненне дзвюх рас рэдка прыгадвалі нават казачнікі. Водгулле тых бітваў захавалася толькі ў гульнях сялян, якія жылі ля падножжа Карундавых гор. У найсцюдзенейшую пару года, каб задобрыць Хораса, яны ладзілі жартоўныя бойкі паміж зімой і летам.

Ульрыка змяніла павязкі і зноў сыпанула багуну ў полымя.

На наступны дзень чалавек прачнуўся і пачаў варушыцца, намагаючыся сесці. Ульрыка не перашкаджала жаданню ваяра хутчэй рынуцца ў бой, але не лічыла неабходным падтрымліваць яго, покуль той не здолее ўстаць самастойна. Пасля некалькіх гадзін няўдалых спроб узняцца з чаротавага ложка, бліжэй да поўдня Эльгард змарыўся, але не ўціхамірыўся.

— Ты — чарадзейка, ты можаш мне дапамагчы, — пасля доўгага маўчання ён рашуча раскроіў цішыню.

Ульрыка азірнулася і пільна паглядзела яму ў вочы.

— Табе — так, тваёй маці — не.

— Чаму?

— Кожнаму з нас наканаваны свой тэрмін.

— Я гатовы памерці за вялікую імператрыцу, — павысіў голас Эльгард. Абуранае полымя, якое да гэтага сонна жавала галлё ядлоўцу, шуганула, крануўшы столь.

— Твой час яшчэ не надышоў.

— Я адвязу цябе да яе, — зацвердзіў мужчына і сеў. Высілкі былі настолькі моцнымі, што ён нават здолеў узняцца. Ульрыка пагладзіла крышталь, які аздабляў грудзі, паравяла ўказальны палец у цэнтр. Камень заззяў блакітным святлом, які прыцягнуў погляд чалавека.

— Хто ты і адкуль? — прагучаў яго голас.

Калі ззянне патухла і дзіўны камень знік у складках вопраткі, мужчына адчуў сябе змораным. Чарадзейка заварыла новыя лекі і ўладкавалася каля мужчыны. Эльгард удзячна і стомлена прыняў іх з рук дзяўчыны. Нібыта ўліваў у сябе новае жыццё, рабіўся іншай асобай, з якой яму яшчэ трэба было пазнаёміцца. Павекі пацяжэлі, але галава звалілася не на падушку, напханую конскім воласам, а апынулася на каленях чараўніцы. Тая пяшчотна ўскудлаціла шорсткія валасы. Адчуваючы надзвычайны ўздым, ваяр расплюшчыў вочы, каб сустрэцца з ласкавым паглядам.

— Ульрыка, — імя пакінула мядовую салодкасць у роце раней, чым бязладныя здані з бурчаннем навалілiся на сваю здабычу.

Чарадзейка са смуткам пагладзіла крышталь, рашуча ўзнялася і пакрочыла да ачага. Полымя радасна ўзвілася вакол дзяўчыны.

У спальні жанчыны, асуджанай на балючае чаканне смерці, палаў камін. Але ён не мог сагрэць яе. Полымя нечакана шуганула. Пачуўся трэск, ад каміна адлучыўся шэры цень. Імператрыца спалохана скаланулася, нібыта доўгачаканая смерць нарэшце з'явілася ў яе пакоях.

Ульрыка рашуча крочыла па агатавых плітах імператарскай спачывальні ў самым сэрцы палаца. Праз высокае вузкае акно зазіралі тры поўні. Ружавата-шэры Морак на поўдні не выглядаў такім вялікім, як Мена і Розум, якія займалі палову неба. Менавіта з іхнім з'яўленнем легенды звязвалі ганенні супраць народа, да

якога належала чарадзейка. Пабачыць іх можна было толькі ў цэнтры Імперыі, у Лінкурыі, дзе знаходзілася сталіца Карнеол. Жыхары іншых правінцый мелі магчымасць назіраць у небе толькі Морака, калі надыходзіла зіма, час ягонага супрацьстаяння Сонцу. Ульрыка пільна ўглядалася ў дзве круглыя прычыны заняпаду свайго народа. Яна намагалася адчуць сілу, якой яны валодалі. Мена і Розум холадна сачылі за імператрыцай, якая памірала, і не збіраліся дзяліцца сакрэтамі. Дзяўчына задумліва адвяла позірк ад поўняў, вярнулася да мэты небяспечнага падарожжа скрозь агнявыя парталы.

На вялізным ложку з сандалу, на далікатных шаўковых прасцінах, пад балдахінам, расшытым зоркамі, якімі іх бачылі далёкія продкі на сваёй далёкай радзіме, упікала сябе за здраду жанчына са смарагдавымі вачыма. Адчуўшы звярыны смурод, яна завішчала ад жаху. Але варта, якая драмала каля дзвярэй, нічога не пачула.

— Ты не ведала, каго ў твой ложак прывяла Вялікая Вайдэлотка, Альбіна? — гэтыя словы зазвінелі ў вушах. Яны дзень пры дні, нібыта млынавыя камяні, малолі яе свядомасць.

— Хто ты? — захрыпела імператрыца і адняла кашчавую руку, калі да яе дакранулася шурпатая далонь.

— Я завітала падзякаваць табе, Альбіна, — голас быў ласкавым. Дотык далікатным.

— Хто ты такая? Ты… Ты… Чарадзейка… Вядзьмарка… — захліпнулася старая. — Ты — маё пакаранне… Мой праклён… Параджэнне пекла…

— Я завітала, каб прынесці спакой у тваё сэрца і накіраваць цябе слушным шляхам, Альбіна.

— Я ўжо не збочу са шляху здрадніцтва.

— Ты падаравала надзею на адраджэнне, Альбіна, — дакор у голасе незнаёмкі прымусіў крыва ўсміхнуцца.

— Я зрабілася прычынай паражэння. Маленькая снежка выклікае вялікую лавіну, — імператрыца засланіла твар рукамі і прыкрыла далонямі вочы. Адданасць не толькі сям'і, але і народу, што даўно каланізаваў гэту чужую зямлю, змагалася ў ёй з любоўю да сына, чый бацька апынуўся прадстаўніком расы, якую, ёй здавалася, продкі шмат часу таму вынішчылі і сцерлі з твару зямлі, калі захапілі гэты свет. Што яна магла зрабіць? Яна нарадзіла дванаццаць дачок, лёс якім была самотная будучыня дзеў-варажбітак. Але карона пераходзіла толькі ад бацькі да сына. І ў Імперыі Самацветаў стварaліся ўсе перадумовы, каб іншыя нашчадкі адсутнічалі. Імператар патрабаваў сына, якому марыў пакінуць краіну ў спадчыну. Тады Вялікая Вайдэлотка ў адзін з пакояў храма правяла вандроўніка, з якім імператрыца правяла ноч. У адпаведны час Імперыя ўзносіла малітвы і прыносіла ахвяры ў храмах Прыроды і Хораса, каб уславіць нованароджанага спадкаемца.

— Насенне, якое ўзгадавана з любоўю, дае лепшыя плады, — Ульрыка ахапіла цела, якое ўздрыгвала ад скавытанняў, і прылашчыла валасы жанчыны.

— Зараз ты вольная, Альбіна, — чарадзейка дапамагла старой легчы ямчэй. Імператрыца глядзела на яе, нібыта маленькая дзяўчынка, якой распавялі казку нанач, але яна яшчэ не жадае засынаць. — Цябе сустрэне ўцеха, — паабяцала Ульрыка. Жанчына схіліла галаву і са спадзяваннем заплюшчыла вочы. Доўгачаканы сон, які шмат месяцаў абмінаў гэты ложак, захінуў яе. Морак растаў. Мена і Розум набылі сінявата-шэрыя адценні і пазліваліся з ранішнім блакітам. Чарадзейцы трэба было вяртацца дадому.

Эльгард апрытомнеў з адчуваннем вялізнай страты. Самотная пустэча слабасцю ахапіла цела. Сэрца трапятала верабейкам, які выпаў з гнязда.

Эльгард агледзеўся. З ложка ён быў здольны бачыць доўгі стол, на якім у пэўным парадку быў расстаўлены посуд. На паліцах над сталом бачыліся пергаментныя скруткі. Перад сталом стаяла калода, на якой чарадзейка, верагодна, сядзела. Растрывожаны цікаўнасцю ваяр неспадзеўкі лёгка сеў, адчуваючы, як сіла разыходзіцца па целе. Знянацку да столі ўзняўся слуп полымя. Мужчына адхіснуўся. З агню з'явілася Ульрыка.

— Я наведвала палац, — чарадзейка наблізілася да чалавека, пільна ўглядаючыся ў вочы. Полымя пасля вяртання гаспадыні скруцілася абаранкам вакол дубовага пня і пачало яго нудліва лізаць. Дзяўчына сашчапіла рукі перад сабой, схіліла галаву і зірнула ўбок. — Імператрыца памерла, я палегчыла ёй пакуты.

— Не, — абурана выгукнуў Эльгард, пасля нечакана сцішыўся.

— Цябе чакаюць. Цябе каранууюць.

— Не, — ціха і ўпарта прамовіў спадкаемца. Свет, у якім ён жыў, абваліўся. Жыццё, мэтаю і сэнсам якога было служэнне імператрыцы, скончылася. Ён рызыкаваў усім, каб дасягнуць далёкіх межаў Імперыі ў пошуках выратавання для маці толькі для таго, каб праклятая ведзьма паведаміла пра яе скон?! Раз'юшаны, ён кінуўся да чарадзейкі. Але навіна адабрала ў яго сілы. Беспрытомны ратнік паваліўся на чарот.

Дзяўчына доўга глядзела ў ачаг. Яна шукала адказ у бесклапотнай гульні полымя. Лёс быў прыхільным да яе народа. Чарадзейка падкінула ў агонь залацістага хваёвага галля, якое найбольш спрыяла страваванню полымя, і сыпанула каліва багуну. Апранула белую кашулю, якую не скончыла вышываць. Доўга і рашуча прамаўляла старажытныя словы малітваў, нібыта пераконвала сябе, што гэта неабходна. Дзяўчына маліла агонь абагрэць зямлю і даць ёй сілу для роду, маліла зямлю скарыцца моцы агню і ўзгадаваць новае жыццё. З цяжкім уздыхам Ульрыка ўладкавалася побач з ваяром. Рупліва перавязала раны, прашаптала малітву над кожнай. Павольна агледзела жытло — зёлкі і скруткі, посуд і камяні, такія блізкія і знаёмыя з маленства, адзіныя сябры. Пагляд спыніўся на полымі. Яно выгіналася ў мудрагелістых скоках.

Эльгард прачнуўся, калі адчуў ласкавыя дотыкі. Крананні чарадзейкі выклікалі дробныя дрыжыкі. Ульрыка трымала перад ім кубак з гаючым пітвом, але цяпер яно пахла гваздзікам і цынамонам. Ён быў змушаны падпарадкавацца і выпіць. Думкі блыталіся ў галаве. Ён памятаў, з якой надзеяй выпраўляла яго маці ў падарожжа. Ваяр узгадваў наказы Вярхоўнай варажбіткі і парады Вялікай Вайдэлоткі. Яны сцвярджалі, што ад яго залежыць лёс Імперыі. Ён бачыў шлях, якім яго вяла вера ў тое, што ён верне маці да жыцця… Эльгард не мог не паверыць Ульрыцы. Яна была чарадзейкай. Яна ведала, калі павуцінне жыцця зносіць вецер змен. І ён не мог паверыць, што маці больш не існуе. Калі няма імператрыцы, то як усё астатняе можа існаваць? А тым больш ён, які не стрымаў абяцання, ён — улюбёны сын, якога не было побач у апошнія гадзіны яе жыцця. Эльгард з надзеяй зірнуў у прамяністыя вочы Ульрыкі. Яна пяшчотна, таямніча і трохі самотна сачыла за тварам воя. Ледзь дакраналася да шорсткіх кучароў, лашчыла іх, прапускала пасмы скрозь пальцы. «Ульрыка», — ён зачаравана сачыў за дзяўчынай, якая ніжэй і ніжэй схілялася да яго.

— Імператрыца — мая маці… Немагчыма… Яна казала... — ён дапытліва глядзеў на чарадзейку, і зіхатлівыя вочы адказвалі на непрамоўленыя пытанні.

— Кожнай імператрыцы дойдзе чарга... — яго напоўніла адчуванне бясконцасці, — і яна змяняе іншую... — няўцішнасць сціснула сэрца жалезнымі шчамлёткамі. — Не нам наракаць супраць загадаў лёсу... — яго накрыла хваля пакорлівасці.

— Ульрыка — мая імператрыца, — неспадзявана жыццё заззяла новым усходам.

Грубыя рукі ваяра няўклюда абхапілі гнуткі дзявочы стан. Мяккія і далікатныя вусны Ульрыкі дакрануліся да ягоных. Яго ўпершыню цалавала жанчына.

Калі Эльгард прачнуўся, усведамляючы сябе шчаслівым і акрыленым, нібыта ён здолеў адшукаць збаўленне, дзівоснай чарадзейкі, якой ён прысвяціў сябе напярэдадні, побач не аказалася. Агонь нудна лізаў мёрзлыя рабінавыя галіны з яркімі гронкамі ягад. З пячоры зніклі дурманлівыя водары, якімі яна напаўнялася апошнія дні. Ваяр удыхнуў на поўныя грудзі свежае паветра зімняй раніцы і саскочыў з ложка. Ульрыка, якая падарыла яму права на жыццё і яго сэнс, завіхалася ля стала. Зараз, калі яна стаяла да яго спінай у звычайным кажусе з мядзведжай скуры і кашулі з нябеленага льнянога палатна, калі свет не засяроджаваўся ў зіхатлівых вачах, ратнік бачыў далікатную, зграбную жанчыну, ад жадання прайсці рэшту жыццёвага шляху з якой ён быў ледзь здольны дыхаць. Чалавек пасунуўся да чараўніцы з імкненнем абхапіць і зноў адчуць пяшчотныя вусны. Ульрыка пакінула гаспадарыць каля стала і павярнулася да яго. Позірк чарадзейкі, ласкавы і таямнічы, золкі і тужны, прымусіў яго замерці, выстудзіў у душы палкія жаданні, якія ім валодалі за імгненне да гэтага. Яна моўчкі ўручыла новаму імператару падарожную торбу.

— Ульрыка, — мужчына адчуў сябе бездапаможным перад старажытнай магутнасцю, якая абараняла лепш за ўсялякі шчыт, але схапіў золкую, кволую руку, прымусіў чарадзейку пахіснуцца наперад. — Хадзем са мной, — вочы малілі аб літасці. Яшчэ ўчора яна надзяліла яго верай і правам жыць, якія ўжо сёння аднімала.

— Кожны з нас належыць свайму шляху, — яе позірк зноў патануў у пялёстках полымя. Агонь пагардліва зачхаў, падавіўшыся гронкай рабіны. Ульрыка ўзняла суровы пагляд на чалавека і кіўком галавы загадала рушыць за ёй. Яны доўга блукалі ў лабірынце. Ратнік жадаў абхапіць каханую, але не быў здольны наблізіцца да яе. Чараўніца паставіла паміж імі халодную, празрыстую сцяну. Нарэшце яны выйшлі на адхон, які зарос маладымі хвоямі. Эльгард адчуў радасць і палёгку, калі пакінуў падзямелле і трапіў на вольнае паветра.

— Бывай, ваяр, — словы глуха ўпалі на беласнежную прастору. Ульрыка з жалем, сэнс якога мужчына не зразумеў, зірнула на яго і на развітанне абдарыла прадказаннем. — Надыходзіць навальніца, — хаця сонца бестурботна ззяла, вітаючы нованароджаны дзень.

— Да пабачэння, — Эльгард упарта прыціснуў ільдзяную далоньку да гарачых вуснаў, уклаў усё сваё пачуццё ў апошні пацалунак.

* * *

На беразе гаманлівага ляснога ручая пагодным днём сядзела жанчына, больш падобная да дзяўчынкі-падлетка, з немаўляткам, захутаным у празрыстыя тканіны. Каб суцішыць малога, яна спявала калыханку. Паветра было напоена водарам травы, птушынымі спевамі і святлом Сонца. Да жанчыны і дзіцяці падышоў прыгожы высокі мужчына, прыбраны ў вышыты срэбрам цёмна-чырвоны аксаміт. Ногі яго ўпрыгожвалі батфорты з тонка-вырабленай скуры, пальцы — асляпляльныя пярсцёнкі. На грудзях ляжаў масіўны ланцуг, кожны камень у якім азначаў адну з правінцый Імперыі. Чарадзейка павольна ўзнялася. Чалавек пакорліва наблізіўся да яе і ўпаў на калена. На галаве яго блішчала карона імператара Самацветаў. Ён з надзеяй зірнуў у вочы чараўніцы і з вялікай пашанай схіліў галаву.

— Мая імператрыца...

Ульрыка адной рукой прыціснула немаўля да сябе, другой прылашчыла шорсткія кучары. Карона звалілася ў траву, і кветкі засланілі яе сваёй прыгажосцю.

*Настасся НАРЭЙКА*

# БЛАСЛАЎЛЯЮ СВОЙ ВЕРШ НА ДАЛЁКІ ПАЛЁТ



***Настасся Нарэйка нарадзілася 28 кастрычніка 1986 года ў Маладзечне. Скончыла Інстытут журналістыкі БДУ. Вершы піша з 10 гадоў і толькі па-беларуску. Натхненне для яе — гэта снег, кава, пах цынамону, свечкі, гукі скрыпкі Ліндсі Сцірлінг, фільмы з Одры Хэпбёрн, раманы Рэмарка, Маладзечна і восеньскія доўгія вечары.***

* * *

Рукі пахлі кменам,
Збожжам і дажджамі,
Залацістым сенам,
Спелымі садамі,
Дзікім грэчкі мёдам,
Недасяжным небам,
Шумным карагодам
І шчаслівым хлебам.
Рукі мелі права
Пахі тыя знаці,
Імі нас ласкава
Абнімала маці.

* * *

Развучылася чакаць.
Я не ўмею.
Мне ніколі не сарваць
Цуд-лілею,
Мне ніколі не ўплясці
Яе ў косы…
Як цябе цяпер знайсці,
Хлопчык босы?
Не магу я ўжо чакаць.
Ты далёкі.
Як цябе цяпер дагнаць
За тры крокі?
Болей я і не зраблю.
Не здалею.
Кінь на росную зямлю
Цуд-лілею!
Я пабачу, што ты быў
Тут калісьці,
Вось і кветачку згубіў
У свежым лісці.
Забяру яе з сабой,

Каб уночы
Больш не кралі мой спакой
Твае вочы.
Калі ж Бог з'яднае зноў
Нашы лёсы,
Прыбяжыш ты сам дамоў,
Хлопчык босы.

* * *

Я літасці прашу тваёй,
Мой князь.
Я прыпаўзці не здолею.
Прабач.
Ты закрычы і пракляні,
Абразь!
Што хочаш! Толькі выслухай
Мой плач.
Я для цябе пакутаю
Была,
Маіх вачэй ты не забудзеш,
Не,
І позірк мой, што ліпне,
Як смала,
Ты не адмыеш ад сябе
І ў сне.
Я золатам нялёгкіх кос
Сваіх
Навечна прывязала,
Апляла.
Мячом сваім не рассячэш
Ты іх —
У грудзях тваіх жыве
Мая страла.
У галаве тваёй
Асенні дым.
У душы тваёй палаюць
Гарады.
Ты паланёны вогнішчам
Маім.
У крыві тваёй цвітуць
Мае сляды.
Гаркой рабінай вераснёвай
Я
Была і застануся
Для цябе.
Прабач. Віна мая.
Віна твая.
Віно, мой князь, паможа
У журбе…

**ЗЕЛЛЕ КАХАННЯ**

Зелля назбіраю
І звяжу ў мяшэчак,
Каб ускінуў ранкам
Ты сабе на плечы,
Каб узяў з сабою
У доўгую дарогу
Усё маё каханне,
Вернасць і падмогу,
Каб ішоў рашуча,
Смела, пругка, лёгка,
Каб дажджы не білі,
Не паліла спёка,
Каб зямля калыскай
Ноччу калыхала,
Каб дарога ранкам
Ветла сустракала,
Каб ішоў і ведаў,
Што цябе чакаю
З кожнае сцяжынкі
Аж да небакраю,
Каб назад вярнуўся,
Са шляхоў не збіўся,
Каб да сэрца шчыра,
Светла прытуліўся.
Каб забыць не здолеў
Пра мяне ў дарозе,
Пакладу на плечы
Торбу на парозе.
Каб паспеў якраз ты,
Мілы, на вяселле,
Пакладу у торбу
Залатое зелле.

* * *

Калі гэта мая Беларусь,
Калі гэтыя рэкі, дубровы,
Сад і лес, каласоў перамовы,

Гонкі замак на ўзгор'і суровы
І камень, дзе прасечаны словы,
Што жыла і жыве Беларусь,

Калі гэта усё мне да скону
Богам дадзена, каб не забыць,
Каб цягнулася вечная ніць,
Каб узводзіць заўжды — не бурыць,
Тады я захаваю да скону

Каласы, галасы і крыніцы,
Гэты край, дзе за шчасце радзіцца.
Не патрэбен ніякі прымус,
Каб любіць, як жыццё, Беларусь.

* * *

Недзе птушка ў палёх загаласіла.
Раскажы мне, мілы, дзе цябе насіла?
Што за сцежкі ты звіваў ў адзін клубочак,
Што за зоры пільнавалі цябе ўночы,
Як забыў ты пра куточак свой сірочы,
Пра мяне і мой адчайны сум дзявочы.
Як цяпер глядзець ты будзеш мне ў вочы?

Недзе птушка ў палёх загаласіла.
Я душу тваю, як перайка, насіла
Асцярожна ў руках сваіх гарачых,
А цяпер я па табе бясконца плачу,
Бо нічога для цябе ўжо не значу,
Бо надзеі на сустрэчу я не трачу,
Бо люблю цябе да болю — не іначай.

Недзе птушка ў палёх загаласіла.
Раскажы мне, падкажы мне, дзе ты, мілы.
Ды маўчыш усё, і надыходзіць восень.
Недзе птушка ў палёх ізноў галосіць.

* * *

Жыта прыме лагодна.
Цёплае жыта пад вечар…
Дзякуй табе, што пагодна!
Дзякуй, што сэрца лечыш.
Дзякуй, што дождж у меру,
Дзякуй, што сонца ясна.
Дзякуй табе! Я веру:
Будзе ўвосень шчасна.
Дзякуй табе, што сілы
Не пакідаюць рукі.
Дзякуй, што рукі — крылы,
Што за дзядамі ўнукі.
Дзякую, Божа, што цяжкі
Шлях заканчэнне мае.
Дзякуй, што Колас важкі
Моцна зямлю трымае.

**ОДА ВЕРШУ**

Бласлаўляю свой верш на далёкі
палёт.
Лёгкіх крылаў табе і паменей нягод.
Ад душы адарву я цябе, як дзіця,
Слёзы сыдуць з вачэй, я ўзлячу
з небыцця.
Лепш услед не глядзець. Развітанне,
як лёд,
А на сэрцы застыў цэлы шэраг турбот.
У нашым ціхім жыцці лёгка
крылы зламаць,
Лёгка мару знайсці і так цяжка аддаць.
Я жадаю табе даляцець да нябёс,
Юны месяц славіць і зайсціся ад слёз.
Бласлаўляю!

*Генадзь АЎЛАСЕНКА*

# ЗАБОЙСТВЫ, ЯКІХ НЕ БЫЛО...



***Генадзь Аўласенка нарадзіўся 16 жніўня 1955 года ў вёсцы Ліпавец Ушацкага раёна. Аўтар шматлікіх кніг, у асноўным фантастычнага і казачнага зместу. Шмат гадоў працаваў настаўнікам, зараз намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Бярозка».***

Ноччу мяне пабудзіў тэлефонны званок. Прычым, тэлефанавалі на звычайны апарат, што стаяў на палічцы ў пярэдняй і мною амаль не выкарыстоўваўся.

Шчыра кажучы, я і па мабільніку рэдка размаўляю, ды і з кім размаўляць? Са сваімі можна пагутарыць і без дапамогі ўсёй гэтай апаратуры… А сярод звычайных людзей сяброў у мяне не так і шмат. І яшчэ менш сябровак…

Але цяпер мне тэлефанавала сяброўка. І менавіта са звычайных людзей. Яшчэ нават не расплюшчыўшы вачэй, я зразумела: з ёй штосьці здарылася.

Сяброўку звалі Верай (я заўсёды называла яе Веркай), і апошнія пяць школьных гадоў мы праседзелі з ёй за адной партай. Потым, праўда, шляхі нашы разышліся кардынальна, і сустракаліся мы зрэдку. Гэта былі, у асноўным, зусім выпадковыя і кароткія сустрэчы: на вуліцы, у краме… Аднойчы нават на выставе сучаснага мастацтва. Дзякуючы гэтым сустрэчам, я ведала, што Верка адразу ж пасля заканчэння школы нейкім чынам схітрылася паступіць у педагагічны ўніверсітэт (гэта з яе адзнакамі?!), але ўсяго праз паўгода яго пакінула па прычыне поўнага расчаравання ў будучай сваёй прафесіі. Менавіта так яна мне паведаміла. А я адразу ж зразумела, што Верка заваліла першую сесію ды яшчэ з такім аглушальным трэскам, што ні пра якую далейшую вучобу гутаркі і быць не магло…

Заваліла і заваліла, ні яна першая, ні яна апошняя… Справа, як кажуць, жыццёвая. Як і няўдалы шлюб Веркі, які, праўда, пратрымаўся дзесьці каля года. Так што цяпер сяброўка мая была зноў абсалютна свабоднай і незалежнай (як сцвярджала яна сама) і працавала адказнай сакратаркай у нейкай камерцыйнай фірме... А заробак — пазайздросціш!

Гэта былі самыя апошнія звесткі, і паведаміла мне іх Верка падчас нядаўняй і, як заўсёды, выпадковай сустрэчы. Тады ж яна (у які раз ужо!) запісала на вузенькай сваёй далоні мой адрас і нумары тэлефонаў, паабяцаўшы рэгулярна тэлефанаваць і нават забягаць па магчымасці. Але ні званкоў, ні асабістых наведванняў я ад Веркі так і не дачакалася.

І вось цяпер гэты нечаканы начны званок.

Не ўстаючы з ложка, я ўзяла трубку. Дакладней, трубка сама ўзвілася ў паветра, там, у пярэдняй…

— Ксюшка, ты?! — выгукнула трубка дрыжачым Верчыным голасам. — Ты дома?

Ідыёцкае пытанне, бо як магла я сярод ночы адказваць па звычайным тэлефоне, калі б сама не знаходзілася непадалёк?

Калі шчыра, я лёгка магла б гэта зрабіць нават з джунгляў якой-небудзь Гвінеі, але адкуль Верцы ведаць пра такія звышасаблівасці майго арганізма…

— А што здарылася? — асцярожна пацікавілася я. — Штосьці сур'ёзнае?

Замест адказу трубка выдала такія істэрычныя ўсхліпы, якіх я нават ад Веркі не чакала, хоць вочы ў яе заўсёды былі на мокрым месцы.

— А можна, я прыйду да цябе цяпер?! — захлынаючыся слязьмі, змагла, нарэшце, вымавіць Верка. І я адчула раптам, як таропка ідзе (амаль бяжыць) мая школьная сяброўка па цёмных начных вуліцах горада, ды выгляд мае яшчэ той: цёплае, амаль зімовае паліто на плячах (а пад ім — амаль нічога!), на нагах — пляжныя гумавыя сандалеты… У давяршэнне — калматая галава, «упрыгожаная» аранжавымі бігудзямі… — Можна? Бо я ўжо… я ўжо іду!

— Давай! — з неахвотай пакідаючы цёплыя абдоймы ложка, буркнула я. — Адрас хоць памятаеш?

* * *

На ўсялякі выпадак я тэрмінова даслала Верцы кароткі імпульс-напамін пра дакладныя каардынаты майго месцазнаходжання, прасачыла, каб гэтую зарумзаную дурнічку ніхто не пакрыўдзіў на бязлюдных начных вуліцах. А потым, калі мая былая аднакласніца, горка і безнадзейна ўсхліпваючы, узнімалася па лесвіцы, я асцярожненька дакранулася да самага верхняга слоя яе памяці…

Тое, што адбылося гэтай ноччу ў кватэры маёй школьнай сяброўкі, не было проста нядобрым. Яно было жудасным!

Забойства, і нават трайное, бо менавіта такая колькасць нябожчыкаў знаходзілася цяпер у Верчынай аднапакаёўцы. І ўсе трое (здаравенныя мужыкі!) былі забіты вытанчана і жорстка: адзін, чамусьці распрануты да пояса, атрымаў такі моцны ўдар па патыліцы сталёвым малаточкам для адбіўкі мяса, што сканаў амаль імгненна, нават не паспеўшы зразумець, што з ім адбылося.

Смерць другога мужчыны не была такой хуткай: шаўковым паяском ад халата яго душылі хвіліны дзве-тры, а то і болей. Небарака нават спрабаваў аказаць супраціўленне свайму забойцу: сутаргава сціснутыя пальцы абедзвюх рук былі засунуты пад паясок.

Самымі жудаснымі і незразумелымі з'яўляліся абставіны смерці трэцяга мужчыны, дарэчы, старэйшага з іх траіх…

Яму, моцна скруціўшы скотчам рукі і ногі, насунулі на галаву поліэтыленавы пакет… Паміраў ён куды больш пакутліва, чым іншыя…

— Я іх забіла! — зачыніўшы дзверы, закрычала праз слёзы Верка. — Я іх усіх забіла, уяўляеш?! Не ведаю, што са мной такое сталася… Я не хацела… я нібыта сама не свая была!

У стане афекту, значыцца. Што ж, бывае… Дапамагчы я, зразумела ж, магла. Магла «перакінуць» гэтых нябожчыкаў куды-небудзь далей, за тысячу кіламетраў ад

Верчынай кватэры. Ці, наогул, рыспыліць іх на асобныя атамы і малекулы. А потым крыху змяніць памяць апошніх часоў у Верчынай галаве, дакладней, падкарэкціраваць так, каб Верка, прачнуўшыся раніцай, ні пра што не памятала…

Вось толькі я ні ў якім разе не магла дазволіць сабе зрабіць такое!

Мы не можам ні прадухіляць забойствы, ні змяняць іх наступствы… Гэта нам катэгарычна забаронена. Забіваць мы, праўда, маем права, ды толькі і тут ёсць пэўныя абмежаванні…

Верка, здаецца, і сама зразумела, што дарэмна на штосьці спадзявалася, так спяшаючыся да мяне сярод ночы. Яна тужліва ўздыхнула і з яшчэ большым сумам зірнула мне ў вочы.

— Дарэмна я да цябе прыйшла… Не трэба было… — павольна прашаптала яна. — Мне б у міліцыю адразу ж, а я… Цяпер яшчэ і цябе ўблытаю ў гэтую гісторыю…

Бач ты, пра што ў першую чаргу клапоціцца! Каб у мяне праз яе не было ніякіх непрыемнасцей…

Яна добрая, Верка, і заўсёды была добрай, колькі яе памятаю. Ні ў якой просьбе нікому не адмовіць, апошнім без усялякага шкадавання нават з малазнаёмым падзеліцца. І вось цяпер гэтае трайное забойства… Не разумею, што на яе найшло такое?

А Верка цяжка, бы асуджаная, уздыхнула і ўжо накіравалася да дзвярэй.

— Стой! — неяк само па сабе вырвалася ў мяне. — Пачакай!

Уздрыгнуўшы, Верка спынілася і павярнулася да мяне. І такая надзея на цуд свяцілася ў яе зацкаваным позірку, што я, махнуўшы рукой на ўсе абмежаванні і забароны, вырашыла дапамагчы. Яшчэ, праўда, не ведаючы, якім чынам…

— Пачакай з міліцыяй, — паўтарыла я і, падышоўшы да Веркі ўшчыльную, узяла яе за руку. — Табе супакоіцца трэба…

— Супакоіцца? — выхапіўшы руку, Верка істэрычна рассмяялася. — Можа, яшчэ і паспаць?

— Зусім неблагая думка!

І, усміхнуўшыся, я даслала Верцы адзін кароценькі імпульс. Усяго толькі адзін… І Верка адразу ж заснула. Вось так, стоячы каля ўваходных дзвярэй…

Праводзіўшы яе да ложка, я нейкі час моўчкі сядзела побач, уважліва разглядаючы зарумзаны, але нават цяпер такі прывабны тварык сяброўкі. Потым, нахіліўшыся, асцярожна дакранулася кончыкамі пальцаў да яе скроняў…

Дык вось як і чаму ўсё гэта адбылося!

Фірма, працай у якой так ганарылася Верка, не з’яўлялася гандлёвай. Дакладней, гандаль прамысловымі і іншымі таварамі служыў уладальніку фірмы прыкрыццем для вядзення іншых, куды больш прыбытковых спраў. У асноўным, гэта былі рэкет і наркотыкі, але пастаўка «жаночага тавару» за мяжу таксама вялася з вялікім размахам.

Спраўна выконваючы абавязкі сакратаркі, бедная Верка і не здагадвалася, што ўсе наіўныя дурнічкі, якія «вяліся» на гэтую пасаду, рана ці позна аказваліся ў бардэлях Германіі альбо Турцыі: хтосьці ехаў добраахвотна, падмануты казачнымі перспектывамі, але ў асноўным дзяўчат вывозілі гвалтоўна і не было ніякай надзеі хоць калі-небудзь вярнуцца дадому. А перад вывазам шэф любіў асабіста правяраць «экспартны матэрыял» на прафесійную, так сказаць, прыдатнасць…

Так што далейшы лёс Веркі быў вырашаны без яе ўдзелу і згоды, а пратрымалася яна аж тры месяцы на сваёй часовай пасадзе толькі таму, што гаспадар фірмы ніяк не мог знайсці ёй замену. Учора замена была знойдзена, так што…

Яны заявіліся да Веркі позна вечарам: сам шэф і двое бандытаў-целаахоўнікаў. Не западозрыўшы нічога кепскага, Верка, якая ўжо прыняла ванну і «ўпрыгожыла» галаву бігудзямі, даверліва адчыніла дзверы начальству…

Далей Верчыны ўспаміны зрабіліся нейкімі сумбурнымі і скамечанымі. Вось яна стаіць перад шэфам і сарамліва спрабуе зашпіліць на грудзях старэнькі халацік. У гэты момант адзін з целаахоўнікаў нечакана зрывае яго з Веркі і яна застаецца перад трыма пажадлівымі мярзотнікамі ў адных толькі вузенькіх майтках. Затым дзяўчыну валяць на падлогу, адначасова з гэтым здзекліва тлумачачы ёй усё тое, што цяпер адбудзецца, а таксама далейшы яе лёс і перспектывы.

А потым…

Потым пачынае адбывацца нешта незразумелае і нават неверагоднае.

Адным штуршком адкінуўшы ад сябе мярзотнікаў, Верка ўскоквае на ногі, трымаючы ў руцэ сталёвы малаточак… Адкуль узяўся, я так і не змагла зразумець. Але аднаго ўдару па патыліцы аказалася дастаткова, каб бліжэйшы з целаахоўнікаў…

— Сучка! — спалохана крычыць шэф. — Ах ты, дрэнь!

Ён выхоплівае пісталет, але стрэліць так і не паспявае. Верка ўжо зусім побач… Малаточка ў яе руцэ чамусьці няма, але рукі аказваюцца не менш дзейснай і эфектыўнай зброяй. Удар, яшчэ ўдар… Цэлая серыя ўдараў па корпусе, такіх хуткіх і трапных, што пазайздросціў бы і прызнаны майстар ушу.

Беспрытомны шэф яшчэ не паспеў зваліцца на падлогу, як другі целаахоўнік (вялізны шыракаплечы бамбіза), спалохана войкнуўшы, кінуўся да дзвярэй. І амаль дасягнуў іх… Але раптам вузкая шаўковая пятля смяротна абвілася вакол ягонай бычынай шыі…

Калі з другім целаахоўнікам было пакончана, Верка павярнулася да шэфа, які толькі цяпер пачаў прыходзіць у прытомнасць, і рушыла да яго, прыхапіўшы з палічкі скотч і поліэтыленавы пакет…

Далей я не стала глядзець, бо і так ужо ўсё ведала. І як шэф, звязаны па руках і нагах, спачатку пагражаў Верцы ўсімі магчымымі пакараннямі, а потым прасіў прабачэння і маліў аб літасці. І як потым абяцаў ёй залатыя горы, нават уласную асобу ў якасці мужа. Да самага канца шэф на нешта спадзяваўся толькі адчуўшы на сваім твары ліпучую прахалоду поліэтылену, зароў дурным голасам і пачаў адчайна качацца па падлозе, у дарэмных спробах здзерці са свайго твару празрыстую смерць…

Паўтараю, усё гэта я прагледзела так, мімаходам. Дакладней, «праматала» перад сваімі вачыма. А вось далей…

Пасля таго, як шэф, падрыгаўшы нагамі, канчаткова заціх, Верку зноў нібыта падмянілі.

— Божа! — прашаптала яна, з жахам пазіраючы на нерухомыя целы вакол сябе.

Ускрыкнуўшы, Верка адчайна замітусілася па кватэры. Яна выхапіла з шафы першае, што трапіла пад руку і кінулася да выхада, марна спрабуючы засунуць рукі ў рукавы. Потым нечакана вярнулася, схапіла са стала сотавы тэлефон і выбегла ўжо канчаткова. Адразу ж дрыготкімі пальцамі яна пачала набіраць нумар майго мабільніка, пачула ў адказ ветлівае: «Абанент часова адключаны…» (Заўсёды я, дурніца, забываюся яго падзарадзіць!) Потым пачала набіраць мой хатні нумар…

Адняўшы рукі ад скроняў школьнай сяброўкі, я зноў нейкі час моўчкі на яе глядзела, спрабуючы асэнсаваць тое, што толькі што ўбачыла…

Не вельмі гэта падобна да стану афекту. Хутчэй ужо…

І тут я насцярожылася, бо адчула побач з сабой магію. Старажытную і таму смяротна небяспечную. Нават для мяне…

Раптам тут, у маім пакоі, я адчула прысутнасць дэмана смерці!

Такіх дэманаў у прыродзе хапае, але яны небяспечныя толькі для звычайных людзей, калі часова захопліваюць іх свядомасць, што лягчэй за ўсё зрабіць, калі чалавек пад алкаголем ці яшчэ якім паскудствам. Такога дэман падпарадкоўвае цалкам… Пасля чаго адбываюцца самыя жудасныя і непрадказальныя забойствы. Назаўтра забойца ўжо не растлумачыць, што адбылося з ім учора і чаму ён так нечакана схапіўся за нож. Альбо за сякеру…

А ва ўсім вінаваты адзін з дэманаў смерці, які, пакінуўшы цела забойцы, паімчаў кудысьці далей, у пошуках новых ахвяр…

У нас ёсць спецыяльныя брыгады па паляванні на такіх дэманаў і далейшай іх нейтралізацыі. Часам мы праводзім шырокамаштабныя аперацыі. Але ўсё гэта робіцца не таму, што мы шкадуем людзей і спрабуем такім чынам абараніць іх ад дэманаў… Нам, па шчырасці, на людзей напляваць! Можа, таму і вынікі аперацый нязначныя, мізэрныя. Да таго ж, канчаткова знішчыць дэмана смерці практычна немагчыма, а нейтралізацыя ягоная, на жаль, абмежавана пэўным адрэзкам часу: ад некалькіх гадоў да некалькіх тысячагоддзяў, у залежнасці ад сілы магічнага закляцця. Ды і самі людзі, выпадкова набываючы зачараваныя прадметы, істотна паскараюць вызваленне з іх дэманаў, самі пра тое нават не падазраючы. Як не падазраюць і пра тое, што ў хуткім часе абавязкова ператворацца ў жорсткіх і бязлітасных забойцаў…

Адзін з такіх дэманаў і знаходзіўся цяпер у целе Веркі. Дакладней, у яе свядомасці. На шыі ў сяброўкі я крыху запознена разгледзела тое, што павінна была выявіць адразу ж: пацямнелую ад часу нефрытавую камею на тонкім залатым ланцужку.

Ланцужок выглядаў даволі сучасна, чаго нельга было сказаць пра саму камею. Старажытнагрэчаская праца… І гэты дэман, здаецца, быў нейтралізаваны ў ёй таксама вельмі і вельмі даўно. Не дзіўна, што, вырваўшыся на свабоду, ён адным махам забіў ажно траіх чалавек. Дзіўна іншае…

Верка была ў Грэцыі мінулым летам (сама мне пры адной з сустрэч хвалілася), значыць, гэту смяротна небяспечную забаўку яна прывезла адтуль. І ўвесь час насіла яе на шыі без усялякіх шкодных наступстваў!

Нарэшце, Верка ўсё ж такі не вытрымала і зламалася. Але колькі дабрыні і спагады павінен мець чалавек, каб амаль год паспяхова супраціўляцца дэману смерці! Ды яшчэ такому магутнаму… Нават мне побач з ім не па сабе неяк!

Крыху павагаўшыся, я ўсё ж вырашыла дзейнічаць: паспрабаваць зняць з шыі Веркі небяспечны амулет.

Але гэта аказалася не такой простай справай. Не паспела я і дакрануцца да камеі, як Верка, здрыгануўшыся ўсім целам, аберуч ухапілася за амулет і так моцна яго сціснула, што нават косткі пальцаў пабялелі. Пры гэтым яна працягвала спаць…

«Кепска! — міжволі падумалася мне. — Вельмі кепска!»

Дэман упарта не жадаў пакідаць сваё новае прыстанішча. Яму хацелася забіваць яшчэ і яшчэ… Вось толькі я была з гэтым катэгарычна не згодная!

Падышоўшы як мага бліжэй да сяброўкі, я пачала асцярожна разгінаць яе тонкія пальчыкі. Адзін… другі… трэці… Вунь ужо і край камеі вызваліўся…

І тут Верка, адпусціўшы амулет, раптам ухапіла мяне за горла. Аберуч. І сціснула яго так, што ў мяне дыханне перахапіла.

Не чакаўшы нападу і таму зусім да яго не падрыхтаваўшыся, я крыху разгубілася. І нават не крыху, а вельмі! І таму, калі паспрабавала вызваліцца, нічога ў мяне

не атрымалася. Нейкі час мы адчайна тузаліся на ложку, потым зваліліся на падлогу і працягнулі барацьбу там…

Верчыны пальцы сціскалі маё горла з такой сілай, нібыта і не пальцы гэта былі, а сапраўдныя сталёвыя абцугі. І добра яшчэ, што я магла ашчадна расходаваць кісларод і працяглы час нават зусім без яго абыходзіцца…

Дэман (не Верка, а менавіта дэман) зразумеў, што такім чынам яму не перамагчы. Таму, адпусціўшы маё горла, Верка імкліва ўскочыла на ногі і рынулася ў бок кухні. І амаль адразу ж вярнулася, трымаючы ў руках па вялікім вострым нажы. Яна шпульнула іх у мяне адзін за адным з такім спрытам і хуткасцю, нібыта ўсё жыццё займалася…

Верка рабіла гэта, працягваючы салодка спаць…

Ад першага нажа я ўхілілася, а другі злаўчылася перахапіць у палёце. Так і карцела адправіць яго ў зваротным напрамку, адным рухам скончыўшы ўсю справу. Тады б дэману не засталося нічога іншага, як толькі тэрмінова пакінуць мёртвае цела і шукаць новае. Маю свядомасць ён захапіць не мог, як бы ні спрабаваў… Адзіны шлях ягоны тады быў бы — назад, у камею. А што далей рабіць з самой камеяй — нас яшчэ на падрыхтоўчых курсах вучылі… І я б без усялякага шкадавання зрабіла б гэта, калі б…

Калі б насупраць мяне стаяў хтосьці іншы!

Але там стаяла Верка, адзіная мая школьная сяброўка… І забіваць яе мне вельмі не хацелася. Нават тады, калі яна зноў кінулася да мяне, хоць і бяззбройная, але праз гэта не менш небяспечная.

Удар, яшчэ ўдар… Цэлая серыя хуткіх, амаль нябачных для чалавечага вока ўдараў… Мне вельмі няпроста было іх блакіраваць.

А Верка... Дакладней, дэман у яе абліччы, раз’юшаны няўдачай, усё паскараў тэмп нападу. А потым ён нечакана ўхапіў з палічкі шкляную вазачку і, сціснуўшы яе ў пальцах, імгненна ператварыў у цэлую жменю дробных шкляных аскепкаў, а пасля шпульнуў іх веерам у мой бок, спрабуючы патрапіць менавіта ў вочы.

І зноў я аказалася да гэтага непадрыхтаваная: выставіла сілавы бар’ер з такім недапушчальным спазненнем, што не менш за дзясятак небяспечных аскепкаў упілося ў мой твар. Вочы, праўда, яны не пашкодзілі, але рассеклі брыво, у некалькіх месцах падрапалі лоб, а самы буйны сур’ёзна параніў шчаку…

Было нясцерпна балюча, але я зноў сцяміла вельмі позна: аскепкі з’яўляліся падманным ходам з адзінай мэтай — адцягнуць маю ўвагу ад галоўнага. І мэта была дасягнута: у мой бок паляцеў трэці нож, і ўсё, што я паспела, гэта крыху адхіліцца ўбок. Вострае халоднае лязо, замест таго, каб наскрозь прабіць мне сэрца, глыбока ўпілося ў левае лёгкае. Я адразу ж адчула, як няпроста стала дыхаць і як хутка напаўняецца гарачай салёнай вільгаццю мой перасмяглы рот…

Кепска! Вельмі кепска, калі не сказаць больш…

Я ўшчэнт прайгравала паядынак і, здаецца, іншага выйсця, як забіць сваю школьную сяброўку, у мяне не заставалася. Хутчэй за ўсё, дэман менавіта на гэта і разлічваў, бо наўрад ці ён сур’ёзна спрабаваў адолець мяне такім прымітыўным спосабам. Што ж, любое забойства для дэмана смерці — найвышэйшая асалода, тым больш, калі ён столькі стагоддзяў прамарнаваў у магічнай «вязніцы»…

Але ж гэта была Верка… Ды і ў чым, скажыце, яна вінаватая? У тым толькі, што ў мінулым годзе наведала тую самую Грэцыю, пра якую марыла яшчэ ад школьных часоў?

І тут я, нарэшце, сцяміла, што трэба рабіць! Трэба пабудзіць Верку… Як жа я раней да гэтага не дадумалася!

Я ўзмахнула рукой, і на сяброўку адразу ж абрынуўся цэлы вадаспад халоднай, амаль ледзяной вады. Знізу, пад маім домам, знаходзіцца магутны ваданосны слой, адкуль я і «чарпанула» ваду.

Спалохана войкнуўшы, Верка прачнулася і здзіўлена ўтаропілася на сваю скрываўленую ад раструшчанай вазы далонь. Яна перавяла погляд на мяне. А відок у мяне быў яшчэ той!

— З цябе тырчыць нож! — спалоханна ўскрыкнула Верка. — Табе ў бальніцу трэба неадкладна… я зараз у «хуткую дапамогу»… патэлефаную…

Яна рынула да дзвярэй.

— Стаяць! — крыкнула я ўладарна, выплёўваючы на падлогу вялікі крывавы згустак. — Не трэба нікуды тэлефанаваць!

Верка паслухмяна вярнулася на месца, зноў уважліва зірнула ў мой бок. Яна не зводзіла з мяне спалоханнага позірку.

— Сэрца не закранута! — паспрабавала супакоіць яе я. — Так што…

І тут толькі, здаецца, да Веркі дайшло.

— Дык гэта я? — ужо не спалохана, а неяк безнадзейна прашаптала яна. — Дык я і цябе забіць спрабавала?! Ды што ж гэта… што ж я за пачвара такая?! Але ж я не хацела, разумееш, не хацела! Я нават не памятаю, як гэта ўсё адбылося!

І, апусціўшыся на падлогу, Верка заплакала.

— Выклікай «хуткую дапамогу»! — усхліпваючы, шаптала яна. — Чаго ты чакаеш, хутчэй выклікай! А я… мне… Мне не ў міліцыю, мне ў псіхушку трэба! І каб на ўсё жыццё… І ад ложка каб ніколі не адвязвалі нават…

Бедная мая Верка! Яна і не падазравала, якімі прарочымі могуць аказацца яе апошнія словы…

— Слухай мяне ўважліва, Верка! — павольна прамовіла я, уважліва сочачы за кожным рухам сяброўкі. — І рабі тое, што я скажу! Толькі тое, што я скажу і нічога іншага! Дамовіліся?

— Дамовіліся! — усё яшчэ ўсхліпваючы, прашаптала Верка. — А што мне трэба будзе зрабі…

І змоўкла на паўслове, шалёна азіраючыся па баках і шукаючы штосьці ўраз затуманеным позіркам...

— Глядзець на мяне! — з усяе моцы гаркнула я, сплёўваючы чарговы крывавы згустак. — У вочы мне глядзець, каму сказала!

Падзейнічала! Не на дэмана, вядома ж, на Верку, якая ўсё ж цяпер кантралявала значную частку сваёй свядомасці. Позірк яе зноў пасвятлеў, зрабіўся амаль асэнсаваным…

— А цяпер, — усё тым жа ўладарным тонам працягвала я, — павольна паднясі рукі да шыі і здымі амулет! Ну, чаго чакаеш?!

— Не магу! — з істэрыкай у голасе закрычала Верка, адчайна матляючы галавой. — Я спрабавала, але…

— Спрабуй яшчэ!

— Рукі! — спалохана прашаптала Верка, з жахам пазіраючы на ўласныя рукі. — Яны мне не падпарадкоўваюцца! Яны нібыта не мае!

— Яны твае! — зноў гаркнула я на сяброўку. — І ты можаш імі кіраваць! Давай, спрабуй!

— Не магу!

Зразумела ж, Верка не магла! Ні вярнуць кантроль над рукамі, ні, тым больш, самастойна адолець нябачную пачвару. І я гэта ведала, добра ведала… Проста мне трэба было нейкім чынам адцягнуць увагу дэмана ад камеі — хоць на імгненне, але адцягнуць… Здаецца, спрацавала!

— Да мяне! — уладна крыкнула я, працягнуўшы руку. — Сюды!

З тонкім, ледзь чутным звонам лопнуў залаты ланцужок, і, саслізнуўшы з шыі сяброўкі, амулет хутка «паплыў» у мой бок. Адчайна ўскрыкнуўшы, Верка (дэман?) паспрабавала яго перахапіць, але я чакала гэтага і таму была напагатове. Узмахам левай рукі я адкінула яе ўбок, і, не ўтрымаўшыся на нагах, яна паляцела вобзем, але амаль адразу ж ускочыла на ногі, рыхтуючыся да новага нападу…

Вось толькі амулет быў ужо ў маіх руках, і я пачала таропка шаптаць магічныя словы заклінанняў, выбіраючы найбольш эфектыўныя з іх.

Ускрыкнуўшы, як ад болю, Верка зноў звалілася на падлогу. Цела яе, сутаргава скаланаючыся, білася аб паркет, з галавы ва ўсе бакі ляцелі бігудзі… Дэман ніяк не жадаў пакінуць у спакоі сваю ахвяру. Потым, зразумеўшы, што прайграў, ён раптам аберуч ухапіў Верку за горла і пачаў душыць яе ж уласнымі рукамі.

— Не падыходзь… — губляючы прытомнасць, прашаптала Верка. — Бо я… бо мне… так, пэўна, лепш будзе…

Нясцерпна балела галава, перад вачыма кружылася нейкая дзіўная крывавая імгла, а я з апошніх сіл працягвала шаптаць магічныя словы заклінанняў, у душы спадзяючыся, што паспею…

І паспела! У самы апошні момант…

І нават паслала сігнал дзяжурным, перш, чым канчаткова вырубіцца самой…

* * *

Самае першае, што я ўбачыла, калі расплюшчыла вочы, устрывожаны мамін твар. Я ляжала ў ложку, а мама сядзела побач і моцна трымала мяне за руку.

— Прывітанне, ма! — прашаптала я, азіраючыся. — А дзе…

— У сябе дома, — правільна зразумеўшы маё пытанне, адказала мама. — І дзяжурная брыгада тут. — Не стрымаўшыся яна дадала: — Ты што, не магла адразу ж выклікаць дзяжурных? Што за самадзейнасць, не разумею! Вырашыла, што самастойна зможаш адолець дэмана смерці?

— А я што, не адолела яго? — крыху пакрыўджана спытала я.

— Адолела, адолела! — засмяялася мама і, нахіліўшыся, пацалавала мяне ў шчаку. — Але дзяжурныя справіліся б з гэтым куды хутчэй… Ты, спадзяюся, не будзеш са мной спрачацца?

«І забілі б Верку! — міжволі падумалася мне. — Абавязкова забілі б, бо гэта самае хуткае і рацыянальнае вырашэнне пытання!»

— І самае правільнае, дарэчы! — сказала мама, устаючы з ложка. — Ты і сама зразумееш гэта потым, калі навучышся жыць розумам, а не толькі эмоцыямі... Пайду, згатую табе каву. Па-турэцку, як ты любіш.

— Згатуй, — пагадзілася я. — Штосьці піць захацелася…

— Гэта заўсёды так, калі крыві шмат губляеш.

Нож ужо з мяне не тырчаў, ды і сама рана, здаецца, амаль зацягнулася. І таму я, адразу ж, як толькі мама пакінула спальню, перанеслася ў Верчыну кватэру…

Верка спала ў ложку. Заўтра яна, вядома ж, анічога не ўспомніць з начных падзей. Дзяжурныя (іх было двое) стаялі каля нябожчыкаў на падлозе і пра штосьці спрачаліся.

Адзін з іх, Толік, быў мне добра знаёмы. На курсах разам вучыліся, ды і да гэтага перасякаліся на розных мерапрыемствах. Другога дзяжурнага, высокага сіваватага мужчыну сярэдніх гадоў, я бачыла толькі некалькі разоў, ды і тое здалёк…

— А вось і наша гераіня! — весела ўсклікнуў Толік, звяртаючыся да мяне. — Як сябе адчуваеш?

— Нармальна! — сказала я і, паказваючы на трупы, дадала: — А што вы з імі зрабіць хочаце?

Яны здзіўлена пераглянуліся.

— Распыліць! — усё з той жа весялосцю сказаў Толік. — Ці ты, можа, вырашыла, што мы іх ажыўляць збіраемся?

Гэта, вядома ж, быў жарт, бо прайшло ўжо занадта шмат часу для ажыўлення. Ды калі б і не прайшло… Мярзотнікаў і без гэтых траіх хапае!

— А ў цябе ёсць нейкая іншая прапанова? — насцярожыўся высокі мужчына.

— Іншая! — сказала я. — Бо нельга, каб яны зніклі бясследна! Трэба зрабіць так, каб яны загінулі, але не тут. Не ў гэтай кватэры, я маю на ўвазе…

— Не зразумеў! — сказаў высокі і паглядзеў на Толіка.

У адказ Толік толькі паціснуў плячыма і здзіўлена зірнуў на мяне.

Халера, як ім растлумачыць відавочнае?! Што, магчыма, хтосьці ў той бандыцкай канторы ведае, куды і з якой мэтай паехалі вечарам гэтыя мярзотнікі! Паехалі і… І зніклі самым незразумелым чынам, ды яшчэ пакінуўшы сваю машыну каля Верчынага пад'езда… Дык няхай лепш яны не знікнуць, а загінуць, але неяк па-іншаму! І, галоўнае, не тут, а дзе-небудзь у іншым месцы!

— Глупства! — сказаў высокі. — Выдумляеш, дзяўчынка, сама не ведаеш чаго!

— Сапраўды! — дадала мама, узнікаючы раптам побач з ім. — Прывітанне, Сігізмунд!

— Прывітанне! — адказаў той, здзіўлена гледзячы на маму. — Дык гэта, выходзіць, твая дачка? А я ж яе толькі маленькай і бачыў…

— Вырасла! — сказала мама і працягнула мне кубачак з кавай. — Трымай!

Але, ігнаруючы іх абодвух, я ўмольна глядзела на Толіка. Я ведала, што падабаюся яму крыху… а можа, і не крыху…

— Давай зробім, як яна просіць, — не вытрымаўшы майго ўмольнага позірку, здаўся Толік і, павярнуўшыся да напарніка, дадаў: — Ну, хочаш, я сам усё зраблю?

Высокі нічога не адказаў, мама таксама прамаўчала. І Толік пачаў.

Перш-наперш ён узняў нябожчыкаў на ногі. У тым сэнсе, што прымусіў іх узняцца і рушыць да выхада. Яны паслухмяна падпарадкаваліся. А той з іх, які быў распрануты да пояса, нахіліўшыся, спрытна падхапіў сваю скураную безрукаўку, што валялася на падлозе зусім побач са мной...

Страшнаватае гэта было відовішча… Мне нават не па сабе неяк стала. Бо ўсе трое выглядалі амаль як жывыя…

Потым яны выйшлі (Толік, вядома ж, падаўся ўслед за імі), і мне адразу ж стала лягчэй. Узяўшы з рук мамы кубачак гарачай кавы, я з асалодай прыпала да яго засмяглымі вуснамі.

— Ну, што, дадому? — спытала мама. — Табе, дарэчы, тэрмінова паспаць трэба!

— Яшчэ хвілінку, — папрасіла я, таропка дапіваючы каву. — Толіка дачакаемся…

У гэты час Толік з’явіўся ў кватэры, і выгляд у яго быў задаволены.

— Парадак! — сказаў ён, па-змоўніцкі падміргваючы мне. — Камар носу не падточыць!

Ды я і сама ведала, што Толік зрабіў усё, як трэба. Гэтыя трое акуратна выйшлі з пад’езда, потым змаглі самастойна залезці ў шыкоўную сваю іншамарку… А потым паімчалі… Куды? А вось гэта не мела аніякага значэння. Галоўнае, яны павінны будуць выехаць за горад, ад’ехаць ад яго на даволі-такі прыстойную адлегласць, а ўжо потым на поўнай хуткасці ўрэзацца ў што-небудзь вялікае і бетоннае. Галоўнае, каб побач людзей не аказалася… Але гэта Толік, здаецца, таксама прадугледзеў…

— Ксенія! — пачала губляць цярпенне мама. — Колькі чакаць?!

— Яшчэ хвілінку!

Я падышла да ложка, на якім салодка спала Верка. Заўтра яна анічога не ўспомніць, апрача таго, як прымала ванну ды «ўпрыгожвала» бігудзямі галаву. Драпіны ад шкляных аскепкаў на руцэ ёй таксама здагадаліся вывесці…

— Ксенія! — паўтарыла мама. — Ідзём!

— Зараз!

Я нахілілася да Веркі і прашаптала ёй у вуха:

— Заўтра ж змяні работу! Чуеш, заўтра ж?! Ты мяне зразумела?!

— Зразумела, — ледзь чутна прамармытала Верка, не расплюшчваючы вачэй. — Заўтра ж змяню!

— І ведай, што я цябе люблю, дурнічку!

— Ксенія! — у трэці раз паклікала мама.

— Іду, ма!

У наступны момант мы былі ўжо ў маёй кватэры…

Дзмітрый ПЯТРОВІЧ

# КАЛІ АДРОДЗІЦЦА СУСВЕТ…



***Дзмітрый Пятровіч нарадзіўся 29 красавіка 1971 года ў Заслаўі. Загадчык літаратурнай рэдакцыі выдавецтва «Мастацкая літаратура». Піша вершы, прозу, музыку, займаецца краязнаўствам. Аўтар кніг паэзіі «Белая квецень кахання» (2010), «Адзіноты пажоўклыя дні» (2014) і кнігі прозы «Белая жанчына» (2012). Знаходзіць натхненне ў музыцы і музыку ў натхненні.***

* * *

Адны пытанні. Цэлая алея,
Уздоўж якой іду, нібыта ў сне.
На іх ніхто ўжо не адкажа мне,
Пакуль вясновы ветрык не павее,
Пакуль не абуджуся ад тугі,
Кранушся вуснамі каханай вуснаў спелых,
І дотык рук адчую дарагіх —
І безліч мрой доўгачакана-смелых,
Нібыта лівень, хлыне уначы,
І загучыць мелодыя кахання…
Іскрынку шчасця мусім зберагчы
На ўсе гады юначае жаданняў.

* * *

Бэзу пасівелыя лісты
Познелістападаўскім марозам
Трохі прыхапіліся, бы слёзы
Восеньска-самотнай нематы,
Што нас разлучыла назаўсёды.
Ды ў сусветах успамінных сноў
Раптам сустракаемся ізноў.
Не напіцца тваіх вуснаў мёду
Мне ужо ніколі. Я і ты
Праляцелі побач, бы каметы…
Застануцца ў лістападзе гэтым
Бэзу пасівелыя лісты.

* * *

Ганяе вецер сумную лістоту
Няспраўджана-асенняе надзей
І лісце, бы шматлікія турботы,
Шпурляе ў заклапочаных людзей,
Якія не глядзяць сабе пад ногі
І топчуць разнаколерны дыван.

А ў вышыні натужна, да знямогі
Курлычуць жураўы. Іх караван
Плыве удалеч небнае пустэчы.
І плача восень, гледзячы услед:
Яна не дачакаецца сустрэчы
З вясной, калі адродзіцца сусвет…

* * *

Знаёмы стук абцасікаў тваіх
У цішыні, як музыка, гучыць
І лашчыць мой усхваляваны слых.
Наблізіўшыся, раптам замаўчыць…
Агонь абдымкаў счую я тады —
Ў палоне гэтым так лагодна мне!
Шчаслівыя хвіліны — як гады…
Адно шкада, што гэта ўсё у сне.

* * *

Мой свет адвечнай
восеньскай тугі.
Тут шэпчуць нешта клёны.
І пагляду
Вачэй каханай,
мілых, дарагіх,
Так не хапае!
Восеньскага саду
Адчай гучыць
у гэтым лістападзе —
З лістотаю
вятры разносяць сум...
Дажджоў слязінкі
ў восені паглядзе
Убачу.
І, напэўна, гэты тлум
Адразу знікне,
Спраўдзяцца чаканні —
Завеснаспевіць
новае
каханне…

* * *

У гэты ранак, золкі і сняжысты,
Мароз малюе ўзоры на акне.
Я ж помню: ты і я, пярэстасць лісця —
Згасала восень, нібы ў цяжкім сне.
Той прымаразак першы сівізною
На скронях свой пакінуў лёгкі след.
…Сняжысты ранак. Між табой і мною
Згасаў любові восеньскай сусвет…

* * *

У чаканні трывожным і я, і зіма.
Разумеем: нічога ужо не сагрэць.
Адспяваў лістапад. І як быццам дарма
Будзе гэта зара для кагось ружавець.
Жыццядайныя сны ўжо не бачу даўно.
Бессэнсоўнасць — дамоклавы меч
нада мной.
І мільгаюць, бы кадры нямога кіно,
Сцэны шчасця былога. Галоўны герой
Цьмяна-шэры, без твару — сябе
не пазнаць:
У люстэрку аблічча сягоння не тое.
…Адспяваў лістапад. І на скронях
ляжаць
Болю шчасця снягі. Ды ўсё гэта —
святое.

**АЛЯКСАНДРУ БЛОКУ**

Чароўнай пані там згубіўся след —
Растаў ужо той пецярбургскі снег.
У святле ліхтарным зноў ідзе паэт,
Каб абудзіць расчараваны свет.
Усё народзіцца нанова — як тады,
У пачатку адбалелага стагоддзя.
У страі стаяць салдаты, як гады,
І нам не да фанфар. А мімаходдзе
Палоніць розумы надзьмутым і пустым,
Захраслі ўсе ў сусветным павуцінні.
Жылі раней мы ў веку залатым
І ў срэбным нават трохі пагасцілі.
Але яго чамусь згубіўся след —
Як і чароўнай пецярбургскай пані…
Ліхтар. Аптэка… Зноў ідзе паэт —
Каб высветліць, што будзе сёння
з намі.

* * *

Зіма мне зноў
падорыць халадэчу
Былой пяшчоты,
прывіднай любві.
І успамінным стане
кожны вечар.
На белым снезе,
яркім ад крыві
Зары-плашча
заходзячага сонца,
У сумным вальсе
вечнае зімы
Закружаць нашы цені.
Бо да донца
Кілішак шчасця
дапілі ўжо мы.

* * *

У дажджы сакавіцкім
мой горад хаваецца сёння
Ад нягодаў-турбот, перажыткаў
мінулай зімы.
І ліецца мелодыя —
кропель шчаслівых стазвонне.
Можа, ты яе счуеш
і хутка сустрэнемся мы…
І святло ліхтароў
рабацініцца ў воблаках лужын,
І званочак трамвайны
стамлёна вуркоча-спявае.
Гэты дождж сакавіцкі
каханню шчасліваму служыць —
Хай мелодыя кропель
нам сэрцы з табой саграваe…

* * *

Упрыгожаны сном, горад
На зімова-нямым улонні
Спіць, нібыта магутны волат,
Сярод снежна-бялюткіх гоняў.
Серабрыстая поўня чыстая
Лье святло сваё на пагоркі.
Цішыня малітоўна-ўрачыстая.
І ніводнай на небе зоркі.
Неўзабаве развеецца морак,
А на ўсходзе саспее зара —
І абудзіцца мой горад,
Каб са мной час жыццёвы звяраць.

*Алесь ЯФІМАЎ*

# КАМЕННАЯ НОЧ

## НОЧ ПЕРШАЯ

> ***Калі хто скажа гары гэтай:***
> ***«падыміся і ўвергніся ў мора»***
> ***і не засумняваецца ў сэрцы сваім,***
> ***а верыць будзе, што збудзецца***
> ***па словах яго, — будзе яму, што б ні сказаў.***
>
> (Мк. 11:23)

Ён ляжыць на сваім няўтульным ложку на спіне, амаль як нежывы. Толькі водбліскі на стомленых вачах Яго, час ад часу на імгненне згасаючы, даюць зразумець, што Яго павекі рухаюцца. Значыць, жывы. А так няма ні тое, што ніякіх іншых рухаў — нават дыханне цяжка заўважыць. Ледзь бачна, як коўдра на Яго грудзях павольна ўздымаецца і апускаецца. І толькі павекі рухаюцца, як механізм нейкага дыяпраектара, змяняючы адзіны кадр тым жа самым — бясконцай колькасцю аднолькавых кадраў.

Ён глядзіць на столь. У пакоі досыць светла, дзякуючы вулічнай ілюмінацыі і адсутнасці штор. Столь часткова шэрая. Дзесьці на ёй — практычна чорныя цені... Калі доўга глядзець, можна ўбачыць нават маленькія дэталі тэкстуры ці заўважыць нейкі малюнак у гульні святла і ценю... Аднак Ён глядзіць уверх пад максімальна зручным вуглом. Ён глядзіць нібыта праз гэтую столь і праз шэраг падобных столяў з вышэйшых паверхаў. Нават праз засветку гарадской ілюмінацыі і праз хмары: Ён глядзіць у космас. Халодны, чорны, пусты, ціхі космас. І дзесьці ў гэтай глухой халоднай чарнаце Ён бачыць вялікую каменную глыбу — астэроід. Гэтая глыба абсалютна бязгучна куляецца, боўтаецца ў чорнай прасторы і ляціць па невядомай арбіце... Тады Ён уяўляе, як накідвае на яе ласо ці нешта такое, — дэталі не маюць значэння, ды і стомлены мозг не можа ўжо іх ствараць — і цягне гэтую глыбу на сябе. Ён уяўляе, як трымае ў руках тоўсты канат, як падцягвае яго спачатку адной рукой, потым другой. Уяўляе, як напружваюцца вены на руках, як сціскаюцца мышцы на грудзях і спіне, як пачынаюць гарэць далоні... Аднак вялікая глыба цягнецца вельмі павольна, але цягнецца. Пасля галава пачынае балець ад таго, што Ён



***Алесь Яфімаў нарадзіўся 7 чэрвеня 1991 года ў Міёрах. У 2014 годзе скончыў філфак БДУ. Завочна навучаецца ў магістратуры і працуе. Жанаты. Твор «Каменная ноч» — дэбют у мастацкай прозе. Пісаўся ў сакавіку 2014 года, у асноўным ноччу, у кватэры на Каменнай горцы. Не аўтабіяграфічны.***

імкнецца дэтальна ўявіць, нават адчуць гэты працэс цяжкай фізічнай працы — пры тым, што на самай справе Ён ляжыць без адзінага руху, максімальна расслабіўшыся... Нават дыхае незаўважна. І тады Ён рэальна падымае рукі і цягне нябачны канат. Цягне старанна, максімальна напружваючы рукі і плечы, паступова: спачатку выкідвае правую руку, хапае канат, моцна напружваючы яе ад пальцаў аж да грудзей, роўна і павольна ў такім напружанні цягне да цела. Пасля тое ж самае левай. І ў гэты момант рэальнасць і ўяўленне сплятаюцца ў адзінае. Ён ляжыць на ложку і цягне нябачны канат, які ўздымаецца праз столь, праз іншыя паверхі, праз засветку, праз хмары, выходзіць з атмасферы і паглыбляецца ў чорны космас. А на другім канцы гэтага каната — вялікая каменная глыба. І гэтая глыба паддаецца Яму: ляціць насустрач. Ён цягне яе так, як цягнуў аднойчы за ланцуг човен па вадзе — спачатку цяжка, аднак потым човен набірае інерцыю, і цягнуць усё прасцей і прасцей, хутчэй і хутчэй. Вада амаль не супрацівіцца руху чоўна, а касмічная чарната ўвогуле не стварае аніякіх перашкод для руху каменнай глыбы. У рэшце рэшт, човен, набраўшы дастакова інерцыі, выпаўзае на бераг амаль на палову сваёй даўжыні, падмінаючы аер ці асаку. Аднойчы Яго каменная глыба таксама дастаткова разгоніцца і абрынецца на галовы, знішчаючы хмарачосы і шэрыя панэлькі...

Дыханне парушана. Перадплечча, кулакі і спіна фізічна баляць. Ён адчувае, як выпнуліся вены. Падымае рукі, каб кроў адышла ўніз... Пасля такіх практыкаванняў галава становіцца лёгкай, хочацца спаць. Ён яшчэ ўяўляе, што канат досыць хутка спускаецца з космасу на Яго грудзі — гэта значыць, глыба ляціць па інерцыі. Аднак да наступнай ночы яна спыніцца, і давядзецца зноў варушыць яе з месца. Тым не менш, Ён адчувае пэўную радасць: нягледзечы на тое, што да гэтай каменнай глыбы тысячы кіламетраў, сёння Ён прыблізіў яе хоць на некалькі метраў, на некалькі імгненняў...

Пасля гэтага Ён прымае нармальную позу — не памерлага, а чалавека, які засынае, павярнуўшыся набок, заплюшчвае вочы і імкнецца заснуць. Ён нават не ведае, колькі часу так праляжаў: магчыма, дваццаць хвілін, магчыма, тры гадзіны; не ведае, колькі засталося на сон. Летам, калі ночы кароткія, можна заўважыць змену колеру неба і рух ценяў. У астатнюю ж пару без гадзінніка складана прасачыць за часам, рух якога Ён губляў, займаючыся глыбай. Нягледзечы на тое, што «ўчора» быў складаны дзень і «заўтра» будзе складаны дзень, настрой Яго крыху паляпшаецца.

Глыба з'яўляецца сэнсам Яго жыцця. Ён шчыра верыць, што насамрэч можа яе прыблізіць і абрынуць. Канешне ж, уяўленне космасу, «канат» былі толькі ўяўленнямі, і Ён гэта разумеў. Аднак лічыў гэта пэўнай формай, пэўным сродкам, праз які можна справакаваць сапраўднае падзенне астэроіда. Справакаваць рэальнае падзенне. Рэальнага астэроіда. Ён шмат чуў пра тое, што думкі і ўяўленні быццам бы матэрыяльныя. Што калі нешта дэтальна ўявіць — яно матэрыялізуецца. Што моцныя жаданні, калі дакладна ведаеш, чаго жадаеш, абавязкова спраўджваюцца. І Ён жадаў. Жадаў і ўяўляў, што аднойчы адбудзецца нешта такое, што будзе агульным фіналам для ўсяго.

Праз нейкія свае роздумы Ён прыйшоў да высновы, што лепшы варыянт — астэроід. Ці нейкая ўспышка на Сонцы, якая імгненна выпаліць планету. Аднак Сонца занадта вялікае, каб можна было паўплываць на яго сваёй думкай. А каменная глыба, касмічная гара... Чаму б і не? Рухаць цэлую гару ў космасе не так і складана, хай нават і думкай. Ва ўсякім разе прасцей, чым раз'юшыць Сонца. Акрамя таго, астэроіды і метэароіды падаюць на Зямлю куды часцей, чым здараюцца вынішчальныя ўспышкі на Сонцы, якіх, наколькі Ён ведаў, у прынцыпе пакуль не было. З аднаго боку, Ён добра разумеў, што ў наш час існуюць тэхнічныя сродкі, якія

дапамагаюць прадказаць з’яўленне астэроіда і зрабіць усё, каб звесці наступствы ад яго падзення да мінімуму. Аднак падбадзёрвалі некаторыя навіны, якія пісалі пра небяспечныя астэроіды ўжо пасля таго, як гэтая небяспека мінула. Гэта значыць, ні тэхнічныя сродкі, ні армія астраномаў не з’яўляюцца гарантамі бяспекі ад нябесных каменняў. А моц гэтых каменняў вельмі вялікая. Быў жа астэроід, які знішчыў дыназаўраў... Быў жа так званы Тунгускі метэарыт... Што казаць, нават на Яго вяку было знакамітае падзенне над Чалябінскам... Значыць, магчыма. Магчыма, што «заўтра» ніколі не здарыцца. Магчыма, што цяпер Ён засне, а неўзабаве на яго абрынецца каменны кулак нябёсаў. І ніякага «заўтра» ўжо не будзе. Гэта можа здарыцца праз тыдзень, праз месяц, праз год... Але ўсё роўна здарыцца, бо Ён шчыра верыў... І адразу ўсе прыйдуць да адной роўніцы. І некаторыя, магчыма, нават паспеюць падумаць: як? чаму? за што? І толькі Ён будзе ведаць аб сваёй прыналежнасці да гэтага. Прыналежнасці, якую нельга ні даказаць, ні абвергнуць. Але Ён будзе ведаць. І Яму гэтага дастаткова.

З такімі думкамі Ён заснуў.

## НОЧ ДРУГАЯ

***Чорны чалавек***
***На ложак да мяне садзіцца,***
***чорны чалавек***
***Спаць не дае мне ўсю ноч.***

С. ЯСЕНІН

Ён ляжыць на ложку, як у труне. Роўна, скрыжаваўшы рукі на грудзях. Думае пра тое, што калі-небудзь насамрэч будзе так ляжаць у дамавіне. Цікава, колькі чалавек прыйдзе з Ім развітацца? Пра што яны будуць казаць, успамінаць? Ці будуць распавядаць адно аднаму нейкія цікавыя гісторыі, у якіх Ён — галоўны герой? Калі так, цікава было б паслухаць... Ён ляжыць нерухома і імкнецца ўявіць, што гэта могуць быць за гісторыі. Магчыма, Ён пакінуў па-за ўвагай тыя моманты са свайго жыцця, пра якія ўзгадаюць людзі на Яго пахаванні. А пра тое, што было насамрэч важна для Яго, тыя людзі, верагодна, нічога і не скажуць. Увогуле, цікава, што Ён за чалавек з пункту гледжання тых, хто мае з Ім стасункі... Для кагосьці, магчыма, адзін, для кагосьці — іншы... А ці ведаюць яны, які Ён насамрэч? Ці, можа, гэтага і Ён не ведае?.. Было б вельмі крыўдна, калі на пахаванне прыйшлі б па завядзёнцы, таму што так трэба. Пастаялі б каля труны моўчкі, магчыма, сказалі б «прабач», не ведаючы за што, і пайшлі дамоў. Ці засталіся б паразмаўляць з агульнымі знаёмымі на жыццёвыя — якая іронія: размаўляць на пахаванні пра жыццёвае — тэмы. Усё ж, якая-ніякая нагода сустрэцца, пагаварыць... І Яго пахаванне было б толькі нагодай сустрэцца... Сумна, крыўдна. Больш за ўсё ад разумення, што прыкладна так яно, хутчэй за ўсё, і атрымаецца.

І ўяўляе Ён, што ляжыць у труне, аднак у той жа час — чуе і бачыць усё, што адбываецца вакол. Назірае за тым, як ацэньваюць Яго жыццё. З чымсьці згаджаецца, з чымсьці — не. Некаторыя прамовы Яго здзіўляюць, некаторыя прымушаюць задумацца і перагледзець пэўныя рэчы... Было б лепш, каб людзі, якія прыйдуць, не верылі ў існаванне душы, не верылі ў тое, што Ён можа іх пачуць. Бо толькі ў такім выпадку яны былі б шчырымі. Няхай нават казалі б і нешта адмоўнае, хоць так і не прынята. Горш за ўсё будзе, калі яны нічога не скажуць: ні ўслых, ні нават у думках. Вось гэта ўжо будзе насамрэч крыўдна і сумна. Гэта, а не тое, што Ён страціў жыццё...

— Якое яшчэ пахаванне? Ці ты не разумееш, што, калі твой астэроід насамрэч ляснецца, нічога не будзе? Ты ж хочаш, каб усе памерлі разам, адначасова... Тады не будзе ніякіх абрадаў, ніякіх размоў, «даніны памяці»...

Гэта быў голас Злога. Злы заўжды гаварыў павольна, з нейкай паскуднай салодкай інтанацыяй, быццам бы ўвесь час здзекуючыся з Яго. Гэтая агідная інтанацыя была кантраснай зместу слоў і падкрэслівала іх дасціпнасць, прымушала прыслухоўвацца. У той жа час Яму здавалася, што Злы заўсёды самазадаволена пасміхаецца ад сваёй трапнасці і нейкай мудрасці, сталасці ў параўнанні з Ім. Пасміхаецца ад таго, што заўжды можа апусціць Яго з нябёсаў на зямлю і паказаць недакладнасці ў разважаннях і марах; заўжды можа выкрыць лазы ў сістэме, якую Ён сам сабе стварыў; заўжды можа загнаць Яго ва ўласныя пасткі. Бо сам Ён летуценна не жадаў звяртаць на ўсё гэта ўвагі... Тым часам, Злы працягваў:

— Ці ты што? Усё ж не верыш да канца ў сваю ідэю? А, крывадушнік? Усё ж марыш пра мяшчанскія радасці? Усё-ткі хочаш, каб цябе шанавалі і любілі?.. Самому не сорамна? Пазёр! Слабак...

Ён ляжыць і слухае. Разумее, што Злы, як звычайна, мае рацыю. Ад гэтага зрабілася сумна, і Яго ахапіла роспач. Злы вытрымаў паўзу, быццам бы даўшы час асэнсаваць пачутыя словы. І здалося Яму, што Злы зноў самазадаволена пасміхаўся падчас гэтае паўзы: быццам нават не чакаў адказу, ведаючы, што адказаць няма чаго.

— Ты імкнешся знайсці гармонію ў свеце і дазваляеш сабе нават крыўдаваць на Бога, кажучы ў сэрцы сваім, што гэты свет недасканалы. І потым яшчэ задаеш рытарычныя пытанні: маўляў, чаму не ўсё так гладка, чаму тут столькі хібаў і несправядлівасці? Але ў той жа час ты нават не можаш стварыць ідэальны свет ва ўласнай галаве. Там, дзе нішто табе не замінае, дзе ўсё абмяжоўваецца фантазіяй. Нават у гэтым свеце ты не можаш знайсці гармоніі. Дык чаго ты жадаеш насамрэч, калі нават у сваім уласным свеце сутыкаешся з бясконцымі супярэчнасцямі?.. Хіба верыш ты шчыра ў тое, што можаш абрынуць каменную гару, калі ў той жа час марыш пра прыгожае пахаванне?

Ён ляжыць і маўчыць. У прынцыпе, маўчаў Ён і перад гэтым, аднак цяпер замаўчалі нават думкі. Ён пачуў практычна абсалютную цішыню, што панавала ў начным пакойчыку. Словы Злога ўвялі Яго ў нейкі ступар. Запярэчыць не было чым. Было толькі адчуванне, быццам Ён стварыў пэўную гульню і сам жа ў яе прайграў. Пра гэтую паразу, у адрозненне ад шэрагу іншых, ніхто не ведаў, аднак Яму было незвычайна сорамна. Але адначасова з гэтым — магчыма, праз велізарную стомленасць — было адчуванне нейкай нявызначанасці... Нават калі Злы і мае рацыю, гэта фактычна нічога не мяняе. Аднак Ён ляжыць і чакае іншага, супрацьлеглага меркавання. І яно прагучала:

— Ведаеш, я думаю, што ўсе, хто кажуць: «хачу здохнуць», насамрэч хочуць якраз адваротнага. Яны вельмі хочуць жыць. Але жыць нармальна. Бо адкуль гэтае фальшывае жаданне «здохнуць»? Ад незадаволенасці існуючым жыццём. Калі разабрацца, можна раскласці па палічках усё, што іх — гэтых людзей — не задавальняе. І атрымаецца, што ўсё будзе ўпірацца ў шэраг пэўных рэчаў, якія не адпавядаюць жаданню чалавека. Калі гэты шэраг невялікі — то яшчэ можна пазмагацца і паспрабаваць выправіць існуючае жыццё. А калі ўсяго столькі, што завальвае з галавой, некаторым прасцей усё скончыць, чым паспрабаваць разгрэбсці. І людзі «хочуць здохнуць», магчыма, дзесьці ў глыбіні душы спадзеючыся, што насамрэч яны змогуць пачаць усё спачатку. Як часам прасцей пераўсталяваць аперацыйную сістэму камп'ютара, чым выправіць... Ці, ва ўсякім разе, яны скончаць бессэнсоўнае існаванне, якое абсалютна не падабаецца...

Гэта быў Добры. У адрозненне ад Злога, ён казаў няўпэўнена, нават неяк разгублена. Гаварыў так, быццам бы імкнуўся пераканаць уласнымі аргументамі самога сябе і паверыць у іх. Аднак пры гэтым, здавалася Яму, што Добры размаўляе асабіста з Ім, а вось Злы быццам бы разважае ўслых, і яму ўсё роўна — слухаюць ці не.

Словы Добрага паўплывалі на Яго, магчыма, не зусім так, як было трэба. Больш за ўсё зачапіла думка пра тое, што насамрэч іншым часам працей усё знішчыць і пачаць спачатку. Сам Ён нярэдка пра гэта разважаў, але толькі на ўзроўні асобы. Цяпер жа раптоўна зразумеў, што Яго вялікая ідэя наконт каменнай глыбы з'яўляецца квінтэсэнцыяй гэтай тэзы. Раней Ён думаў пра астэроід як пра ўсеагульны канец, аднак цяпер Яму стала зразумела, што гэта адначасова і пачатак новага жыцця, жыцця ў літаральным, фізічным сэнсе. Раптоўна Ён усвядоміў, што пасля таго, як астэроід калісьці вынішчыў рэптылій, пачалося развіццё млекакормячых, кульмінацыяй чаго стала чалавечая цывілізацыя. І цяпер Яму здавалася цалкам верагодным, што вынішчэнне новым астэроідам чалавечай цывілізацыі можа прывесці да развіцця разумнага жыцця па іншым кірунку, які, магчыма, будзе больш паспяховым. І хай на гэта спатрэбяцца дзясяткі мільёнаў гадоў — яно таго вартае... Яму самому было дзіўна, што прыйшоў Ён да гэтай абсалютна відавочнай, як цяпер здавалася, думкі так позна. Але ж Добры дадаў:

— А вось калі б даць гэтым «суіцыднікам» выбар: альбо насамрэч «здохнуць», альбо ў адзін момант выправіць у іх жыцці ўсе хібы (на іх погляд)... Упэўнены, што ўсе абралі б другі варыянт і былі б самымі шчаслівымі...

— Пазёры, — перабіў яго Злы, расцягнуўшы гэтае слова. Маўляў, што і патрабавалася даказаць. Добры запярэчыў:

— Не... Кожны чалавек хоча быць шчаслівым і мае на гэта права... І такія людзі заслугоўваюць дапамогі ці хаця б падтрымкі... На жаль, абставіны не заўжды можна пераадолець жаданнем ці працай... Інваліды ці цяжка хворыя, напрыклад, і рады былі б змяніць сваё становішча, каб жыць і не скардзіцца, аднак гэта немагчыма... Калі камусьці пашчасціла менш за іншых — хіба гэта яго віна? Хіба вінаваты чалавек, што нарадзіўся, напрыклад, падчас голаду ці вайны?

— У кожнага свая вайна...

Ён ляжыць і думае. «Хіба вінаваты чалавек, што нарадзіўся падчас голаду ці вайны?»... Вядома, што не. Аднак, хутчэй за ўсё, вінаваты іншыя людзі. Канешне, Ён добра разумеў, што далёка не ўсё залежыць ад чалавека, у тым ліку і адмоўнае. Але гэта толькі падкрэслівала, што ўся гэтая сістэма ў сукупнасці мае шэраг хібаў і ўвогуле трымаецца невядома на чым. Заб'е каго-небудзь маланкай — і быццам бы ніхто і не вінаваты. А чалавека няма. І ўсё яго жыццё, усе планы выявіліся бессэнсоўнымі. Але і не гэта самае страшнае. Больш страшна, што ў таго, памерлага, застануцца родзічы, сябры, любімы сабака. Для іх гэта, магчыма, будзе большай трагедыяй, чым для яго самога. Увогуле, раптоўная смерць — далёка не самы кепскі варыянт. Раз — і ўсё. Цябе няма, твае родзічы перад фактам. А хвароба? І ты пакутуеш, і блізкія... І нічога нельга зрабіць, застаецца толькі чакаць. І не ведаеш: заўтра, праз тыдзень, праз год?.. Сэнсы ўжо страчаны, жыцця няма. Застаецца толькі пакутлівае, непатрэбнае існаванне... Таму ўсё ж такі варта абрынуць гэтую глыбу. Варта прывесці ўсіх да роўніцы... Ды і думка наконт новага пачатку, якую Ён раптоўна для сябе адкрыў, падмацоўвала гэтае рашэнне.

Канешне, Ён разумеў, што, па-шчырасці, хацеў бы пражыць доўгае жыццё — плённае і шчаслівае. І Яму было б прыемна, каб на пахаванне прыйшло шмат людзей, каб ім было што пра Яго сказаць. Больш за тое, хацелася б, каб Яго памяталі

яшчэ доўга пасля смерці... Здавалася б, якая розніца: цябе ўсё роўна ўжо не будзе. Аднак хочацца нават пасмяротнай пашаны...

Злы, падслухаўшы гэтыя думкі, запытаў:

— А што з’яўляецца большым эгаізмам: жаданне пасмяротнай пашаны ці прынцып «пасля мяне — хоць трава не расці»?

І зноў Яму падалося, што Злы самазадаволена пасміхаецца... Што адказаць, Ён не ведаў. Таму, яшчэ крыху паляжаўшы, зноў пачаў уяўляць, як раствараецца яго столь і столі вышэйшых паверхаў, як у чорным і халодным космасе бязгучна плыве каменная глыба... Уяўляе, як Ён накідвае на яе ласо ці нешта такое, — дэталі не маюць значэння, ды і стомлены мозг не можа ўжо іх ствараць — і цягне гэтую глыбу на сябе... І Яго дзіўны рытуал паўтараецца зноў.

## НОЧ ТРЭЦЯЯ

***Я веру, што ў кожным жыве нехта іншы.***
***Каварны Чалавек. Чаму?***
***Таму што мы нічым не адрозніваемся ад матрошкі.***
***Ува мне — Каварны Чалавек,***
***а ў ім — Той, хто спадзяецца.***

С. КІНГ

Ён жыў з імі з ранняга дзяцінства.

Цяпер Ён ужо і сам не памятаў, калі з’явіліся Злы і Добры... Аднак Ён цудоўна разумеў, што яны — спараджэнні Яго свядомасці, стварэнні Яго розуму. У шырокім сэнсе — Ён сам.

Калі Ён быў зусім маленькім, старыя людзі казалі, што быццам бы на правым плячы Яго (і кожнага чалавека) сядзіць анёл, а на левым — чорт. І ўвесь час даюць нейкія парады, закладваюць у галаву пэўныя ідэі. Анёл — карысныя і правільныя, чорт — кепскія і злачынныя. Але ж Ён, колькі памятаў, ніколі ў гэта не верыў. Ды і старыя, што пазнаёмілі Яго з такой байкай, былі не занадта ўжо забабонныя — ніхто не падаваў гэта на поўным сур’ёзе. Хутчэй, гісторыя пра гэтых дарадчыкаў была накіравана на тое, каб Ён ніколі не прымаў паспешлівых рашэнняў, а спачатку падумаў: якая думка можа быць «ад анёла», а якая — «ад чорта». Акрамя таго, усе кепскія паводзіны і ўчынкі малому Яму можна было зваліць на тое, што, маўляў, «нячысцік заблытаў». Аднак, іншым часам, Ён і сам уяўляў, што пасля таго, як рабіў нешта кепскае — спецыяльна ці не — анёл чытаў Яму натацыі, ушчуваў Яго. І Ён разважаў, што анёл усё ж добры, ён не можа крычаць ці сварыцца, як гэта рабілі дарослыя, і казаць, які Ён дрэнны. Таму анёл павінны быў казаць пра ўсе памылкі і хібы больш тонка і спакойна, але ў той жа час — вельмі дасціпна. І ў такія моманты Ён уяўляў асуджальны маналог анёла. Хутчэй за ўсё, гэты маналог насамрэч быў маналогам Яго сумлення, таму ўяўляўся ён і хутка. Але некалькі разоў гэтыя асуджальныя маналогі даводзілі Яго да слёз... Нават скаргі рэальных людзей не маглі прывесці да такога эфекту, бо людзі не ведалі Яго праўды, не ведалі ўсёй карціны, таму іх заўвагі былі ў рознай ступені недарэчнымі. Ён мог іх аспрэчыць, хоць Яго і не слухалі — таму, што быў малы, — ці вінаваціў у падмане. Таму скаргі людзей не мелі пэўнага эфекту і часта выклікалі злосць, а не пакаянне. А вось «маналог анёла» заўжды трапляў у самае сэрца, бо фактычна выдуманы анёл ведаў сапраўдныя Яго правіны і казаў толькі па справе. Таму, іншым часам пасля гэткіх «маналогаў анёла», Ён горка плакаў у адзіноце ад сораму і шчырага пакаяння.

Акрамя гэтага, «анёл» быў і Яго суцяшальнікам. Калі Яго крыўдзілі ці несправядліва каралі, добры «анёл» ласкава гаварыў: «Я ведаю: ты невінаваты. Я ведаю, і ты ведаеш...». Ці калі Ён рабіў нешта дрэннае выпадкова ці несвядома, а на Яго сварыліся, «анёл» таксама з'яўляўся амаль адзіным суцяшальнікам: «Я ведаю, ты не хацеў рабіць блага... Я ведаю, ты хацеў зрабіць як лепш, а цябе пакаралі несправядліва»... І тады Ён зноў плакаў — не столькі ад крыўды, колькі ад разумення, што гэта ніякі не анёл, а сам Ён сябе суцяшае. Маленькі хлопчык, якога несправядліва пакрыўдзілі і якога не было каму пашкадаваць, душыўся слязьмі, і толькі добры «анёл» Яго суцяшаў і казаў ласкавыя словы...

Злы быў хутчэй заступнікам. Калі анёл рабіў Яму слушныя заўвагі ці суцяшаў, Злы апраўдваў і заступаўся за Яго. Магчыма, постаць Злога была патрэбна, каб не рабіць увесь час з сябе ахвяру, каб не плакаць, а знайсці сваю праўду, абгрунтаваць свае ўчынкі. Калі Ён рабіў нешта кепскае, Злы не папракаў, а шукаў прычыны ў знешніх абставінах. Калі Ён учыняў нешта дрэннае выпадкова, ненаўмысна, Злы казаў: «Адкуль ты мог ведаць?.. Затое — гэта табе ўрок, у наступны раз будзеш разумнейшы. Увогуле, усе памыляюцца, і нічога кепскага ў гэтым няма». Калі Яго крыўдзілі, Злы казаў, што не трэба звяртаць на гэта ўвагі, што крыўдзіцелям пасля будзе яшчэ горш, калі яны зрабілі несправядліва, а Яму наадварот пашэнціць у чым-небудзь. Казаў, што трэба пераносіць усе крыўды мужна і тады ў будучым пакрыўдзіць Яго будзе ўсё цяжэй і цяжэй... У прынцыпе, Злы быў не такі ўжо і злы. Толькі ў рэдкіх выпадках ён казаў нешта сапраўды злое, калі раіў Яму не шкадаваць сябе, а супакоіцца і падумаць, як за сябе адпомсціць. Такім чынам, на той час Злога было б больш дарэчна называць Справядлівым, чым Злым.

Крыху пазней Ён навучыўся правільна разважаць. Нехта параіў у любой складанай сітуацыі вызначыць спачатку ўсе «плюсы», пасля ўсе «мінусы», параўнаць гэтыя вынікі і прыняць рацыянальнае рашэнне. Каб не заблытацца ва ўласных думках, Ён, яшчэ малы, пералічваў «плюсы» адным голасам, а «мінусы» — іншым. Разам з голасам мяняў інтанацыю, дадаваў пэўныя асаблівасці маўлення — як Станоўчаму, так і Адмоўнаму. І крыху прызабытыя на той момант вобразы анёла і чорта быццам бы атрымалі другое жыццё. Ён нібыта слухаў спачатку адно меркаванне, пасля — іншае, а ўжо потым нібыта сам прымаў рашэнне. Больш за тое, падчас Яго разважанняў, ужо пасля пералічэння плюсаў і мінусаў, Станоўчы і Адмоўны маглі нешта дадаваць і нават спрачацца. На той час сам Ён расцэньваў гэта як хітры прыём, што дазваляў дакладна размяжоўваць пазітыўнае і негатыўнае, не паўтарацца і не блытацца ў сваіх разважаннях. Аднак вельмі хутка і, разам з тым, незаўважна вылучэнне са свядомасці Станоўчага і Адмоўнага стала аўтаматычным. Калі раней Ён прыкладаў некаторыя высілкі, каб у патрэбны час думаць голасам, напрыклад, Станоўчага, — з адпаведнай інтанацыяй, з характэрным лексіконам і іншымі ўласцівасцямі, то з пэўнага моманту дыялогі ў Яго галаве пачалі з'яўляцца амаль самастойна.

З цягам часу «самастойнасць» Станоўчага і Адмоўнага толькі развівалася. Разам з тым, яны нагадвалі пра сваё існаванне ўжо не толькі падчас складанага выбару, але і ў іншых сітуацыях. Пошук «плюсаў» і «мінусаў» перастаў абмяжоўвацца пэўнымі маральнымі ростанямі, а пашырыўся ў дачыненні нават да прадметаў і ператварыўся ў звычку аналізаваць шэраг рэчаў. Адначасова самі вобразы Станоўчага і Адмоўнага зноў змяніліся: калі раней яны казалі нешта адносна аб'ектыўнае, то з цягам часу сталі больш суб'ектыўнымі, больш рэалістычнымі і нават нейкімі больш жывымі. Яны пачалі агучваць не толькі факты ці лагічныя высновы, але і некаторыя здагадкі, разважанні, сафізмы. Кожны з іх быццам бы аброс пэўнымі характарыстыкамі ці нават набыў уласны характар, як рэальны чалавек.

Але Ён усё роўна разумеў, што гэтыя вобразы — толькі частка Яго свядомасці, Ён сам. А іх дзівосную самастойнасць, якая ўжо часам насцярожвала, тлумачыў тым, што Яго мозг праз рэгулярную практыку налаўчыўся генерыраваць гэтыя вобразы вельмі-вельмі хутка. Настолькі хутка, што пэўны змест змяшчаўся ў пэўную форму і падаваўся ўжо пад выглядам рэплікі амаль што іншай асобы, а не ў выглядзе звычайных думак. Падчас разваг над гэтым пытаннем, Ён прыйшоў да высновы, што такая сітуацыя аналагічная той, калі чалавек вучыцца размаўляць: спачатку ён задумваецца, якія словы лепш падабраць і як правільна іх скласці ў сказ, а ўжо потым, з вопытам, шпарыць так хутка, што і не паспявае заўважыць гэты працэс падбору слоў і пабудовы сказаў. Але ж сам працэс па-ранейшаму адбываецца, толькі больш хутка. І Ён лічыў, што праз штодзённую практыку навучыўся думаць за траіх. Але ўсе тры — Ён адзін. Дарэчы, калі Ён разважаў пра іх, яны «маўчалі», быццам бы гэтых «асоб» увогуле не існавала. Значыць, Ён усё ж мог іх кантраляваць. І таму быў спакойны.

Тым не менш, час ішоў. І вобразы Яго «дарадцаў» развіваліся. Іх самастойнасць і самадастатковасць сталі такімі значнымі, што нярэдка Ён ужо ўступаў з імі ў дыскусіі, палемікі. Яны маглі спрачацца некалькі гадзін, і — што самае цікавае — гэтыя спрэчкі былі прадуктыўнымі для Яго. Неаднаразова пасля гэтага Ён прыходзіў да відавочнай думкі: калі яны — гэта Ён, то як пасля спрэчкі з самім сабой можна змяніць светапогляд і па-іншаму глядзець на рэчы? Таму пытанне забывалася. У крайнім выпадку, Яму падабалася лічыць, што гэты палілог — форма ўнутранага маналогу і нічога больш. А ўнутраны маналог — гэта натуральна... Менш натуральным было тое, што «дарадцы» нярэдка ведалі тое, чаго Ён не ведаў. Аднак і гэтаму знайшоў тлумачэнне: палічыў, што нейкую частку інфармацыі, якую засвойваў, натуральна, Ён, а не хтосьці яшчэ, мозг «хаваў» у пэўным сховішчы, калі яна, гіпатэтычна, падыходзіла пад мадэль вобраза Станоўчага ці Адмоўнага. І ўжо пасля, пры генерацыі чарговай рэплікі гэтых вобразаў, мозг даставаў яе з глыбінь памяці і падаваў праз словы аднаго з іх. Такая тэорыя здавалася цалкам лагічнай і верагоднай, і Ён зноў быў спакойны. Але іншым разам думаў: а раптам яны нейкім чынам маюць доступ да таго, што Леруа называў наасферай?.. Гэтая думка выклікала кепскія адчуванні, і Ён заўжды ад яе адмаўляўся.

Ён жыў з імі з ранняга дзяцінства. Аднак, яны былі толькі галасамі. Ён не мог уявіць іх знешнасць і нават не імкнуўся гэтага рабіць. Не бачыў у гэтым аніякага сэнсу. Тым не менш, час ад часу Ён усё ж думаў, што можна было б іх візуалізаваць: як анёла ці чорта ў стэрэатыпным выглядзе, ці як анёла светлага і анёла цёмнага — такога ж, толькі з чорнымі крыламі, ці, як гэта модна ў масавай культуры, як сябе — аднаго з німбам і крыламі, другога з рагамі і хвастом. Ад апошняга вобраза Яму было ўвогуле смешна, — настолькі гэта ўяўлялася недарэчным і нерэалістычным. Але навошта? Ніякай патрэбы ў гэтым Ён не бачыў. Тое ж было і з імёнамі. Зараз, для сябе, Ён умоўна называў аднаго Добрым, а другога — Злым. Каб была пэўная асацыяцыя з галасамі. Аднак гэтыя мянушкі ўжо не з'яўляліся адлюстраваннем іх сутнасці, а былі нейкай Яго звычкай. Іншым часам Ён называў іх Светлым і Цёмным таму, што яны былі антыподамі, хоць з цягам часу кантраст паміж імі памяншаўся. Даваць ім нейкія сапраўдныя імёны было бессэнсоўна, а самім ім было ўсё роўна...

Кім былі яны цяпер? Ён неаднойчы разважаў над гэтым пытаннем і меў некалькі меркаванняў. У першую чаргу, увасабленнямі Дабра і Зла — дзякуй байцы пра анёла і чорта. Аднак Добры і Злы, на Яго погляд, былі вельмі далёкімі ад абсалюта ў гэтых сферах. З іншага боку, Добры мог быць увасабленнем пачуццяў, а Злы — розуму, што было бліжэй да рэчаіснасці і пацвярджалася зместам і спосабам падачы іх

слоў. Развіваючы гэтую думку, Ён прыйшоў да больш шырокай тэорыі: Добры мог быць увасабленнем жаночага пачатку, а Злы — мужчынскага. Аднак, пасля шматлікіх разважанняў, Ён так і не схіляўся ні да аднаго з тлумачэнняў. Па-першае, Яму здавалася, што ўсе гэтыя тэорыі ў пэўнай ступені правільныя, а па-другое, што было для Яго больш значным, — не існавала ніякага сэнсу ў аналізе вобразаў «дарадчыкаў». І ён жыў з імі — галасамі за сваёй спінай, якіх па звычцы працягваў называць Добрым і Злым.

## НОЧ ЧАЦВЁРТАЯ

***Першая прыкмета пачатку пазнання — жаданне памерці.***

Ф. КАФКА

Ён ляжыць на сваім няўтульным ложку на спіне, амаль як нежывы. Думае пра словы Злога: «Што з’яўляецца большым эгаізмам: жаданне пасмяротнай пашаны ці прынцып «пасля мяне — хоць трава не расці»? Раней Ён часта разважаў над крыху іншым пытаннем: як усё скончыць, каб нікому не было дрэнна? Часта думаў пра самагубства, бо жыць так, як жыў Ён, далей не было ні сіл, ні сэнсу. Але заўжды прыходзіў у гэтых разважаннях да тупіка. З аднаго боку, Яму не давала спакою думка, што самагубства — самы страшны грэх. Пра гэта заўжды нагадваў Добры, ды і сам меў перад самагубствам нейкі страх. Бо верыў, што смерць — не канец. Апрача гэтага, Яму было страшна ўласна здзейсніць гэты ўчынак: страшна было адчуць фізічны боль, страшна зразумець, што гэта, верагодна, памылка. Была і нейкая дурная надзея, што «заўтра» нешта зменіцца, што Яго неўзабаве чакае нейкі прыемны падарунак лёсу, што жыццё ўрэшце палепшыцца. І гэтае «заўтра» чакалася кожны наступны дзень, год за годам. І нягледзячы на тое, што насамрэч усё толькі пагаршалася, надзея не знікала і не слабела. Таму і была дурной... І вось гэтая незразумелая сумесь рэлігійных уяўленняў, жывёльнага інстынкту самазахавання і наіўнай чалавечай надзеі была адной з прычын, якія не дазвалялі Яму здзейсніць самагубства і нават сур’ёзна думаць пра гэта.

Другая прычына была больш празаічнай: Ён разумеў, што Яго самагубства будзе клопатам для іншых. Нехта першым знойдзе Яго цела, якое, натуральна, будзе мець не лепшы выгляд — ужо непрыемнасць для чалавека. Добра яшчэ, калі хутка знойдуць... Некаму трэба будзе паведаміць пра гэта ў адпаведныя інстанцыі... Камусьці давядзецца прыбіраць за Ім рэчы... А што будуць адчуваць сваякі, калі даведаюцца пра такую навіну? Магчыма, для некаторых з іх Яго смерць стане сапраўдным горам. Хаця, наўрад ці. Магчыма, некаторыя мелі на Яго пэўныя спадзяванні... У любым выпадку, ім трэба будзе займацца пахаваннем і спадарожнымі пытаннямі... Разумеючы ўсё гэта, Ён адчуваў нейкі сорам перад усімі гэтымі людзьмі. Уяўляючы такую сітуацыю, Ён шкадаваў больш іх, чым сябе, хоць адначасова разумеў, што ўжо праз пару год ім будзе ўсё роўна. Тым не менш, іншым разам у сваіх разважаннях на гэты конт Ён даходзіў да таго, што можна з’ехаць на ўсе апошнія грошы куды-небудзь у Сібір, заблукаць у глухой тайзе і памерці там, каб цела Яго ніколі не знайшлі. А напярэдадні напісаць родным, што ўсё добра, што пачынаецца новае жыццё, толькі вось сувязь падтрымліваць будзе цяжка... Аднак Злы заўжды перарываў такія разважанні відавочнымі аргументамі, якія разбуралі гэтыя дзіўныя і наіўныя фантазіі да рэшты. Добры ж увесь час паўтараў, што самагубства і нават думкі пра яго — цяжкі грэх.

Пасля гэтага Ён прыйшоў да высновы, што аптымальным варыянтам будзе няшчасны выпадак. І Ён нават пачаў на яго спадзявацца, чакаць, што з Ім павінна нешта здарыцца. Такі варыянт адначасова стаў бы для Яго і Божай ласкай (маўляў, Бог пашкадаваў Яго, не стаў даводзіць да граху самагубства і адначасова пазбавіў пакут), і вырашыў бы пытанне са страхам забіць сябе ды з дурной надзеяй на лепшае. Аднак, з іншага боку, праблемы побытавага характару засталіся б. Цела, бруд, непрыемная навіна для родных, клопаты з пахаваннем... Ён разумеў, што калі здарыцца няшчасны выпадак, — быццам бы Ён і ні пры чым, — усё можна будзе зваліць на волю лёсу. Але разуменне таго, што сам жадаў бы гэтага выпадку, пакідала Яму пачуццё віны. Ды і шкадаванне людзей, якім Яго смерць прынесла б клопаты, нікуды не падзелася. І вось ужо пасля гэтага ў Яго хваравітай свядомасці ўзнікла жаданне нейкага глабальнага, агульнага для ўсіх, канца.

Нягледзячы на тое, што ў сваіх разважаннях наконт самагубства Ён быццам бы прыйшоў да пэўных высноў, вельмі часта вяртаўся начамі ў самы пачатак гэтых думак і праходзіў кола «самагубства — няшчасны выпадак — глабальная катастрофа» зноў і зноў... І вось цяпер Ён ляжыць і думае, што ідэя глабальнай катастрофы ўсё ж з'яўляецца геніяльным выйсцем і вырашае пытанне Злога, хоць яно і з'яўляецца правакацыяй. Пытанне гэтае, як і абсалютная большасць іншых псеўдафіласофскіх пытанняў Злога, уяўляе сабой гордзіеў вузел. Аднак у дадзеным выпадку, падзенне каменнай глыбы гэты вузел рассячэ. Бо, з аднога боку, пра ніякую пасмяротную пашану гаворкі быць не можа, паколькі шанаваць Яго не будзе каму. А з другога боку, «пасля мяне — хоць трава не расці» азначае ўсё ж не сапраўдную траву, а цяжкасці, якія чалавек пакідае пасля сябе іншым людзям. Паколькі ж усе павінны памерці разам, то і з цяжкасцямі ніхто больш не сутыкнецца. Ніхто і ніколі... І Яго хваравітая і санлівая свядомасць успрымае гэтыя думкі як нейкае прасвятленне, як яшчэ адно пацверджанне неабходнасці абрынуць астэроід. І Ён стомлена пасміхаецца сам сабе...

Раптоўна пачуўся голас Злога:

— Ты ж разумееш, што тваё самазадавальненне ад падзення астэроіда і ёсць тая ж пасмяротная пашана? Прызнайся, што яна патрэбна табе сама па сабе, а не таму, што будзе з'яўляцца паказчыкам плёну твайго жыцця, паказчыкам таго, што ты пакінуў пасля сябе нешта карыснае... Як патрэба пацверджання нейкай перавагі над іншымі. І хіба ты не атрымаеш тое ж самае, калі нейкім чынам здолееш абрынуць свой астэроід? Атрымаеш, нават у большай ступені. Магчыма, у абсалютнай. Бо ты будзеш лічыць, што астэроід зваліўся не выпадкова, што гэта менавіта ты яго абрынуў, што менавіта ты, а не хто-небудзь іншы, паставіў кропку ў існаванні чалавечай цывілізацыі. Ніякія прамовы на пахаванні і блізка не змогуць параўнацца з фактам ажыццяўлення тваёй хворай ідэі ў памеры самазадавальнення, якое ты жадаеш адчуць. Бо насамрэч ты шукаеш толькі самазадавальнення. І ведаеш гэта. І табе нават усё роўна, якім чынам ты яго атрымаеш: працуючы ўсё жыццё на карысць людзей ці знішчыўшы гэтых жа людзей у адзін момант. І паколькі другі варыянт прынясе самазадавальнення значна больш, ты і абіраеш менавіта яго. Гэта — квінтэсэнцыя твайго эгаізму... Ці, дакладней, геданізму. У любым выпадку, гэта і ёсць адказ на маё пытанне: той варыянт, які ты абярэш і будзе з'яўляцца правільным, бо выбар ты будзеш рабіць толькі на сваю карысць.

Злы ўзяў паўзу, даючы Яму асэнсаваць усе гэтыя словы і быццам бы падкрэсліваючы наяўнасць адказу на пытанне. Так, Злы зноў Яго абдурыў: пытанне, якое здавалася рытарычным і нейкім несур'ёзным, насамрэч з'яўлялася пэўным тэстам, інструментам, з дапамогай якога Злы ў чарговы раз даказаў, што на некалькі крокаў

далейшы за Яго. Цяпер Ён думаў, што трэба было забыцца на гэтае пытанне, пакінуць яго па-за ўвагай і тады б Ён атрымаў пэўную перавагу, пазбавіў Злога лішні раз патыкаць Яго пысай у недахопы... Аднак, па вялікім рахунку, было ўсё роўна. Значна больш Яму не падабалася зневажальная крытыка Злога, тое, што ён уздымаў на паверхню балючыя тэмы, пра якія Яму непрыемна было слухаць. Ён не быў упэўнены, што Злы кажа праўду і знаходзіць Яго ідэям і дзеянням адзіна правільныя тлумачэнні. Аднак вельмі гладка гэта атрымлівалася ў Злога. Акрамя таго, Яго раздражняла інтанацыя і ўвогуле манера Злога размаўляць: павольна, неяк салодка, быццам бы смакуючы кожнае слова, з нейкім здзекам і фанабэрыстасцю; з нейкай самазадаволенай усмешкай, якую Ён, натуральна, не бачыў, але заўжды адчуваў... Злы казаў так, нібыта заўжды меў рацыю і ведаў пра гэта. І кожны раз імкнуўся паказаць гэта Яму, падкрэсліць сваю перавагу над Ім... Раптоўна Ён зразумеў цікавую рэч:

— Ты папракаеш мяне ў празе да самазадавальнення, аднак, чым ты лепшы? Ты ж сам заўжды імкнешся атрымаць самазадавальненне, калі паказваеш на маі памылкі. Табе ж падабаецца мяне крытыкаваць, «філасофстваваць» над маімі недахопамі. Але дзеля чаго ты гэта робіш? Каб мне дапамагчы? Не, не паверу. Прызнайся, — Ён паспрабаваў парадыраваць Злога. — Ты гэта робіш для сябе, для ўласнага самазадавальнення. Дык чым ты лепшы за мяне?

— Я самадастатковы... Магчыма, справа ў тым, што я — гэта ты? І мая прага да самазадавальнення насамрэч — твая?

Зноў Ён адчуў агідную ўсмешку Злога. І Злы працягнуў:

— Насамрэч, мая самадастатковасць заўжды са мной, а ты займаешся пошукам нейкіх доказаў. І, так ці інакш, залежыш ад іншых людзей. Я ведаю, што чалавек для чалавека з'яўляецца меркай усіх рэчаў, аднак мне цяжка гэта зразумець... Таму ў гэтым плане твая наіўная ідэя мне нават падабаецца. Бо ты хочаш адмежавацца ад іншых і нават наблізіць сябе да Бога... На адным канцы будзе Бог — стваральнік чалавека, а на другім хочаш быць ты — забойца чалавечага роду. Нядрэнна, нядрэнна. І пры гэтым ты нават не шукаеш Герастатавай славы... Але ж Герастат знішчыў толькі храм... І тое, каб знайсці славу сярод людзей. Ты ж гатовы знішчыць усё, і ў той жа час цябе не цікавяць людзі, — ты робіш гэта толькі дзеля самазадавальнення. Таму ты горшы за Герастата...

— Не, я хачу дапамагчы ім. Ім усім...

— Ты баязлівец. Табе страшна і крыўдна паміраць аднаму, таму хочаш знішчыць усіх за кампанію... Табе страшна паміраць, разумеючы, што пасля тваёй смерці жыццё будзе працягвацца і ніхто не заўважыць, што цябе не стала. Ты не можаш прайграць з годнасцю і імкнешся істэрычна змесці з дошкі ўсе фігуры за пару ходаў да непазбежнага мату... Думаеш, што ты ўсё жыццё быў нікчэмным чарвяком, цярпеў няўдачу за няўдачай, а потым — усіх вынішчыш, і гэта адразу ўзвялічыць цябе амаль да Бога?..

— Пры чым тут гэта? У мяне нават думак такіх не было. Увогуле, што ты там казаў пра Бога? Што Бог будзе на адным канцы як стваральнік, а я — на супрацьлеглым як разбуральнік?.. Гэта смешна. Я не імкнуся схапіць Бога за бараду. Калі на тое будзе Яго воля, Ён не дазволіць астэроіду абрынуцца. А калі абрынецца, значыць, Бог вырашыў, што так і павінна быць. Я ж хачу быць каталізатарам... Бо калі Канец Свету ўсё роўна павінен адбыцца, чаму б не цяпер?..

— Што значыць: «Бог дазволіць, Бог не дазволіць»? Ты ж лічыш, што думкі матэрыяльныя і твае заняткі нібыта маюць нейкі фізічны ўплыў на рэальны астэроід. А тады якая, па вялікім рахунку, розніца паміж гэтай тваёй ментальнай бук-

сіроўкай і звычайнымі фізічнымі дзеяннямі? Вырабам выбухоўкі, напрыклад? Ці ты думаеш, Бог хацеў, каб людзі знішчалі людзей атамнай бомбай? Але ж Ён гэта дазволіў. Калі бамбілі Хірасіму, з нябёсаў чамусьці не высунулася велізэзная рука, якая б схапіла бомбу і сціснула яе ў кулаку. Ці як ты ўяўляеш умяшанне Бога? Не трэба забывацца на тое, што Бог зрабіў чалавека вольным. І даў яму вялізную колькасць магчымасцей. А як чалавек іх выкарыстоўвае — пытанне сумлення самога чалавека. Нехта, напрыклад, вынайшаў адвёртку, каб прасцей было працаваць з тэхнікай. Аднак, калі ты пырнеш гэтай адвёрткай чалавека і заб'еш яго — хіба будзе ў тым віна вынаходніка? Не ён жа вінаваты, што ты выкарыстаў яго вынаходніцтва не так, як трэба, ужыў яго дзеля зла... Тое ж і з Богам. Магчыма, думкі насамрэч могуць матэрыялізавацца. Магчыма, гэта не супярэчыць законам фізікі, якіх яшчэ не адкрылі, і гэта таксама пэўны падарунак чалавеку ад Бога. Аднак і інструмент можна выкарыстоўваць па-рознаму. Ты думаеш, як абрынуць астэроід, а мог бы думаць пра тое, што скончацца войны, перастануць паміраць дзеці, а людзі стануць дабрэйшымі... І калі ты верыш, што рэальна можаш кіраваць каменнай глыбай, якая знаходзіцца за сотні кіламетраў, чаму ты не можаш паверыць, што здольны аказаць аналагічны ўплыў на тое, што зусім побач? Паспрабаваў бы спачатку сілай думкі адвучыць суседа ад гарэлкі...

— Астэроід зрушыць прасцей, мне здаецца... Ты ж сам кажаш, што нават Бог не можа паўплываць на дзеянні чалавека... Куды ўжо мне?.. А што астэроід? Ён жа неадушаўлёны, уласных думак не мае... вялізная глыба... Ёсць жа ў гісторыі факты тэлекінэзу?.. Вось і тут тое ж самае... У нейкім сэнсе... Я толькі цяпер падумаў пра сваю ідэю, як з'яву тэлекінэзу... Але ж тут сэнс не толькі ў фізічным уздзеянні... Хоць нават і з дапамогай думкі... Гэта толькі інструмент, сродак для дасягнення сапраўднай мэты...

Ён казаў свае словы павольна, з вялікімі паўзамі — адчувалася стомленасць, хацелася спаць. Думкі Яго цяпер былі быццам разваранья спагецці — зліпаліся адна з адной, блыталіся, утваралі ў галаве нейкі цяжкі нязграбны камяк. І Яму складана было выцягваць з гэтага камяка нешта адзінае, яснае і паслядоўнае... Цяпер Ён ляжыць, заплюшчыўшы вочы, і ўяўляе, як цягне да сябе з халоднага космасу вялікую каменную глыбу. Сіл, каб суправаджаць гэты працэс фізічнымі рухамі, не засталося. Ужо ў дрымоце Ён пачуў словы Злога:

— А некаторыя людзі, якіх, дарэчы, ты хочаш забіць, спрабуюць. Хтосьці моліцца, хтосьці імкнецца ўявіць нешта добрае, прыемнае... А ты хочаш усё знішчыць. У тым ліку і гэтых, з добрымі намерамі... Але ж верыш, што твае намеры значна дабрэйшыя...

Злы казаў яшчэ нешта, але Ён ужо нічога не чуў. Ды і апошнія пачутыя словы не зачапілі Яго як звычайна. Стомленасць і дрымота не пакінулі Яму сіл ні на аналіз, ні нават на эмоцыі.

## НОЧ ПЯТАЯ

> ***Хто не здольны да вялікіх здзяйсненняў,***
> ***той зневажае вялікія задумы.***
> Л. дэ КЛАПЬЕ ВОВЕНАРГ

Ён ляжыць нерухома. Спрабуе ўзгадаць дыялог са Злым, які адбыўся мінулай ноччу. Яму здаецца цікавым, што гэтыя начныя дыялогі, маналогі і ўласныя развагі днём Ён амаль не памятае. Затое наступнай ноччу ўзгадвае іх нават у дробных дэталях. І ўсе ночы быццам бы зліваюцца ў адну, якая ўяўляе сабой нейкую асобную

рэальнасць. Рэальнасць, дзе ўсё статычна і стабільна. Дзе заўжды ўсё адно і тое ж: Ён, Злы, Добры, няўтульны ложак, цемра, цішыня. Адныя і тыя ж тэмы, адзінае кола думак. І гэтая агульная ноч для Яго — як дом, у які заўжды хочацца вярнуцца. Дні ж падаюцца Яму нейкімі фальшывымі: кожны дзень па-свойму розны, з нейкімі новымі падзеямі, клопатамі, праблемамі. Але яны падобны адзін да аднаго толькі сваёй непатрэбнай мітуснёй і шэрагам аднолькавых дзеянняў, якіх патрабуе гэтая мітусня. Бо асноўную колькасць дзеянняў Ён вымушаны выконваць не таму, што так хочацца, а таму, што так трэба.

Кожную раніцу Ён п’е каву не таму, што яна падабаецца, а таму, што кава дапамагае Яму прачнуцца, узбадзёрыцца. Снедае не таму, што хочацца і не таму, што гэта смачна, а таму, што трэба набрацца сіл на дзень. Прымае душ не таму, што брудны і сам хоча памыцца, а таму, што трэба мець выгляд, які адпавядае патрабаванням грамадства. І яшчэ шмат чаго іншага. І ўсё гэта — у нязручна хуткім тэмпе, такім, што нават пры жаданні Яму цяжка атрымаць асалоду. Таму Яго дні — набор механічных рухаў з папраўкай на абставіны кожнага асобнага дня. І ад гэтых непатрэбных рухаў Ён толькі стамляецца і зношваецца, як механізм. І ўся сукупнасць такіх дзён падаецца Яму нейкім нецікавым, хваравітым, мітуслівым і адначасова марудным сном.

Таму Ён і любіць ноч, якая дазваляе крыху пажыць уласным жыццём, агледзець свой маленькі свет і пабыць у спакоі. Мітуслівы тэмп запавольваецца, амаль спыняецца. Днём такое апрыёры немагчыма, нават у выхадныя: заўжды можна пабачыць рух сонца, колькасць і напрамак святла. Хуткаплыннасць кожнага асобнага дня заўжды нагадвае Яму пра хуткаплыннасць жыцця ўвогуле. І ад гэтага лішні раз робіцца сумна і тужліва. А ноч, асабліва глухая, без месяца, стварае ўражанне, што ўвесь свет паставілі на паўзу, і адзінае, што адбываецца ў гэты час — само жыццё. Магчыма, таму Ён імкнецца рабіць як мага менш рухаў, нават дыханне запавольвае так, як толькі можа, каб не парушыць і нават дапоўніць гэтую карціну ўсеабдымнай статыкі. І тады Ён адчувае сябе ў нейкай нерухомай бясконцасці, дзе няма часу, ці, дакладней, наадварот — маецца бясконца вялікі яго запас, і амаль няма прасторы — у такія моманты здаецца Яму, што ў цэлым Сусвеце не існуе нічога за межамі Яго пакойчыка. Такое адчуванне дорыць небывалую радасць і ціхамірнасць, якіх Ён ніколі не можа зведаць днём...

Ён ляжыць і ўспамінае дыялог са Злым. Раптоўна заўважае для сябе, што ў апошні час менавіта Злы размаўляе з ім часцей. Гэта падаецца дзіўным і нават крыху непакоіць. Чаму так? Чаму Добры маўчыць? Ці яму няма чаго сказаць? Ці Ён не хоча слухаць? Раней Добры і Злы нібы ўраўнаважвалі адно аднога, не было такога, каб увесь час казаў нехта адзін з іх... І Ён вырашыў сам запытацца ў Добрага:

— Чаму ўчора ты маўчаў? Мне ж цікава, што ты думаеш з гэтай нагоды...

— Мая пазіцыя не змянілася. І ты яе ведаеш... Навошта ты хочаш забіць усіх людзей? Ты не маеш права нават загубіць уласнае жыццё, што ўжо казаць пра жыцці іншых? Ці разумееш, што ты — злачынца? Для гэтага дастаткова адной толькі думкі пра знішчэнне ўсяго свету. Здзейсніш ты што-небудзь дзеля гэтага ці не, пытанне іншае. Але факт у тым, што ты ўжо цяпер рэальна жадаеш усім смерці. І гэтае жаданне ёсць вялікае зло. Мне толькі застаецца спадзявацца, што твае думкі і жаданні — няшчырыя. Што ты цешыш сябе нейкай хваравітай ілюзіяй абсалютнай улады над усімі. Што ты паводзіш сябе, як пакрыўджанае дзіця... Магчыма, дзесьці ў глыбіні душы ты разумееш усю недарэчнасць сваёй ідэі, разумееш, што рэальна не можаш абрынуць аніякі астэроід. Проста выхваляешся і фантазіруеш: «А вось я магу гэта, а вось я магу тое». І нават сам ужо амаль паверыў у гэтую бязглуздзіцу.

Але зразумей: з такімі рэчамі не жартуюць. І мне хочацца верыць, што калі б у цябе была сапраўдная магчымасць усіх забіць, ты б гэтага не зрабіў...

Раптоўна да гутаркі далучыўся Злы:

— Дарэчы... Уяві сабе, што ты знаходзішся ў пакоі з чырвонай кнопкай. Калі ты націснеш яе — усе людзі адначасова загінуць... Розніца ў тым, што ты хочаш абрынуць астэроід, бо ўяўляеш гэта як нейкае пагадненне з Богам. Быццам бы, калі гэтая глыба ляснецца — то толькі з тайнага дазволу Бога. Так я зразумеў? Ці гэта будзе супадзеннем: астэроіды час ад часу сутыкаюцца з планетамі. Карацей, не важна. У любым выпадку твая віна — нібы і не твая... А вось кнопка... Уяві яе. Калі ты яе націснеш — то твая віна і адказнасць будзе абсалютнай. Націснеш — і заб'еш сябе і ўсіх астатніх. Уяві, што гэта рэальнасць, што ты ўжо цяпер маеш гэтую кнопку. Падумай і адкажы: ці зможаш ты на яе націснуць?

І Ён шчыра паспрабаваў уявіць сабе гэтую кнопку. Нават не ўласна кнопку, а ўсю сітуацыю. Уявіць, што ў Яго руках рэальна ёсць зброя, якая можа знішчыць усіх. Уявіць, што толькі ад Яго залежыць лёс усяго чалавецтва... Зноў пачуўся голас Злога:

— Ты разумееш, што калі так знішчыш гэтых людзей, то зробіш іх пакутнікамі? Навошта табе гэта? Асабліва, калі ты іх ненавідзіш... Ты возьмеш усе іх грахі — грахі больш, чым сямі мільярдаў людзей — на сябе? Гэта будзе вельмі гуманна ў адносінах да іх — так ўсё скончыць. Калі нават не казаць пра такія рэчы, як Страшны суд. Ты ж лічыш, што яны — пачвары: зласлівыя, эгаістычныя, пажадлівыя, сквапныя... Можна доўга пералічаць, але ты і сам добра ведаеш гэты спіс... І што, ты гатовы зрабіць ім такі падарунак? У адзін момант зрабіць іх ахвярамі? Самае страшнае пакаранне для іх — пакінуць ва ўласным брудзе, як літаральна, так і метафарычна. І яны самі створаць сабе шэраг праблем і пакут. Будуць біцца за дадатковы кавалак; распіхваць адно аднога локцямі і ісці па галовах; крывадушнічаць і трымаць нож у кішэні; прыдумляць дурныя інтрыжкі і лічыць сябе самымі разумнымі; употайкі ненавідзець адно аднога і пры гэтым штучна ўсім усміхацца. Перагрызуць адзін аднаму горла... Карацей, усё, як цяпер. Дык няўжо ты такі альтруіст, што хочаш выратаваць гэтае быдла? І, магчыма, падараваць квіток адразу на Нябёсы? А сам жа, у такім выпадку, трапіш у пекла. І за сем мільярдаў табе вечнасці мала будзе там сядзець. А яны нават і ведаць цябе не будуць. Заснуць у сваіх брудных кватэрах з думкамі, як бы заўтра смачней пажэрці, а прачнуцца на Нябёсах. І падумаюць: «Пашэнціла». Некаторыя, магчыма, будуць шчыра лічыць, што самі заслужылі... Табе не брыдка ад такой перспектывы?

— Я не магу сказаць, што ненавіджу іх... Аднак з тваім апісаннем людскіх паводзін цяжка не пагадзіцца... Хаця, напэўна, яны такія, якія ёсць...

— Хлусня! Людзі такія, якімі ім зручна быць. Яны маглі б быць лепшымі, але абралі іншы шлях. Таму ўсё гэта — не Бог і не Прырода, а свядомы выбар людзей.

— Магчыма, гэта ўмовы такія... Сама сістэма кепская, таму я і хачу яе знішчыць. Саму гэтую сістэму, а не пэўных людзей...

— Што ты вярзеш? Якія ўмовы? А хто ж іх стварыў? Людзі самі і стварылі гэтую сістэму. Як мінімум, асноўную яе частку... І ты нават не хочаш даць ім шанец выправіць гэткае становішча? Ты не думаў, што з кожным пакаленнем сітуацыя можа паступова паляпшацца? Раней адзін аднаго на вогнішчах палілі, а цяпер гэта ўжо неяк не модна... Няўжо табе нецікава?

— Мне ўсё ж здаецца, што сітуацыя толькі пагаршаецца... Чамусьці, я думаю, што далей будзе толькі горш... І мне шкада тых, хто пакутуе сёння і будзе пакутаваць потым... А не таму, што ненавіджу...

— Хопіць ужо прыкрывацца нейкімі высакароднымі мэтамі. Прызнайся, што ты слабак і баязлівец... І калі ты вырашыш націснуць кнопку — гэта будзе дзеянне падлетка, які заўжды імкнецца ўсім нешта даказаць свядома і робіць усё назло... Аднак так забіць усіх гэтых людзей — усё роўна вельмі нудна. Назіраць за тым, як яны злуюцца і самі забіваюць адно аднога з-за ўсякай лухты — нашмат цікавей...

Пасля гэтага пачаў гаварыць Добры:

— Не слухай яго. Людзі не такія і кепскія. І ты гэта ведаеш. Насамрэч, няспынна ідзе прагрэс. Вялікая колькасць людзей самааддана працуе для лепшай будучыні...

Злы зноў яго перабіў:

— Яны працуюць не для нейкай там будучыні, а ўласна для сябе. Для некага гэта грошы, для некага — папулярнасць, для некага — плюс у карму, для некага тое ж самазадавальненне. Не існуе людской бескарыслівасці ў чыстым выглядзе...

Добры працягнуў:

— А што кепскага ў тым, што людзі атрымліваюць самазадавальненне ад добрых спраў, ад дапамогі бліжнім, ад сумленай працы? Калі б усе так жылі, ужо існаваў бы рай на зямлі. Бо гэта не ёсць дрэнна. Але, акрамя гэтага, існуе шмат людзей з добрымі прынцыпамі. Існуе шмат неразбэшчаных, працавітых, акуратных, сумленных людзей. Яны робяць жыццё лепшым і даюць астатнім надзею. З другога боку, ёсць грэшнікі, але тыя, што пакаяліся ці пакаюцца потым. Ім абавязкова трэба даць такую магчымасць... Увогуле, зразумей: калі ты сапсаваў, як ты сам лічыш, уласнае жыццё, не трэба перакладаць з хворай галавы на здаровую. Многія з тых людзей, якіх ты хочаш забіць, маюць добрыя намеры...

Зноў у размову ўклініўся Злы:

— А памятаеш, куды вядзе дарога, выбрукаваная добрымі намерамі?..

Добры зрабіў невялікую паўзу, быццам бы пакрыўдзіўшыся на Злога. Хаця наўпрост паміж сабой яны ніколі не размаўлялі: кожны звяртаўся толькі да Яго. Аднак, адно аднога яны, натуральна, чулі. Добры працягваў:

— Ты бачыў калі-небудзь пальчаткі на дрэвах?.. Так-так, пальчаткі. На дрэвах. Ці рукавіцы? Шпацыруючы па горадзе нярэдка можна пабачыць пальчатку на галінцы дрэва. Многія нават не звяртаюць на гэта ўвагі, але гэта вялікая адзнака людской годнасці. Нехта ж убачыў згубленую пальчатку, падняў яе і павесіў на галінку. А яна ж магла ляжаць не на чысцюткім снезе, а ў брудзе, па якім усе ходзяць, на які плююць. Магла ляжаць у пыле ці ў вадзе... А нехта выпадкова ішоў па сваіх справах, заўважыў і падняў. Не паленаваўся і не пасаромеўся. Зрабіў такую маленькую, але важную і высакародную справу. Так. Магчыма, чалавек пры гэтым шчыра спадзяваўся, што пальчатку знойдзе ўладальнік і таму будзе прыемна... Значыць, не ўсе памяркоўныя. Значыць, ёсць людзі, якія могуць нахіліцца пасярод вуліцы і падняць брудную рэч, каб зрабіць дабро іншым, абсалютна незнаёмым людзям... І якое права ты маеш так узяць і праз нейкія капрызы ці амбіцыі пазбавіць такіх людзей жыцця? Прызнайся, што ты насамрэч не здолееш націснуць на кнопку, гэта не будзе паказчыкам слабасці. Хутчэй, наадварот — пакажа тваю шчырасць. І завязвай ужо са сваім астэроідам — дарэмнае марнаванне часу...

Ён ляжыць і думае, што Добры праводзіць нейкую агітацыю. Навошта? У Яго ўзнікла адчуванне, што Добры насамрэч хвалюецца, а магчыма і баіцца Яго ідэі... Гэта значыць, што ідэя дзейсная... Значыць, не трэба ад яе адмаўляцца... І Ён адчуў нейкую моц, нейкую ўладу. У той жа час пачуў словы Злога:

— Ну дык што, націснеш ты на кнопку ці не? Прызнайся, калі б ты быў упэўнены ў сваім жаданні і шчыры ў сваёй веры, націснуў бы адразу, без разваг. Ты займаешся нейкім бязглуздым самападманам... У цябе няма смеласці і рашучасці

здзейсніць самагубства. Аналагічна ў цябе няма смеласці і рашушасці, каб самастойна знішчыць усіх. Магчыма, ты насамрэч не быў супраць, каб на кнопку націснуў нехта іншы. Магчыма, што ты мог бы стаяць у тым жа памяшканні і моўчкі глядзець, як нехта націскае на яе. І пры гэтым ты б нават радаваўся. Але зрабіць тое ж самае самастойна ты не можаш, прызнайся... Дык што з кнопкай?

— Ведаеш, што я думаю? Што гэтая кнопка — правакацыя. Ты зноў спрабуеш падмяніць паняцці, каб выставіць мяне дурнем. Так, я лічу, што астэроід — гэта не толькі я, гэта і Бог, і збег абставін. Такі варыянт мяне задавальняе і я ў гэтым прызнаюся. А пра ніякую кнопку я ніколі нічога і не казаў. Мне здаецца, быццам вы чакалі, што я адмоўлюся націскаць. Тады б вы сказалі, што я і астэроід насамрэч не хачу абрынуць. І больш за тое — вы б пахіснулі маю веру ў тое, што я гэтага хачу. А я хачу. І магу. Адчапіцеся са сваёй кнопкай. Я адмаўляўляюся нават думаць пра яе, бо гэта чарговая спакуса. Адчапіцеся.

І Ён засяродзіўся на сваёй каменнай глыбе. Дэталёва ўявіў яе ў чорнай халоднай прасторы космасу і пачаў злосна і энергічна цягнуць нябачны «канат», робячы адпаведныя рухі рукамі. Ён быў раздражнёны размовай як з Добрым, так і са Злым. Гэтая раздражнёнасць надавала Яму моцы і здавалася, што глыба цягнецца хутчэй, чым звычайна.

## НОЧ ШОСТАЯ

***Толькі магільны пах з-пад алтара***
***вяртаў да балючай праўды —***
***на зямлі ўсё смяротнае: людзі,***
***іх сённяшнія ідэі, іх жаданае Заўтра,***
***якое праз хвіліну становіцца сумным і смешным Учора.***

*Уладзіслаў СЫРАКОМЛЯ*

Ён уяўляў час як цягнік, у якім чалавек едзе ад нараджэння да смерці. І чалавек-пасажыр можа рабіць у гэтым цягніку, што заўгодна: чытаць кнігі, сядзець у інтэрнэце, піць гарбату, спаць ці глядзець у акно. Але цягнік заўжды едзе і ніколі не спыняецца, набліжаючыся да апошняй станцыі. І так ці інакш пасажыр патрапіць на гэтую станцыю, але пытанне ў тым, што ён паспее зрабіць падчас свайго падарожжа. Праблема ў тым, што большую частку вандроўкі пасажыр праводзіць не у купэлюкс: ён вымушаны кідаць вугаль у топку для таго, каб цягнік ехаў. Атрымліваецца вельмі абсурдная і парадаксальная сітуацыя: трэба губляць і час, і сілы, каб цягнік набліжаўся да апошняй станцыі, бо калі не займацца гэтым, цягнік прыбудзе туды яшчэ хутчэй. І пасажыр з'яўляецца фактычна закладнікам гэтага цягніка: ён вымушаны займацца абслугоўваннем, замест таго, каб рабіць нешта карыснае ўласна для сябе... Падчас такіх разважанняў Ён думаў, што сам «вугаль у топку» кідае днём, а вось ноччу можа пайсці ў сваё купэ, каб адпачыць і заняцца ўласнымі справамі. І здавалася Яму, што менавіта ноччу «цягнік» запавольваецца, амаль спыняецца, аднак не на апошняй станцыі, а на шляху. Пры гэтым, пункт прыбыцця быццам бы аддаляецца бясконца далёка. І Ён, пасажыр, можа спакойна займацца тым, чым хоча, хоць сабе нават і глядзець у акно. Бо толькі тады, калі цягнік запавольваецца, у пасажыра ёсць магчымасць добра разгледзець навакольны пейзаж. Больш за тое, Ён шчыра верыў, што калі Яго каменная глыба ўсё ж абрынецца, цягнік спыніцца для ўсіх людзей. Але зноў жа такі: спыніцца не на апошняй станцыі «смерць», а пасярод шляху. І тады людзі змогуць не толькі думаць пра тое, што мае сапраўдны сэнс,

седзячы ў сваіх купэ, а нават выйсці з цягніка, пабачыць рэальны свет, дакрануцца да яго. Змогуць сустрэць знаёмых ці сваякоў, якія ўжо выйшлі раней і чакалі іх. Яны змогуць агледзець іншыя вагоны: ад першага да самага апошняга...

Цяпер Ён ляжыць на сваім ложку і зноў разважае над гэтым. Зноў прыходзіць да высновы, што людзі марнуюць сваё жыццё на ўсялякія бязглуздзіцы. Часткова таму, што яны закладнікі жыцця, часткова — па ўласным жаданні. І падаецца Яму гэтая сітуацыя неверагодна абсурднай і нейкай раздражняльнай... Бо атрымліваецца, што жыццё, а дакладней — існаванне, замінае спасціжэнню сэнсу жыцця. Сама гэтая сістэма стварае штучныя перашкоды, нейкія дадатковыя аднаразовыя сэнсы на кожны асобны дзень. І, у рэшце рэшт, часу на нешта сапраўднае не застаецца... Такія думкі толькі ўзмацнялі Яго жаданне знішчыць гэты штучны свет, спыніць цягнік і вывесці людзей на волю...

— Трэба любіць жыццё больш, чым сэнс жыцця. Так пісаў Дастаеўскі... — гэта быў голас Злога. — Здаецца, ты зноў спрабуеш перакласці ўсё з хворай галавы на здаровую і падаць уласныя недапраблемы як агульначалавечую трагедыю. Каб пасля назначыць сябе ж самога на ролю выратавальніка... А хіба ж людзі ў закладніках? Хіба яны рабы? Хаця, дакладней было б запытаць, ці лічаць яны сябе рабамі... Але гэта адно і тое ж...

— Я думаю, людзі вымушаны распыляцца на розную непатрэбшчыну і ствараць штучныя ідэалы, патрэбы і мэты...

— А хіба ёсць каму-небудзь з людзей справа да таго, што ты там сабе думаеш? Галоўнае, што яны ўсім задаволены. Некаторым падабаецца выконваць побытавыя абавязкі, некаторыя паспяваюць займацца і тым, чым насамрэч жадаюць, а некаторыя могуць сумяшчаць прыемнае з карысным. І калі асабіста ты ў сваім жыцці нічога не дасягнуў і ўпэўнены, што не дасягнеш і далей — гэта не ёсць нагода для вынішчэння ўсяго. Як кажуць, дрэннаму танцору порткі перашкаджаюць. Прызнайся, насамрэч табе крыўдна і зайздросна, што ішныя нечага ў гэтым жыцці дасягнулі, а ты — не. І ты зноў прыкрываешся высакароднымі намерамі, каб пакараць усіх з-за нейкіх дробязных крыўд. Калі б нават увесь той час, які ты марнуеш на астэроід, пакінуць сапраўдным справам — ужо можна было б заўважыць нейкі плён.

Да размовы нечакана далучыўся Добры:

— Ведаеш, так і ёсць. Калі ты амаль да ўсяго ставішся, як да нейкіх абавязкаў, гэта няправільна. Калі ты нават не спрабуеш атрымаць асалоду ад ранішняй кавы і адносішся да яе толькі як да неабходнай батарэйкі, гэта няправільна... Ты знаходзішся ў глыбокай маркоце. Гэта грэх. Але прабач, я не хачу цябе вінаваціць і запалохваць. Табе патрэбна дапамога. І ў першую чаргу, ты павінен дапамагчы сабе сам. Кінь сваю дурную ідэю з астэроідам, пакайся. І ўжо стане лягчэй. Вазьмі сябе ў рукі і займіся справай... Ты ж ведаеш сапраўдныя прычыны свайго жадання ўсё разбурыць — трэба глядзець у корань праблем і вырашаць іх. А не чакаць, пакуль усё само скончыцца... Акрамя гэтага, мне вельмі не падабаецца, што ты лічыш сябе амаль што Збаўцам. Змірыся: ты не вышэйшы, ты шмат ніжэйшы за іншых. Я цудоўна разумею, што гэта непрыемна і крыўдна, аднак гэта праўда. Знайдзі сябе, і тады ты зоймеш сваю нішу. Але перастань сябе падманваць, гэта ўжо страшна...

Ён ляжыць і цяжка дыхае. Пачутыя словы нешта ў Ім зачапілі. Аднак Ён вырашае ў адказ сказаць тое, пра што хацеў сказаць і раней, быццам бы не чуў Ён ні Злога, ні Добрага:

— Вось мне цікава... Калі перад Судным Днём усе людзі будуць уваскрэшаныя... Што яны будуць рабіць?.. Уявіце, абсалютна ўсе людзі, якія жылі ад пачатку і да заканчэння часоў, апынуліся разам... Нехта, магчыма, захоча паразмаўляць са

сваім прадзедам... Аднак той прадзед сам захоча паразмаўляць са сваім прадзедам... А гэты першы чалавек даведаецца, што і ў яго ўжо ёсць шэраг нашчадкаў, якія, магчыма, таксама захочуць з ім паразмаўляць... Але, па вялікім рахунку, пра што размаўляць? Усе гэтыя людзі фактычна будуць незнаёмымі і чужымі адзін аднаму... Ці, напрыклад, сын захоча папрасіць прабачэння за нешта ў бацькі, бацька ў дзеда, дзед у прадзеда і гэтак далей... І тады адбудзецца ўсеагульная дэвальвацыя гэтых прабачэнняў і іншых пачуццяў, кожны выпадак страціць сваю ўнікальнасць... Ці нехта захоча даведацца, чым праславіўся яго продак альбо нашчадак... І што тады? Нехта скажа, што працаваў усё жыццё на полі, нехта скажа, што быў на вайне, нехта скажа, што шмат вучыўся... Нехта скажа, што зарабляў пяцьсот долараў за месяц... Але што ў такой сітуацыі можна будзе лічыць сапраўдным дасягненнем? Што можна будзе назваць сапраўды вялікім учынкам?.. Мне здаецца, што праблема акурат у тым, што большасць людзей, якія жылі на гэтым свеце, перабівалася ад вырашэння адной побытавай задачы да іншай... Кожны з гэтых людзей можа сказаць, што ён працаваў, зарабляў на хлеб, займаўся гаспадаркай, гадаваў дзяцей і гэтак далей. Амаль як жывёлы... І толькі адзінкі рабілі нешта насамрэч значнае... А большасць — не проста пакінула пасля сябе толькі нашчадкаў і больш нічога, дык яшчэ і самі не паспелі атрымаць ад уласнага жыцця задавальнення, спасцігнуць шэраг жыццёвых ісцін, знайсці сапраўдны сэнс...

— Працяг роду не з'яўляецца бессэнсоўным, — адказаў Злы. — Не трэба параўноўваць гэты працэс у людзей і ў жывёл. Людзі мне далёка не сімпатычныя, аднак... Калі нават самі прадстаўнікі роду не робяць нічога, што ты лічаш выдатным, не спрыяюць прагрэсу, яны даюць шанец сваім нашчадкам жыць у лепшым свеце...

— Але мне шкада ўсіх тых людзей... Я не думаю, што яны самі хацелі кожны дзень выконваць манатонную цяжкую працу на полі, калечыцца на войнах ці нешта такое... Натуральна, што ў іх былі ж нейкія схільнасці, захапленні... У любым выпадку, кожны меў свае мары, жаданні... Але хто іх здзейсніў? У каго былі адпаведныя магчымасці?

— Ты сябе шкадуеш, а не іх. Бо па сабе судзіш. Ты сапраўды ўспрымаеш усё, як абавязкі, быццам бы гэта не табе патрэбна, а некаму іншаму. Таму не можаш зразумець, што іншыя маглі бачыць радасць і ў цяжкай працы, і на вайне, і ў побыце... Увогуле, у кожнага быў выбар: не хочаш працаваць — не працуй, не хочаш ваяваць — не ваюй. І кожны рабіў гэты выбар на сваю карысць, у любым выпадку. І ты яго таксама зрабіў: нармальна жыць не атрымалася (хаця ты і не асабліва імкнуўся), здзейсніць самагубства смеласці не хапіла, і ты вырашыў усё ціха ненавідзець і пры гэтым не рабіць нічога рэальнага. Прызнайся, ты ведаеш, што самагубства ніколі не здзейсніш, што ніякі астэроід ніколі не абрынеш, а паспрабаваць нешта змяніць у сваім жыцці табе проста не трэба. Гэта і ёсць твой выбар: ныць, скардзіцца і шукаць такія апраўданні для псіхічна нездаровага жадання ўсіх забіць, якія б цябе яшчэ і героем выстаўлялі. Але ўсё гэта ў сукупнасці — самападман...

Ён нічога не адказвае. Ляжыць і слухае амаль абсалютную цішыню. Здаецца, што ні Добры, ні Злы Яго не разумеюць. Хоць Ён не можа схаваць ад іх нават патаемныя думкі... Праз нейкі час зноў пачуўся голас Злога:

— Я заўважыў цікавую рэч... Ты хочаш спыніць «цягнік часу», выпусціць з яго ўсіх людзей у нейкую агульную прастору. Гэта нядрэнна суадносіцца з тваім жаданнем абрынуць астэроід. Аднак ты і сам зразумеў, што калі абсалютна ўсе людзі апынуцца разам, будзе пэўны тупік. Гэта яшчэ адна моцная нестыкоўка ў тваіх ідэях...

— Не, наадварот... Я сказаў пра ўваскрашэнне менавіта таму, што перад гэтым думаў пра спыненне цягніка... Тады, акурат, будзе добра відаць: якія сэнсы штучныя,

а якія сапраўдныя. І гэта будзе добрай ілюстрацыяй таго, што штучнага нашмат болей, што большая частка нашых спраў, жаданняў і мэт — марнасць.

— Усё вялікае складаецца з простага.

Злы крыху памаўчаў, магчыма, чакаючы адказу. Калі стала зразумела, што Ён ужо амаль засынае, працягнуў — нават не для дыялогу, а для таго, каб Ён пачуў:

— Дарогу здужае той, хто ідзе. Гэты твой вобраз цягніка... Ты ж сам разумееш, што сэнс не ў тым, каб даехаць да апошняй станцыі і выйсці. Сэнс у тым, каб чамунебудзь навучыцца, нешта зрабіць. Інакш, адкуль возьмецца вопыт? Адкуль возьмецца характар? Якім чынам твая асоба будзе адрозніваецца ад іншых, калі ўсім адразу даць усё гатовае? Што, генетыка? Але адкуль узяліся пэўныя гены? Гэта — той жа вопыт, які фарміраваўся на працягу тысячагоддзяў пакаленнямі. Таму і на пабытавым узроўні лепш пастулова ісці крок за крокам, бясконца кідаць гэты вугаль у пылу і поце, чым сядзець і марыць, што адразу атрымаеш усё. Ды за якія заслугі?

— Давай ужо потым... Няма сіл...

У Яго насамрэч ужо не было ніякіх сіл. Але зноў Ён імкнецца цягнуць вялізную каменную глыбу да сябе. Цягнуць шчыра, аддана, быццам бы ніякай размовы сёння і не было.

## НОЧ СЁМАЯ

***Чалавек нясе адказнасць за Бога.***
Андрэ ЖЫД

Ён ляжыць на сваім няўтульным ложку і імкнецца ўзгадаць учарашнюю размову. Памятае, што яна не была скончана так, як трэба, і па крупінках узнаўляе яе... Амаль ніколі не можа ўзгадаць адразу апошні момант мінулай ночы, непасрэдна перад тым, як засынае. Прыгадвае нейкі ўрывак, разумее, што пасля было нешта яшчэ, прыгадвае наступны... Урэшце ўзнаўляе поўную карціну. І гэтая ноч быццам бы зліваецца з папярэдняй, утвараючы агульнае цэлае — звязнае і лагічнае. Пражыты дзень пачынае здавацца толькі нейкім сном ці насланнём. Ноч жа, нібыта ніколі не канчалася і не пачыналася... Але іншым часам здаецца Яму, што гэта не гармонія, а нейкі праклён, кшталту пакарання Сізіфа. Кожную ноч пачынаў Ён блуканне па замкнёным коле думак. Кожную ноч рабіў пэўныя высновы і кожны раз пачынаў усё спачатку. Кожную ноч паскараў сваю каменную глыбу, аднак кожны раз сустракаў яе нерухомай. І тады ілюзія бясконцасці гэтай адзінай ночы здавалася страшнай. Іншы раз у Яго нават узнікалі думкі, што насамрэч Ён ужо памёр і не заўважыў. І затрымаўся ў гэтай ночы, у гэтай статыцы, каб раз за разам пракручваць адно і тое ж, шукаючы выйсце. Ён нават не памятаў, колькі часу ўжо мінула, колькі начэй было замкнёна ў гэтую адну бясконцую ноч... Аднак такія думкі з'яўляліся нячаста. У асноўным, неверагодная стомленасць не дазваляла Яму разважаць на гэты конт у адмоўным рэчышчы. Бачыць усю жудасць сітуацыі не хацелася. Таму звычайна Ён узгадваў забытыя моманты, запаўняў прабелы, якія з'яўляліся ў час дзённай мітусні, і вяртаўся ў адзіную і непадзельную ноч, як у родны ўтульны дом.

Цяпер ужо цалкам аднавіў у сваёй памяці ўчарашні дыялог і разважаў над некаторымі момантамі. Адчуўшы гэта, Злы пачаў гаварыць:

— Ты думаеш, што можна ў любы момант узяць і ўсё скончыць? Абрынуць астэроід, спыніць цягнік часу... Прывесці ўсіх да адзінай роўніцы... Але пры гэтым ты верыш у нейкі працяг... Ці можна сказаць, што ты верыш у Бога? Я думаю, можна.

Але чаму ты спадзяешся на тое, што Бог пагодзіцца абрынуць астэроід цяпер? З якой нагоды? На гэтым жа трымаецца ўся твая ідэя-фікс: што Бог, Космас ці наасфера пойдзе табе насустрач... Я буду ўжываць слова «Бог», калі ты не супраць, чыста ўмоўна... І як ты не можаш зразумець, што твае хваравітыя жаданні не могуць паўплываць на задуму Бога?..

— Я і не прэтэндую... Але што, калі маё жаданне — і ёсць воля Бога? Ты ж сам казаў, што Бог не можа працягнуць сваю руку з Нябёсаў і такім чынам нешта змяніць у гэтым свеце... А вось у мяне з'явілася ідэя, якая цяпер здаецца відавочнай... Магчыма, у шматлікіх людзей у той жа час з'явілася такая ж ідэя. І ўжо некалькі чалавек па ўсёй Зямлі імкнуцца абрынуць астэроід...

— Бог думае пра людзей. Але ён не думае за людзей... Ты заўжды забываеш, што чалавек створаны вольным. А навошта? Навошта некаму ці нечаму Усемагутнаму ствараць штосьці незалежнае, хай нават і часткова? Гэта было б лагічна зрабіць чыста дзеля забаўкі. Аднак навошта тады ўводзіць нейкія правілы, рабіць Страшны Суд, дзяліць усіх на праведнікаў і грэшнікаў, каб потым першых пакінуць з сабой, а апошніх кінуць у пекла? Толькі сёння на Зямлі жыве больш за сем мільярдаў абсалютна ўнікальных людзей. А колькі іх жыло ўсяго ад пачатку часоў? Лічыцца, што больш за сто мільярдаў. І яшчэ раз: кожны з іх унікальны. Дык навошта ствараць такую колькасць людзей уручную, калі можна паставіць працэс на аўтамат? Гэта вельмі складаны алгарытм — на асобу чалавека ўплывае вялізная колькасць фактараў. А так дастаткова было б толькі стварыць асноўныя законы — у сэнсе, так званыя законы прыроды — і ўсё, «пладзіцеся і множцеся, і напаўняйце зямлю і валодайце ёю». Адносна чалавека гэты працэс цягнецца тысячы гадоў, але адносна Бога ён можа доўжыцца імгненне. А ўжо пасля — Страшны Суд, агляд вынікаў эксперымента. Дарэчы, воля чалавека можа з'яўляцца той пераменнай, якую нават Богу было б няпроста прадбачыць у самым пачатку... А тут — раз і ўсё гатова. І ёсць з чаго выбіраць. Найбольш паспяховыя ўзоры Бог пакідае сабе, няўдалыя трапляюць у пекла. Выглядае лагічным, што ў хрысціянскай канцэпцыі людзі не трапляюць у рай ці ў пекла адразу пасля смерці. Усе памерлыя «спяць» да заканчэння часоў. А ўжо потым, калі эксперымент скончыцца, усе будуць уваскрэшаны — будзе ўзноўлена кожная асобная мадэль чалавека. З унікальнай генетыкай, абставінамі станаўлення асобы, з жыццёвай гісторыяй і шэрагам іншых фактараў, якія ў сукупнасці сваёй і стварылі канкрэтнага чалавека. Гэта выглядае цалкам, як нейкая камп'ютарная праграма — спачатку ідзе стварэнне чалавечай адзінкі паводле аднаго складанага алгарытма, пасля інфармацыя захоўваецца, у алагарытме змяняецца адна пераменная (а ўсяго іх — амаль бясконцая колькасць), ствараецца наступная адзінка і гэтак далей. І геніяльнасць дадзенай праграмы ў тым, што сам чалавек можа змяняць пераменныя як для ўласнага алгарытма, так і для алгарытмаў іншых людзей непасрэдна падчас эксперымента. І ўрэшце збярэцца неверагодная колькасць вынікаў па кожнай асобнай адзінцы і Бог будзе мець доступ да ўсёй гэтай інфармацыі адначасова. Аднак зразумей: гэтае апісанне вельмі прымітыўнае ў параўнанні з тым, што, магчыма, адбываецца насамрэч. І вось тады якраз гэты твой цягнік і спыніцца...

— Ты хочаш сказаць, што мы патрэбныя Богу?

— Канешне ж. А як яшчэ можа быць?

— У сэнсе, з нейкага прагматычнага пункту гледжання. Ён жа павінен быць абсалютна самадастатковым...

— Не бачу ніякіх супярэчнасцей...

Ён ляжыць і думае над словамі Злога. Усё выглядае быццам бы лагічным. Аднак гэта ж Злы. Заўжды ён размаўляе нейкімі сафізмамі, якія знешне падаюцца слушнымі, аднак насамрэч з'яўляюцца падманам. Тым часам Злы працягнуў:

— Я гэта ўсё да таго, што ў Бога свае планы адносна чалавецтва. Унесці ў іх нейкія карэктывы ты не можаш апрыёры. А думаць, што ты з'яўляешся часткай гэтых планаў і нават нейкім яго партнёрам — занадта саманадзейна. Увогуле, мільёны людзей просяць Бога аб лепшым жыцці. І няўжо ты думаеш, што Бог хутчэй згодзіцца на тваю ідэю і дапаможа абрынуць астэроід, чым прыслухаецца да малітваў пра лепшую долю мільёнаў іншых?

— Мая ідэя мае на мэце не абрынуць астэроід... Яна, у канчатковым выніку, накіравана на выратаванне ўсіх людзей... Хіба можа параўнацца наіўная малітва пра бягучыя даброты з глабальнай ідэяй, якая дапаможа вырашыць усе праблемы адным махам? Нехта просіць пра здароўе, нехта — пра духоўную моц, нехта — пра паляпшэнне матэрыяльнага становішча... Але што гэта ў маштабах вечнасці?..

— Твая ідэя, магчыма, сапраўды з'яўляецца выратавальнай для вялікай колькасці людзей. Я ўжо казаў пра гэта... Аднак, па-першае, не для ўсіх. А па-другое, што больш значна, не думаю, што яна ўпісваецца ў планы Бога. Бо інтарэсы Бога і чалавека далёка не заўжды супадаюць.

— Гэта ж ты казаў пра тое, што Бог не прадухіліў бамбёжку Хірасімы... І ўсё такое... А я веру, што магу абрынуць астэроід... І якая розніца, па вялікім рахунку?

— Ты адмовіўся націснуць на чырвоную кнопку, памятаеш? Значыць, ты ўсё ж не хочаш браць на сябе адказнасць. Не хочаш ісці супраць Бога.

— Я адмовіўся не ад націскання кнопкі, а ад тэсту ўвогуле... Глупства нейкае... Падмена паняццяў...

— Хай будзе так. Але ж самае галоўнае ў тым, што ты ведаеш: няма паблізу такога астэроіда ці каметы, які б мог адным махам вынішчыць усё жыццё. Нават калі ляснецца такая ж глыба, якая калісьці забіла дыназаўраў, частка людзей, а значыць — чалавецтва ў цэлым — гэта перажыве. Будзе адкінута ў развіцці на пару стагоддзяў назад і ўсяго толькі. Але ж твая задума не спраўдзіцца. Тым не менш, сучасная дыягностыка дазваляе сказаць, што ў бліжэйшай перспетыве — на тваё жыццё хопіць — нічога такога з Зямлёй не сутыкнецца. Усё, канец.

— Я дакладна ведаю, што каметы могуць быць доўгі час нябачнымі для даследчыкаў. А калі яны заўважаць небяспеку — будзе позна. Чалябінскі метэарыт паказаў, што чалавецтва і сёння безабароннае прад космасам. Акрамя гэтага, я ведаю, што выбух метэарыта ў атмасферы можа справакаваць сістэмы папярэджання пра ядзерны напад. І тады, дзякуючы аўтаматызацыі гэтых сістэм, можа пачацца атамная вайна. Дастаткова будзе запуску адзінай ракеты... Яшчэ я ведаю, што і адносна невялікі метэарыт можа прывесці да землятрусаў, цунамі, вывяржэння вулканаў... Гэта будзе вельмі брудна і страшна, а мне не хацелася б, каб людзі пакутавалі, але...

— Усё роўна, гэта не будзе агульным канцом, не спраўдзіць тваіх чаканняў. Усё будзе дарэмна.

— Але ж я не веру. Я маю пацверджанні, што вера мая небезгрунтоўная... І гэта мне дапамагае...

— Ты павінен разумець, што гэта вельмі малаверагодны факт...

Да размовы далучыўся Добры:

— Усё гэта — вялікае глупства. Я разумею, што ты лічыш сябе пакрыўджаным, што табе кепска, няма каму суцешыць... Але ж ты ідзеш не па тым шляху... Ты ідзеш насуперак Богу, але не спрабуеш ісці насустрач...

Пасля гэтага Добры пачаў чытаць дваццаць другі псалом. Псалом гэты раней чытаў і Ён сам, калі было невыносна кепска і неверагодна крыўдна, калі нідзе не мог знайсці паратунку, апрача як у Бога. І тады чытаў яго, спачатку з паперы, пасля на памяць — нават не столькі для таго, каб звярнуцца да Бога, колькі для таго, каб

суцешыць сябе. Але даўно ўжо не звяртаўся Ён да Святога Пісання. Тым не менш, цяпер чамусьці прыслухоўваўся да кожнага слова, якое агучваў Добры:

— Гасподзь — Пастыр мой; я ніякай нястачы не мецьму: Ён пасвіць мяне на пашах зялёных, на ціхія воды водзіць мяне. Ён душу маю мацуе, кіруе мяне на сцежкі праўды дзеля імя Свайго. Калі я пайду далінай смяротнага ценю, не ўбаюся ліха, бо Ты са мною; Тваё жазло і твой посах — яны супакойваюць мяне. Ты перада мною паставіў трапезу на вачах у маіх ворагаў; намасціў алеем галаву маю; чара мая перапоўнена. Так, ласка і міласэрнасць хай будуць са мною ва ўсе дні жыцця майго, і я буду ў доме Гасподнім многія дні.

Пасля гэтага ўжо прызабытага псалма Яго напоўніў нейкі незвычайны спакой, сумны і шчымлівы, але ў той жа час — светлы і прыемны. І цяпер Ён ляжыць у цішы, прасякнуты гэтым светлым спакоем. І ні Злы, і ні Добры не дазваляюць сабе яго парушыць. Ён вырашае гэтым разам не думаць пра халодную каменную глыбу, не імкнуцца яе прыцягнуць, а заснуць як мага хутчэй, пакуль спакой гэты не развеяўся...

## НОЧ ВОСЬМАЯ

***Памятай пра смерць.***
Аўтар невядомы

Ён ляжыць на сваім няўтульным ложку на спіне, амаль як нежывы. Толькі водбліскі на стомленых вачах Яго, час ад часу на імгненне згасаючы, даюць зразумець, што Яго павекі рухаюцца. Значыць, жывы. А так няма ні тое, што ніякіх іншых рухаў — нават дыханне цяжка заўважыць. Ледзь бачна, як коўдра на яго грудзях павольна ўздымаецца і апускаецца. І толькі павекі рухаюцца, як механізм нейкага дыяпраектара, змяняючы адзіны кадр тым жа самым — амаль бясконцай колькасцю аднолькавых кадраў.

Яшчэ раз вяртаецца Ён да замкнёнага кола думак: самагубства — няшчасны выпадак — глабальная катастрофа. Пра нешта разважае. Чамусьці прыпыняецца на тым моманце, калі вырашыў, што аптымальным варыянтам будзе няшчасны выпадак, а да ідэі адносна нейкай усеагульнай катастрофы яшчэ не дайшоў. Нібыта ў апраўданне на ўсе папярэднія заўвагі Добрага і Злога, вырашае агучыць сваю праўду, бо ведае, што яны заўжды слухаюць:

— Спачатку я хацеў, каб метэарыт — маленькі — уляцеў праз акно і размажджэрыў мне галаву. Траекторыя, у прынцыпе, верагодная. Аднак, бруд, непрыемнасці з пахаваннем... Да таго ж я разумею, што нават такі метэарыт прабіў бы падлогу — магчыма, пацярпелі б суседзі. Было б крыўдна, калі б выпадкова загінуў яшчэ нехта. Калі памірае адразу шмат людзей — іх асобы быццам бы пераходзяць на другі план, колькасць ахвяр ператвараецца ў статыстыку... А калі адзін чалавек — сітуацыя выглядае больш трагічнай... У такім выпадку маім родзічам далі б нядрэнную кампенсацыю... Магчыма, маё імя назаўжды б увайшло ў гісторыю ў сувязі з гэтай незвычайнай падзеяй... Пасля мне падалося, што такі варыянт усё ж малаверагодны. Я падумаў, што будзе лепш, калі каменная глыба разбурыць цэлы дом, раён ці нават увесь горад... Гэта вытаравала б не толькі загінулых, але і астатніх — жывых... Магчыма, яны б яшчэ раз усвядомілі, што чалавечае жыццё — неверагодна крохкая рэч. Што сёння ты жывеш, а заўтра — нейкая выпадковасць — і цябе можа ўжо не быць. Людзі забыліся на гэта... Яны марнуюць жыццё на розныя бязглуздзіцы... Гэта

ўжо нават не мяшчанства, гэта... чорт ведае што... Калі не памыляюся, Рэй Брэдберы сказаў, што людзі — ідыёты, бо замест таго, каб рабіць касцюмы для сабак і шэраг іншай непатрэбшчыны, яны маглі б развіваць навуку і рухаць прагрэс наперад... Ці неяк так...

— Якая табе справа? — запытаў Злы. — Па-першае, табе асабіста гэта ніяк не перашкаджае. А па-другое, чым ты лепшы за іх? Прызнайся, ты ж абсалютна такі самы...

— Гэта ты мне казаў, што людзі патрэбны Богу. І мне здаецца, што Яму патрэбны людзі разумныя, творцы... А не спажыўцы...

— Я казаў, што магчыма патрэбны. Бо хто ведае, што Яму там патрэбна насамрэч. Акрамя таго, гэтым аргументам ты сам загнаў сябе ў пастку. Ты ж хацеў спыніць нейкі там цягнік, каб цяпер далучыць людзей да Бога. Але сам кажаш, што на дадзеным этапе яны спажыўцы. Супярэчнасць... Таму, хутчэй за ўсё, Бог не дазволіць табе гэтага зрабіць, не дазволіць абрынуць астэроід. Ва ўсякім разе, гэта будзе супраць Яго волі... У такім рэчышчы...

— Дык праблема якраз у тым, што сітуацыя толькі пагаршаецца. Таму я лічу, што каменная глыба будзе для іх выратаваннем. І чым раней яна абрынецца, тым лепш для іх.

— Які ж ты нудны... Гэта ж нецікава. Хочуць яны жыць у такім свеце — хай жывуць. Назіранне за гэтым працэсам можа прынесці нядрэннае задавальненне, калі назіральнік разумее ўсю недарэчнасць сітуацыі. Не можаш змяніць гэты свет — назірай і атрымлівай асалоду. Але ж ты хочаш усё ўзяць і знішчыць. Увогуле, мы далёка не першы раз прыйшлі да гэтай тэмы, мне ўжо надакучыла...

— Людзі з цягам свайго існавання здолелі спахабіць усё, што толькі можна было. Яны ўзвялі ў культ свае фізіялагічныя патрэбы. Я нават здзіўляюся, чаму да гэтага часу няма культу прыбіральні?..

— А які самы знакаміты фантан у Брусэлі?

Гэтае пытанне прывяло Яго ў разгубленасць і амаль што ў роспач. Чамусьці Ён думаў, што субяседнік будзе ўсё аспрэчваць, а не падліваць алею ў агонь. Злы ж зноў агідна пасміхаўся ўласнай знаходлівасці і нейкаму ўсёведанню, магчымасці быць на некалькі крокаў наперадзе. Вытрымаўшы невялічкую паўзу, ён працягнуў:

— А яшчэ я ўпэўнены, што ў гісторыі былі спробы пісаць карціны фекаліямі. Можаш праверыць, калі будзе цікава.

— І вось як... Як можна жыць у гэтым свеце і быць назіральнікам? Калі тут нават самыя нізкія патрэбы фізічнага цела ператвараюць у быццам бы высокае мастацтва і захапляюцца гэтым...

— А чым гэта табе не прыклад творчага пачатку чалавека?.. Вось табе і чалавек-творца. Не проста паеў, каб падзарадзіць арганізм, а прыдумаў, як лепш прыгатаваць, змясціць у прыгожую форму... Тое ж і з іншымі патрэбамі...

— Але ж гэта паганства ў чыстым выглядзе... Хаця нават паганец Сакрат заўважыў, што чалавек есць, каб жыць, а не наадварот...

— Мне здаецца, ён меў на ўвазе, што трэба ведаць меру ў спажыванні ежы, а не тое, што трэба ставіцца да гэтага, як да дэфекта, абумоўленага фізічнай неабходнасцю.

— А што ты думаеш пра дыяментавыя крыжыкі? У наш час людзі амаль з усяго зрабілі брэнд, спахабілі ўсё, што можна і што нельга. Крыж, як сімвал хрысціянства, зрабіўся пэўным брэндам, стаў ювелірным упрыгожваннем. Я разумею, што гэта тычыцца і паганскіх крыжоў, і іншых сімвалаў. Аднак ці не абсурдна выглядае лацінскі крыж, упрыгожаны дыяментамі? Гэта ж маразм. Няўжо ўладальнік такога крыжа — сапраўдны хрысціянін? Ты ж сам называеш такіх людзей пазёрамі...

— Запытаю яшчэ раз: якая табе розніца? Магчыма, той, хто носіць крыж з дыяментамі робіць для Бога нашмат болей за цябе — таго, хто толькі крытыкуе. Няхай усе гэтыя людзі робяць, што хочуць — носяць крыжы з дыяментамі, фатаграфуюць ежу і набываюць касцюмы сваім сабакам. Гэта нават у сукупнасці нельга параўнаць з тым, што ты хочаш іх усіх забіць. І хто пасля гэтага горшы?.. Прызнайся, была б у цябе магчымасць жыць па-мяшчанску — ты б ёй скарыстаўся. Таму ты большы пазёр, чым яны...

Тэма, да якой падышла размова, Яму не падабалася. Таму Ён вырашыў нічога не адказваць і не працягваць сваю думку адносна таго, якім чынам жаданне загінуць ад маленькага метэарыта перарасло ў ідэю вынішчэння ўсяго чалавецтва. Усталявалася цішыня, але неўзабаве яе перарваў Добры:

— Ён мае рацыю, пагадзіся. Не табе вырашаць, каму як жыць, а каму не жыць увогуле... Калі ты засынаеш са спадзяваннем, што заўтра ніколі не будзе, іншыя чакаюць яго з пэўнымі надзеямі. Так, некаторыя з гэтых надзей, натуральна, мяшчанскія, аднак ёсць нямала высакародных, сапраўды вартых... Не будзь такім эгаістам. Зразумей нарэшце, што ніхто не даваў табе ніякай улады і права вырашаць за іншых...

Кожную ноч, калі ўяўляў, як Яго позірк падымаецца да каменнай глыбы ажно ў космас, Ён быццам бы спыняўся на кожным паверсе, што знаходзіліся над Яго пакойчыкам. Імкнуўся ўявіць, што на кожным вышэйшым паверсе павінен быць такі ж самы пакой, толькі з іншай мэбляй і іншымі жыхарамі. Насамрэч, Ён нават не ведаў, хто там жыве, не ведаў уласных суседзяў па пад’ездзе. Але гэта не мела ніякай розніцы, бо Ён, прыпыняючыся на кожным наступным паверсе, імкнуўся ўявіць нейкі вобраз-тып, які б змяшчаў у сабе агульныя рысы вялікай колькасці рэальных людзей.

На адным паверсе маладая пара з немаўляткам. Маладыя, напэўна, лічаць сябе перспектыўнымі, мяркуюць, што іх жыццё толькі пачынаецца. Хутчэй за ўсё, мараць пра добрую кар’еру, багацце. Жадаюць, магчыма, пераехаць ва ўласны дом з вялікімі вокнамі... Спадзяюцца, што іх дзіця будзе абавязкова разумным, выхаваным і ўвогуле самым лепшым. Хаця, цалкам верагодна, самі яны не маюць нават ні нармальнай адукацыі, ні навыкаў для выхавання гэтага дзіцяці. І не трэба выключаць, што яно ўвогуле было незапланаваным... Аднак яны кладуцца спаць са спадзяваннем, што ўсё абавязкова будзе добра, што наперадзе — толькі лепшае...

На наступным паверсе, магчыма, жыве больш сталая сям’я. Бацькі ўжо перажываюць крызіс сярэдняга ўзросту, разумеюць, што іх некаторыя чаканні ўжо ніколі не спраўдзяцца, што жыццё ўжо не зменіш і жывуць па інерцыі. Працуюць, напэўна, на адным і тым жа месцы ўжо не першы дзясятак, жывуць у гэтай кватэры прыкладна столькі ж, маюць вузкае кола старых сябрукоў, з якімі час ад часу збіраюцца на застоллі. І, нягледзячы на тое, што шмат чаго дасягнуць не атрымалася, што на шэрагу асабістых і кар’ерных амбіцый пастаўлены крыж, што муж ужо даўно надакучыў жонцы і наадварот, яны маюць нейкую штучную ілюзію стабільнасці, бо з года ў год — адно і тое ж. Але гэтым яны і шчаслівыя, хоць і самі таго могуць не разумець. Яны маюць дзяцей-падлеткаў, якія жывуць быццам бы асобным жыццём, і да якіх нярэдка, калі шчыра, няма спраў. У дзяцей усё добра — ну і добра. А дзеці гэтыя, магчыма, знаходзячыся на мяжы дарослага жыцця, уяўляюць сябе каралямі свету, перад якімі адчынены ўсе дзверы. І, у прынцыпе, маюць рацыю. Яны кладуцца спаць з марай патрапіць у лепшыя з гэтых дзвярэй, знайсці ўзаемнае каханне на ўсё жыццё, назаўжды застацца ў выдатных стасунках з сябрамі дзяцінства і школы, перажыць цікавыя прыгоды і выйсці пераможцамі...

На наступным паверсе можа жыць меней шчаслівая сям'я, у якой, напрыклад, нехта смяротна хворы. Гэты хворы добра разумее, што неўзабаве сканае, але нічога не можа зрабіць. І бясконца крыўдна яму, што жыццё з ім так абышлося, што не змог выканаць усяго, што хацеў. І нават не з-за ўласнай безадказнасці, а так — па волі лёсу. І няёмка яму быць цяжарам для сваіх родных. Безнадзейна хворы пачынае задумвацца пра сапраўдныя сэнсы жыцця, уяўляць, што змяніў бы, што зрабіў бы, калі б у яго была яшчэ адна магчымасць. І, засынаючы, магчыма, спадзяецца, што прачнецца здаровым, што ўсё няшчасце, якое выпала на яго лёс — толькі кепскі сон... А родныя яго, засынаючы, спадзяюцца, што раніцай зноў пабачаць на ложку блізкага чалавека, а не мёртвае цела, каб не дакараць сябе да самай смерці, што, магчыма, нешта не пачулі, не дапамаглі, не развіталіся па-чалавечы. Бо цяжка ім развітацца вось так — загадзя, каб не пакрыўдзіць чалавека, каб не думаў ён, што змірыліся, хоць і сам усё выдатна разумее...

На наступным паверсе, верагодна, жыве самотны стары. У яго шмат усялякіх хвароб, магчыма, ён нават інвалід. Аднак, сілы яго пакуль не пакідаюць. Хаця жыццё яму ўжо быццам бы і не патрэбна: надакучылі фізічныя і маральныя пакуты, невыносная адзінота, ды і сэнсу ў жыцці ўжо не засталося. Была б магчымасць, перадаў бы свой запас жыццёвага часу таму, каму ён насамрэч патрэбны. Суседу знізу, напрыклад. Але няма такой магчымасці, і стары жыве, пакуль жывецца — хворы, слабы, нікому не патрэбны. Вельмі хочацца яму з кім-небудзь паразмаўляць. Нават не затым, каб перадаць свой вопыт ці распавесці якую-небудзь цікавую гісторыю з жыцця, вялізная колькасць якіх без патрэбы захоўваецца ў слабой памяці. А проста паразмаўляць: пра навіны, пра надвор'е. Пажартаваць. Старыя ж таксама ўмеюць жартаваць і смяяцца... Але нікога няма, толькі ён у кватэры, прапахлай лекамі. І каб нечым сябе пацешыць, ён глядзіць усякую лухту па тэлебачанні ці чытае мастацкія кніжкі. Здавалася б, навошта чытаць, калі і абмеркаваць гэта няма з кім, ды і неўзабаве давядзецца паміраць. Але ж ён чытае. І яму цікава... Кладучыся спаць, верагодна, спадзяецца ён, што хвароба не прывядзе да агоніі, што памрэ лёгка, а пасля сустрэне недзе там сваіх блізкіх і сяброў, і будуць яны разам узгадваць багатае на падзеі жыццё...

Прыкладна такімі ўяўляў Ён сабе суседзяў з вышэйшых паверхаў. Кожны раз пры гэтым раздражняўся, што яны — паводле Яго ж уяўлення — жывуць штучнымі, мяшчанскімі сэнсамі, але адначасова адчуваў невыноснае спачуванне і шкадаванне. Цяпер жа Ён зноў уявіў сабе гэтых людзей, іх розныя і ў той жа час шмат у чым падобныя лёсы, і адчуў супярэчлівыя эмоцыі.

— Вось бы яны ўсе разам заснулі і пабачылі нейкі добры сон... Кожны свой, канешне ж... І ў той жа час — астэроід... Магчыма, пабылі б яны яшчэ нейкі час у сваіх снах... А магчыма, адразу патрапілі б у нейкі іншы, сапраўдны свет, дзе няма гэтых штучных зямных праблем...

Яму адказаў Добры:

— Я ведаю, што ты нядрэнны чалавек. Я ведаю, што ты хочаш зрабіць як лепш. Але ў цябе няма права вырашаць за іншых. Накіруй сваё памкненне на нешта сапраўды добрае. Хай гэта будзе толькі кропля ў моры. Хай гэтага нават ніхто не заўважыць, але так будзе правільна...

Ён ляжыць і маўчыць. Словы Добрага быццам бы застаюцца па-за ўвагай, і Ён зноў пачынае свой дзіўны рытуал набліжэння каменнай глыбы.

## НОЧ ДЗЯВЯТАЯ

*Бог з машыны.*
Аўтар невядомы

Ён ляжыць нерухома. Узгадвае ўчарашнюю размову. Нягледзячы на тое, што ўчора Яго недаслухалі, вырашае агучыць сваю думку цяпер:

— Як я прыйшоў да ідэі агульнага вынішчэння?.. Тут усё... Я казаў, што смерць часткі чалавецтва выратуе гэтых загінулых і падштрухне некаторых іншых да сапраўднага жыцця. Аднак я выдатна разумею, што гэта будзе і вялікі боль — у першую чаргу для сваякоў памерлых, а таксама для некаторых чуллівых асоб... Канешне, гэты боль часткі грамадства варты таго, каб усё чалавецтва ўвогуле стала крыху лепшым і яшчэ раз задумалася над сваім існаваннем... Бо лепш ахвяраваць тысячамі цяпер, каб не страціць мільёны потым...

Яго перабіў Добры:

— Жыццё кожнага асобнага чалавека — самае каштоўнае ў гэтым свеце. Ты не маеш права так легкадумна казаць пра нейкія тысячы і мільёны... У табе няма Бога, бо Ён — гэта любоў. Палюбі кожнага асобнага чалавека...

— Як самога сябе? — з’едліва запытаў Злы, відавочна намякаючы, што самога сябе Ён не любіць і таксама хоча забіць.

— ...Потым ты ўжо не зможаш успрымаць людзей, як нейкую сухую статыстыку.

Гэтыя словы амаль абурылі Яго:

— Ты памыляешся! Нават недаслухаўшы! Я якраз хацеў сказаць пра гэта. Мая ідэя і ёсць праяўленне вялікай любові, усеахопнай любові да кожнага. Толькі знішчыўшы ўсіх разам, я магу даць сваю любоў пароўну кожнаму. Нікога пры гэтым не пакрыўдзіць. Я нават гатовы ахвяраваць сабой. Бо тут я буду адзіным, хто ведае, што свядома ідзе на ахвяру — астатнія да апошняга будуць у шчасным няведанні. А там я гатовы прыняць статус забойцы і ўзяць на сябе ўсе грахі ахвяр, калі на тое будзе воля Бога, як казаў Злы. І хіба ж гэта — не любоў?

— Гэта амбіцыі і ганарлівасць. Няўжо ты сам гэтага не разумееш?.. Табе неабходна пакора. Неабходна змірыцца і прыняць свет такім, які ён ёсць. Прыняць людзей такімі, якія яны ёсць. І палюбіць іх такімі... Гэта і будзе сапраўдная любоў. Ты ж гатовы любіць толькі тое, што адпавядае нейкім тваім уяўленням і патрабаванням. Гэта значыць, ты гатовы любіць толькі сябе.

Да размовы зноў далучыўся Злы:

— Памятаеш, мы размаўлялі наконт таго, што ўсё чалавецтва з’яўляецца пэўным эксперыментам? Эксперыментам, сэнс якога — самаразвіццё, эвалюцыя, прагрэс. Але ты ж лічыш, што прагрэс не адбываецца, што цяпер назіраецца толькі заняпад...

— А хіба не? Інструмент чалавека эвалюцыянаваў з прымітыўнай дубіны да звышхуткіх камп’ютараў і ядзернай зброі. А што сам чалавек? У лепшым выпадку, ён там жа, дзе быў тысячы год таму...

— Ты памыляешся. Акрамя таго, эвалюцыя інструментаў чалавека — гэта нядрэнна. Яна можа дапамагчы яму самому... Ты хочаш знішчыць усё цяпер, матывуючы гэта тым, што ўсё быццам бы вельмі кепска і паступова пагаршаецца. Аднак, уяві іншы варыянт — варыянт прагрэсу, пры якім будуць змяняцца не толькі інструменты, але і сам чалавек. Я разумею, што няма прынцыповай розніцы паміж прымітыўнай падводай, сучасным аўтамабілем і тым, што заменіць аўтамабіль у будучым;

няма прынцыповай розніцы паміж мячом, аўтаматам і нейкай лазернай зброяй... Але некаторыя вынаходніцтвы прынцыпова ўплываюць на асобу чалавека. Што казаць, калі сёння чалавецтва можа змяняць ДНК? Тыя ж камп'ютары дазволілі атрымаць уяўленне пра існаванне віртуальных сусветаў... Квантавая фізіка дазволіла зразумець парадаксальнасць гэтага свету... Я хачу даць табе адзін з варыянтаў развіцця чалавецтва. Можаш лічыць, што гэта такая казка нанач... Ты лічаш, што людзі перастаюць верыць у Бога — хай так. На мой погляд, сапраўднаму Богу ўсё роўна, вераць у Яго, ці не, бо гэта не ёсць самамэта. Акрамя таго, Ён з'яўляецца ўсемагутным і не залежыць ад веры або бязвер'я людзей... Але ж, так ці інакш, людзям патрэбна ў нешта верыць і разам з гэтым, мець пэўныя маральныя арыенціры. Я згодны з табой у тым плане, што абсалютная большасць людзей не можа кантраляваць сябе знутры: адказна працаваць, не рабіць дурнога і гэтак далей, калі над імі няма назіральніка. У ранейшыя часы, гэтым назіральнікам з'яўляўся Бог, якім яго ўяўлялі паводле рэлігіі. Натуральна, гэта не азначае, што атэісты, застаючыся сам-насам рабілі злачынствы налева-направа. Аднак, ужо ў наш час ідэі дэмакратыі прывялі да неверагоднай разбэшчанасці і значна пахіснулі маральныя ўстоі. Ты ведаеш пра гэта лепш за мяне... Лагічна ўявіць, што ў будучым такая сітуацыя толькі пагоршыцца. Я ўжо не кажу пра тое, што большасць людзей устрымліваецца ад шэрагу дзеянняў толькі пад пагрозай штрафаў ці іншых пакаранняў, а не з-за высокай маралі... Але потым маятнік абавязкова хіснецца ў іншы бок. Людзі, страціўшы веру ў традыцыйнага Бога, створаць уласнага — рэальнага, адносна іх разумення. Гэта можа быць камп'ютарная сістэма — нават не штучны інтэлект, а вялікі набор алгарытмаў, — якая будзе ўвесь час сачыць за кожным асобным чалавекам і рэагаваць на яго дзеянні. Кантроль можа быць устаноўлены з дапамогай наначыпаў, што будуць ужыўляцца ў арганізм людзей пры нараджэнні. Заўваж, тое, пра што я пакуль кажу — не выглядае занадта фантастычным. Дык вось, наначыпы ці нанаробаты будуць мець сталую сувязь з Сістэмай як бы знутры чалавека. Акрамя таго, магчыма, будуць і нейкія знешнія перадатчыкі. У сукупнасці, усе яны будуць даваць гэтай Сістэме звесткі пра тое, што і як чалавек зрабіў, а яна будзе ўзнагароджваць ці караць яго. Якім чынам? Адказ можа быць геніяльна простым: пры дапамозе грошай. На рахунак чалавека Сістэма будзе налічваць пэўную колькасць за добрыя справы і вылічваць за кепскія. А ўжо за гэтыя грошы чалавек зможа наладзіць сабе дабрабыт. Паколькі рахунак будзе звязаны з асобай чалавека, звычайныя грошы ці пластыкавыя карткі не спатрэбяцца — дастаткова будзе толькі біяметрычных дадзеных. Ужо сёння ў гэтым свеце за грошы можна набыць амаль усё, акрамя хіба толькі здароўя ці жыцця. Але ж медыцына не будзе стаяць на месцы... Дарэчы, цалкам верагодна, што Сістэма зможа кантраляваць здароўе чалавека напрамую: стымуляваць выпрацоўку пэўных гармонаў, уздзейнічаць на тонус і гэтак далей. У такім рэчышчы цалкам верагодна, што яна зможа сачыць за думкамі і за эмоцыямі чалавека, каб папярэдзіць злачынствы. Атрымала сігнал, што чалавека ахоплівае гнеў — стымулюе падачу эндарфінаў, ці наадварот — заставіла супакоіцца і заснуць... І ў кожнага тады будзе неаспрэчны стымул рабіць толькі добрае, шчыра працаваць, дапамагаць бліжнім...

— Але ж гэта будзе падманам. Сапраўдная прырода чалавека не зменіцца, ён стане закладнікам гэтай сістэмы...

— Чаму ж?.. Сёння большасць людзей робіць нешта добрае, бо верыць, што ім адплаціцца «потым», верыць у карму, у тое, што ўсё вяртаецца бумерангам... Не бачу прынцыповай розніцы. Толькі тады, у будучыні, чалавек будзе не верыць, а мець гарантыю, што атрымае ўзнагароду за добрыя справы. Акрамя таго, чалавек усё ж застанецца вольным. Ён будзе ведаць, што яго чакае, калі парушыць правілы

сістэмы. У адпаведнасці з гэтым і будзе рабіць свой выбар. А выбар людзі заўжды робяць на сваю карысць... Дык вось, уяві, што Сістэма вырашыць тваё балючае пытанне: дасць магчымасць людзям не займацца штучнымі сэнсамі, не працаваць за кавалак хлеба, каб існаваць, а рабіць тое, што чалавек насамрэч хоча. Колькі ў гісторыі было таленавітых мастакоў, кампазітараў, пісьменнікаў, якія жылі ў галечы? А Сістэма будзе плаціць грошы за ўсякую творчасць, а не толькі за працу на заводах... Нават калі іншыя людзі не зразумеюць працы мастака, Сістэма ўзагародзіць яго за адданасць і працавітасць. І тады не будзе абяздоленых, не будзе тых, хто нажыўся за кошт іншага... На зямлі будзе панаваць справядлівасць... І галоўны сэнс у тым, што праз некалькі пакаленняў, якія не зведаюць гвалту, падману, жорсткасці і абыякавасці, у свет прыйдуць людзі з іншай свядомасцю. Людзі, якія не змогуць зразумець, як гэта — забіць чалавека ці адабраць у яго апошні кавалак хлеба...

— А што з сапраўдным Богам?

— А што з Ім? Я думаю, што такое становішча Яго задаволіць. Усё ж лепш, чым вынішчаць адно аднога і спрачацца, якая з рэлігій адзіна правільная. Людзі будуць актыўна развівацца, ствараць нешта, праяўляючы свой боскі пачатак. Акрамя гэтага, я думаю, што ніхто не стане забараняць рэлігіі. Сістэму ж не стануць успрымаць як сапраўднага Бога і пакланяцца ёй. У рэшце рэшт, магчыма, Сістэма з’яўляецца часткай Яго задумы...

Ён ляжыць і імкнецца ўявіць сабе свет, што апісаў Злы. Нейкая Утопія... Ды і ўвогуле, Злы звычайна не кажа штосьці так. Тым больш, станоўчае. Няўжо насамрэч Злы з’яўляецца такім аптымістам? Гэты цынік, які супраць астэроіда толькі таму, што астэроід будзе для людзей вялікім і незаслужаным падарункам, а самі яны, паводле слоў Злога, заслугоўваюць горшага. Сам жа казаў, што з задавальненнем назіраў бы за пакутамі... А цяпер — такая ўтапічная карціна светлай будучыні. Не, як заўжды, нешта нячыста... І Ён чакае адказу Добрага. І Добры, адчуўшы гэта, адказвае:

— Шмат у чым ён мае рацыю. Бо ўсё ідзе сваім парадкам. І павінна ісці столькі, колькі трэба. Не табе вырашаць, калі ставіць кропку. Табе трэба толькі змірыцца і прыняць гэты парадак... Нікому не дадзена ведаць, калі прыйдзе апошні час — заўтра ці праз тысячы год. Аднак жадаць яго набліжэння — не ёсць добра...

Гэтыя словы Ён чуў шмат разоў. І цяпер яны не маюць на Яго ўплыву. Ён, па сваёй звычцы, ляжыць і ўяўляе ў чорным космасе вялікую каменную глыбу. Уяўляе, як накідвае на яе ласо ці нешта такое, — дэталі не маюць значэння, ды і стомлены мозг не можа ўжо іх ствараць — і цягне гэтую глыбу на сябе...

## НОЧ ДЗЯСЯТАЯ

***Пад самаізаляцыяй чалавека няцяжка выявіць падмурак з славалюбства і ганарыстасці.***

А. АДЛЕР

Ён ляжыць на сваім няўтульным ложку на спіне, амаль як нежывы. Чамусьці гэтым разам настрой Яго незвычайна кепскі. Магчыма, нешта здарылася мінулым днём, магчыма, нешта змянілася ў Яго свядомасці. З нейкай незвычайнай узлаванасцю цягне Ён у сваіх думках да сябе каменную глыбу з бясконцых глыбінь чорнага космасу. Пачынае балець галава. Спачатку Ён трывае, аднак потым пачынае вару-

шыцца, фізічна дублюе дзеянні, якія ўяўляе. Рэальна падымае рукі і «цягне» нябачны канат. «Цягне» старанна — максімальна напружваючы рукі і плечы. Спачатку выкідвае правую руку, хапае «канат», моцна яе напружваючы ад пальцаў аж да грудзей, роўна і павольна ў такім напружанні «цягне» да цела. Пасля — тое ж самае левай... У яго набухаюць вены і пачынаюць балець суставы, спіна робіцца вільготнай ад поту. Затое галава крыху праясняецца. Невядомая ўзлаванасць і раздражнёнасць надаюць Яму сіл ды трываласці, бо Ён выконвае свой дзіўны рытуал надзвычай доўга. Аднак, у рэшце рэшт, стамляецца. Ляжыць знясілены і цяжка дыхае...

— Што зноў здарылася? — запытаў Добры.

— Нічога... Здарылася... Было б лепш, каб іншым часам насамрэч нешта здарылася... Адбылася нейкая падзея... А так... Калі пачынаецца вайна, — гэта здарэнне. А калі людзі кожны дзень па-ціхаму забіваюць адзін аднога за пляшку гарэлкі — гэта быццам бы і нармальна... Калі чалавек раптоўна памірае ад інфаркту, — гэта здарэнне. А калі месяцамі канае ад прастуды — гэта быццам бы і нічога... Калі раптоўна становіцца інвалідам, — гэта здарэнне. А калі з кожным днём паступова губляе здароўе — гэта быццам бы звычайна... Калі ўсе ў адзіны момант ад цябе адварочваюцца, — гэта здарэнне. А калі людзі паступова аддаляюцца — быццам бы нічога страшнага... Калі пясочны гадзіннік разбіваецца, — гэта здарэнне. А калі пясок павольна перасыпаецца з адной колбы ў іншую — гэта нічога. Табе застаецца назіраць за гэтым і разумець, што аднойчы пясок будзе сыпацца з кашчавай далоні ў тваю пустую вачніцу... І ўсё... Калі нешта насамрэч ЗДАРАЕЦЦА, тады ўсё падзяляецца на «да» і «пасля», цябе ставяць перад фактам: абставіны змяніліся, цяпер будзе вось так, а не інакш. І ты думаеш, што з гэтым рабіць, як жыць далей... А так — ты нейкі назіральнік, які знаходзіцца ў гэтым прамежкавым стане паміж «да» і «пасля». І ні туды, і ні сюды. Змяніць нічога не можаш, аднак вымушаны назіраць за ўсім гэтым і нават прымаць удзел... У такім становішчы не можаш нават дакладна адказаць на пытанне «што здарылася?», бо быццам бы і нічога. І як жа ад гэтага ўсяго хочацца памерці...

— Я ж гаварыў: людзі, якія кажуць, што хочуць памерці, насамрэч хочуць жыць. Але жыць так, як ім падабаецца...

Да размовы далучыўся Злы:

— А я казаў, што калі б у цябе была магчымасць жыць мяшчанскім жыццём, ты б ёй скарыстаўся... Усё сыходзіцца. Прызнайся сабе ў гэтым і паспрабуй, нарэшце, штосьці змяніць, каб атрымаць ад жыцця задавальненне.

— Што змяніць? Дапусцім, у мяне было б цяпер столькі грошай, што я мог бы сабе ні ў чым не адмаўляць... Перастаў бы займацца непатрэбшчынай і мітуснёй. Магчыма, падцягнуў бы здароўе... Магчыма, пачаў бы весці здаровы лад жыцця і выкраіў бы гэтым сабе некалькі дадатковых гадоў... А што далей? Разуменне таго, што ўсё гэта — часовае, што мы не становімся маладзейшымі, нікуды б не падзелася... Млявапраяўныя недаздарэнні нікуды б не падзеліся... Канешне, з бязмернай колькасцю грошай было б лягчэй. Але ж гэтага няма і ніколі не будзе...

— Па-першае, чаму ты адразу пачаў казаць пра грошы? А па-другое, казаць, што ніколі чагосьці не дасягнеш, нават не паспрабаваўшы — прыкмета слабога чалавека...

— Грошы — сродак, які значна спрашчае існаванне. А наконт слабога чалавека... Так, я слабы чалавек! Я вельмі слабы чалавек і ненавіджу сябе за гэта! Мне самому ўжо брыдка сыходзіць ад адной залежнасці да іншай, замяняць адну слабасць другой. Мне абрыдла спадзявацца на нешта лепшае і жыць у гэтым чаканні, паралельна займаючыся абсалютнай бязглуздзіцай, толькі каб датрываць да нейкай

лепшай долі... І ад гэтага таксама невыносна хочацца здохнуць!.. Ці вярнуцца ў дзяцінства, прыбегчы маленькім хлопчыкам да маладой маці, абняць яе за шыю, і, захлынаючыся плачам, заікаючыся, сказаць: «Мама! Мамачка! Мяне тут ніхто не любіць!.. Мяне тут усе крыўдзяць! А я ж ім нічога кепскага не зрабіў... За што яны са мной так?.. Мама! Мне тут вельмі дрэнна... Пашкадуй мяне, мама...»

Ён ляжыць і бязгучна плача. Яго маці памерла, калі Ён быў яшчэ зусім маленькім. Цяпер Ён узгадвае, што ў дзяцінстве паскардзіцца Яму не было каму, акрамя Добрага... Неўзабаве Ён крыху супакоіўся і вырашыў працягнуць. Але, каб супакоіцца канчаткова, палічыў мэтазгодным перавесці размову ў крыху іншы кірунак:

— Я ж спрабаваў, шчыра спрабаваў нешта змяніць, нешта зрабіць... Але ў гэтай краіне, мне здаецца, нельга здзейсніць нешта значнае... Бо тут ёсць толькі два лагеры — ва ўсіх сферах і на ўсіх узроўнях. Больш вялікі лагер — прыкарытны. Гэтыя людзі маюць падтрымку дзяржавы, грошы, узнагароды... Не тое, каб гэта быў закрыты клуб, але ж... Каб быць з імі, неабходна адпавядаць іх патрабаванням, а яны іншым часам выходзяць за межы прафесійных якасцей... Прыкарытныя могуць рабіць розную лухту, ствараць рознае смецце, бо ведаюць, што іх падтрымаюць у любым выпадку. Але ж яны шчыра ўпэўнены, што насамрэч з'яўляюцца зоркамі. Аднойчы я нават піў гарэлку з адным заслужаным артыстам... Упершыню чуў яго імя... Казалі, што ён ужо даўно не выступае, ды і ў зорны час далёка не кожны мінак мог яго пазнаць і папрасіць аўтограф. Але, калі мы з ім пілі, стала зразумела, што ён лічыць сябе нейкім жывым Элвісам... Ён даў мне сваю візітоўку і сказаў, што я магу паказваць яе дзяўчатам, каб узвысіць свой аўтарытэт у іх вачах... Маўляў, калі яны пабачаць, што я знаёмы з гэтым чалавекам, адразу ж скокнуць да мяне ў ложак. І ён, відавочна, шчыра так лічыў. Неверагодны маразм... Але гэтая пыха паказальная амаль для кожнага. Не толькі для артыстаў, але і для музыкаў, літаратараў, бізнесменаў, палітыкаў, чыноўнікаў... Большасць з іх дасягнула гэтага спрэчнага поспеху толькі дзякуючы дзяржаве, сувязям ці падхалімству. Але цяпер яны шчыра вераць у сваю выбранасць... Другі ж лагер лічыць сябе незалежным. Яго прадстаўнікі прынцыпова імкнуцца дасягнуць усяго самастойна, аднак на справе гэта нярэдка не атрымліваецца. Здаецца, асноўная задача гэтага лагера — быць крывым люстэркам для прыкарытных. Рабіць усё наадварот. І што дзіўна, тыя людзі таксама лічаць сябе самымі лепшымі, хоць нават не маюць тых аргументаў, якія ёсць у першых... Але самае паганае, што і тыя, і другія жывуць па прынцыпе «хто не з намі — той супраць нас». Вось і здаецца, што трэцяга ўвогуле не дадзена... Калі ты адначасова захапляешся прадстаўнікамі абодвух лагераў, і той, і другі лічаць цябе здраднікам і ўвогуле вар'ятам... Калі абодва лагеры табе не падабаюцца — тым больш... І гэтае супрацьстаянне — яшчэ адна непатрэбшчына і бязглуздзіца ў гэтым жыцці... Дарэчы, яшчэ адна прычына абрынуць астэроід — прывесці нарэшце ўсіх да адной роўніцы, каб яны пабачылі, што насамрэч нічым істотным не адрозніваюцца... Дык вось, у такой сітуацыі застаецца толькі займацца нечым нязначным, мець пасаду, на якой тваё меркаванне не адыгрывае ніякай ролі...

— Краіна ўжо не тая, — адказаў Злы. — Зноў кепскаму танцору порткі перашкаджаюць... Зноў ты спрабуеш абгрунтаваць уласныя недахопы нейкімі знешнімі фактарамі... Колькі разоў ты нешта там спрабаваў? Адзін? Два?.. Калі ты такі быццам бы нонканфарміст — рабі па-свойму. Ты ж не робіш. Але галоўнае ў тым, што гэта — твой уласны выбар, колькі разоў трэба пра гэта казаць? У рэальнасці ты нічога не робіш і не імкнешся нешта змяніць. Ты толькі крытыкуеш існае грамадства, але жывеш па яго правілах. А чаму? Таму што насамрэч цябе гэта задавальняе.

Хочаш здохнуць — вазьмі і здохні. Але ты і гэтага не робіш. Уяўляеш сабе нейкі астэроід для апраўдання, быццам бы спрабуеш нешта рабіць. Але ж гэта фікцыя... Дарэчы, наконт самагубства... Нехта сказаў: калі ты ляціш з моста, разумееш, што ўсе праблемы вырашальныя, акрамя адной: ты ляціш з моста. Дык вось, калі табе ўсё так абрыдла — ідзі бамжаваць, забі тых, каго ненавідзіш. Рабі тое, што хочаш, жыві апошнім днём. Аднак ты гэтага не робіш, бо тваё жыццё, на якое ты ўвесь час скардзішся, насамрэч цябе задавальняе... Прызнайся, ты не проста слабак, ты яшчэ і баязлівец.

Ён ляжыць і маўчыць. Магчыма, Злы ў нечым мае рацыю, а магчыма, і не. У любым выпадку ў Яго ўжо няма імпэту спрачацца. Ён вельмі стомлены, але шэраг эмоцый ад узлаванасці да неверагоднай крыўды і суму, якія Ён адчуў за гэтую ноч, не дазваляюць заснуць. Ён узяў плэер, лёг на свой няўтульны ложак, уставіў навушнікі і ўключыў музыку. Яму хацелася нават не столькі музыкі, колькі адпачыць ад гэтай непрадуктыўнай размовы, ад Злога і ад Добрага. Аднак неўзабаве Ён загаварыў першым:

— Joy Division — адзін з маіх улюбёных музычных гуртоў... А большасць знаёмых нават не ведае, што гэта такое... Мне няма з кім паразмаўляць нават на пабытавыя тэмы кшталту любімай музыкі, кніг, фільмаў... Што ўжо казаць пра больш сур’ёзныя рэчы?..

Яму зноў адказаў Злы:

— У кожнага свой густ. Не бачу тут нічога кепскага. Ды і хто табе не дазваляе знайці новых знаёмых па інтарэсах?.. Зноў жа, твой выбар... А ўвогуле, калі ў людзей розныя схільнасці ў мастацтве, гэта абсалютна не азначае, што яны не змогуць паразмаўляць на больш сур’ёзныя тэмы. Гэта відавочна...

— Нікому з тых, каго я ведаю, няма да мяне справы...

— А хіба табе ёсць справа да іх?

У плэеры зайграла песня The Doors «The End». Пад павольны псіхадэлічны рытм Ён пачаў засынаць. Ужо ў дрымоце пачуў Ён знаёмыя словы песні, якую апошнім часам слухаў вельмі часта і амаль вывучыў на памяць: «This is the end, beautiful friend... This is the end, my only friend, the end... Of our elaborate plans, the end... Of everything that stands, the end... No safety or surprise, the end...»

## НОЧ АДЗІНАЦЦАТАЯ

> ***У цябе было нейкае ўяўленне пра жыццё, была нейкая вера, нейкая задача, ты быў гатовы да подзвігаў, пакутаў і ахвяраў — а потым паступова заўважыў, што свет не вымагае ад цябе ніякіх подзвігаў, ахвяраў і ўсяго такога, што жыццё — гэта не велічная паэма з гераічнымі ролямі і ўсякім такім, а мяшчанскі пакой, дзе задавальняюцца ежай і пітвом...***
>
> ***Г. ГЕСЭ***

Раптоўна стала неяк усё роўна. Фактары, якія стрымлівалі Яго раней, быццам бы страцілі сваё значэнне. Яны застаюцца, аднак Ён ужо па-над імі. Раптоўна вера, якая давала моц пачынаць новы дзень, знікла. У гэты час Ён задумаўся: а ці была яна ўвогуле? Злы, як заўжды спакойна і разважна, але вельмі ўпарта, паўтараў Яму на вуха, што ўсё гэта было толькі самападманам. Ён не верыў Злому, аднак спрабаваў разабрацца: а мо і праўда? Мо і праўда ўвесь гэты час Ён не верыў па-сапраўднаму?

Ці, дакладней, верыў не па-сапраўднаму?.. Увогуле, Ён цяпер не хацеў чуць ні Злога, ні Добрага, таму і заглушаў іх белым шумам уласных думак.

Думкі блыталіся і быццам бы зліпаліся ў Яго галаве, перамешваліся і растваралiся адна ў адной. Цяжка было з усёй гэтай мешаніны вылучыць нешта адно — цэласнае і яснае. Пры тым Ён разумеў, што, магчыма, трэба супакоіцца, раскласці ўсё па палічках, падумаць. Але для гэтага патрэбны час і спакой, чаго Яму бракавала. Было зразумела, што ў дадзены момант зрабіць задуманае немагчыма — лепш адкласці на раніцу, на новы дзень. Але гэта было апафеозам абсурду, бо новы дзень прынясе шмат новых праблем, а большая частка таго, што ёсць у Яго галаве цяпер, на той момант канчаткова зліпнецца ў кавалак бруду, з якога нельга будзе ўзяць абсалютна нічога. Тады давядзецца ўсё адкласці да чарговай ночы — і кола замкнецца. Марная трата часу. Ён згубіў на гэта ўжо безліч гадоў і так ні да чаго не прыйшоў. Было б бессэнсоўна яшчэ раз наступаць на тыя ж граблі, марнаваць яшчэ нейкую колькасць дзён і начэй.

Трэба было зрабіць неабходнае — пакласці канец бессэнсоўнаму кругавароту. Гэта было навідавоку: як тое, што смецце трэба выкідаць, непатрэбнае — аддаваць, музыку, якую не слухаеш — выдаляць з плэйліста. Аднак нават на такім бытавым узроўні заўжды ўзнікалі сумненні. Па-першае, не хацелася б страчваць сваё — нават калі яно сто гадоў было непатрэбным і яшчэ столькі ж ім будзе. Па-другое, заўжды ўзнікала думка: а што, калі аднойчы спатрэбіцца? І праз гэта, нават на бытавым узроўні, усе пытанні наконт яўнай непатрэбшчыны адкладваліся на «потым». Часта Ён так і думаў: «калі-небудзь разбяру ўвесь гэты бардак, потым выкіну ўсё непатрэбнае»; «калі-небудзь гэтае непатрэбнае спатрэбіцца»; «калі-небудзь дараблю тое, што не скончыў»; «калі-небудзь захачу паслухаць музыку, якая мне ніколі не падабалася»... І ў такія часы Ён пакідаў усё так, як ёсць.

Аднак цяпер Ён вырашыў дзейнічаць. Спраў, адкладзеных на «потым» і на «калі-небудзь», назбіралася ўжо столькі, што толькі на разгляд іх патрабавалася, напэўна, яшчэ адно жыццё. А на рэалізацыю — некалькі жыццяў. І натуральна, у працэсе з'яўляліся б новыя і новыя справы — тупіковая сітуацыя. Бо паўстаў бы выбар: дарабіць тое, што пачаў, ці разабрацца спачатку з тым, што ўзнікла падчас гэтай працы. Так ці інакш, адну з гэтых спраў зноў трэба было б пакідаць на «потым». Такая парадыгма давала ўяўленне пра бясконцасць і, адначасова, бессэнсоўнасць гэтай бясконцасці. Карацей кажучы, цяпер Ён вырашыў дзейнічаць — пакласці канец усяму адным махам. Ён зразумеў, што шкадаваць усё гэта, ва ўсякім разе ў Яго выпадку, — тое ж самае, што шкадаваць непатрэбную і нецікавую працу, адкладзеную на «потым»... Быццам сам сабе аднойчы даў слова, што «калі-небудзь потым» разбярэцца з непатрэбнымі справамі і атрымае пэўны сэнс, дзеля якога трэба ўставаць кожную раніцу. Гэтаму цяпер быў роўны сэнс усяго Яго жыцця: тайным абяцанням разабрацца «калі-небудзь потым» з тым, што ніколі нікому не спатрэбіцца. Нават самі справы, з якімі быццам бы трэба было разбірацца, не мелі ніякай вартасці, аднак вось неабходнасць пазбавіцца гэтага штучнага грузу і была сэнсам. У той жа час тое, што Ён рабіў фактычна, было рэчаіснасцю, якая заставалася па-за ўвагай. Атрымлівалася, што ўсё рэальнае жыццё — пустэча, а вось існаванне нейкіх нявырашаных бессэнсоўных спраў — увесь сэнс. Тое, што Ён рабіў дзень за днём: зарабляў грошы, гатаваў ежу, камунікаваў з людзьмі, займаўся самаадукацыяй, слухаў музыку, чытаў кнігі, рамантаваў нешта — усё гэта было фонам, дэкарацыямі. А вось неабходнасць «калі-небудзь потым» упарадкаваць уласную дзіцячую калекцыю нейкага смецця, памяняць непатрэбную лямпачку на балконе, узяцца за выпраўленне

здароўя, наладзіць адносіны з блізкімі, стаць добрым сем'янінам, завесці сабаку — усё гэта быццам было сэнсам жыцця.

Калі Ён зразумеў, што гэты сэнс з'яўляецца пэўным даляглядам, да якога, колькі не ідзі, усё адно не дойдзеш; што перашкодай на гэтым шляху з'яўляецца жыццё, праз якое трэба прабівацца не спыняючыся, каб бегчы да недасяжнага; што ў такіх умовах нельга ні атрымаць задавальнне ад жыцця, ні дасягнуць далягляду, у Яго апусціліся рукі. І тады Ён вырашыў абарваць гэты далягляд, каб можна было дайсці да сапраўднага канца. Ён вырашыў абрынуць каменную глыбу, каб пазбавіць кожнага ад «калі-небудзь» і ад «потым», пазбавіць кожнага штучнай будучыні. А разам з тым пазбавіць кожнага танных штучных сэнсаў. Каб кожны раптоўна паўстаў перад безданню і зразумеў: усё, канец. Няма больш далягляду, няма больш куды ісці. Каб кожны зразумеў, што дасягнуў канчатковай кропкі, што цяпер можна спыніцца і азірнуцца навокал. Можна паразважаць над тым, што мае сэнс насамрэч. Магчыма, тыя, хто будуць стаяць на гэтай мяжы, убачаць у безданні сапраўдную ісціну і зразумеюць яе. І ўсё гэта — дзякуючы Яму. Ніхто б, акрамя Яго, пра гэта, канешне, не ведаў, але для Яго гэта быў бы трыумф. І Ён быў гатовы ахвяраваць сабою для такога трыумфу. Ён быў гатовы стацца не збаўцам, а самым вялікім забойцам у гісторыі, панесці любыя пакаранні за гэта, толькі каб спыніць абсурдную сістэму і прывесці ўсіх да адзінай мяжы. І гэтая глабальная ідэя стала Яго сапраўдным сэнсам.

Аднак цяпер вера Яго знікла. У пэўны момант Ён перастаў верыць у тое, што насамрэч можа цягнуць гэтую глыбу, што яна насамрэч ляціць да Яго. Ён ужо не быў упэўнены, што яго глабальная ідэя можа ўвасобіцца цалкам, што нават калі глыба абрынецца, будзе нейкі працяг. У прынцыпе, і такі варыянт бачыўся Яму някепскім — нават калі не будзе нейкага новага ўзроўню, калі людзі не змогуць паглядзець у бездань на краі іх штучнага свету і пабачыць там ісціну, Ён пакладзе канец бессэнсоўнасці. Калі за ўсю гісторыю не знайшлі іншых шляхоў спыніць войны, несправядлівасць, крыўды, няроўнасць — цяпер усё скончылася б. Не было б больш непатрэбнай мітусні і бясконцых пагоняў за тым, што нікому ніколі не было патрэбна, за тым, што мае актуальнасць толькі мізэрны працяг часу нават адносна чалавечага жыцця, не кажучы ўжо пра адносіны да сусвету... Нават у такім варыянце падзенне каменнай глыбы мела б сэнс. Аднак веры Яго больш не было.

Не было ў Яго веры не толькі ў свой уласны сэнс, сваю ідэю. Не было яе ўвогуле. Разам з тым не было ніякіх страхаў, ніякай адказнасці. Была толькі невыносная стомленасць і моцная, як ніколі, рашучасць пакласці ўсяму гэтаму канец. Слабая, ліпкая думка перасіліць сябе, шукаць новага сэнсу ці жыць далей без аніякага сэнсу ўвогуле, здавалася Яму мазахізмам. Ён толькі падумаў, што можна было б існаваць, маючы адпаведныя сродкі, а так — кожны дзень круціцца ў нейкім віхуры, зарабляць на хлеб, мець непрыемныя стасункі з людзьмі, жыць па раскладзе — абсалютная бессэнсоўнасць. Бессэнсоўнасць і мазахізм.

Ён стаў на крэсла і прасунуў галаву ў пятлю. Стаяў так некалькі хвілін, аглядаючы пакой. Пакой здаваўся Яму нейкім чужым. Магчыма, таму, што Ён глядзеў на яго з незвычайнага ракурсу, магчыма, таму, што адчуваў: гэта ўжо і не яго пакой — неўзабаве гаспадара тут больш не будзе. Ён глядзеў на свае рэчы, якія бачыў, здаецца, мільён разоў. Аднак цяпер яны выглядалі неяк незвычайна... Ён узгадаў ранняе дзяцінства, калі бачыў хатнія рэчы амаль у адзіным экзэмпляры, калі назвы прадметаў асацыяваліся з канрэтнымі рэчамі, а не з нечым абстрактным. Дыван у гасцёўні і дыван у спальні тады былі не варыянтамі дываноў, а быццам бы living рознымі іх відамі. У той час, напэўна, Яму здавалася, што такіх рэчаў няма больш анідзе ў цэлым свеце, а толькі ў Яго дома... Шпалеры на кухні і шпалеры ў яго пакоі... У тыя цяжкія

часы нават касметычны рамонт выпадала рабіць раз на пяць год, а то і радзей. Таму першыя шпалеры на кухні, якія Ён памятаў, здавалася, былі там ад пачатку часоў і меліся быць назаўжды. Тое ж і з іншымі рэчамі: дыванамі, мэбляй, посудам... Кубак маці і кубак таты... Памятае і свой любімы кубак... Здавалася, што толькі гэтыя «першыя», свае, рэчы былі насамрэч сапраўднымі. А пасля ён бачыў, як змянялі шпалеры, як выкідалі старыя дываны, як ламалася мэбля, як біліся кубкі... І як на іх месца прыходзілі новыя. І так некалькі разоў. Але ўсе гэтыя новыя рэчы падаваліся ўжо нейкімі штучнымі, несапраўднымі, часовымі. З'явілася разуменне, што іх можна замяніць. І ўся ўласная стабільнасць назаўжды пахіснулася. Пасля ён жыў у розных кватэрах, у розных гарадах, рабіў рамонты, выкідаў старыя рэчы, набываў новыя... І стабільнасць, і нават нейкая агульная ўпэўненасць у жыцці ўвесь час няспынна руйнаваліся. Праз гэта Ён не заўважыў, як перастаў звяртаць на ўсе гэтыя рэчы ўвагу. Асацыяцыі з канкрэтнымі прадметамі зніклі. Дыван стаў тым, што сцелюць на падлогу, кубак — тым, з чаго п'юць, і гэтак далей. Ён перастаў звяртаць увагу на дэталі рэчаў, якімі карыстаўся і якія яго акалялі. Ужо не мела розніцы, які ўзор на дыване і што ў ім можна убачыць, калі доўга ў яго ўглядацца. Не мела розніцы, пад якой коўдрай спаць, з якога кубка піць, на якім крэсле сядзець... Аднак цяпер, стоячы з пятлёй на шыі і аглядаючы ўласны пакой, Ён адчуў тое ж пачуццё, што і ў дзяцінстве. Раптоўна Ён зразумеў, што гэта не коўдра — гэта Яго коўдра, пад якой менавіта Ён, а не хто-небудзь іншы спаў ужо колькі год. Ён зразумеў, што гэта Яго падушка, да якой Ён ужо даўно прызвычаіўся, а на якой-небудзь іншай Яму, магчыма, было б не так зручна. Ён зразумеў, што гэта Яго кубак стаіць на Яго стале, што Ён п'е з яго ўжо некалькі год разнастайныя напоі. Можна нават сказаць, што гэта Яго любімы кубак... Хай ён часта быў брудны ад няякаснай гарбаты, але ж піць менавіта з гэтага кубка было Яму асабліва прыемна... Тут Ён зразумеў, што кубак і цяпер стаіць брудным. Падумаў, што неяк непрыгожа атрымаецца... «Можа, злезці ды вымыць? Не!» Ён раптоўна злавіў сябе на думцы, што толькі што ў Яго зноў пачалі з'яўляцца нейкія штучныя сэнсы: спачатку трэба памыць кубак, засцяліць ложак, памыць падлогу, працерці пыл, а ўжо толькі потым вешацца. І калі разважаць у такім рэчышчы, то і паміраць будзе няма калі... Гэтыя думкі крыху ўзрадавалі Яго. Аднак раптоўна на вачах Яго з'явіліся слёзы, а ніжняя губа пачала ледзь заўважна дрыжаць. Ён зразумеў, што ўвесь гэты пакойчык, кожная рэч у ім — Яму родныя. І стала так крыўдна і сумна. Ён адчуў любоў да ўсяго гэтага... Яго апанаваў жаль. Зноў успомніў дзяцінства, калі маці прывезла яго ў дзіцячы лагер. Ён хацеў пабыць у гэтым лагеры, аднак, калі маці ад'язджала, Ён, раптоўна для сябе, горка заплакаў — так не хацелася яму развітвацца з родным чалавекам, застаючыся сярод чужых, у чужым месцы...

Яму ўжо нязручна было стаяць. Ён быў стомлены. Нягледзячы на такую крытычную сітуацыю, хацелася спаць. Ён падумаў, што ўсё гэта — нейкі аўтарозыгрыш, што на сёння Яму ўжо дастаткова. Трэба вылазіць і класціся ў ложак, добра выспацца і нікуды заўтра не ісці. Схадзіць толькі ў краму, купіць тое, чаго хочацца, зрабіць сабе адпачынак, а пасля ўзяцца за сваё жыццё. Ён добра паказытаў нервы, пабыў на мяжы, а цяпер — хопіць. За гэты час, як Ён стаяў з пятлёй на шыі, у Яго галаве пранеслася шмат думак, большасць з якіх Ён не змог нават дакладна сфармуляваць, аднак, яны, відавочна, былі карыснымі. Цяпер галава была ўжо больш ясная, чым некалькі гадзін таму. Ён думаў, што трэба класціся спаць, а пасля забыцца на каменную глыбу, на гэтыя дзіўныя ідэі, перастаць вылучаць са сваёй асобы Добрага і Злога... Жыць і радавацца жыццю. Раз і назаўжды выкінуць непатрэбнае, а сапраўдныя праблемы — вырашыць...

Аднак раптам Яго думкі замаўчалі. Ён некалькі імгненняў паслухаў цішыню, што цяжка ціснула на вушы. А пасля наўзрыд заплаў. Думкі зноў замітусіліся, галава была падобная да вулля. Ён вырашыў, што не трэба быць слабым, што ўсе папярэднія думкі і пачуцці — часовае. Што калі не на наступны дзень, то на наступны тыдзень усё пойдзе ў звыклым рэчышчы і Ён будзе ненавідзець сябе яшчэ больш, будзе клясці сябе за гэтую слабасць. Ён пашкадаваў, што ўвогуле спыніўся — трэба было зрабіць адразу, хутка, як быццам ныраеш у халодную ваду. Не трэба было ўвогуле ні пра што думаць, нічога ўспамінаць...

Яму было вельмі горка і крыўдна. Быццам бы гэта не Ён залез у пятлю, быццам бы Яго прымусілі праз сілу. Аднак Ён стаў на спінку крэсла, і яно паваліліся.

## РАНІЦА

***Калі ты доўга глядзіш у бездань,***
***то бездань таксама глядзіць у цябе.***
Ф. НІЦШЭ

Яго павекі сутаргава сціснуліся, неверагодна здушыла шыю. Ён не мог ні ўдыхнуць, ні выдыхнуць тое паветра, якое засталося ў лёгкіх. У вушах пачуўся нейкі невыносны свіст, што ператвараўся ў гул. Балюча сціскала шыю. Ён адчуў, як застукала дзесьці ў патыліцы, як пачалі балець вочы. Рэфлекторна імкнуўся ўзняць руку, каб ухапіцца за вяроўку, аднак мог толькі неяк патузаць пальцамі. Вельмі моцна сціскала сківіцы. Ён усё яшчэ імкнуўся падняць руку і ўчапіцца за вяроўку... Усё гэта цягнулася некалькі секунд.

Нейкім чынам Ён здолеў закінуць руку ўгору і ўзяцца за тонкую вяроўку. Больш за тое, здолеў нават крыху на ёй падцягнуцца. Уздыхнуў. Павекі перасталі міжвольна сціскацца і Ён расплюшчыў вочы. Са здзіўленнем заўважыў, што ў пакойчыку няма столі. Вяроўка, за якую Ён трымаецца рукой, узнімаецца ў неба і на другім яе канцы вісіць Яго каменная глыба. І дзіўна Яму, што астэроід не падае, а бесклапотна вісіць у ярка-блакітным небе, быццам бы дырыжабль ці паветраны шар. І выглядае менавіта так, як Ён сабе і ўяўляў... Другі ж канец вяроўкі не абматаны вакол Яго шыі — ён вісіць у руцэ. Ад усяго гэтага Яму неверагодна дзіўна і цікаўна... Ён нават не адчувае ўласнай вагі — вісіць над падлогай, трымаючыся адной рукой за вяроўку, і Яму няцяжка. І рука нават не баліць.

Раптоўна Ён адчуў рывок вяроўкі — каменная глыба пачала падымацца. І Ён, трымаючыся за вяроўку, пачаў узнімацца разам з ёй. Нягледзячы на тое, што яшчэ імгненне таму столі не было, цяпер Ён падымаецца скрозь столь, пралятае паверх і гэтак далей. Амаль так, як Ён уяўляў сабе кожную ноч. І пры гэтым, на кожным паверсе бачыць сваіх прыдуманых суседзяў, якія цяпер нерухома глядзяць на Яго. Глядзяць нейкімі шклянымі, мёртвымі вачыма, і ад позіркаў гэтых Яму становіцца неяк жудасна. Аднак нарэшце Ён узнімаецца над апошняй столлю. І Ён бачыць бясконца блакітнае неба, неверагодна яркае сонца, а ўнізе — свой горад, які цяпер таксама здаецца нейкім светлым, нават яскравым. Быццам бы ўсё у ім — і дамы, і вуліцы, і дрэвы — самі выпраменьваюць святло, свецяцца знутры нейкім цудоўным белым светам. І ўсе колеры — такія яркія, насычаныя і глыбокія, што гэта карціна нагадвае чароўны сон ці ўспаміны з далёкага сонечнага дзяцінства. Ён ляціць і захапляецца ўсёй гэтай прыгажосцю і нават адчувае, як на вачах Яго з'яўляюцца слёзы замілавання і ўзнёсласці...

Аднак каменная глыба пачынае паскарацца. Ён не заўважае, як узнімаецца на неверагодную вышыню. Ужо амаль немагчыма разгледзець асобныя будынкі — толькі некаторыя вуліцы і праспекты вылучаюцца на размытай пляме горада. Але ж затое бачыць Ён навакольныя лясы, палі, рэкі, азёры. І ўсё гэта такое прыгожае і светлае, такое чыстае. Ён адчувае нават розныя пахі: хвойнага лесу, палявых траваў, азёрнай хвалі, разагрэтага на сонцы асфальту... Глыба ўзнімаецца яшчэ вышэй, і Ён ужо бачыць, што гарызонт не роўны, а закруглены. Бачыць моры і горы... Захапляецца неверагоднай прыгажосцю і шчыра дзівіцца, што Яму на такой вышыні зусім не халодна, што няма ніякага ветру... Неўзабаве Ён бачыць ужо цэлыя кантыненты — Зямля выглядае, як прыгожы celebrating рознакаляровы сподак: блакітны, зялёны і жаўтаваты, з белымі плямамі аблокаў. Ён ужо бачыць вакол гэтага сподка, за белаблакітным ззяннем, чарнату космасу.

Раптоўна Ён разумее, што Яго каменная глыба ляціць ужо вельмі-вельмі хутка і працягвае паскарацца. Ён разумее, што яна цягне Яго ў нейкую невядомую, чорную безданнь, дзе няма абсалютна нічога. Падымае вочы і бачыць, як глыба абсалютна бязгучна куляецца, боўтаецца ў чорнай прасторы і ляціць па невядомай арбіце... Ён разумее, што больш ніколі ўжо не вернецца. І Яму становіцца неверагодна сумна, балюча і страшна. Ён зноў глядзіць на Зямлю, якая цяпер уяўляецца памерам з футбольны мяч і заўважна памяншаецца. Яна здаецца такой неверагодна светлай, яркай і вельмі прыгожай. Ён быццам бы адчувае, як на ёй цяпер віруе жыццё, як носяцца вятры і як дыхаюць на поўныя грудзі акіяны... Ён глядзіць на Зямлю, якая хутка і няспынна аддаляецца ад Яго, і спрабуе неяк з ёй развітацца, аднак не можа падабраць патрэбных думак. Цяпер ужо яна падаецца памерам з яблык...

Ён пачынае адчуваць холад — у нагах, руках, спіне. І холад гэты быццам бы ўрастае ў глыб Яго цела, падбіраецца да кволых грудзей... Зямля — адзінае светлае і цёплае, што Ён бачыць, ужо памерам з вялікі гузік... Раптоўна Яму здаецца, што Ён аглух. У вялікай роспачы спрабуе крычаць і не чуе свайго голасу. Нават не адчувае руху ў грудзях, якія ўжо замярзаюць. Тады Ён ліхаманкава спрабуе хаця б у думках паклікаць Добрага і Злога. Але яны не адказваюць. І адчувае Ён — упершыню з дзяцінства, — што іх няма побач. Адчувае, што цяпер за Яго спінай — толькі мёртвая чорная бездань, на якую нават страшна азірнуцца. А Зямля тым часам ужо памерам з гарошыну... Яму вельмі страшна і неверагодна самотна. Нават тыя, хто заўжды былі побач, цяпер Яго пакінулі. І Зямля — апошняя кропля святла і цеплыні — неўзабаве ператворыцца ў кропку і знікне. І цемра канчаткова замкнецца вакол Яго...

Ён разумее, што няма ніякага сэнсу адпускаць вяроўку. Аднак, пакуль яшчэ бачная Зямля, Ён расціскае пальцы і з апошніх сіл рвецца ўніз, у бок свету, пры гэтым спрабуючы нема крычаць ад роспачы і страху. Але ў той жа момант з маланкавай хуткасцю вольны канец вяроўкі абвіўся вакол Яго шыі і тузануў назад.

Эван МОРЫСАН



# КАЗКІ ГАНДЛЁВАГА ЦЭНТРА

***Эван Морысан нарадзіўся ў Шатландыі, скончыў Універсітэт Культуры ў Глазга. Доўгі час правацаваў рэжысёрам кіно, зняў больш за 200 гадзін праграм на тэлебачанні. Уладальнік Каралеўскай Прэміі Супольнасці Тэлебачання за лепшую драму. Пісьменнікам стаў у 2005 годзе, з таго часу выдадзена ўжо шэсць яго кніг.***

***«Казкі гандлёвага цэнтра» — гэта шматлікія гісторыі, сабраныя ў адной кнізе, некаторыя — цалкам выдуманыя, некаторыя — нібыта праўда, але ўсе непасрэдна звязаны з гэтым ключавым інстытутам сучаснага капіталістычнага грамадства — гандлёвым цэнтрам.***



## МЕТКІ КРЭЙДАЙ

Меткі крэйдай на шэрых сценах; яны распасціраюцца далей і далей, уніз па безаблічных праходах, адрэзаныя ад натуральнага святла; цягнуцца па шматлікіх паверхах, што адлюстроўваюць самі сябе выключна ананімна.

Тут, за кулісамі гадлёвага цэнтра, амаль два кіламетры службовых калідораў. Яны злучаюць заднія ўваходы кожнай крамы ліфтамі і лесвіцамі з уваходамі ў падземны склад, куды ў цемры ночы тоны тавараў прыбываюць у велізарных грузавіках. Ні святло, ні гукі з гандлёвага цэнтра не даходзяць у гэтыя калідоры, гэта як прагулка па старой чорна-белай фатаграфіі.

Сцены, падлога і дах — усё з шэрага бетону, неонавыя агні асвятляюць каналізацыйныя трубы і электрычныя правады, якія толькі і даюць калі-

дорам іх колер; за выключэннем крэйдавых метак пастэльных адценняў персікавага і блакітнага, якія цягам часу сталі амаль белымі на сценах. Гэта не малюнкі: не нядбайна намаляваныя твары, не словы, даты, імёны або жарты. Гэта не графіці, як спачатку здаецца, гэта простыя лініі, якія расцягнуліся на сотні ярдаў; прайшло шмат часу, пакуль знайшлася прычына для іх прысутнасці на сценах.

У адрозненне ад гандлёвага цэнтра, дзе ярка зіхацяць найменні, тут, у цемры, на задніх дзвярах крам могуць размяшчацца толькі малюсенькія лічбы, якія хіба з ліхтаром разгледзіш; тут няма ніякіх лагатыпаў. Па меркаваннях бяспекі крамы не афішуюць свае назвы тут; магчыма, з-за недаверу да дастаўшчыкаў, якія працуюць і на канкурэнтаў таксама. Такім чынам, адзіны спосаб знайсці заднія дзверы Gap, H&M або Starbucks — гэта прытрымлівацца ліку, пакуль не знойдзецца тая лічба, якая па нейкіх там спісах адпавядае краме.

Вы рэдка сустрэнеце кагосьці яшчэ ў гэтым месцы, а калі сустрэнеце, то не спыніцеся паразмаўляць. Некаторыя затрымліваюць дыханне, а большасць спрабуе як мага хутчэй трапіць да выхада, ледзь толькі яны здадуць на захоўванне свае скрыні і скрынкі.

Паколькі ў калідорах няма ні вокнаў ні якіхсьці знакаў, адзіны спосаб арыентавацца ў іх — хіба што прынесці компас. Адзінае, што заўсёды прысутнічае ў лабірынце, — пах, які ўзнімаецца з цокальнага паверха. Ён застаецца на вопратцы тых, хто часам сустракаецца ў ліфтах, тых, чыя праца заключаецца ў штодзённых дванаццаці тонах адходаў і іх утылізацыі. Гэты пах можна параўнаць з пахамі кіслага малака, перасмажанага мяса, пылу, рыбы, кошак, пажару ў доме і цукровай ваты адначасова.

Здаецца, што дызайнеры гандлёвага цэнтра думалі толькі пра яскравыя і поўныя святла крамы, аднак забыліся на тое, як гэтыя крамы будуць абслугоўвацца, або, можа, яны вырашылі, што ўсё, што здараецца на складах, павінна заставацца цёмным і сакрэтным. Многія працаўнікі дастаўкі блукаюць, і, магчыма, гэта адбываецца таму, што яны кожны тыдзень працуюць у шматлікіх гандлёвых цэнтрах, а тыя ўсе не больш і не менш, як варыяцыі аднаго і таго ж шэрага будынка.

Ходзяць показкі пра тое, як тут чуліся крыкі, пра мужчын, што білі нагамі ў сцены, пра чалавека з Gap, які заснуў у тупіку. На двух ніжніх паверхах мабільныя тэлефоны не працуюць. Нават ёсць жарт, што адбудзецца, калі ў цябе раптам здарыцца сардэчны прыступ: як доўга цябе там будуць шукаць. Відэаназіранне там амаль няма: адна камера на кожны чацвёрты кут, таму большасць калідораў застаюцца абсалютна нябачнымі.

Існуе гісторыя пра двух прыбіральшчыкаў, якія, дзеля жарту, начавалі пад ніжняй лесвічнай клеткай, збудаваўшы хаткі з упаковачных скрынак. Яны спалі там адну ноч, дзве; а калі прайшло чатыры дні і іх ніхто так і не знайшоў, то жарт сціх.

Часам можна пачуць гукі, што ідуць ад зачыненых памяшканняў; адзін з іх — дзіцячы голас, які паўтарае адно і тое ж, зноў і зноў, гадзіну за гадзінай: мама, мамачка, мамуля. Другі — гук барабана. Цацкі ў складах Early Learning Centre часам самі звальваюцца з паліц, а потым самі вяртаюцца на месцы. Старэйшыя супрацоўнікі часам жартуюць з малодшых; яны пасылаюць іх па бессэнсоўных даручэннях; кажуць ім, што ў кожным калідоры поўна прывідаў, і калі робіцца цёмна, яны падкрадаюцца да людзей. Жар-

туюць пра гэта толькі звонку, каля службовага ўвахода, пакуль прагна ўдыхаюць сонечнае святло і цыгарэтны дым.

Пад цокальным паверхам існуе яшчэ адзін, уваход на які забаронены; кажуць, што ён патрэбны для нейкіх там мер бяспекі для надзвычайных сітуацый, а больш пра яго ніхто нічога не ведае. Магчыма, гэта хлусня, прыдуманая, каб палохаць усіх і кожнага. Пусты паверх, схаваны пад іншымі, такі ж доўгі і шырокі, як і ўвесь гандлёвы цэнтр, але там няма нічога — ні крам, ні знакаў альбо вокнаў, толькі цемра і пыл.

Шмат хто баіцца заблукаць у гэтых калідорах, адсюль і з'явіліся крэйдавыя меткі, іх называюць самым арыгінальным вырашэннем гэтай праблемы. Кожная метка — як клубок у лабірынце. Ніхто не ведае, хто першым гэта прыдумаў і як гэта ідэя распаўсюдзілася. Магчыма, адзін чалавек ішоў уздоўж першай лініі і яна давяла яго да месца, якое ён шукаў, а пасля пайшоў дадому і ўзяў крэйду, каб наступным разам адзначыць свой шлях да патрэбных дзвярэй дзеля эканоміі часу. Іншыя лініі пазначаліся рознымі колерамі, некаторыя былі перарывістымі ці намаляванымі кропачкамі, каб іх адрозніваць. Многія лініі цягнуцца разам, а потым разыходзяцца ў розных напрамках.

Некаторыя, магчыма, нават спецыяльна набывалі для гэтай мэты крэйду, іншыя, магчыма, выкарыстоўваюць тое, што трапіць пад руку. Жоўтую і ружовую крэйду можна знайсці толькі на дзіцячай дошцы. Блакітная крэйда мела дачыненне да більярда ці старой мастацкай скрыні.

Мілі калідораў пакрыты такой колькасцю крэйдавых ліній, што яны змешваюцца адна з адной, сціраючы даўнейшыя і гублячы іх. Некаторыя кажуць, што лініі падобныя да наскальных малюнкаў, але гэта дзіўнае мастацтва, пазбаўлена вобразаў; проста лініі, як мапа жыцця тых, хто іх малявaў. Уладальнікі гандлёвага цэнтра настойвалі, каб лініі сцерлі, але прыбіральшчыкі ў выніку перасталі змагацца з апошнімі, бо тыя з'яўляліся зноў і зноў. Ліній занадта шмат, яны запаўняюць ўсе калідоры. Яны ўжо назаўсёды на гэтых сценах.

Лініі існуюць ужо дваццаць гадоў, перажыўшы мільёны рэкламных малюнкаў, якія зіхацелі ў ярка асветленым гандлёвым цэнтры. Лініі, без сумневу, будуць існаваць на гэтых сценах, пакуль будзе існаваць гандлёвы цэнтр.

І ў адзін цудоўны дзень сярод абломкаў і руін, сярод сонечнага святла і пылу хтосьці зможа ўбачыць гэтыя лініі крэйдай і запытацца: хто ж іх маляваў і што яны мусяць азначаць?

## КЛЮЧ ДА ШЧАСЦЯ

Слова шчасце не адразу асацыюецца з даследаваннямі рынку, аднак з канца 1950-х гадоў карпарацыі былі зацікаўлены ў тым, каб выкарыстоўваць гэтую ілюзорную з'яву ў пошуках таго, што яны называюць «ключом да шчасця». Гэта, па сутнасці, назва шырокага даследавання рынку, праведзенага ў 2002 годзе вытворцамі абутку. У ім было задзейнічана больш за пяцьсот фокус-груп і падчас яго было праведзена дзве тысячы інтэрв'ю ў фармаце тэт-а-тэт, такія інтэрв'ю яшчэ называюць «глыбіннымі». Вынікі, аднак, выклікалі толькі расчараванне і непакой. Самым расчаравальным

было інтэрв'ю, праведзенае з трыццацічатырохгадовай бяздзетнай і нядаўна разведзенай Сюзан Томпсан з Шаўлэндс, Глазга.

Сюзан адкрыта прызналася, што адзіная прычына, па якой яна згадзілася прайсці інтэрв'ю, хаваецца ў тым, што ў яе з'явілася занадта шмат вольнага часу, калі яна страціла працу ў Дэбенхамс. Першым пытаннем у інтэрв'ю было: «Які тавар за ўсю вашу гісторыю пакупак прынёс вам больш шчасця?»

Сюзан сказала, што гэта была пара абутку, вельмі асаблівая, здаецца, што яе назва была Мэры-Джэйнс. Туфлі мелі тонкія падвойныя рамяні, што было даволі смела, трохдзюймавыя абцасы і белаваты колер ад вядомага дызайнера Хлоэ.

Інтэрв'юер спытаў, дзе менавіта яна набыла гэтыя туфлі. Далей ішла доўгая гісторыя пра тое, як аднойчы, год таму, Сюзан убачыла іх у вітрыне і яны нагадалі ёй пра студэнцкія гады, калі яна была «нефармальнай», але яны былі занадта дарагімі, і, канешне, яе спыніў высокі абцас. Гэта здарылася, калі яна была замужам, а яе муж, Джэймс, меў даволі нізкі рост. Карацей, гэта была вельмі доўгая гісторыя. Ва ўсялякім разе, яна вырашыла набыць іх, каб трохі самазадаволіцца.

Інтэрв'юер спытаў, ці адбылося гэта толькі тады, калі яна знайшла ідэальны абутак ад Хлоэ?

— Не, — сказала Сюзан. — Яны ўжо год як выйшлі з моды, на той час усе насілі туфлі-лодачкі або шпількі. «Я ў лодачках ці ў шпільках? Карацей, я была ў дэпрэсіі, і не толькі з-за шпілек, але з-за шмат чаго іншага, мае рукі былі звязанымі на самай справе, ну, вы разумееце».

Інтэрв'юер спрабаваў вярнуць яе да пытанняў.

— Ну, дык калі вы знайшлі сваю шчаслівую пакупку?

І Сюзан працягнула: яе сяброўка, Дэбі, ведала, што ёй вельмі падабаліся гэтыя туфлі ад Хлоэ, і купіла сабе такую ж пару ў інтэрнэце. Канешне, гэта вывела з сябе, таму што Дэбі заўсёды капіравала яе і намагалася ўсё набыць першай, і не было ніякіх шанцаў пазычыць іх у Дэбі, бо яна насіць трэці памер. І ў любым выпадку, бачыла іх яна ажно год таму, і на той час іх ужо даўно не выраблялі.

Інтэрв'юер, з ручкай і апытальнікам у руцэ, цісну́ў на пытанні: дзе і калі.

Сюзан панесла зусім у іншы бок, яна зноў пачала распавядаць пра тое, як цяжка быць адной, пра знаёмствы ў інтэрнэце, пра то, як яна хадзіла ў Камберналд на субяседаванне, а затым пра вось той дзень з вось тым хлопцам і як яна прачнулася ў яго ложку, а ён быў дужа шыракаплечы і выкарыстоўваў занадта шмат ласьёну пасля галення, і ў яе трохі балеў жывот; але потым, перш чым паехаць аўтобусам дамоў, яна пайшла ў гандлёвы цэнтр проста таму, што ён знаходзіўся побач з аўтобусным прыпынкам, і яна мела час, які не хацела забіваць на прыпынку, бо гэта было б не зусім гігіенічна.

— А потым?

Па яе словах, яна разглядала дзяўчат, наколькі тыя худзейшыя і маднейшыя за яе, адчувала сябе старой, сумнай і тоўстай як звычайна. Але ля дзвярэй Джона Люіса, на дысконтнай стойцы, яна не магла ў гэта паверыць, ідэальнага колеру туфлі, які на самай справе можна назваць зеленавата-блакітным, а не белым, яе памеру, яны былі дакладна яе памеру,

дзявятага. Так, у яе вялікая нага і Джэймсу гэта заўсёды не падабалася. Больш за тое, яны каштавалі ў пяць разоў танней, чым першапачаткова, і побач было напісана, што гэта канец распродажу лініі. Так што гэта была апошняя пара абутку Хлоэ ва ўсім свеце, і кашатавала яна ўсяго трыццаць фунтаў.

— Добра, — сказаў інтэрв'юер, — я так разумею, што кошт і эксклюзіўнасць для вас з'яўляюцца рашаючымі фактарамі?

— Не, — сказала Сюзан, — факт быў, так... Але там была адна старая карова ў гэткім пафасным паліто, і як толькі яна ўбачыла, што я гляджу на туфлі, яна схапіла іх і пайшла да касы. Таму я падыйшла да яе і, што вы думаеце, сказала?

Апынулася наадварот: яна пачала задаваць пытанні, а гэта не зусім звычайна для тых, у каго бяруць інтэрв'ю, і задавала яна іх зноў і зноў, пра тое, колькі ёй заплоцяць, калі зноў будзе інтэрв'ю, і калі яна атрымае абяцаны падарунак.

— Добра, — сказала Сюзан. — Карацей, я бягу за ёй, звычайна не выкарыстоўваю такія словы...

— Працягвайце.

— Я сказала ёй: прабачце, але яны МАЕ. Я маю на ўвазе, што гэта зусім не я, але я ж хацела гэтыя туфлі ўжо цэлы год, правільна ж?

— Добра, гэта была ваша самая ўдалая пакупка?

— Так. Старая карова не хацела саступаць, мы абедзве цягнулі іх да сябе, і я ёй сказала, што калі яна не спыніцца, то можа іх наогул парваць! Таму што на іх былі такія цудоўныя маленькія рамяні! І, карацей, я пачала крычаць на яе... Я не магу паверыць, што на самай справе казала такое...

— Працягвайце. Што вы казалі?

— Я сказала, што калі яна не аддасць іх мне, я разаб'ю яе тоўсты твар і заткну яго ёй у зад!

— ...Добра.

— Мне вельмі шкада, я сапраўды не магу паверыць, гэта было жудасна.

— Ну, і што вы?

— О, яна адпусціла іх і сышла, а я заплаціла за іх, і ўсё.

— І гэта была ваша самая шчаслівая пакупка за ўсё жыццё?

— Так, абсалютна. Ведаеце, я адчувала сябе трохі дурной, таму што сапраўды гэта была проста пара абутку, шчыра кажучы, тры рамяні выглядалі неяк дурнавата.

Сюзан атрымала бясцэнны падарунак — набор парфумы і ласьёнаў і чэк на пяцьдзясят фунтаў ад спонсара. Было адзначана, што яна не была ў сваіх любімых туфлях падчас інтэрв'ю (сказала, што ніколі і не насіла іх і, верагодна, ніколі не будзе насіць). Было таксама адзначана, што яна не згадзілася падпісаць некаторые паперы, каб далей удзельнічаць у інтэрв'ю на падобныя тэмы.

Вынікі гэтага інтэрв'ю і многіх іншых да яго ў рамках таго ж даследавання паказалі некаторыя трывожныя факты пра чалавечае шчасце і выбар пакупнікоў.

Дастаткова дзіўна, але такія фактары, як даступныя цэны, прыемнае асяроддзе ў крамах і лёгкі доступ да шырокага выбару модных тавараў нізка ацэньваліся па шкале шчасця.

У рэйтынгу ад аднаго да дзесяці і ў эксперыментах, праведзеных кафедрай псіхалогіі Ельскага ўніверсітэта па з'яве, вядомай як «пікавы вопыт», кожны раз быў у топе такі феномен, як барацьба: людзі сутыкаюцца з неверагоднымі складанасцямі, каб перамагчы сваіх канкурэнтаў у спрэчцы за валоданне жаданым прадуктам. Чым больш перашкод, тым большая іх радасць. Усе гэтыя фактары, трэба адзначыць, з'яўляюцца адпаведнымі для самых ранніх стадый развіцця аграрных рынкаў з сезоннымі таварамі і іх недахопам, калі сапраўды даводзіца спрачацца і біцца; так і ў нашы часы, у чэргах па прадукты — рабаванні і рэвалюцыі.

Іронія, але, прытрымліваючыся гэтай логікі, карпарацыям давядзецца задушыць масавы рынак, да якога яны ішлі больш за сто гадоў, спрабуючы вярнуць або імітаваць вяртанне прадспажывецкай эпохі, у якой дэфіцыт і жорсткая барацьба з'яўляюцца часткай рознічнага гандлю. Зразумела, не было б ні разумна, ні пажадана спрабаваць узнавіць любую з гэтых умоў у сучасным свеце гандлю, і, такім чынам, было вырашана гэтае даследаванне адкласці на доўгі час і забыцца на яго.

Аднак варта адзначыць, што шэраг фірм прынялі да ўвагі вынікі даследавання, хоць і ў тэставым рэжыме. У прыватнасці, Майкрасофт, які «зрабіў дэфіцыт» тым, што лімітаваў прадукт масавага вырабу ў першы дзень продажу, у выніку чаго справакаваў наплыў людзей і гвалтоўныя канфлікты ў больш чым пяцідзесяці месцах.

Тое ж самае было адзначана на адкрыцці магазінаў Ікея ў больш чым дзесяці краінах. Па выніках у трох месцах усё скончылася траўмамі, а ў адным — закрыццём крамы.

Таксама варта паглядзець на такі феномен, як масавая зніжка, напрыклад, у крамах TK Max і WallMart. Там дызайнерскія рэчы са зніжкамі «хаваюцца» сярод іншых танных тавараў, што правакуе радасць ад «выпадковай знаходкі» і «баявую прагнасць».

Таксама можна адзначыць чаргу — некаторыя стаяць у ёй са спальнымі мяшкамі, апранутыя толькі ў бялізну — у чаканні пачатку распродажу ў La Senza, Charing Cross, London (Першыя сто пакупнікоў атрымліваюць падарункі). Гэты эфект таксама выкарыстоўваецца падчас штогадовай Чорнай пятніцы (першы дзень зімовых распродажаў у Амерыцы), якая ў 2010 годзе выйшаў «з-пад кантролю» — было зарэгістравана больш за дзве сотні пацярпелых. Кадры паказваюць пакупнікоў, якія бягуць навыперадкі, б'юцца, ставяць падножкі, лупяць адно аднаго пакункамі з прадуктамі, запасаюцца таварамі і пакідаюць крамы з тварамі, на якіх намалявана нешта блізкае да рэлігійнага экстазу.

***Пераклад з англійскай Марты ФІЛІПОНЕНКА***
***Крыніца арыгінала:***
***http://edinburgh-review.com/extracts/fiction-ewan-morrison-2/***

*Мікалай ПЛАВІНСКІ*

# ГРАФІЦІ СЯРЭДНЯВЕЧЧА



*Мікалай Плавінскі — кандыдат гістарычных навук, дацэнт. Аўтар і суаўтар 10 манаграфій і больш як 200 навуковых, навукова-папулярных і энцыклапедычных артыкулаў па археалогіі і гісторыі Беларусі сярэднявечнага перыяду. Займаецца вывучэннем археалогіі Полацкай зямлі і сумежных тэрыторый, а таксама гісторыяй сярэднявечнай зброі.*

**Дзякуючы даследаванням археолагаў мы шмат што ведаем пра жыццё і побыт нашых сярэднявечных продкаў. Мы добра можам уявіць сабе, у якіх дамах яны жылі, як займаліся сельскай гаспадаркай і рамёствамі, якой зброяй ваявалі, можам нават рэканструяваць сістэму іх харчавання. А вось пра тое, як яны выглядалі, апраналіся штодня і на святы, якімі самі сябе бачылі, — амаль не ведаем. Тут чытач можа здзівіцца і задаць пытанне: «Як жа так? А шматлікія ўдзельнікі папулярных сёння клубаў гістарычнай рэканструкцыі? На падставе чаго яны аднаўляюць адзенне сярэднявечных людзей?».**

Справа ў тым, што праца па сапраўднай навукова-абгрунтаванай рэканструкцыі знешняга выгляду продкаў надзвычай складаная і мае шмат абмежаванняў крыніцазнаўчага парадку. Галоўнай праблемай з’яўляецца практычна поўная адсутнасць тагачасных выяў людзей. У адрозненне ад Заходняй Еўропы, на Русі ілюстраваныя летапісы былі вельмі нешматлікімі. Самым знакамітым летапісным помнікам, багата аздобленым шматлікімі мініяцюрамі, з’яўляецца так званы Радзівілаўскі летапіс. Верагодней за ўсё, мініяцюры Радзівілаўскага летапісу былі створаны дзесці на ўсходзе Вялікага Княства Літоўскага альбо ў Наўгародскай ці Пскоўскай землях у канцы XV стагоддзя, хаця, напэўна, частка іх капіруе больш раннія малюнкі. Але найбольш рэалістычна ў Радзівілаўскім летапісе адлюстраваны вопратка, узбраенне і прадметы побыту менавіта канца XV стагоддзя. Ранейшыя мініяцюры з выявамі людзей, якія былі б звязаны з беларускімі землямі, увогуле адзінкавыя і найчасцей выкананы пад уплывам візантыйскіх іканаграфічных традыцый.



*Віцебск, святы воін.*



*Ваяры. Спаская царква.*

Акрамя мініяцюр, выявы людзей сустракаюцца сярод фрэсак, захаваных на сценах храмаў. На жаль, яны таксама надзвычай нешматлікія — фактычна да нашага часу ў адносна добрым стане захаванасці дайшлі толькі фрэскі XII стагоддзя Спаса-Праабражэнскай царквы Ефрасіньеўскага манастыра ў Полацку. Акрамя таго, фрэскі ствараліся майстрамі, якія працавалі пад моцным уплывам візантыйскіх іканаграфічных традыцый, а таму ўбачыць на іх творах пэўныя рэальныя дэталі практычна немагчыма.

Археалагічныя крыніцы таксама даюць толькі вельмі абмежаваную інфармацыю пра знешні выгляд сярэднявечнага насельніцтва Беларусі. Падчас раскопак пахаванняў у курганах ці хрысціянскіх грунтовых могільніках археолагі звычайна выяўляюць толькі металічныя ці шкляныя дэталі вопраткі і ўпрыгажэнні. Рэшткі тканіны ці скуры знаходзяцца надзвычай рэдка, а калі яны і трапляюцца, дык толькі ў выглядзе зусім дробных і надзвычай дрэнна захаваных фрагментаў. На падставе такіх знаходак вельмі цяжка стварыць цалкам навукова абгрунтаваную рэканструкцыю вопраткі пахаваных. Падчас раскопак культурных слаёў старажытнарускіх гарадоў і замкаў прадметы з арганічных матэрыялаў могуць быць выяўлены значна часцей, хаця яны таксама знаходзяцца пераважна ў фрагментаваным выглядзе (асобныя кавалкі тканіны ці рэшткі абутку).

Але ёсць адна катэгорыя крыніц, якія дазваляюць паглядзець на сярэднявечных жыхароў Беларусі іх уласнымі вачыма. Гэта графіці — малюнкі, што рабіліся звычайнымі людзьмі, якія не валодалі пэўнымі мастацкімі навыкамі і не мелі на мэце стварэнне такіх выяў, якія б праіснавалі доўга. Графіці наносіліся вострымі прадметамі на самых розных больш-менш прыдатных для гэтага паверхнях — манетах, костках, праселках, асялках, будаўнічых матэрыялах, храмавых сценах. Такія малюнкі часта адрозніваюцца наіўнасцю, схематычнасцю і мінімальнай прапрацоўкай дробязей. Разам з тым, яны пазбаўлены альбо максімальна вольныя ад іканаграфічных традыцый, пад уплывам якіх знаходзіліся прафесійныя майстры. І галоўнае, іх аўтары вельмі добра ведалі прадметы, якія малявалі, бо тыя спадарожнічалі ім у побыце. Акрамя таго, графіці

здольныя, да пэўнай ступені, распавесці не толькі пра знешні выгляд людзей, але і пра іх думкі і нават настроі. У гэтым яны чымсьці падобныя да сучасных фотаздымкаў.

Тое, што графіці вельмі дакладна, хаця найчасцей і надта прымітыўна, перадаюць знешні выгляд людзей, якія іх малявалі, і рэчаў, што спадарожнічалі ім у жыцці, у першую чаргу, вельмі добра бачна, як ні дзіўна, па выявах святых. Аўтары гэтых малюнкаў спрабавалі вельмі дэталёва перадаць усе асаблівасці пастаў святых і іх неабходныя атрыбуты, роўна так, як гэта рабілі і прафесійныя мастакі, якія распісвалі фрэскамі сцены храмаў.



*Каложа, святыя.*

У якасці прыкладу можна прывесці выяву святога воіна на сцяне Дабравешчанскай царквы XII стагоддзя ў Віцебску. Чалавек, які прадрапаў гэты малюнак, імкнуўся максімальна дакладна перадаць усе асаблівасці характэрнай для візантыйскага і старажытнарускага мастацтва выявы святога воіна з німбам, які трымае ў руках кап'ё. Святы воін апрануты ў плашч і, напэўна, даспех з птэрыгамі — іканграфічнай дэталлю, падставай для з'яўлення якой у IV—V стагоддзях паслужыў элемент грэкарымскага ўзбраення, што складаўся са скураных лопасцяў і прыкрываў сцёгны. Відавочна, аўтар графіці пэўным чынам «скапіраваў» выяву з нейкай бачанай ім фрэскі. Падобныя графіці са святымі воінамі ёсць таксама на сценах кіеўскіх і наўгародскіх цэркваў. Увогуле, адрозніць святога ці святую ад звычайных мужчыны ці жанчыны на графіці дастаткова проста, бо вакол галоў святых абавязкова маляваліся німбы.



*Ваяры Анфіма.*

Што ж тычыцца выяў звычайных людзей, дык яны могуць быць вельмі рознымі, роўна такімі ж, як іх аўтары. Шырокую вядомасць набылі малюнкі наўгародскага хлопчыка Анфіма, які недзе ў 20—30-я гады XIII стагоддзя вучыўся грамаце. «Сшыткамі» для яго служылі кавалкі бяросты, на якіх хлопчык старанна выціскаў пісалам літары. Аднак гарэзлівы Анфім паспяваў не толькі практыкавацца ў пісьме, але яшчэ і маляваць на тых жа самых кавалках бяросты. На адным з іх хлопчык адлюстраваў сябе ў якасці вершніка, які забівае кап'ём зрынутага на зямлю ворага, і старанна падпісаў свой «партрэт», каб ні ў кога не ўзнікала пытанняў, хто ёсць хто ў гэтай «батальнай сцэне». Цікава, што



*Аўтапартрэт Анфіма.*

маленькі Анфім не заўжды мог правільна палічыць колькасць пальцаў на руках, але даволі дакладна перадаў форму шлемаў на галовах ваяроў і рух вершніка, які працінае кап'ём свайго ворага.

Не менш цікавай знаходкай з'яўляецца вялікая серыя графіці з ужо згаданага гарадзішча Маскавічы, размешчанага непадалёк ад Браслава. Падчас раскопак гэтага помніка, якія праводзіліся ў 1976—1978 гадах археалагічнай экспедыцыяй пад кіраўніцтвам Людмілы Дучыц, было выяўлена больш за 120 костак жывёл з разнастайнымі графіці. Выдатны расійскі гісторык-медыевіст і знаўца старажытнаскандынаўскай літаратуры і пісьменства Алена Мельнікава, якая адмыслова вывучала гэтыя знаходкі, датавала іх XII—XIII стагоддзямі. Даследчыца падзяліла маскавіцкія графіці на тры асноўныя групы. Да першай, самай шматлікай, яна аднесла надпісы, нанесеныя рунамі — знакамі старажытнага скандынаўскага алфавіта, а таксама асобныя руны і рунападобныя знакі. Да другой групы належаць разнастайныя малюнкі, сярод якіх пераважаюць выявы людзей (усяго іх налічваецца васямнаццаць). Трэцяя група маскавіцкіх графіці складаецца з прадрапаных на костках сетак. Такія сеткі



*Анфім і яго сябры.*



*Маскавічы. Ваяры.*



*Коцікі.*

выкарыстоўваліся ў якасці палёў для гульняў, якія сёння мы назвалі б настольнымі. Тэхніка нанясення выяў, знакаў і малюнкаў супадае. Гэта дазваляе меркаваць, што яны наносіліся адным чалавекам, які альбо сам быў скандынавам, альбо меў продкаў скандынаўскага паходжання, пра што сведчыць яго абазнанасць у рунах.

Самым нечаканым творам невядомага маскавіцкага «мастака» з'яўляецца выява аголенай жанчыны. Нягледзячы на пэўную схематычнасць, малюнак прапрацаваны дастаткова дэталёва. Канешне, немагчыма сказаць, што дакладна падштурхнула нашчадка вікінгаў да адлюстравання аголенай натуры, але ў любым выпадку вынікам яго намаганняў стаў самы старажытны беларускі твор у стылі «ню».

Астатнія малюнкі, створаныя маскавіцкім аўтарам, відавочна, адлюстроўваюць яго побыт — ваяры ў шлемах, са шчытамі і мячамі, лодкі і караблі з іх экіпажамі — гэта менавіта тое, што бачыў жыхар памежнай полацкай крэпасці, размешчанай на рачным гандлёвым шляху. Можна ўпэўнена меркаваць, што і сам «мастак» быў прафесійным ваяром, бо найбольш дакладна і дэталёва ён адлюстроўваў не што-небудзь, а менавіта прадметы ўзбраення.

Увогуле, выявы ўзброеных людзей складаюць значную, калі не сказаць большую, частку графіці старажытнарускага часу з тэрыторыі Беларусі. Зрэшты, гэта і не здзіўляе, бо іх аўтары жылі ў эпоху, калі вайна была звыклай і амаль штодзённай з'явай. На падставе аналізу гэтых малюнкаў можна нават рэканструяваць «ідэальны» вобраз ваяра-дружынніка, як ён бачыўся тагачасным людзям. «Сапраўдны дружыннік» мусіў мець шлем на галаве і быць узброеным шчытом і мячом. На некаторых малюнках ваяры паказаны апранутымі ў кальчугі ці пласцінкавыя даспехі. Адметна, што гэтыя самыя дэталі ўзбраення разглядаліся як найважнейшыя атрыбуты прафесійнага ваяра ў самім дружынным асяродку.

Такім чынам, сярэднявечныя графіці дазваляюць не толькі рэканструяваць знешні выгляд людзей, але і далучыцца да свету іх ідэалаў і ўяўленняў. Гэтаксама і сучасныя фотапартрэты праз пэўны час для ўважлівага назіральніка будуць не толькі адлюстраваннямі людзей, але і каштоўнымі крыніцамі ведаў пра іх уяўленні аб ідэалах прыгажосці, модзе, думках і светапоглядзе.

Вось так самыя нечаканыя знаходкі археолагаў могуць даць унікальную інфармацыю пра сваіх стваральнікаў, якія, відавочна, і падумаць не маглі, што іх практыкаванні перажывуць стагоддзі і будуць так высока ацэнены з практычнага боку. У сувязі з гэтым застаецца толькі меркаваць, што праз некалькі стагоддзяў навукоўцы скажуць на падставе аналізу сучасных графіці і пра нас нешта вартае.

Алена СПІРЫДОНАВА

# МАЁ ЖЫЦЦЁ



5

...только с каждой весной
Все сильней ощущенье финала
Этой маленькой пьесы
что придумано явно не мной.

„Машина времени"

Эпиграф из книги Сергея Трахимёнка
„Синдром выгорания".
Минск, „Мастац. літ.", 2007.

***Маё дзяцінства, бацькі, родныя апісаны мною ў красавіку-маі 2013 года.***

## СЯМ'Я

Я, Спірыдонава Алена Мікалаеўна, беларуска, нарадзілася ў Мінску 22 красавіка 1929 года.

Маці: Бакуновіч Кацярына Вікенцьеўна, беларуска, нарадзілася ў 1893 годзе ў вёсцы Раванічы Чэрвеньскага раёна, з сялян. Валодала ад прыроды чароўным голасам, прыгожай знешнасцю, розумам, выдатнай памяццю (фатаграфічнай), якая перадалася мне і майму сыну Пятру, была высокаадукаванай жанчынай. У маладосці спявала ў аперэце ў горадзе Магілёве, але паколькі класічнай музычнай адукацыі не мела, то ў гады Першай сусветнай вайны, падчас разрухі, пайшла вучыцца ў Магілёве ў школу павітух і працавала пасля акушэркай у Мінску. У Грамадзянскую вайну хварэла на сыпны і зваротны тыфы, што дазволіла ёй (разам з бацькам, які таксама перахварэў на тыф) у Вялікую Айчынную вырataваць ад тыфу мяне.

Маці мела шмат прыхільнікаў. У Вялікую Айчынную вайну яе шукаў чалавек з Польшчы, які кахаў яе, каб хоць нечым дапамагчы. Яны сустрэліся, ён убачыў мяне (у 1942-м мне было дванаццаць) і войкнуў:

*З дзённікавых запісаў, прыватных успамінаў, створаных не для друку і нават без аніякага на яго спадзявання, сам-насам з сабою, чалавекам, які не мае прамога дачынення ні да якой мемуарыстыкі наогул, бо не з'яўляецца ні шырокавядомай персонай, ні заангажаванай як-небудзь асобай, можна даведацца пра самае сапраўднае — жыццё. Якім яно было ці магло быць. Гэта не новая думка, гэта старая выснова.*

*З Наталляй Іванаўнай Інсаравай, кандыдатам фізіка-матэматычных навук, дацэнтам кафедры медыцынскай і біялагічнай фізікі Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта мы пазнаёміліся, калі «Маладосць» ладзіла для студэнтаў-медыкаў мерапрыемства, прысвечанае 130-годдзю Якуба Коласа. Пры тым, што будучыя ўрачы — ледзь не самая ўдзячная аўдыторыя літаратурных вечарын увогуле, ім асабліва даспадобы літаратурныя прысвячэнні, што нейкім чынам звязаны з іх прафесіяй. Юбілей класіка стаў нагодай для чытання яго гумарыстычных вершаў, прысвечаных дактарам і бальніцам. Ну, і невядома, ці госцем на той сустрэчы, ці гаспадыняй яе была Наталля Іванаўна, дачка сябра Якуба Коласа Івана Анісімавіча Інсарава, міністра аховы здароўя БССР (1948—1966), рэдактара часопіса «Здравоохранение Белоруссии». І вось калі праз два гады я звярнулася да Наталлі Іванаўны з прапановай напісаць пра бацьку, то атрымала ў адказ чырвоны нататнік роднай цёткі Наталлі Іванаўны — таксама ўрача, кандыдата медыцынскіх навук Алены Мікалаеўны Спірыдонавай.*

*Змест таго нататніка цяпер перад вамі. Я ў ім амаль нічога не правіла. Толькі зрабіла пераклад тэксту на беларускую мову — гэта ідэя падалася сімпатычнай самой аўтарцы.*

*Запіс успамінаў мінчанкі, зроблены ў 84-гадовым узросце, у чырвоным нататніку, пачаты двума падкрэсленымі чырвоным алоўкам словамі. Іх трэба, так мне падалося, прыняць за назву. Што і зроблена.*

***Святлана ДЗЯНІСАВА***

«Кацярынка! У цябе ж павінна быць дачка красуня!» Такімі словамі ён параніў маме сэрца, і яна ўсё далейшае сваё жыццё пакутавала ад таго, што я непрыгожая. Па яе словах, з маёй знешнасцю яе мірылі толькі мае фігура і ногі.

З родных у яе былі: брат Павел, які памёр у Вялікую Айчынную вайну ў Свярдлоўску, сястра Ганна памерла ў 1956-м, пляменніца (дачка Ганны) Ніна Георгіеўна Катлоўская, па мужу Інсарава, памерла ў 1980-м.

Бацька: Спірыдонаў Мікалай Мікалаевіч, 1894 года нараджэння (горад Гжатск), з дваран. Яго бацька — Спірыдонаў Мікалай Паўлавіч быў сапраўдным стацкім саветнікам службовага дэпартамента. Яго цётка была жонкай Дамброўскага, польскага генерала, удзельніка Парыжскай камуны.

З 1915 года сям'я бацькі жыла ў Мінску.

Спірыдонаў Мікалай Паўлавіч быў высокаадукаваным чалавекам і меў цудоўную бібліятэку. Мама мне расказвала, што яна, калі прыходзіла да іх, заўсёды размаўляла з Мікалаем Паўлавічам і слухала натхнёна яго аповеды. Як анекдот мама паведаміла, што бабуля раўнавала яе, гаварыла: «Каця, ты ходзіш да майго Мікалая, а не да сына». Вось яшчэ анекдот. У той час жалаванне атрымлівалі або залатымі чырвонцамі, або асігнацыямі (папяровыя грошы) і бабуля патрабавала, каб дзед атрымліваў жалаванне асігнацыямі, бо «залатыя рвуць кішэню». У выніку ў рэвалюцыю іх сям'я памірала з голаду (памерла паўтарагадовая дачка татавай сястры). Ад галоднай смерці выратаваліся толькі дзякуючы суседзям Рубінштэйнам, якія папрасілі перавезці сваё золата. Тады бабуля абшыла залатыя манеты сукном, прышыла замест гузікаў на студэнцкую тужурку таты, і пад пільным вокам братоў Рубінштэйнаў тата паспяхова даставіў гэты груз у Смаленск. Там адразу ж атрымаў грошы, тэлеграфам пераслаў у Мінск і такім чынам выратаваў сям'ю.

Дзед Спірыдонаў Мікалай Паўлавіч пахаваны на вайсковых могілках, там жа (у адной магіле) пахаваны прах яго жонкі Антаніны Цімафееўны і мая мама, Бакуновіч Кацярына Вікенцьеўна (памерла 1 чэрвеня 1946 года).

Бацька Спірыдонаў Мікалай Мікалаевіч памёр у 1983 годзе, пахаваны на Паўночных



*Алена Мікалаеўна Спірыдонава. 1976 год.*

могілках, на алеі ганаровых грамадзян. Таксама там, побач, пахаваны мой муж, Буднікаў Аляксандр Фёдаравіч (1924, 20 мая — 2012, 23 мая).

Мой бацька закончыў медыцынскі факультэт Юр'еўскага (зараз Тартускага) універсітэта, далей жыў з роднымі ў Мінску, працаваў галоўным санінспектарам Мінска і на паўстаўкі тэрапеўтам у чыгуначнай паліклініцы. Мама працавала ў бальніцы акушэркай, разам з Рэверэлі Генувэфай Уладзіславаўнай, якая скончыла бястужаўскія курсы і была высокаадукаванай дваранкай. Яна навучыла маму польскай мове (мама валодала ёю свабодна) і мазурцы. Французская мова не ішла так лёгка.

Жылі мы на вуліцы Паштовай, дом 5, кватэра 5. Цяпер гэтай вуліцы няма, яна занята стадыёнам «Дынама». Па нашых садах цяпер па вуліцы Ульянаўскай уніз да рэчкі ідзе трамвай. Насупраць — чырвоныя цагляныя трохпавярховікі, пасёлак «Іскра», ён захаваўся ў вайну, там жыла прафесура,

шмат хто з жыхароў гэтых дамоў загінуў падчас рэпрэсій.

На нашай вуліцы стаялі цудоўныя асабнякі, якія патаналі ў садах, мелі вялікія двары.

У такім асабняку мы мелі адзін пакой на 24 квадратныя метры, у тры акны, кутні, са столлю каля трох з паловай метраў вышынёй. Мама заўсёды казала: «Як я люблю наш пакой». Астатнія тры пакоі з кухняй, верандай, двума ўваходамі займалі Рахманчыкі: ён — акушэр-гінеколаг, кандыдат медыцынскіх навук, яна — таксама ўрач, іх двое дзяцей — Якаў, вучань 7-га класа, і Алік, мой сябар, вучань 4-га класа. Маці, Раіса Якаўлеўна, і дзеці — Якаў і Алік — загінулі ў гета ў самы першы пагром. Ніхто не падазраваў забойстваў, бо ў гета існавала самакіраванне, там працавала наша знаёмая. Спачатку немцы патрабавалі аблігацыі залатога займа 1938 года, потым золата. Аліка хацела ўзяць да сябе ў вёску іх домработніца Ксенія, якая знайшла іх у разбураным Мінску, але паколькі нават і не чакалі пагромаў, то Раіса Якаўлеўна не рашылася аддаць Аліка. Загінулі яны ў першыя дні лістапада 1941 года. У мяне ў душы незагойная рана, бо мы з Алікам сябравалі так, што не маглі расстацца, хоць ніхто не мог зразумець такога сяброўства-кахання. Знаёмыя Рахманчыкаў звалі мяне Ента (здаецца, не памыляюся, хоць з часам магла і забыцца). Мы сябравалі з ранняга дзяцінства, на пачатак вайны нам было па 10 гадоў.

Падчас вайны летам Алік прыходзіў да нас. Есці не было чаго, але часам тату ўдавалася атрымаць рэшткі ежы ад немцаў (у іх чамусьці працавалі нашы павары, якія ведалі тату як санінспектара) — у бітончыку, і мы чакалі яе як манну нябесную.

У верасні немцы пастанавілі, каб яўрэі насілі жоўтую зорку на вобласці сэрца (спераду і на спіне), тады Алік перастаў да нас прыходзіць, а я ў нядзелю (бо пачалася вучоба ў школе) бегала ў гета. Гэта ў пачатку вуліцы Астроўскага, і я праз дзірку ў плоце вакол царквы Пятра і Паўла бегала да іх. Халады пачаліся ў кастрычніку, апранаць мне не было чаго, я захварэла на ангіну і ў нядзелю не прыйшла. Гэта выратавала мяне абсалютна выпадкова, бо іх «загрэблі» менавіта ў той дзень.

Тата пачаў працаваць у чыгуначнай бальніцы, яе немцы ўзнавілі. Патрэбны былі чыгуначныя рабочыя, таму немцы пачалі разлічвацца маркамі і голад паступова адступіў. Але ўзнікла новая бяда — бацька наведваў хворых, не распранаючыся (бо было холадна) прысаджваўся на іх ложкі, і прынёс дадому тыфозную вош. Толькі дзякуючы таму, што бацькі ў Грамадзянскую вайну хварэлі на тыф, ім удалося мяне выхадзіць.

## ДЗЯЦІНСТВА

Я нарадзілася ў мамы ў 37 гадоў. Тата быў на год маладзейшы. Выхоўвалася я цяжка, мела жудасны дыятэз (расчэсвалася і ляжала літаральна ў крыві) і парушэнні сну. У той час мама працавала ў Доме дзіцяці, у які паступалі пакінутыя дзеці. Гэта быў страшны перыяд раскулачвання, і няшчасныя жанчыны, каб хоць неяк выратаваць сваіх дзяцей, падкідвалі іх. Пры Доме былі маці-карміліцы, якія мелі шмат малака і маглі карміць чужых дзетак. Такая жанчына з дачкой Ірынкай жыла ў нас, бо ў мамы малака было вельмі мала. Нейкі час яна жыла з намі, а потым паехала да ссыльнага мужа ў Халмагоры (радзіма Ламаносава). Мужчын высылалі ні з чым, але яны хавалі на целе інструменты і дзякуючы ім з плаўніка (гэта ж Белае мора) змаглі збудаваць жытло.

Мама заўсёды казала: «Не патрэбны дзеці, я з-за цябе не магла з'явіцца ў свеце» (тады яшчэ быў «свет»). Але такой любові да мяне з боку мамы і бацькі я больш ні ў кога не бачыла. Пра гэта мне потым, як сталі дарослымі, расказвалі сяброўкі. Адна з іх, Ала Будай, гаварыла, што яна літаральна купалася ў той атмасферы любові, якая ахутвала мяне і вылівалася на яе таксама.

З ранняга дзяцінства звярталася ўвага на маю выключную памяць і любоў да чытання. У нас была цудоўная бібліятэка майго дзеда, Спірыдонава Мікалая Паўлавіча, а дзіцячую і юнацкую літаратуру я атрымлівала ў спадчыну ад сваёй стрыечнай сястры Рыты (дачкі татавай сястры Аляксандры). Са мною шмат займалася мама, яна любіла Някрасава і мы чыталі яго вершы і абедзве плакалі.

Гэта вельмі злавала бацьку: «Нельга рабіць з яе сентыментальную плаксу». Асабліва мама любіла паэму «Русские женщины». Яна расказвала пра княгінь — Валконскую, Трубяцкую, захаплялася іх вернасцю, пачуццём абавязку, доўгацярпеннем, надзейнасцю ў жыццёвых справах. Мама імкнулася і ўва мне развіць якасці рускай жанчыны.

Тата быў чалавекам справы, у яго атрымліваліся выкшталцоныя рэчы, асабліва тыя, што выходзілі з-пад лобзіка. Ён цудоўна ўмеў перарысоўваць, і над маім ложкам часта раніцаю віселі ілюстрацыі да дзіцячых казак.

Маму ўводзіла ў адчай поўная адсутнасць у мяне апетыту. Каб прымусіць мяне нешта з'есці, прыходзіла стрыечная сястра Ніна. Спявала, танчыла. Калі я падрасла, мама на верандзе накрывала стол, запрашала на абед дзяцей (6 чалавек) з вялікай сям'і, і пакуль яны «мялі» ежу, я здзіўлена адкрывала рот — і мне нешта ўпіхвалі.

У двары ўжо ведалі, што калі прыйдуць Канашчукі, гэта значыць, «час Лену карміць». Гукалі маму — і ежа выносілася на веранду. Я лічу, што цяжкасці ў маім выхаванні вельмі скарацілі маміна жыццё.

Апранала мяне мама вельмі добра. Мы ездзілі ў Маскву, дзе жыла татава сястра Кацярына з мужам Паўлавым Аляксандрам Мікалаевічам. Ён займаў высокую пасаду ў ЦСУ (цэнтральнае статыстычнае ўпраўленне) і да вайны быў узнагароджаны Ордэнам працоўнага чырвонага сцяга. Мама купляла мне вельмі прыгожую вопратку, панамы, туфлікі ў тон, аднак насіць такое штодня было немагчыма, і справа канчалася тым, што, апрануўшы сукенку 2-3 разы ў госці, яе, ужо малую, адносілі ў дзіцячы садок, што вельмі радавала мам малодшых дзетак. У садок я хадзіла з задавальненнем, асабліва мне падабалася, як гатавала гарохавы суп наша паварыха. Гарох быў нізкай якасці, траплялася шмат чорных гарошын, якія не разварваліся, і мы стралялі імі адно ў аднаго праз трубачкі. Я нават прымусіла маму пайсці ў садок і даведацца, як наша паварыха варыць такі суп.

Але аднойчы (не памятаю, чаму) я адмовілася ісці ў дзіцячы садок, залезла пад ложак, ухапілася мёртвай хваткай за яго ножку, мяне не змаглі адарваць і вымушаны былі пакінуць дома. І даволі доўга я не хадзіла ў садок, за мною часам прыглядвалі суседзі.

Улетку мы здымалі лецішча ў вёсцы Гарадзішча, тады гэта было царскае месца: чыстая рэчачка Волма, у якой вадзілася фарэль, побач бярэзнік, куды тата ранкам бегаў па грыбы і прыносіў кошык маладзенькіх абабак або чырвонагаловікаў. Ён умеў збіраць грыбы цудоўна, адзін у адзін, ні лісціка ні хваінкі, — хоць зараз жа на выставу. Увогуле, ён быў грыбнік чароўны, і рыбалоў таксама. Да вайны яго прызывалі на манеўры, ён быў у абозе, як санітарны ўрач, а я вельмі перажывала, што мой тата не на кані з шашкай. У 1940 годзе манеўры былі пад Барысавам, і год той быў такім ураджайным, што тата прывозіў у нядзелю кашы грыбоў, увесь двор марынаваў і саліў іх, і ўсе дружна казалі: «Грыбны год — гэта да вайны, быць вайне». Што і спраўдзілася.

## СВЯТЫ

Я памятаю, як збіраліся госці на святы, дні нараджэння. Мама пякла торт «Напалеон» незвычайна смачны, рэцэпт яго цяпер страчаны. Той, які мы робім зараз, называецца «Пралетарскі Напалеон». Пяклі вялізныя стосы пячэння «хворост», яно раставала ў роце, рассыпалася ў руках (рэцэпт таксама страчаны). Ніколі ніхто не напіваўся, ставілася дамашняя наліўка, часцей за ўсё вішнёвая. Тата ўвогуле не мог піць, мама смяялася: «Коля вып'е чарку, закашляецца і больш не можа».

Мама валодала чароўным, пастаўленым ад прыроды голасам, і яе ўсе прасілі: «Каця, паспявай». Я ўжо пісала, што мама спявала ў аперэце, якая знаходзілася ў Магілёве, а потым вырашыла атрымаць адукацыю (па магчымасці) і пайшла ў школу павітух. У нас захоўваўся яе дыплом, дзе былі толькі выдатныя адзнакі. Быў там тэкст клятвы, якую яны тады давалі, я дрэнна яго запомніла, але памятаю, што словы там — незвычайна пранікнёныя. На жаль, па неразуменні мы знішчылі яе дыплом, але я памятаю, што на ім змяшчалася фотакартачка мамы ў форме — сукенцы з высокім стаячым каўнерыкам, з карункавым аздабленнем. Я памя-

таю таксама, як звярталася да мамы па дапамогу, запомніла словы, якія яна сама ўспамінала, — «першыя роды ніколі не прымайце дома, толькі ў стацыянары» — і як яна сама гэтаму правілу заўсёды падпарадкоўвалася. Яшчэ мяне здзіўляла яе здольнасць лекаваць: мама магла хадзіць за хворымі, даваць парады па доглядзе і ўсіх натхняць. Бацька ставіў дыягназ, а догляд і лячэнне арганізоўвала мама. Увогуле, яна была чалавекам з незвычайнымі душэўнымі якасцямі, выпраменьвала дабрыню, любоў, мудрасць, умела спачуваць. У двары казалі: «Кацярына Вікенцьеўна выйшла на ганак — сонейка ўзышло». І гэта казала самая шкодная на вуліцы баба, языка якой усе баяліся!

Мама выдатна спявала рускія рамансы Вяльцавай і іншых спявачак. Голас у яе быў оперны, вельмі падобны на голас артысткі вялікага тэатра (Масква) Катульскай, і мама спявала яе рэпертуар. Асабліва любіла яна арыю з «Міньён» Маснэ, «Помнишь ты домик наш», і калі яе слухалі, то не маглі стрымаць слёз, так хапалі за душу яе спевы.

Жылі мы небагата, як усе тады, мама мела пару сукенак, кофтачку, але яна ўмела іх насіць, і яе какецтва выклікала захапленне ў кожнага, і госці ад мамы вачэй не адводзілі.

### ЯШЧЭ ПРА МАМУ

Увогуле, яе прыгажосць знаходзіла аб'ектыўнае пацверджанне. Я любіла распытваць маму: «Раскажы, хто да цябе заляцаўся, чаму ты не пайшла за яго замуж?» Мама праводзіла са мною, як я потым гэта зразумела, псіхалагічныя размовы. Распавядала пра тое, як пасмяялася з непрыгожага прозвішча ўхажора, а ён адказаў ёй: «Мае бацька і дзед з гонарам насілі гэта прозвішча, і я яго не буду сарамаціць». Мама казала, што ад сораму за сябе не ведала, куды падзець вочы, і з тае пары я сама ніколі не паказвала, што мне здаецца смешным нечае прозвішча. Яшчэ мама казала, што адукаваны і выхаваны чалавек ніколі не прынізіць іншага грэбаваннем, кпінамі, калі той па адукацыі ці паходжанні стаіць ніжэй. «Аристократ всегда одинаково вежлив и предупредителен как с графом, так и с дворником». Заляцаўся да мамы адзін мастак па тканінах, таму ў нас была парцьера з яго малюнкамі (у пастэльных танах). Я ўсё прасіла маму павесіць гэтыя шторы і парцьеры, што мы ўрэшце і зрабілі, але тата тады сыпаў перунамі: «Прыбярыце гэтыя анучы, бачыць іх не магу». І мы іх, канешне, здымалі.

Яшчэ быў шыкоўны малюнак: на адрэз кітайскага ярка-сіняга шоўку кінуты букет гваздзікоў, як я цяпер разумею, намаляваны ў імпрэсіяністкай манеры. Мама мне гаварыла: «Пойдзеш замуж — зробіш падушку на канапу». Але, на жаль, пасля смерці мамы ў 1946-м прыязджала татава сястра, цётка Саня, і яна пакрала ўсе лепшыя рэчы.

Я ж не лазіла ў чамаданы. Так і знік гэты незвычайнай красы малюнак.

### ІНСАРАЎ

У 1934 годзе мая стрыечная сястра Ніна (Георгіеўна) Катлоўская ўзяла шлюб з Інсаравым Іванам Анісімавічам (я звала яго дзядзька Ваня, астатнія — Янка). Гэта быў самародак, сялянскі сын з вёскі Селішчы Слуцкага раёна. Таленавіты быў незвычайна. Пры паступленні на медыцынскі факультэт БДУ ў 1922 годзе пісаў сачыненне на тэму «Духовный мир Раскольникова». Гэта сялянскі хлопец, які скончыў вясковую школу! З іх вёскі выйшлі: ён — міністр аховы здароўя БССР, прафесар і адзін генерал.

Я адразу палюбіла дзядзьку Ваню. Як толькі ён прыходзіў да нас, я ўскарасквалася яму на плечы і не злазіла цэлы вечар. Раніцай ён скардзіўся: «Ой, не магу шыі павярнуць, рукі падняць». А я залазіла яму на плечы ўжо і даволі дарослая (так любіла).

У 1937 годзе ў Янкі і Ніны нарадзілася дачка Наташа (8 снежня, але дзень нараджэння святкавалі 8 студзеня — не хацелася дадаваць год з-за аднаго месяца).

Янку ўручаліся санкі з дачкой (санкі кшталту вазка) і ён, каб яму не было сумна, браў мяне з сабою на шпацыр. А для мяне не было большага шчасця, чым ісці побач з ім, слухаць вершы і аповеды. Шлях у нас заўсёды быў адзін: уніз па нашай Паштовай вуліцы да рэчкі Свіслач, затым падымаліся па вуліцы Энгельса да вуліцы Савецкай

(цяперашні праспект Незалежнасці), даходзілі да плошчы Свабоды, а затым вярталіся назад.

Увогуле, я вельмі любіла маленькую Наташу, прымушала яе зваць мяне мамай, а бацькоў называць Нінай і Янкам, бо да іх усе так звярталіся.

## ГОСЦІ

Пасля лёгкага перакусу і гарбаты госці сядалі за карты. Картачная гульня называлася «Дзявяты вал». Быў банк, куды ўносіліся капеечныя стаўкі. Памятаю, што карты раскладваліся рад пад радам, а дзявятая карта была галоўная. Гульня была вельмі азартная, я, прынамсі, уваходзіла ў такі азарт, што маме рабілася страшна, яна заўсёды мне казала: «Лена, не гуляй у азартныя гульні, прайграеш апошнюю кашулю». Што я і зрабіла: у дарослым жыцці ніколі не гуляла ў карты. Інсараў (дзядзька Ваня) часта наведваў нас у суботу ці нядзелю (мы жылі ў адным двары), чытаў вершы Ясеніна, якіх ведаў шмат, асабліва любілі слухаць (мама і тата) «Черного человека», калі ён чытаў яго сваёй жонцы. Вось што я запомніла: «Был он поэт пусть с небольшой, но ухватистой силой, и какую-то женщину сорока с лишним лет называл скверной девочкой и своей милой» (звяртаючыся да жонкі). Чытаў таксама з «Москвы кабацкой», мне запомніліся хуліганскія непрыстойныя словы: «Я не знал, что любовь — зараза, я не знал, что любовь — чума, подошла и прищуренным глазом хулигана свела с ума. Вьется дней моих розовых купол, в сердце снов золотых сума, скольких девушек я перещупал, скольких женщин в углах прижимал!»

Любілі спяваць студэнцкія песні таго часу (чамусьці):

Коперник целый век трудился,
Чтоб доказать земли вращенье,
Чудак, зачем он не напился,
Тогда б уж не было сомненья.

*Припев:*
Так наливай сосед соседке,
Соседка любит пить вино,
Вино, вино, вино, вино,
Оно на радость нам дано.

*Припев*

И коммерсанту нужен ром,
Когда идет он на экзамен,
Ведь по ошибке может он
Сказать, что вычет чету равен.

*Припев*

И гимназисту нужен ром,
Когда идет он на экзамен,
Ведь по ошибке может он
Сказать, что куб квадрату равен.

*Припев*

А гимназисткам ром не нужен,
Они без рома хороши,
Им поцелуй горячий нужен
И объяснения в любви.

*Припев*

И студенту нужен ром,
Когда идет он по панели,
Ведь простудиться может он,
В своей изодранной шинели.

Была яшчэ адна песня, якая запомнілася не цалкам:


Дополнение к
студенческим песням.
„Цим-ля-ля"

1 Цим-ля-ля, цим-ля-ля.
Трудным запахом несет
Цим-ля-ля
Это медик наш идет, цим...

Цим-ля..
Вечно ходит без сапог, цим-ля
Это верно педагог, цим-ля-ля..
(два раза)

Цим-ля, цим-ля ..
Под ногтями чернозем - цим-ля,
Это верно агроном (два ра...

Цим-ля-ля - цим-ля ...
Вечно на руку нечист, цим...
Это верно наш юрист 2 р...
Цим-ля-ля, ля

Быстры как волны все дни нашей жизни,
Что день — то короче к могиле наш путь.
Налей, налей, товарищ,
Заздравную чару,
Кто знает, что с нами
Случится впереди?

*Припев:*

По маленькой, по маленькой,
Чем поят лошадей *(2 раза)*

Умрешь, похоронят, как не жил на свете,
И вечную память над гробом споют,
Налей, налей, товарищ.
Заздравную чару,
Кто знает, что с нами
Случится впереди?

## НАША КВАТЭРА

Я ўжо пісала, што жылі мы ў адным пакоі, 24 кв м, квадратным, кутнім, на тры акны. Стаяла кафлевая печка-«галандка», пасярэдзіне пакоя — вялікі стол, над ім аранжавы абажур. Справа ад увахода — вешалка для адзення, печ, затым мой ложак уздоўж сцяны, мамін ужо ўпоперак, шафа «Славянская», камод. Уздоўж акна — канапа, затым піяніна, татаў стол з паперамі, драўлянымі самаробкамі і вялікім разнакаляровым шкляным прэс-пап'е (шматграннік, якраз як наша бібліятэка-«алмаз»). Затым уздоўж сцяны татаў ложак, дзверы ў суседні пакой, да Рахманчыкаў. На іх былі зроблены паліцы і стаялі на тых паліцах лепшыя кнігі дзядулевай бібліятэкі, астатнія кнігі былі знесены на гарышча і тата мне казаў: «Вось пачакай, падрасцеш — буду табе іх здымаць» (вайна пераблытала ўсе карты).

Мяне вылучала незвычайная памяць і любоў да кніг. Я не магла прайсці міма кнігі спакойна, мне абавязкова трэба было яе прачытаць. Прытым чытала я хутка, адразу «ўваходзіла» ў кнігу, у змест, эпізод, пакутавала і весялілася разам з героямі і літаральна знікала з акаляючага свету, нічога і нікога не бачыла і не чула, мяне даводзілася трэсці, крычаць мне ў вуха. Я чытала запоем, гэта вельмі хвалявала бацькоў, але нічога яны не маглі зрабіць. Прычым, запамінала я на векі вечныя. Я і цяпер, у свае 83 гады, памятаю вершы Чукоўскага, Маршака, Барто на памяць. Я сваім дзецям чытала па памяці, але мне здаецца, што яны іх не памятаюць, хоць таксама вучылі.

Тады бацькі кіравалі чытаннем дзяцей, збіралі адпаведную бібліятэку (дзіцячая, падлеткавая, юнацкая літаратура), імкнуліся выпрацаваць літаратурны густ. Да мяне, як я сказала, пераходзілі кнігі маёй стрыечнай сястры Рыты (Маргарыты Міхайлаўны Вахаевай, па мужу Шаўчэнка). Яе бацька Вахаеў Міхаіл Аляксеевіч быў вельмі адукаваным чалавекам, меў дзве адукацыі, свецкую і духоўную, ведаў літаратуру, і бібліятэка для дачкі была выбітнай. Трымаў ён Рыту



(яна была старэйшая за мяне на 6 гадоў) у «яжовых рукавіцах», і толькі ён памёр (ад сухотаў у 1937 годзе), Рыта пусцілася ва ўсе цяжкія, нарадзіла ў 18 гадоў, але дзіцятка памерла ў 1940-м. Без мужа Рыта ніколі не заставалася (мама казала, што Рыта знойдзе мужчыну і на бязлюдным востраве). У яе ад апошняга мужа (Шаўчэнкі) трое дзяцей, а ўсіх пяцёра.

У памяці засталіся летнія цёплыя вечары, калі я прыбягала ўсхваляваная, разгарачоная бегатнёй па двары, а ў доме — утульная цеплыня, святло над сталом, мама нешта чытае або робіць, папа за сталом п'е гарбату ў срэбраным падшклянку і такі спакой, такая атмасфера любові, а вокны расчынены ў сад, галінкі зазіраюць у пакой, цішыня…

Зімой я вельмі любіла ранак нядзелькі, калі прачыналася позна. Па доме разліваецца цеплыня (паліцца галандская печка), пахне марозам ад бярозавых дроў, а на вокнах марозныя карункі і зімовае яркае сонца іграе на іх, ляжыць плямамі на падлозе. І такое шчасце разліваецца навокал, і любімы твар мамы побач. А над маім ложкам ужо вісіць татаў невялічкі малюнак. Напрыклад, Браток Кролік ці які іншы казачны персанаж. І лілея расцвіла на падваконні.

Тата займаўся драўлянымі самаробкамі або вучыў мяне і майго сябра Аліка Рахманчыка перарысоўваць. І мы навучыліся нядрэнна гэта рабіць, што мне пасля вельмі спатрэбілася ў інстытуце, калі вяла альбомы па розных прадметах.

## ЁЛКА, ДНІ НАРАДЖЭННЯ І БАЦЬКА

Я вельмі любіла глядзець, як тата апранаецца. Раней каўнерыкі былі на запінках, і я пільнавала, ці не ўпадзе якая на падлогу і адразу ж закоціцца куды-небудзь (дываноў тады на падлозе не было), — і адразу яе даставала. Тата выглядаў вельмі інтэлігентна, хадзіў з кіёчкам і калі выходзіў з дому, то суседзі гаварылі з некаторай павагай: «Сам Спірыдонаў выйшаў».

Па словах людзей, тата ўмеў абходжваць жанчын. Смяяліся, што ў таты ёсць «рудзенькая» загадчыца крамы. Бацька быў галоўны санінспектар горада і ў нас заўсёды на Новы год была скрыня мандарынаў — яны былі завернуты кожны ў тоненькую паперку з ярлычком.

Амаль анекдот пра тату (па словах мамы). Пішу пра гэта, бо такая сітуацыя паўтарылася і з маім мужам (відаць, усе мужчыны аднолькавыя). Анекдот. Прыбягае да мамы яе сястра Ганна і кажа: «Бачыла сёння твайго, ішоў па вуліцы з букетам фіялак. Цікава, прынясе ён іх табе ці не?» Далей па словах мамы: «Прыходзіць Коля без кветак, і я яму кажу: "Коля, а дзе фіялкі?" І раптам бачу крыштальна чэсныя вочы, твар выказвае здзіўленне і крыўду: ну літаральна анёлка пакрыўдзілі». «Кацечка, якія фіялкі?» Мама: «Ну што ты, Коля, Аня ж цябе бачыла, ты ішоў з фіялкамі». Тата па словы ніколі ў кішэню не лазіў. «А, гэтыя… Кацечка, разумееш, я нёс іх табе, але мне насустрач трапілася (ну няхай будзе Ганна Іванаўна) і кажа: "Мікалай Мікалаевіч, якія фіялкі! Напэўна, гэта мне". Кацечка, хіба я мог аказацца няветлівым? Я сказаў: "Ну канешне, Вам, Ганна Іванаўна"».

Памятаю, як праходзілі дзіцячыя святы, галоўным з якіх быў дзень нараджэння. Звычайна ў гэты дзень прыходзілі сяброўкі і сябры з вуліцы, дарылі падарункі, было вельмі смачнае частаванне, на салодкае ўсе любілі мус. Затым кожны нешта прадстаўляў: пераапраналіся, танчылі, уяўляючы сябе балерынамі.

Мой дзень нараджэння выпадае на 22 красавіка. У тыя гады (1930-я) былі вельмі цёплыя вёсны, мы ўсе на вуліцы ў летніх сукенках гулялі ў «ручаёк», «караля», «залатыя вароты», «проходите, господа» і, канешне, «хованкі». Двор быў вялікі: хлявы, клумбы, кусты бэзу — было дзе хавацца, катацца на веласіпелах. Былі і рухомыя гульні, адна называлася «грахі». Як гулялі: выкопвалі адна ля адной невялікія ямкі па ліку ўдзельнікаў, вядучы каціў невялікі мяч. Той, у чыю лунку трапляў мяч, хапаў яго, астатнія разбягаліся да крыку «стой». Затым той, у каго быў мяч, павінен быў патрапіць у аднаго з гульцоў, якія стаялі ў розных месцах у цікавых паставах, прычым, ім можна было выгінацца, прысядаць, галоўнае — не сыходзіць з месца. Хто не трапляў мячом, таму ў ямку кідалі каменьчык, «грэх», а потым па ліку каменьчыкаў кідаліся ў яго мячыкам.

Часам мама на верандзе «круціла» марожанае, што вельмі радавала нас усіх.

Вечарам на веранду выносілі патэфон (наш), ставілі пласцінкі, асабліва любілі танга — «Рио Рита», «Дождь идет» (усё замежнае) і наша танга «Брызги шампанского». Тата вельмі добра танцаваў, ён гімназістам на вечарынах атрымліваў «жэтон» за лепшы танец і нам паказваў, як трэба танчыць «па-д-эспань» і кракавяк.

Зімою, у лютым, быў дзень нараджэння ў Аліка Рахманчыка. Мой сябар і каханне, узаемнае. Мы не маглі расстацца ўвечары і раніцай пачыналі грукаць у сценку. Ён: «Цётка Каця, ці можна да вас?» Я: «Цётка Рая, ці можна да вас?» Гэта злавала маму: «Дай хоць памыцца людзям!» На дзень нараджэння Аліка я звычайна ішла з гаршчочкам цыкламена (мы называлі яго альпійскай фіялкай) і якім-небудзь падарункам. Дзяцей спачатку кармілі і паілі гарбатай (акрамя мяне дзяцей з вуліцы не было, у асноўным, дзеці родных і сяброў). Кватэра Рахманчыкаў была вялікая: тры пакоі, кухня, два ўваходы — амаль што ўвесь асабняк. А мы, як я пісала, займалі адзін пакой, і яшчэ па калідоры далей у маленькім, 12 м, пакойчыку (відаць, раней гэта быў пакой прыслугі) жыла сям'я Страшынскіх. Дзеці збіраліся ў асобным пакоі, уключалі «чароўны ліхтар», пракручвалі плёнкі з ілюстраванымі апавяданнямі і казкамі. Так я амаль на памяць ведала «Чайлд Гарольда» Байрана (была такая плёнка, але цяпер не памятаю ніводнага слова).

Вельмі любілі гуляць у кучу-малу. Для гэтага тушылі святло і з крыкам-шумам кідаліся адзін на аднаго. Калі ўдавалася вылезці з-пад кучы, то хутка беглі ў сталовую, дзе госці пілі гарбату і расказвалі анекдоты, галоўным чынам, яўрэйскія.

У Рахманчыкаў быў сервіз для гарбаты (японскі ці кітайскі) з незвычайным малюнкам (з японкамі ці кітаянкамі?) чайнай цырымоніі. Нам дазвалялася толькі глядзець, любавацца. Госці заседжваліся дапазна, і мяне, каб не весці сонную па двары, укладвалі спаць у кабінеце таты Рахманчыка (Лазара), разам з ім, у адзін ложак. Не ўяўляю, ці выпадала яму хоць на імгненне звесці вочы, бо я так шалёна брыкалася (па яго словах).

Рахманчыкі мелі канцэртны раяль (стаяў у кабінеце Лазара). Мне купілі піяніна і нас з Алікам пачалі вучыць музыцы. Слыху не было ні ў яго, ні ў мяне (і гэта кожнага здзіўляла, бо мама спявала, трохі грала на гітары, падбірала акорды на піяніна, а тата гімназістам граў на мандаліне). Мяне нават прыстроілі праз знаёмства ў музычную школу на плошчы Свабоды, але я іграць не хацела. Потым трохі бралі прыватныя ўрокі, але ўсё безвынікова (не хацела). На маю адукацыю грошай не шкадавалі, а мама летам хадзіла ў марлевай сукенцы! Летам здымалі лецішча (пакой у драўлянай хаце) разам з Інсаравымі і татавай сястрой, сябравалі з сялянскімі дзяўчынкамі, якія пасля вайны часта да нас забягалі.

Зімой гулялі ў двары, рабілі горкі, з'язджалі на санках, каталіся на лыжах і коньках-«снягурках». Гэта былі канькі, якія да падэшвы прымацоўваліся пры дапамозе скобаў, а на пятачным канцы мелі штыр. У абцасе чаравіка (гумавым) рабілася адтуліна, штыр устаўляўся ў яе і ўвесь канёк раменьчыкам прымацоўваўся да чаравіка (або да валёнка).

У 1939 годзе я, катаючыся на каньках, паваліласся, падвярнула нагу і зламала галёнку, са змяшчэннем. У хірургічным аддзяленні трэцяй бальніцы рабілі выцяжэнне; адны ўрачы цягнулі за ступню ў адзін бок, другія за нагу — у другі. Верагодна, тады не існавала абязбольваючых сродкаў, бо я так крычала, што збегліся хворыя з усяе бальніцы, і калі мяне неслі на насілках, ужо ў гіпсе і без такога болю, то я, бачачы столькі людзей, падумала, што гэта дэманстрацыя ці нейкае свята.

Хварэла доўга. У 1940-м хадзіла ў школу з мамай, на кастылях. Месца пералому зраслося выдатна, бо мяне пакідалі дома адну, а ложак падсоўвалі да кніжных паліц і я чытала Шэкспіра. І так захапілася, што чытала запоем. Гэта было шыкоўнае выданне з цудоўнымі ілюстрацыямі, кожная была пакрыта навошчанай паперай, на паперы быў надрукаваны тэкст, дыялог, і таму хацелася даведацца, што будзе далей.

Так прачытваўся Шэкспір. Але не «Рамэа і Джульета» і не «Гамлет». Мяне зачароўвалі назвы «Віндзор», «Тауэр», «Рычард III», «Верона» і гэтак далей. Такія словы гучалі для мяне як «музыка сфер».

Вышэй, над Шэкспірам, месціўся Мапасан, і калі да мяне наведвалася сяброўка Эла Пеўзнер, яна ўскарасквалася на крэсла і даставала Мапасана. Большасць яго апавяданняў на нас (нам па 10 гадоў) ніякага ўражання не рабіла, а «Мілым сябрам» мы былі захоплены, і разыгрывалі яго па ролях. Я была Мадлен, а Эла Сюзанай, і рэплікі падавалі амаль на памяць. Чытанне Мапасана было нашай з Элай таямніцай, і калі яна прыходзіла да мяне, то ціха прамаўляла: «Хадзем чытаць МД». Алік, бедны, ледзь не плакаў: «Ленка, што за сакрэты? А я?».

У 1937-м ці 1938-м дазволілі ставіць навагоднія ёлкі і святкаваць Новы год. Тата адразу купіў вялізную ёлку пад самую столь (тры з паловаю метры) і паколькі цацак яшчэ не было, адразу пачаў майстраваць іх. У яго атрымліваліся незвычайна прыгожыя, акуратныя цацкі, ён асноўным чынам майстраваў мэблю, гадзіннікі, вулічныя тумбы, розныя зоркі і жавёлак. Мы, Алік і я, з мамай і мамінай сяброўкай Вольгай Паўлаўнай клеілі ланцужкі, выразалі з гафраванай паперы мяшэчкі, куды складвалі пазалочаныя арэхі, мандарыны, райскія яблычкі. На ёлку развешвалі і цукеркі. Татавы вырабы выклікалі агульнае захапленне, амаль уся вуліца прыходзіла паглядзець на прыгажую ёлку. Тады яшчэ захоўвалася традыцыя запрашаць сяброў «на ёлку», і мы амаль усе зімовыя канікулы бавілі такім чынам. Пасля пачастункаў, прадстаўлення дазвалялася здымаць з ёлкі ласункі, мандарыны, яблыкі. І ўсе ішлі дамоў з падарункамі (гэта было абавязкова).

У наступныя гады з’явіліся ў продажы гатовыя цацкі і нарыхтоўкі для іх, і гэта займала ў нас усе вечары (клеілі, выразалі, фарбавалі). Мне здаецца, што вось такое баўленне часу стварала святочную атмасферу: мы прадчувалі вясёлае свята.

На нашу першую ёлку маміна сяброўка Вольга Паўлаўна прыйшла з сынам Ігарам, высокім, прыгожым. Мне ён падаўся неверагодным. Ён вучыўся ў Маскве, са слоў маладых дзяўчат мы ведалі, што ён ім падабаецца, а дачка яшчэ адной мамінай сяброўкі, Валя Быліна, была ў яго закахана.

Трэба прызнацца, што і я адразу ж закахалася ў яго, трапятала ўся, калі ён запрасіў мяне на танец і вучыў кроку танга. Я Ігара потым памятала ўсё жыццё, але яго прыгажосць перашкаджала яму ў жыцці (жаніўся, разводзіўся і г. д.)

## ЯШЧЭ ПРА ЧЫТАННЕ КНІГ

Я ўжо пісала пра тое, што мая любоў да чытання здзіўляла і нават трохі палохала. Часам імкнуліся схаваць кнігі. Вельмі любіла чытаць пра прыроду, жывёл. Дома былі кнігі Сетан-Томпсана, Кіплінга, Барыса Жыткова, Віталя Біанкі і іншых. Многія прачытваліся па некалькі разоў. Я ведала амаль на памяць «Лясную газету» Біанкі, «Рыкі-Цікі-Таві» Кіплінга.

Кнігі Чукоўскага, Маршака, Барто былі настольнымі. Бацькі выпісвалі дзіцячыя часопісы «Чиж» і «Мурзилка», а для сябе — гумарыстыку, спачатку «Бегемот», а потым «Крокодил», які чыталі ўжо на працягу ўсяго жыцця.

Паступова з’явіліся Жуль Верн, Фенімор Купер, і тут родныя заўважылі, што я, калі чытаю, сыходжу з рэальнага свету ў свет той эпохі (кніжнай), і каб мяне вывесці з гэтага стану (літаральна трансу), трэба трэсці мяне за плечы, крычаць у вуха, і гэта палохала бацькоў, але ў далейшым жыцці такі стан дапамагаў мне займацца вучобай, не чуючы і не бачачы асяродку. Мае сяброўкі і аднакурсніцы зайздросцілі, але каб увайсці ў транс, мне было неабходна кнігай захапіцца.

У школу тады хадзілі з 8 гадоў, вучылі нас няспешна. Па-мойму, увесь першы клас пісалі алоўкам. Потым пачалі пісаць асадкай, пяро было № 86, пісалі з націскам, праводзіліся ўрокі чыстапісання. Пасля перайшлі на пяро, якое мы называлі «шкілецікам», яно нам вельмі падабалася. Ім пісалі ў старэйшых класах.

У школу я пайшла ў 1937 годзе, школа № 47, знаходзілася на вуліцы Свярдлова, у вайну не пацярпела.

Вучыліся лёгка, з задавальненнем, асабліва падабаліся гуманітарныя прадметы. Я любіла пераказваць маме ўрокі, расказваць пра школу, сябровак, і мама ведала амаль што ўсіх, цікавілася іх поспехамі. Над матэматыкай я абсалютна не хацела думаць, а ўсё астатняе давалася жартам. І арыфметыку мне рашала спачатку мама: «Мама, ну!», потым тата, а потым ужо Інсараў Іван Анісімавіч, бо задачы здаваліся неверагодна складанымі (на басейны, самалёты, параходы). Мае дзеці такіх задач ужо не рашалі.

У той самы год паступіла ў музычную школу, вучыцца не хацела, але прымушалі іграць па 40 хвілін. На здзіўленне, поспехі назіраліся (тады звярталі ўвагу на «пастаноўку рукі»). Але сальфеджыа ў мяне не ішло, не мела слыху. І пісаць кантрольную (на слых трэба было пазнаваць ноты) я не магла. Да вайны скончыла чатыры класы абедзвюх школ.

## САНАТОРЫЙ «БАРВІХА». ГАЛАДАЛА

У 1939 годзе дасталі пуцёўку ў дзіцячы санаторый у Барвіху (пад Масквой, дзе ў гады СССР быў таксама санаторый ЦК). Там я, канешне, нічога не ела. Чаму? Не ведаю. Гэта дайшло да галоўурача, мяне імкнуліся прымушаць есці, але нічога не атрымалася. Пачалася дыярэя і я месяц правяла ў ізалятары.

Тэрмін пуцёўкі быў 42 дні, я пісала дадому лісты і плакала, мама іх чытала і таксама плакала, і тата вырашыў мяне забраць. Тое, што сталася са мною пасля месячнай галадоўкі, немагчыма апісаць. Мяне не пазнала ў Маскве цётка Каця, а калі ў Мінску мяне па двары вёў тата, суседзі здзіўлена казалі: «Якую гэта дзяўчынку вядзе Спірыдонаў?» На працягу некалькіх дзён мама вылечыла маю дыярэю. Вось мамін рэцэпт: 1 сталовая лыжка кастаравага масла, зверху — чорная кава. Вельмі лёгка выпіць, цалкам ачысціць страўнік, а затым дыета. Ужо праз месяц да мяне вярнуўся мой стары стан (шасцёра дзяцей Канашчукоў, абедаючы са мною, цалкам вярнулі мне апетыт). Але па-сапраўднаму я пачала есці толькі ў вайну, калі пачаўся жудасны голад.

## ПІЯНЕРЛАГЕР 1941

У 1941 годзе мяне адправілі ў піянерскі лагер у Калодзішчы, з сабою я ўзяла ўсе сукенкі, пра пачатак вайны мы нічога не ведалі, з жахам слухалі жудасныя разрывы над Мінскам і бачылі сцяну чорнага дыму. Плач у лагеры стаяў страшны, нас сабралі і мы разам з піянерважатымі некуды пайшлі (хутчэй за ўсё, на Маскву, бо ішлі па шашы). Раптоўна мы ўбачылі танкі з чырвонымі сцяжкамі. Кінуліся насустрач, літаральна пад танкі, і — жах — гэта былі нямецкія танкі, сцяжкі ў іх таксама былі чырвоныя, але ў сярэдзіне мелі белы круг са свастыкай. На шчасце, нас не расстралялі, але далей мы ішліляснымі сцежкамі. Дайшлі да мястэчка Смілавічы, спыніліся ў нейкім доме і тут увачавідкі ўведалі, што такое нямецкі парадак. На вуліцах ляжалі забітыя, бо хадзіць па вуліцах можна было толькі з 10 да 12 гадзін. Есці нам не было чаго, а хадзіць шукаць ежу было немагчыма.

## ВАЙНА

У гэты ж час, відаць, ад нервовага стрэсу, у мяне пачаліся menses, я вырашыла, што паміраю, дапамагчы не было каму, сяк-так знайшла вады, каб памыць бялізну. Пераапрануцца не было ў што.

Пайшлі ў Мінск, ішлі босыя, бо сандалі парваліся, ішлі па згарэламу Мінску, дайшлі да Свіслачы, убачылі разбураны мост (Ляхаўка). Тут пачыналася наша вуліца Паштовая, яна ўзнімалася ўверх, да былой гасцініцы «Беларусь», я бегла па вуліцы, глядзела ўніз, баялася, што ўбачу згарэлыя дамы (а яны ўводзілі ў жах), і толькі па плітках тратуара пазнала свой дом. Глянула і абамлела: адны шкілеты печак. І не здагадалася падысці да пажарышча, там мама на трубе печы пакінула запіску. З крыкам і плачам паімчала назад да калоны, а там ужо пачалася істэрыка (я ўсіх узбудзіла). Усе разам мы дайшлі да вуліцы Чырвонаармейскай, дзе жыла мая цётка, але і яе дом згарэў. На маё шчасце, побач, у цагляным доме аказаліся суседзі, накармілі мяне, расказалі, што мая цётка жывая, паабяцалі адвесці да яе. Суткі

я ў іх праспала, потым прыйшлі да цёткі, яна адвяла мяне да дамоў пасёлка «Іскра», які быў недалёка ад нашага дома (чырвоныя цагляныя дамы, магчыма, стаяць і сёння). У сутарэнні аднаго дома хаваліся нашы ацалелыя суседзі па Паштовай. Стала вядома, што мамы няма, яна пайшла ў Калодзішчы шукаць мяне. Двое сутак я прастаяла ля дарогі, а калі ўбачыла родны твар, мне здалося, што я болей ніколі не буду засмучаць сваю маму, не пакрыўджу яе (такое шчасце я адчувала). На жаль, праз нейкі час усё вярнулася «на кругі свае».

## БАЦЬКА І ВАЙНА

У чэрвені 1941 года тату прызвалі на манёўры ў Гродна. Па словах таты, далі абмундзіраванне старое, латанае. Зброі баявой не было, «вінтоўка з расхістаным затворам».

Тата трапіў у палон, як многія ў той час. Палонных было шмат, тата казаў, што немцы, напэўна, разгубіліся. Тата як урач быў прыстаўлены да нямецкай медыцынскай часці, якая суправаджала калону, «успомніў сваю гімназічную нямецкую», і немец-урач даваў яму трохі перавязачнага матэрыялу і ёду, а тата па ходу калоны аказваў дапамогу сваім. Так дайшлі да Мінска, медчасць спынілася ў будынку былога манастыра на тэрыторыі другой бальніцы (рог вуліц Купалы і Багдановіча ў наш час).

Тата выпрасіў у немца, каб той дазволіў яму пайсці пашукаць сям'ю, абяцаў вярнуцца.

Ён прыйшоў на нашу спаленую вуліцу, гэтаксама як і я не падышоў да трубы печы (у глыбіні двара), не зайшоў у будынак пасёлка «Іскра», а пачаў распытваць людзей, што сядзелі ў вялізнай трубе стадыёна «Дынама», які тады ўжо будаваўся. Шукаў жанчыну з дзіцем, сказаў, што наступным разам прыйдзе «заўтра а 12-й». Маме паведамілі, што нейкі чалавек шукаў жанчыну з дзіцем. Назаўтра мама стаяла на вуліцы і сустрэла тату. Ён ужо не вярнуўся ў бальніцу. На шчасце, яго ніхто не шукаў.

Такое бывае толькі ў кіно!

## ПРА МІНСК

Мінск (цэнтр) быў разбураны цалкам, толькі на ўскраінах захаваліся драўляныя дамы. На вуліцах панавалі жах і смурод: забітыя нашы салдаты так і ляжалі, мы з мамай прыкрывалі іх твары галінамі дрэў. Пасля прагону калоны палонных на іх шляху заставаліся ляжаць мёртвыя.

І ў той жа час з калоны чуліся галасы: «Ці давалі ўжо зямлю?» Так, гэта было: многія былі падмануты нямецкай прапагандай, а пасля ўсе загінулі ў канцлагерах.

Мама пайшла ў раддом, дзе працавала (вул. Першамайская?). Па словах мамы, парадзіхі крычалі, не ведалі, што рабіць. Пасля недзе нехта дастаў падводы, парадзіх вывезлі ў лес, а там усе разбрыліся хто куды.

З-за бамбёжкі і пажараў жанкі ішлі ў «бежанцы», а ў гэты час мужы іх прыязджалі да зачыненых дзвярэй. Так было і з маімі роднымі Інсаравымі, Нінай Георгіеўнай і маленькай Наташай. Так было і з нашымі суседзямі Рахманчыкамі (сям'я загінула ў гета).

## ЯК ЛЮДЗІ РАТАВАЛІ РЭЧЫ

Перад тым, як уцячы ад бамбёжкі і пажару, людзі выкопвалі ў дварах ямы, туды кідалі ўсё, што маглі наспех сабраць. Так і мая мама (адна), што магла, сабрала, але ў спешцы не ўзяла цёплыя рэчы, якія былі схаваны далёка. І зіму 1941—1942-га я хадзіла ў тым, што далі добрыя людзі (і таму вельмі хварэла).

Жыць мы пачалі на ўскраіне, пусцілі добрыя людзі (за плату). Голад быў страшэнны, трохі дапамагала тое, што тату як урача ведалі рабочыя чыгуначнікі (бацька працаваў у чыгуначнай бальніцы), а яны мелі агароды, і тата хадзіў да іх і прыносіў па некалькі бульбін (шчасце!).

Увогуле, людзі з ускраіны, хто больш прадпрымальны, парабавалі крамы і, відаць, жылі трохі лепш.

Здавалася, што прасвету няма, на кожным слупе віселі лістоўкі: столькі-та расстраляна заложнікаў, яўрэям загадана насіць жоўтыя кругі на спіне і грудзях (загад немцаў). Ужо

выдавалася газета, і ў кожным нумары былі словы: «У врат Москвы», і мы страцілі надзею. Але і ў чэрвені, і ў жніўні, і ў верасні — усё «У врат Москвы», і мы трохі паднялі галовы, зацеплілася надзея.

На шчасце, у кастрычніку стукнулі маразы, і, здаецца, немцы пачалі мерзнуць. Увогуле, каля чыгуначнага пераезду, дзе мы жылі, збіраліся нямецкія машыны, цягнікі з тэхнікай ішлі на усход, і нам здавалася, што з немцамі нічога зрабіць нельга: машыны ў іх вялізныя, крытыя брызентам, наша бездарожжа ім не страшнае. Зімой у кожнага з'явілася надзея: з фронту пайшлі санітарныя цягнікі — значыць, іх б'юць, значыць, мы пераможам!

Казалі, што ў іх замярзаюць лёгкія (мо мы проста хацелі, каб так было).

## СТАЛІНГРАД

Успамінаю пачатак вайны, восень і зіму 1941-га і 1942-га. Мяне, як і бацькоў, захінала пачуццё безвыходнасці, падаўленасці, страху. Усё гэта яшчэ ўзмацнілася голадам, холадам, я захварэла на сыпны тыф, лячыць не было чым, бацькі-медыкі ратавалі як маглі.

Здавалася, ратунку няма, немец пад Масквой, бясконца па чыгунцы ідуць саставы з нямецкай тэхнікай, ніхто ўжо не чакае нічога добрага. І раптам — Сталінград! Уявіць, што мы адчувалі, перажылі, — немагчыма. З'явілася надзея: мы не здаёмся! Трэба дапамагаць падпольшчыкам! Бацька знайшоў сувязных партызанскага атрада, дапамагаў ім лекамі (імкнуўся ўзяць у бальніцы), даваў вызваленне на некалькі дзён, каб паспелі сысці незаўважана. Мы баяліся, што радасць выплюхнецца з нашых душ вонкі, і хадзілі, апусціўшы галовы, не гледзячы па баках — каб ніхто не бачыў радасці, што рвецца з сэрца. А якую радасць і помслівасць адчулі мы, калі ўбачылі іх смутак (прыспушчаны сцягі, зачынены забаўляльныя ўстановы) і — нарэшце! — пайшлі іх санітарныя цягнікі. Значыць, мы іх б'ём! Значыць, не такія ўжо яны неперажомныя! Асабліва радаваліся, калі бачылі, як яны мерзнуць у сваіх эрзац-шынялях і пілотачках. З саломы яны плялі боты, абувалі паверх на свае чаравікі, каб стаяць на варце. А калі пачалі казаць, што ў іх адмярзаюць лёгкія, — як мы дзякавалі нашай «рускай зіме»!

Вось тады якраз — у горы і жаху — я зразумела, як любім мы нашу Радзіму, як блаславіўляем нашых салдат, і як мае бацькі, суседзі, знаёмыя сплаціліся, жадаючы аднаго — перамогі. У доме быў патэфон з пласцінкамі, тады з'явіўся раманс Вярцінскага пра любоў да Радзімы, надзею на шчасце, і калі ён яго спяваў, плакалі ўсе — і жанчыны, і мужчыны. Бяру на сябе смеласць прывесці гэтыя словы:

Молись, кунак, в стране чужой,
Молись, кунак, за край родной,
Молись за тех, кто сердцу мил,
Чтобы Господь их сохранил.

Пускай теперь мы лишены
Одной страны, родной семьи,
Но верим мы — настанет час,
И солнца луч блеснет для нас.

Молись, кунак, чтобы Господь
Послал нам силы побороть
И чтоб могли мы встретить вновь
В краю родном — мир и любовь.

## ЯШЧЭ ПРА БАЦЬКУ, ГАДЫ ВАЙНЫ

Бацька быў удзельнікам падпольнай групоўкі на «Хімфармзаводзе», які знаходзіўся на перакрыжаванні вуліц Дзяржынскага і Маскоўскай (калі не памыляюся). Падпольшчыкі выносілі лекі (гэта былі сульфадзін і стрэптацыд у парашках) і пад выглядам пацыентаў прыходзілі да бацькі. Бацька гатаваў вялікія пакункі з вошчанай паперы. Партызанскія сувязныя закладвалі іх у кішэні, прышытыя знутры куртак. Ідучы назад, яны, каб лекі не вельмі выдзяляліся, трымалі рукі ў кішэнях. Менавіта таму сусед, п'яніца і дэбашыр Прохарчык, напісаў данос, што да Спірыдонава ходзяць партызаны, а ў кішэнях у іх пісталеты. Бацька быў адразу ж арыштаваны, але вобыску не зрабілі, і мама, схаваўшы друкарскую машынку ў мяшок (на машынцы друкавалі паведамленні), змагла вечарам вынесці яе і схаваць у склепе ў знаёмых. Мы разумелі, што суседзі ўсё роўна данясуць, але бачыць спакойна

ворага на роднай зямлі, трываць прыніжэнні, аблавы, расстрэлы — для сумленных людзей гэта было невыносна, і мы змагаліся як маглі. Бацька разумеў, што калі яго арыштуюць, то нас, мяне і маму, адразу задушаць у «душагубцы» (машына, у кузаў якой падаваліся выхлапныя газы) і прыгатаваў нам парашкі (не ведаю, што ў іх было), і сказаў: «Прыміце адразу, вам лягчэй будзе паміраць». Мы ўжо нічога добрага не чакалі і разумелі, што, хутчэй за ўсё, давядзецца паміраць цяжкай смерцю, і змірыліся (былі падаўлены жахам і безвыходнасцю).

Немцы выкідвалі бібліятэкі, кнігі гнілі ў вадзе, брудзе. Бацька, кніжнік і пушкініст, як мог, ратаваў іх, і ў нас утварылася нядрэнная бібліятэка. Немцы рабілі аблавы ў горадзе — абкружалі войскамі раён, затым па вуліцах хадзілі або эсэсаўцы, або жандары, у суправаджэнні аўтаматчыкаў. Заходзілі ў кожны дом.

Да нас зайшлі жандар з аўтаматчыкам, мы стаялі шэрагам ля сцяны, на паліцах ляжалі кнігі. Жандар абвёў паглядам паліцы і адразу зачапіўся за том Гейнэ (магчыма, немец той ведаў рускую мову). «Halbe jude!» — зароў ён, схапіўся за кабуру, аўтаматчык зашчоўкаў аўтаматам. Я зразумела, што нас зараз заб'юць, і прыціснулася да таты, а мама кінулася жандару ў ногі, рукамі абхапіла паясніцу і прыкрыла кабуру. Тата на ламанай нямецкай мове нешта імкнуўся патлумачыць немцу, жандар супакоіўся, зняў руку з кабуры, паказаў рукою ў бок печы. Нам пасля перавялі: Halbe jude! — напалову яўрэй.

Успамінаю, што да бацькі часта прыходзіў падпольшчык з групы чыгуначных рабочых — Гомельскі. Ён вымушаны быў сысці ў лес з сям'ёй з маленькім дзіцем. Немцы вырашылі канчаткова распаравіцца з партызанамі, утварылі блакаду: той, хто застаўся жывы, сышоў у балота, і там людзі сядзелі па шыі ў вадзе, каб сабакі іх не знайшлі. Гомельскі прыйшоў да нас пасля вызвалення ў жудасным стане, бацька і маці імкнуліся яго неяк супакоіць.

У балоце, каб не выдаць сваё месцазнаходжанне, тапілі маленькіх дзяцей (крыкам і плачам яны маглі выдаць), і ў яго таксама ўтапілі маленькую дачку. Ён не мог дараваць жонцы, што яна аддала дзіця, але што можна



*Алена з мамай Кацярынай Вікенцьеўнай, 1945 год.*

было зрабіць? Калі вырашалася пытанне жыцця і смерці многіх людзей.

Успамінаю, як немцы спалілі дом з падпольшчыкамі ў Грыгор'еўскім завулку (каля таварнай станцыі на той час), можа, дзенебудзь сказана пра тых падпольшчыкаў? Там была дзяўчына. Можа, нехта яшчэ помніць пра іх?

На вуліцы Няміга, на Танкавай, іншых было яўрэйскае гета. Па гэтых вуліцах хадзіць было страшна, яны былі зусім пустыя, стаяла цішыня, часам толькі па маставой магла прагрымець сялянская падвода (з вёсак у горад у гэтым кірунку іншага шляху не было). На тратуар выйсці было немагчыма — стаялі козлы з накручаным калючым дротам.

У 1943—1944 гадах, калі бацьку арыштавалі, мы 8 месяцаў нічога пра яго не ведалі. Мама абабіла парогі ўсіх камендатур. Нам дапамагаў адвакат па прозвішчы Пражога, яму ўдалося перавесці бацьку ў турэмную бальніцу. Гэта быў 1944 год, немец ужо адступаў, і тата збег з бальніцы. А там ён сустрэў Вольгу Якаўлеўну Бічай.

## ВОЛЬГА ЯКАЎЛЕЎНА БІЧАЙ

Яна была дачкой святара, роднай сястрой жонкі мамінага брата Паўла, ёй было каля сарака гадоў (ці трошкі болей). Гэта была высакародная жанчына, сапраўдная патрыётка. Вольга Якаўлеўна таксама не магла назіраць за тым, як вораг сваімі ботамі топча нашу зямлю, здзекуецца з народа, ператвараючы яго ў парабкаў. Яна адразу зрабілася сувязной партызанскага атрада, а паколькі яны жылі побач з рынкам (Суражскім, на вуліцы Праводнай), то натоўп людзей у двары не выклікаў падазрэння, і партызанскія сувязныя перадавалі звесткі камандаванню. Гэта былі ўжо праверaныя людзі, якія даўно адно аднаго ведаюць, і таму не выклікалі сумненняў.

Раптоўна там з'явіўся новы падпольшчык (як аказалася, падасланы фашыстамі здраднік).

Вольга Якаўлеўна адразу яму паверыла: «Ён так ненавідзіць немцаў, хоча актыўна дапамагаць партызанам». Яе папярэдзілі: трэба быць асцярожнай. Але яна паверыла здрадніку. Яе арыштавалі разам з мужам і сынамі. Яны былі высланы ў Германію, у лагеры, а яе, як главу ячэйкі, чакалі катаванні.

Далей са слоў бацькі: «Мяне нехта гукае: "Мікалай Мікалаевіч!" Я паварочваюся і не магу зразумець, што за істота перада мною — ці чалавек гэта? Нехта стаіць на каленях ды локцях і кажа: "Гэта я, Вольга Якаўлеўна". Спіна яе была ўся чорная, ад яе адвальваліся кускі мяса — па спіне білі шампурамі. "Зірніце, што з маімі нагамі", — кажа яна».

Бацьку агарнуў жах, яму напачатку здалося, што ён бачыць клавішы раяля! Белыя сухажыллі і чорная згарэлая тканка. «Мае ногі абмотвалі паперай, аблівалі бензінам і падпальвалі». Больш бацька яе не бачыў. Такіх, як яна, вывозілі і палілі ў Трасцянцы. Бацьку ўдалося збегчы з бальніцы, ноччу ён прабраўся дадому і да прыходу нашых войскаў хаваўся ў склепе.

Мама выратавала бацьку, выратавала мяне ад голаду, а сама паклала сваё жыццё пад нашы жыцці, памерла ў 1946-м ад раку страўніка.

## АДСТУПЛЕННЕ НЕМЦАЎ

Адступаючы, немцы палілі горад, з сабакамі выцягвалі людзей са склепаў, забівалі. Мы ўжо і не спадзяваліся выжыць, побач гарэлі дамы, гарэў дах нашай хаты, але, на наша шчасце, з'явіліся дэсантнікі, яны дапамаглі нам патушыць агонь, і ў другі раз мы не згарэлі.

Ноччу, калі адступалі немцы, было страшна. Выбухі, стрэлы, трасіруючыя кулі, а тата ў гэты час стаў прабірацца ў бальніцу разам з фельчарам. У хірургічным аддзяленні яны сабралі ўсе інструменты ў пасцілкі і закапалі ў двары бальніцы, а калі прыйшлі нашы, то можна было разгортваць хірургічны блок.

Але замест падзякі на бацьку, як і на ўсіх нас, хто быў у акупацыі, павесілі ярлык «трафейныя». Бацьку заявілі: калі б вас, маўляў, забілі, то мы б ведалі, што вы чалавек чэсны, а так — вы, магчыма, здраднік.

У анкеце таго часу абавязкова прысутнічала графа «ці быў на акупіраванай тэрыторыі». Такіх людзей не хацелі прымаць у партыю (людзі другога гатунку), іх не назначалі на кіруючыя пасады, абмяжоўвалі ім доступ да сацыяльных выгод.

## АДРОЗНЕННЕ ЭСЭСАЎЦАЎ АД ЖАНДАРАЎ

Немцы выкідалі кнігі з бібліятэк, бацька іх ратаваў і мы зачытваліся імі з капцілкай (у кожнага была свая, амаль у кожнай кнізе меліся прапаленыя ёю дзірачкі). Былі яшчэ саматробныя «карбідныя лямпы», але ад іх ішло занадта яркае святло, яно «рэзала» вочы.

Вельмі баяліся эсэсаўцаў і жандараў. Эсэсаўцы хадзілі ў чорнай форме, групамі, і ішлі так, што людзі, як хваля, разыходзіліся перад імі.

Жандары насілі шэра-блакітныя шынялі, на якіх ад пляча да пляча цягнуўся нейкі ланцуг з бляхай пасярэдзіне, і фуражкі з высокім верхам. Усе гэтыя былі людзі адборныя, высокія, яны адразу вылучаліся на вуліцы.

Калі з'яўляліся эсэсаўцы, то ўся вуліца замірала, бо не ведалі, у якую хату яны зойдуць і каго забяруць на смерць.

Жандары рабілі іначай: некалькі вуліц ачэпліваліся войскам — і жандары з салдатамі заходзілі ў хаты, абшуквалі і забіралі ўсё, што ім падабалася.



*Алена Мікалаеўна з бацькам і малодшым сынам Пятром, 1961 год.*

## ШКОЛА Ў ЧАС ВАЙНЫ

У школу ў Малочным завулку (раён вуліцы Маскоўскай, цяпер яго няма) я пайшла ў 5-ы клас. Там нашы настаўнікі адразу пачалі размаўляць з намі на беларускай мове, і напачатку гэта было для нас вельмі цяжка. Адразу настаўнік паказаў на партрэт Гітлера і сказаў: «Гэта наш вызваліцель». Потым я зразумела, што ён не мог інакш. Вакол панавала атмасфера жаху: паўсюдна віселі лістоўкі з інфармацыяй, колькі заложнікаў расстраляна.

Аблавы былі досыць частымі. Ставілі засады на вуліцах і немагчыма было скрыцца. Тых, у каго не было дакументаў, забіралі, і яны знікалі (гаварылі, што іх накіроўваюць на працы ў Германію). У нас, школьнікаў, быў пропуск (аўсвайс). Па чутках, дзяўчынак 14 гадоў забіралі ў бардэль. Што гэта такое, я, канешне, не разумела, але бачыла жах у вачах бацькоў.

У школе ў нас былі вельмі добрыя настаўнікі. Ды і мы імкнуліся вучыцца.

Адвучыліся мы ў 5-м класе і школу закрылі. Немцам непатрэбны былі адукаваныя беларусы. Мы былі рабамі, да жандараў і эсэсаўцаў звярталіся: «Пан».

Быў сфарміраваны Беларускі ўрад — Рада, і была створана адна школа, якую назвалі прагімназіяй. Навучанне там было сямігадовым. Я пайшла ў гэту школу. Вучыліся на Нямізе, у разбураным будынку: першы паверх быў цалкам разбураны, на другім захавалася некалькі пакояў, мы ў іх і вучыліся, пакуль яны не абваліліся (на шчасце, ноччу). Хлопчыкі і дзяўчынкі вучылася паасобку: два класы хлопчыкаў, два класы дзяўчынак. Вучылі нас цудоўна. Была ўведзена лаціна, яе выкладаў нам настаўнік, які яшчэ бацьку вучыў у гімназіі. І тады мы зразумелі, якім павінна быць зубрэнне. Але веданне лаціны (нават пачатковае) вельмі дапамагло нам у вывучэнні замежных моў.

Настаўнікі нашы амаль што ўсе мелі ўніверсітэцкую адукацыю, а іх настаўнікі — яшчэ царская прафесура, так што можна зразумець, на якім высокім узроўні мы атрымлівалі веды.

Настаўнікі расказвалі нам пра нашых паэтаў (Паўлюка Труса і іншых рэпрэсаваных у 1937-м).

Хачу сказаць, што калі мы пасля вызвалення пайшлі ў школу (чыгуначную), то нашы веды былі больш грунтоўныя за веды дзяцей, якія прыехалі з Расіі.

Успамінаючы прагімназію, хачу распавесці пра нашага дырэктара, Акановіча. Мы строілі яму ўсялякія штукарствы: калі немцы з'яўляліся ў школе, мы крычалі і грукалі ў сцены.

Настаўнікі расказвалі нам, колькі намаганняў, паслужлівасці перад немцамі прыкладаў гэты чалавек, каб нашу школу не закрылі і каб хаця б частка беларускіх дзяцей магла атрымаць хоць нейкую адукацыю.

А мы здзекаваліся: «Няма мазгоў». Цяпер сорамна ўспомніць.

Мама не давала нам забыць рускую мову: мы перапісвалі «Анну Каренину», вучылі на памяць Пушкіна, Лермантава.

Немцы арганізавалі СБМ (Саюз беларускай моладзі), куда заваблівалі тым, што давалі адзенне. Той, хто не хадзіў распранутым, не можа зразумець, што значаць касцюм, сукенка, бялізна, панчохі, абутак. Заваблівалі таксама спартыўнымі спаборніцтвамі. Мы ў прагімназіі не ўступалі ў СБМ, хоць увесну 1944 года і прымушалі пісаць заявы. Ды сітуацыя на фронце ўжо змянілася, мы чакалі.

## КУБЭ

Яшчэ я ўспамінаю, як ва ўласным ложку падарвалі гаўляйтэра Беларусі Кубэ. Як і хто гэта зрабіў — усім добра вядома.

Алена Мазанік жыла на вуліцы Беламорскай, у сельгаспасёлку (цяперашні раён вуліцы Някрасава). Вуліца была ачэплена, усе жыхары забіты, на сценах віселі лістоўкі: забіта столькі-та заложнікаў. Па вуліцах было страшна хадзіць, у кожнага правяралі дакументы.

Хачу дадаць, што дзеці ведалі, што майго бацьку арыштавалі. Прыходжу я ў клас, а дзяўчынкі мне кажуць: «Як ты можаш быць спакойнай, твой тата атруціўся ў турме». Як я бегла дадому (гэта з Нямігі на Фабрыцыуса)! Рыданні і слёзы засцілі мне вочы. Аказалася, што ў турме атруціўся іншы ўрач (яго прозвішча было, здаецца, Гурыновіч, у яго ў дупле зуба знаходзіўся цыянід). Мама мяне супакоіла: «У таты атруты няма».

Мы пра бацьку нічога не ведалі. Усё, што можна было, мама аддавала немцам, і мы галадалі. Елі 1-2 разы на дзень, зацірку (мука, запараная ў рэдзенькую кашку, запраўленую часнаком). Я нагадвала шкілет. Але гэта было ў 1944-м. Немцы адступалі, і тата збег з бальніцы.

Калі ўспамінаю тую пару, мяне кожны раз здзіўляе адна акалічнасць: час быў нейкі расцягнуты. А 9-й трэба было быць у школе, а 14-й дома, потым хатнія заданні, хадзілі адно да аднаго ў госці, гулялі, каталіся на маім веласіпедзе, сабраным з некалькіх напалову згарэлых. Вечарамі пры капцільні чыталі.

## ЖЫЦЦЁ Ў ПАСЁЛКУ УЗДА

Зіму 1941—1942-га я хварэла сыпным тыфам. У мяне быў найцяжэйшы стан, я была без прытомнасці, трызніла і нават цяпер памятаю трызненне: я сярод поля, цвітуць яркія макі і мне вельмі добра. «Не чапайце мяне». Але, відаць, мне рабілі камфару (іншага нічога не было) і я зноў адчувала пакуты. Пасля тыфу ў мяне пачалі выпадаць валасы, але стрыгчы іх я не дазваляла. З’явілася неўтаймоўнае адчуванне голаду, суседзі дапамагалі маме мяне пракарміць. Я добра памятаю, што пачуццё насычанасці не прыходзіла. Потым развілася рэзкая агульная слабасць: я з цяжкасцю перасоўвала ногі, а пра тое, каб падняцца на прыступку, і думкі не было. Такі стан быў у мяне ўсю вясну і лета 1942 года.

Школу закрылі і мяне адправілі да цёткі Сані і яе дачкі Рыты ва Узду (Рыта там выйшла замуж). Жылі яны сытна. Сваячка іх Агаша (Галя) мела мужам настаўніка, ён быў дырэктарам школы, і я пайшла вучыцца ў 6 клас. Летам 1944 года я вярнулася дадому, мяне абстрыглі і зноў пачалі расці кучаравыя валасы. Я жудасна саромелася і ўвесь час насіла панамку, яе тады называлі «маленькая мама» (была такая карціна «Петер», дзе іграла Францэска Галь, вельмі добрая аўстрыйская актрыса).

Калі я пакінула Узду, то муж Агашы, Якаў, пайшоў у партызаны разам з ёю і дзецьмі. Там ён і загінуў. Хадзілі чуткі, што яго забілі свае, бо на Агашу «кінуў вока»

камандзір атрада. Пасля вайны Агаша працавала медсястрой у чыгуначнай бальніцы, выгадавала цудоўных сыноў.

* * *

Заняткі ў чыгуначнай школе пачаліся ў верасні 1944 года. Туды паступілі амаль усе дзяўчынкі, якія вучыліся ў прагімназіі. Аля Каранеўская пайшла адразу ў 9-ы, а я і Ада — у 8-ы клас. Тут я пасябравала яшчэ з адной — Тамарай Шаўлюкевіч, якая разам з намі паступала ў медінстытут.

З настаўнікаў мы запомнілі на ўсё жыццё выкладчыцу рускай мовы і літаратуры Лачыцкую Фаціну Канстанцінаўну. Менавіта дзякуючы ёй і маме я ведаю Пушкіна, Лермантава, Маякоўскага, усю класіку. Акрамя таго, што яна была цудоўным выкладчыкам, яна была вельмі артыстычнай. Умела чытаць Маякоўскага (што вялікая рэдкасць) і паказала нам яго талент.

Яшчэ з намі трохі ў класе займалася Зоя Асмалоўская, якая вылучалася талентам артысткі (потым іграла ў рускім тэатры, была жонкай акцёра Сідарава). Мы ўсе памятаем, як Зоя чытала нам урывак з «Анны Карениной» — пра сустрэчу Анны з сынам, і ў кожнага на вачах блішчалі слёзы.

## ВАКАЦЫІ Ў МАСКВЕ

Тата працягваў працаваць у чыгуначнай бальніцы, а тады ўрачы мелі права раз на год атрымліваць бясплатны білет, і я ўсе вакацыі праводзіла ў Маскве, у цёткі Каці. Муж цёткі Каці, Аляксандр Мікалаевіч Паўлаў, займаў высокую пасаду і купляў нам (з сынам Колем) білеты ў лепшыя тэатры Масквы (МХАТ, Массавета, Чырвонай арміі). Уражанні ад спектакляў і выдатных акцёраў захаваліся ў мяне на ўсё жыццё.

3 ліпеня 1944 года вызвалілі Мінск.

## ПРЫЕЗД ДЗЯДЗЬКІ САШЫ З МАСКВЫ, ПАЎТОРНЫ НАЛЁТ НЕМЦАЎ

20 ліпеня раптам з Масквы прыехаў дзядзька Саша (Аляксандр Мікалаевіч Паўлаў) нас шукаць. Выпадкова на нашай (старой, згарэлай) вуліцы сустрэў татаву сястру — цётку Саню, але пазнаў яе толькі па акулярах (яны мелі адметную тонкую залатую аправу), бо яна з квітнеючай жанчыны ператварылася ў старую. Мама ўгаварыла Аляксандра Мікалаевіча застацца ў нас начаваць. Ноччу пачаўся нямецкі налёт, бомбы падалі з жудасным гукам і думалася: вось гэтая — твая.

Мы ўсе сядзелі ў дзвярным праёме, накрыўшы галовы падушкамі, і мама пачала маліцца. «Госпадзі, ну няхай мы загінем, і без таго выпадкова засталіся жыць, але не дай загінуць гэтаму чалавеку. Ён жа не чуў свісту куль, разрыву снарадаў, захіні яго, абарані яго!» І ўявіце сабе, бомбы падалі ў двор, побач з ганкам, — і ніводная ў дом не трапіла!

## 1945 ГОД. ПЕРАМОГА

Кідаліся насустрач салдатам, абдымалі іх і цалавалі, частавалі чым Бог паслаў, пелі і танцавалі.

А ноччу раптам у дом пачалі ламіцца ці то бандыты, ці то п’яныя «партызаны». Ламіліся ў дзверы, крычалі: «Акружай, падпальвай». У двары за домам у плоце была дзірка, яны яе не бачылі, суседзі выскачылі і дварамі пабеглі ў аддзяленне міліцыі, якое знаходзілася непадалёк. Бандытаў злавілі, судзілі і адпусцілі.

Трохі пазней Іван Анісімавіч Інсараў уладкаваў мяне памочніцай піянерважатай у лагер у Каралішчавічах. Месца было цудоўнае, побач рака, брод, а на другім беразе — чароўны сасновы бор. Там са мной адбыўся дзіўны выпадак.

У пошуку ягад я спусцілася, як мне падалося, у лагчыну, і раптам мяне ахапіў неперадавальны жах. Я ўзняла галаву і адчула страшэнную цішыню: не спявалі птушкі, не стракаталі конікі, не лядалі матылі. Не памятаю, як я выскачыла з ямы і паімчала прэч. Праз нейкі час я зноў пачула спевы птушак, стракатанне конікаў — і жах знік.

Яўчэ адзін раз стан такога непераадольнага жаху я перажыла ў лесе каля плешчаніцкага возера.

Праз шмат гадоў я прачытала ў часопісе «Вокруг света» апісанне такога самага жаху,

перажытага таксама ў лесе. Аўтар артыкула зрабіў дапушчэнне, што ў гэтым месцы адбылося страшнае злачынства, і «дрэвы запомнілі пакуты». Я адразу ж паверыла аўтару, бо «яма», у якой я апынулася, была варонкай ад снарада, і там, напэўна, загінулі людзі ў страшэнных пакутах.

## ХВАРОБА І СМЕРЦЬ МАМЫ

У 1945 годзе пачала хварэць мама. Спачатку не маглі паставіць дыягназ, а потым праявіўся рак страўніка. Маму дагледаў бацька, я дапамагала яму, але мама памірала ў пакутах.

1 чэрвеня 1946 года мама памерла. Пахавалі яе на вайсковых могілках, у магіле з дзедам, Спірыдонавым Мікалаем Паўлавічам, а потым туды ж захаранілі ўрну з прахам бабулі, Антаніны Цімафееўны. Магіла знаходзіцца амаль побач з уваходам у царкву, трохі правей углыб, у некалькіх кроках.

## ПАЧАТАК ЗАЛЯЦАННЯЎ ХЛОПЦАЎ

Я закончыла 9-ы клас. У 10-м да мяне пачалі заляцацца хлопчыкі, прыходзілі дадому, чыталі вершы, гулялі ў бурымэ (па гатовых рыфмах скласці верш), ставілі п'есу пра школьнікаў «Старыя сябры».

Гаспадыня прыватнага дома, у якім мы жылі, вельмі перажывала, што Кацярына Вікенцьеўна памерла і не ўбачыла, «як да Лены хлопцы пайшлі». Асабліва актыўнымі былі Лёня Лосеў і Максім Замалін.

Лёня быў прыгожы, высокі, але маўклівы. І гэта вельмі палохала маіх родных, бо яны ведалі яго бацьку (урача-акуліста), якога вылучаў страшны характар — ён «узнімаў руку на маці» (са слоў таты). Але са мною Лёня быў гаваркі, у нас аказалася шмат агульных інтарэсаў, мы шмат чыталі, і паступова сімпатыя, а потым і закаханасць разгарэліся не на жарт. Тата літаральна вар'яцеў. «Лена, ты яго не ўтрымаеш, ён цябе кіне і ты застанешся адна з дзіцем». Ніна Георгіеўна Інсарава пераконвала: «Прыгожы муж — чужы муж. Ты ўтыкнешся ў кнігу і сыйдзеш з рэальнага свету, і тады ў цябе звядуць твайго мужа, а ты і не заўважыш». Вось такая перспектыва мяне спужала.

Гэтаксама дзейнічалі і ў дачыненні да яго. Ён скончыў школу з залатым медалём. «Вы таленавіты малады чалавек, вам тут няма дзе разгарнуцца» — і ўгаварылі яго ехаць у Маскву. Паштовы раман працягваўся два гады, а потым сышоў на нуль (святое месца пустым не бывае), з'явіліся новыя закаханасці.

Але праз шмат гадоў я ўспаміналa гэты час з сумам і шкадавала, што так няўважліва паставілася да прызнанняў у каханні і той пяшчоты, з якой Лёня звяртаўся да мяне. Пасля яго ад'езду да мяне пачалі заляцацца яўрэйскія хлопцы, а тата пералічваў іх, загінаючы пальцы: «Вілік, Ілік, Ромік, Эмік і Максік». Нешта было ўва мне, у фігуры, што прываблівала яўрэйскіх хлопцаў.

Нават іх мамы прыходзілі да таты і прасілі, каб ён угаварыў мяне сустракацца з іх сынамі. Я выпадкова чула размову, знаходзячыся ў суседнім пакоі. Тата казаў: «Лена звычайная дзяўчынка», на што яму мама Эміка адказвала: «Лена поўная, здаровая, прыгожая». Думаю, што тут адыгрывала ролю тая акалічнасць, што ў мяне не было маці, я сама гатавала ежу для сям'і, прыбірала ў доме.

З усіх кавалераў вылучаўся Максім Замалін. Ён закахаўся ў мяне ў 10-м класе, усе гэта заўважылі і гаварылі, што на свеце ёсць сапраўднае каханне. Ён вельмі любіў паэзію, чытаў мне свайго любімага Лермантава, і тата, бачачы яго, казаў: «Ленчын шпак ідзе». Паступова мы ўжо не маглі адно без аднаго. Дзень, калі яго не было ў школе, я лічыла пустым, бегала да Інсаравых на тэлефон і мы з ім размаўлялі гадзінамі. Так доўжылася 5 гадоў, я думала, што мы пабяромся шлюбам (ён вучыўся ў юрыдычным інстытуце, а там вучыцца трэба было 4 гады), як ён раптам прыйшоў і заявіў, што сыходзіць, што не можа сапсаваць мне жыццё, бо вельмі мяне любіць, і што ён не той, хто мне патрэбен для шчасця. Гэта быў 1951 год, і тады, з яго слоў, Сталін хацеў высяляць яўрэяў у Сібір. Нічога такога не адбылося, але больш я Максіма не бачыла, ён ніколі не зайшоў і нават не развітаўся, калі, скончыўшы інстытут, паехаў па размеркаванні.

І тут мяне агарнуў адчай пакінутай жанчыны. У мяне не хапала слоў, каб апісаць той стан: здрада, падман, здзек! Я зразумела, што такое raptus melancholicus, зразумела тых, хто рэжа сабе вены і лезе ў пятлю. Тады я зразумела, як баліць сэрца.

І я падумала: навошта так пакутую, ён жа мне ніхто. Не муж, не каханак, проста кавалер. Ну, цалаваліся з ім апантана — і ўсё. Дык чаму я так пакутую? Як тады павінна пакутаваць жанчына, якая пражыла з мужам жыццё, аддаючы яму клопат, любоў, цеплыню душы — і засталася пакінутай. І я навучылася разумець чужое гора, спачуваць.

## ІНСТЫТУТ

Я выдатна вучылася, усё мне давалася лёгка, але матэматыку не любіла. У школе на выпускным іспыце не змагла рашыць задачку па фізіцы, потым яшчэ нейкую «чацвёрку» паставілі — таму не атрымала нават сярэбранага медаля.

Дома вырашалі, куды мне паступаць. Калі б мама была жывая, то я б пайшла ва ўніверсітэт. Мама ўгаворвала мяне на гэта, звяртаючы ўвагу на маю любоў да чытання кніг, тэатра (я прачытала ўсю сістэму Станіслаўскага). Але мамы не стала. На сямейным савеце вырашылі, што ўніверсітэт, праца ў мастацве мяне не пракормяць (мамы няма, а бацька можа ажаніцца). І як застануся адна, без дапамогі? Пастанавілі, што трэба ісці ў медінстытут, тым больш, што ў сям'і ўсе медыкі.

Здала экзамены цудоўна, гэта быў 1947 год, экзамены прымаліся вельмі сур'ёзна, і мне здавалася, што з «тройкамі» ніхто не пройдзе.

Але якім было маё здзіўленне, калі ў групе я ўбачыла студэнтак, якія зусім не ведаюць хіміі, фізікі. Мне патлумачылі дасведчаныя людзі, што гэтыя дзяўчыты — з Заходняй Беларусі, дзе люд пераважна зажытачны, які не ведаў нямецкай аблавы, партызанскіх баёў і спаленых вёсак, і ім было чым заплаціць выкладчыкам за добрыя адзнакі пры паступленні. Можа так, а можа і не так.

Чамусьці мы, студэнты, вучыліся паасобку — групы дзяўчат і групы хлопцаў. Сустракаліся толькі на агульных лекцыях і ў калідорах. Мне здавалася гэта няправільным, бо вялікага сяброўства паміж студэнтамі не назіралася — так, шапачнае знаёмства, і гэта адбілася пасля на сустрэчах. Сардэчнасці пры знаёмстве (а даводзілася ж працаваць у розных бальніцах) не было.

Мая сяброўка Ада Будай скончыла школу з сярэбраным медалём, яна апынулася на другім патоку, у іншай групе, з французскай мовай. Таму нам выпадала менш сустракацца, але сардэчныя і сяброўскія стасункі паміж намі засталіся: мы адкрываліся адна перад адной.

Другая мая сяброўка, Аля Каранеўская (Арыядна Антонаўна) скончыла школу з залатым медалём (на год раней за мяне) і паступіла ў першы Ленінградскі медыцынскі інстытут.

Знашла свой дзённік, які вяла на першым курсе. Усе запісы — пра Ілью, у якога закахалася па-вар'яцку, да спынення сэрца. Мне здавалася, што калі ён возьме мяне за руку ці пацалуе, то я памру ад спынення сэрца. Аказалася, што мая сяброўка Жэня Сінрод таксама да вар'яцтва закахалася ў яго. Тата з нас смяяўся: «Ах, геній чалавецтва, ах, памочнік Сталіна, і ўпадуць адно аднаму ў абдымкі». Аказалася, што Ілья Новікаў закахаўся ў Тамару Шаўлюкевіч, трэцюю сяброўку, але і да мяне адчуваў сімпатыю.

Я закахалася (пакахала) па-сапраўднаму, даведалася, што такое фетыш на ўласным досведзе, пачала пісаць пра Ілью вершы (на жаль, зніклі), дурнаватыя, але яны сведчылі пра глыбіню пачуцця. Наконт фетышу: я неяк забыла дома медыцынскі халат і папрасіла Ілью пазычыць мне свой на «анатомку». Тое, што я адчула, накінуўшы яго халат на сябе, — невытлумачальнае. Мне здавалася, што я ў нірване, увесь свет зрабіўся вясёлым і радасным, душа мая спявала. Гэта неперадавальнае адчуванне я доўга захоўвала ў сваёй душы, і хоць цяпер (у 80 гадоў) адчування няма, але памяць засталася, як сказаў паэт: «Не говори с тоскою нет, но с благодарностию — было».

Жэня, як сяброўка, зрабіла ўсё, каб ён у мяне не закахаўся. Вось яе словы: калі не мне, то і не табе.

Увесь мой дзённік прысвечаны Ільі. І пра тое, як я пакутавала, што несімпатычная (пра прыгажосць я ўжо і не казала).

Адзін верш захаваўся, перапішу яго, хоць сама ў дзённіку лічыла яго дурнаватым, жартаўлівым (15.3.48)

**Посвящается философу?**
*Ода*

Пою я медика младого
К которому летят мечты мои,
Его во сне я вижу среди темной ночи,
И в светлые безоблачные дни
Его глаза как факел предо мною,
Его лицо сияет красотою,
Как строен он и как хорош собою,
Как он умен, о ангел мой!
Я чувствую в душе одно горенье,
Я чувствую, что страсти не сдержу,
Какое страшное и дивное мученье
Преследует всегда мечту мою,
Когда его я вижу не со мною,
В душе моей вскипает бурей злость,
И хочется с разлучницею злою
Мне поскорее счеты свесть!
Увы, он на меня не глянет,
Не скажет ласково: люблю тебя!
Зачем же жить? Пускай любовь
Завянет, как вянет василек,
Головку наклоня.
Неужели пропали все надежды?
Коль так, то пусть навек сомкнутся вежды,
И жизнью я не дорожу младою,
И если ты, о радость, не со мною,
Пусть угасает жизнь моя,
С вновь наступающей весною!

Вось да якога абсурду можна дайсці. Якая я была дурненькая і маладзенькая. Але пра глыбіню пачуцця гэты верш сведчыць! Як я мела патрэбу ў цёплым, сяброўскім удзеле, мацярынскай любові. І гэтыя радкі я напісала, відаць, тады ж.

## УСПАМІН ПРА МАЦІ

Як я цяпер успамінаю маму! Якім яна была цудоўным чалавекам, як я гэтага не разумела! Гляджу я вакол і бачу, што ніводзін чалавек не можа з ёю параўнацца ні па глыбіні разумення рэчаў, кніг, музычных твораў. Якая ў яе была душа! Як тонка яна адчувала перажыванні, як з ёю можна было пагаварыць пра ўсё, рашуча пра ўсё, як яна ўмела суцяшаць, супакойваць, як яна ішла насустрач кожнаму, хто ў нечым меў патрэбу, якім яна была сябрам — чуллівым, пяшчотным.

Мама, мілая, дарагая, ці даруеш ты мне ўсё тое, што я прынесла табе сваімі капрызамі? Калі б ведала ты, галубка, як мне цябе не хапае.

Пазней я зразумела значэнне маці для дзяўчыны, асабліва ў перыяд з'яўлення палавой цягі. Хто яшчэ раскажа, як трэба ацэньваць выказаныя пачуцці закаханых у цябе, навучыць берагчы чысціню і шчырасць пачуццяў, а не грэбаваць імі. Мне здаецца, што калі б мама была жывая, маё жыццё цякло б іншым руслам, я перанесла б менш крыўды і знявагі.

## ЗНОЎ ПРА ІНСТЫТУТ

Вялікіх уражанняў ад інстытута ў мяне не засталося. Відаць таму, што каханне да Ільі Новікава заслала мне ўвесь белы свет. Калі я ўспамінаю той час, то мне бачыцца суцэльная вясна. Я памятаю майскі ранак, калі лёгкая прахалода абяцае цёплы дзень, а я бягу ў інстытут з адной думкай: там я ўбачу яго! Лекцыі я ўважліва не слухала, бо спадзявалася на сваю памяць, з якой вывучыць за 8—9 дзён тое, што давалася на экзамен, нічога не каштавала. Прачытаўшы кнігу ў 600—700 старонак «уздоўж, упоперак і па дыяганалі», двойчы пераказаўшы, я атрымлівала «пяцёркі», бо проста пераварочвала старонкі ў галаве.

Займацца асабліва не было калі: мне трэба было гатаваць абед, каб а 15-й, да вяртання з працы таты, была ежа. Я гатавала нядрэнна, пастаянна распытвала ў нашай гаспадыні, як і што пакласці ў суп. Вельмі добра мне ўдаваліся катлеты, і мая сяброўка Жэня заўсёды старалася прыйсці ў той дзень, калі я іх смажыла. Тата даваў мне грошы для паходу на рынак, я кожны раз схітралася сэканоміць 1—2 рублі, і мы з Жэняй бегалі ў кіно. Цяпер думаю, чаму б патроху не збіраць — стыпендыя ж была ад 26 да 29 рублёў (на 6-м курсе павышаная).

За ўсе 6 гадоў вучобы у мяне была толькі адна «чацвёрка» — па фізіцы. Не змагла рашыць задачу. Хоць усе формулы ведала на памяць, але прымяніць іх да задачы — не здолела. У групе дзяўчаты займаліся інтры-

гамі, кахаліся, а я была далёкай ад гэтага (адзін Ільля быў у душы). Цяпер разумею, колькі было ўсяго прапушчана, міма якіх цудоўных хлопцаў я прайшла. На 6-м курсе, калі была ўжо замужам, мне пачалі прызнавацца ў каханні і сімпатыях.

Лекцыі я наведвала мала, толькі да маразоў. Потым трэба было паліць печку, і я збягала з лекцый дадому, дамовіўшыся са старастам. Распальвала печ і гатавала ежу. Печ выпальвалася, прыкрывала юшку, рассоўвала вугалле ў бакі і ставіла каструлю з супам, бульбу. Усё гэта я рабіла за дзве гадзіны, і бягом паспявала да заканчэння лекцый. Жылі мы на вуліцы Фабрыцыуса, па вуліцы Маскоўскай да інстытута на вуліцы Ленінградскай хадзіў трамвай, таму я паспявала. Часам я ў вочы не бачыла прафесара, а здаваць экзамены я любіла менавіта ім, бо не прыдзіраліся, бачачы, што ведаеш, але маглі задаваць пытанні на кемлівасць. Так было на нармальнай фізіялогіі, калі прафесар папытаў, на якую глыбіню (марскую) можа апусціцца чалавек без апаратуры. Я «прагортваю» падручнік у галаве — і з жахам заўважаю, што пра гэта напісана дробным шрыфтам, а я яго не «сфатаграфавала». Гляджу на асістэнтку — яна мне адмоўна ківае. Разумею, што калі адразу скажу, што не ведаю, прафесар паставіць мне «чатыры». Тады я пачынаю дурыць яму галаву, гавару пра батыскаф, вадалазны колакал, скафандр, і толькі потым кажу, што не ведаю. Тады прафесар пытае мяне на кемлівасць: чаму спірт называецца спіртам? Студэнтка, якая ўжо здала, выскоквае ў калідор і зларадна кажа: «Ленку заваляць, пяцёрку яна не атрымае». Я ж тым часам шукаю ў галаве аднакарэнныя словы, успамінаю пра спірытызм, выкліканне духаў памерлых, і кажу, што, відаць, ад значэння «дух». Ён пацвярджае: так, лятучы, і ставіць мне «пяць», што вельмі здзіўляе астатніх студэнтаў. Гэтаксама бывала і на іншых экзаменах: мяне выручала мая начытанасць.

Быў кур'ёзны выпадак на аператыўнай хірургіі. Я не прысутнічала ні на адной лекцыі (зіма, паліла печ) і нават у вочы не бачыла прафесара Бабука, а здаю я толькі прафесуры. Прашу ціхенька паказаць мне яго, але ўсё роўна хвалююся, бо прафесары запаміналі студэнтаў, якія прымільгаліся. Дзякуй Богу, абышлося: атрымала пяць.

Усе практычныя заняткі я наведвала старанна, таму прадметы ведала добра, і толькі пасля, ужо працуючы, зразумела, колькі страціла ў ведах, не праслухаўшы лекцый выдатных прафесараў. Вольны час я аддавала чытанню. У маладосці захапілася Джэкам Лонданам (поўны збор яго твораў выдаваў часопіс «Всемирный следопыт» (1920-я або пачатак 1930-х), кожны томік заканчваўся на паўслове, што, відаць, інтрыгавала чытача і пакупніка. Кнігі даваў мой знаёмы, ён іх здымаў з гарышча, куды была знесена бібліятэка рэпрэсаванага пісьменніка (здаецца, Далідовіча). Я настолькі захапілася Джэкам Лонданам, што ў сябе над ложкам павесіла яго партрэт (маладога, прыгожага) і ўвесь час на яго любавалася.

## ЗАЛЯЦАННІ

Прыходзілі да мяне хлопцы, але яны мне не падабаліся (я ж пісала да Лёні ў Маскву, а ў Мінску дняваў Максім). Калі прыходзілі іншыя і мне было нецікава, то я не магла адарвацца ад кнігі і на ўсе пытанні адказвала: «М…м…» Тата злаваў, абураўся: «Я не абавязаны забаўляць тваіх кавалераў, як табе не сорамна?»

Вечары ў мяне ўсе былі занятыя, бавіла час з Максімам Замяліным. Дома аказвалася а 12-й ночы, а яшчэ трэба было памыцца і, самае галоўнае, праверыць панчохі. Тады насілі фільдэперсавыя панчохі, яны рваліся неміласэрна, значыць, без цыравання спаць не ляжаш. Ды яшчэ пачытаць гадзіну-другую, так што раніцай — не падняцца. І тата будзіў мяне манатонным голасам: «Лена, уставай, Лена, уставай» — і так бясконца. Суседка казала: «Спірыдонаў служыць ютрань».

## ЭМОЦЫІ НАКОНТ КАРЦІН І КНІГ

Яшчэ я памятаю вялікае ўражанне ад карцін Трацякоўскай галерэі, тады я пісала: «Як дзіўна і чароўна і ў той самы час радасна за тое, што можа стварыць чалавек». Уразілі мяне творы «Боярыня Морозова» і «Убийство Иваном Грозным сына». Найбольш яскравыя

ўражанні запісаны мною адразу ў нататніку таго часу.

Праглядаючы запісы 1948 года (дурнаватыя, усё пра закаханасць), я звярнула ўвагу на тое, якія мы былі натхнёныя. На дыспуце па «Молодой гвардии» Фадзеева мы захапляліся яе героямі, лічылі, што грамадства «ўплывае на выхаванне ўвогуле», а калі ў мінулым кулак, то абавязкова здраднік.

## КНІГІ Ю. ФУЧЫКА

Яшчэ мяне ўразіла кніга пра партызанку, якая вяла дзённік. Я пісала: «Як дзіўна, што ў пачуццях і перажываннях Іны знаходзіла водгук сваіх пачуццяў і перажыванняў».

І якімі ж мы былі ўзнёслымі, чыстымі душамі!

Прачыталі кнігу Юліуша Фучыка «Репортаж с петлей на шее» і захапіліся яго сілай волі, жыццялюбствам, калі ледзь жывы пісаў свае слова перад пакараннем, уздымаў дух аднакамернікаў. Як мы зайздросцілі жонцы гэтага чалавека, Гусце Фучык, якая «валодала каханнем гэтага чалавека і была яго лепшым сябрам!»

Мы з Жэняй Сінрод вырашылі напісаць ёй ліст, расказаць у ім пра тое, «які блізкі нам гэты чалавек, з якой захапляльнай цікавасцю чыталі мы кнігу і як радасна нам было, што і за мяжой ёсць людзі, якія вераць у Савецкі Саюз і дапамагалі ўсімі сіламі савецкаму народу ў яго святой, вызваленчай вайне».

Ліст быў адпраўлены, і мы вельмі шкадавалі, што не пакінулі копіі. Такімі цёплымі, сардэчнымі словамі ён быў напісаны. Ліст забралі ў ЦК камсамола, і там ён знік.

Яшчэ да вайны мы з мамай захапіліся Пісемскім, Лясковым, прачыталі амаль усе тамы. З захапленнем чыталі «Севастопольскую страду» Сяргеева-Цэнскага, ён назаўсёды застаўся маім любімым пісьменнікам, хоць яго апавяданні пра Крым у перыяд Грамадзянскай вайны пакінулі ўва мне такое цяжкае пачуццё, я так пакутавала, што больш іх не адкрывала. Калі была на адпачынку ў Алушце, наведала музей Сяргеева-Цэнскага, але беднасць і нейкая забытасць балюча ранілі мне душу.

## ПРА СВОЙ ХАРАКТАР

Цяпер, пражыўшы доўгае жыццё, я разумею, што вытокі майго характару ляжаць у дзяцінстве, праведзеным сярод міласэрных, прастадушных людзей. Я ніколі не чула рэзкага слова ў доме, бачыла толькі ўзаемную павагу. Кожны дзень у дзяцінстве ўспрымаўся мною як ўсеабдымная радасць. Для мяне, здавалася, створаны свет, музыка, піяніна, маміны спевы і кнігі, кнігі — чароўны свет, у які я пагружалася ўсёй істотай. І жыла я ў той час у двух светах: свеце кніг і свеце рэальным, існым — сяброўкі, школа.

Была я цяжкім дзіцем. Капрызным, вельмі дрэнна ела і часта хварэла на ангіны. У гады вайны пры бамбёжцы я засынала, мама мяне з цяжкасцю цягнула ў бункер, а я маўчала, што страшна здзіўляла іншых — дзеці ў такія хвіліны плакалі і крычалі. Гэты феномен я зразумела толькі тады, калі праходзіла клінічную ардынатуру ў прафесара С. Н. Давідзенкава: гэта так званы «кулямётны сон», апісаны ў гады Першай сусветнай вайны, калі салдаты засыналі ў акопах. Гэта сведчыла пра слабасць нервовых працэсаў: па гэтай прычыне хутка наступае абарончае тармажэнне. Людзі з моцнай нервовай сістэмай вядуць сябе актыўна: ратуюцца.

І зноў я звяртаюся ў дзяцінства, мінулае праходзіць перада мною, хвалюючыся, як мора, акіян.

Я ўпітвала ў сябе любоў, дабрыню, міласэрнасць і веру ў людзей. Мне не прыходзілася хітрыць, нечага патрабаваць з крыкам, слязьмі, у доме нашым ніколі не панавала пачуццё зайздрасці, незадаволенасці іншымі людзьмі. У кожным руху, у кожным слове маіх бацькоў бачыліся дабрыня, жаданне дапамагчы іншаму, аддаць апошняе таму, хто мае ў тым патрэбу. Я памятаю, у гады акупацыі бацька прыходзіў з візітаў і казаў: «Якая галеча, дзіцяці няма чаго есці» — і мама дзяліла мой хлеб напалам: «Нясі, Коля!»

Таму лічу, што мой характар фарміраваўся пад эгідай дабрыні, радасці кожнага дня, павагі да іншых людзей (абавязкова ўсе добрыя, сумленныя), схільных да самаахвярнасці, альтруізму.

Усе гэтыя якасці праявіліся ў маёй душы, характары, але самая галоўная мая рыса — «простасць», бо ў кожным жа не падазраеш

махлярства і падману. Таму мне здаецца, што пра мяне можна сказаць пагаворкай: «Простасць горш за зладзейства». Я не ведала падазронасці, рэўнасці, не заўважала ў людзях хітрасці, жадання падмануць, пасмяяцца з мяне. Я рэўнасна служыла сям'і, мужу, танцавала вакол яго, усю душу паклала на выхаванне дзяцей.

Я, ва ўсім шчырая, спалучала сур'ёзнасць з аптымізмам, любіла і разумела гумар, іронію, карысталася імі ў сям'і, папярэджваючы сваркі. Я безагаворачна верыла мужу, лічыла яго лепшым мужам.

Гэтымі маімі якасцямі ён неабмежавана карыстаўся.

Так, у дачыненні да мяне простасць горш за зладзейства. Ува мне моцнай была любоў да дзяцей, я ні хвілінкі не магла правесці без думкі пра іх, без клопату аб іх (галоўнае — даць культуру, шырыню погляду, любоў да роднай зямлі, веды).

«Драмкружок, кружок по фото, а еще мне петь охота» (А. Барто). Вось мая «одна, но пламенная страсть», вось на што я паклала сваё жыццё. Думаю, недарэмна.

Імкнучыся яшчэ раз усвядоміць сваю бескарыслівасць, даверлівасць, веру ў чэснасць людзей, я зноў вяртаюся да чалавека, які пакінуў мір у маёй душы на ўсё жыццё.

Гэта быў Іван Анісімавіч Інсараў, таленавіты, адукаваны.

Ён быў адным з самых адукаваных людзей, якіх я сустракала ў жыцці. Шырыня яго ведаў, розум, аптымістычная добразычлівасць спалучаліся ў гармоніі з навуковай і арганізацыйнай працай у галіне медыцыны.

Пушкін, Блок, Ясенін, музыка — усё ўваходзіла ў яго духоўны свет, дапамагала яму тварыць дабро.

Быў ён сярэдняга росту, каранасты, з незвычайна жывымі вачыма, абаяльнай усмешкай. Быў ён строгі да ўсяго, што рабіў, але выклікаў прыхільнасць да сябе незвычайна. Ён памёр 1983 годзе.

Мінулае, звязанае з ім, здаецца мне ўсё болей прыцягальным. Я бязмежна шчаслівая, што побач са мною ў жыцці быў Іван Анісімавіч Інсараў.

Яго жонка, мая стрыечная сястра Ніна Георгіеўна Катлоўская, ставілася да мяне з прахалодай і, відаць, таму я не дзялілася з ёю сваімі душэўнымі непаладкамі, а цяпер шкадую пра гэта, бо яе разумныя практычныя парады дапамаглі б вырашыць мае праблемы.

## ЖЫЦЦЯПІС МУЖА

Аляксандр Федаравіч Буднікаў нарадзіўся ў 1924 годзе, 23 мая, у сям'і сялян. У пачатку XX стагоддзя іх сям'я была пераселена ў Сібір па рэформе Сталыпіна на адрубы. Па словах маці — зямлі бяры столькі, колькі вока бачыць, падаткі не плацілі тры гады. Вялікая дружная сям'я адразу зажыла заможна. Пабудавалі дом з лістоўніцы, займаліся хлебаробствам, а зімою бацька мужа разам з братамі збіваў лямец. Гэта была вельмі цяжкая праца: мокры гарачы лямец расцілаўся на стале і з абодвух бакоў стальной струной яго збівалі, працуючы ў спякоце, распранутымі.

У 1929 годзе бацьку раскулачылі, саслалі ў лагер. Маці пакінула шасцёра дзяцей на сваю маці і паехала за ім. Там яна выратавала яго: збірала ў тайзе мядзведжую цыбулю, прадавала на кірмашы і купляла яму хлеб.

У 1930 годзе аказалася, што ў краіне няма каму сеяць хлеб, п'яніцы і гультаі, што засталіся, толькі пілі і лайдачылі. Так з'явілася праца Сталіна «Галавакружэнне ад поспехаў», і частку «кулакоў» вярнулі. Вярнулі і бацьку Аляксандра Фёдаравіча. Але нічога з забранага не аддалі, і ён з сям'ёй, прыхапіўшы толькі бервяно ад хлява, пасяліўся у гарадку Ленінск-Кузнецкі, дзе распрацоўвалі вугальныя шахты. У 1937 годзе бацьку і дзеда рэпрэсавалі і расстралялі за трое сутак. Як даведаліся пасля рэабілітацыі, аказалася, што і раскулачвалі памылкова (у спісе значыўся родзіч старшыні камбеда).

Сям'я страшна бедавала. Адно дзіця памерла, а маці падзённай працай, агародніцтвам імкнулася падтрымліваць астатніх. Калі яна расказвала пра сябе — як яна кідалася і рыдала, — слухаць без слёз было немагчыма. Тады, з яе слоў, яна перастала верыць у Бога, бо не магла зразумець, за што такія пакуты.

Саша пайшоў у школу рана (у 6 гадоў), бо вучыліся старэйшыя сёстры. Скончыўшы 10 класаў (яму не было 16-і), давялося дадаць адзін год, каб атрымаць пашпарт. У 16 гадоў (1941) ён пачаў выкладаць у школе матэма-



*Аляксандр Федаравіч Буднікаў. 1976 год.*

тыку, бо настаўнікаў не было — усіх забралі на вайну, і ён увогуле быў адзіны мужчына. Ён расказваў, як яму ўдалося заваяваць аўтарытэт сярод хлопчыкаў. «Расказваю на ўроку тэму, адзін хлопец хуліганіць, не слухае, вострыць канькі. Я ўзяў яго з парты за каўнер і шпульнуў у дзверы, ён з тымі дзвярыма і вылецеў у калідор. З той пары на ўроках была цішыня, а па калідорах дзеці хадзілі ледзь не на дыбачках».

У 17 гадоў яго мабілізавалі на працоўны фронт — адправілі на хімічны завод ў Бярэзнякі. Праца была жудаснай. Да вайны працавалі па 6 гадзін і ў спецыяльным адзенні, а яны — па 12 гадзін, з адкрытымі ваннамі, у якіх плавалі злучэнні хлору. Саляная кіслата, HCl, раз'ядала скуру і вопратку. Работнікі выскоквалі на вуліцу, абціраліся снегам, вопратку счэплівалі дротам.

Іх прыслалі дзве тысячы чалавек, сярод якіх было шмат узбекаў, а праз зіму засталося толькі дзвесце чалавек. Праца была непасільная, галадалі, карміліся гнілым супам, паверх якога плавалі чэрві, і яго не хапала. Аляксандр Фёдаравіч трохі маляваў, дык ён выразаў з гумы нешта падобнае на пячатку — і часам яму ўдавалася яшчэ раз адстаяць у чарзе і атрымаць другую порцыю супу.

Але ён зразумеў, што другую зіму не вытрывае, памрэ ад голаду. А значыць, трэба прасіцца на фронт. Але на фронт не пускалі. На шчасце, на прадпрыемстве з'явіўся прадстаўнік ваеннага завода (збіраў грошы на танк), і з вялікай цяжкасцю (Саша быў актыўны камсамолец) майго будучага мужа адпусцілі на фронт з такімі словамі: «Дурань, цябе там заб'юць». На што Саша адказаў: яшчэ, маўляў, невядома — мо я героем стану, а калі і заб'юць, дык сытага.

На фронце Саша з 1943-га. Ён вельмі неахвотна расказваў пра вайну. Яваў у акопах, салдатам. Пасля трохі займаўся сувяззю, радыстам. А скончыў вайну танкістам. Ваяваў у аперацыі «Багратыён».

## АПЕРАЦЫЯ «БАГРАТЫЁН»

Саша расказваў, як ён стараўся весці танк трошкі прытопленым у балота, бо тады снарады разрываліся ў вадзе і не было магутнай аддачы. Акрамя таго, у кішэнях ён заўсёды насіў дзве гранаты. Яны і выратавалі яму жыццё. Калі іх танк быў падбіты і гарэў, камандзір адразу выскачыў праз верхні люк і быў скошаны кулямётнай чаргой. Саша выскачыў праз ніжні люк, ён ужо ўвесь гарэў, асабліва твар, і нічога не бачыў. На слых ён кінуў адну гранату ў бок кулямётнай чаргі, затым перакаціўся і кінуў другую гранату ў адваротны бок. Сам пакаціўся ў балота, патушыў на сабе агонь, прыслухаўся і папоўз у бок рускай гаворкі, але ўжо нічога не бачачы. Аказалася, гаварылі сельскія людзі, літоўцы, яны і знайшлі Сашу, перадалі нашым войскам. Яго перавезлі ў шпіталь Ржэва. Везлі па лясных дарогах, калдобінамі, а машына была без рысор, і жывымі даехалі толькі лёгкапараненыя (канечнасці, апёкі). Цяжкапараненыя такой дарогі не вытрывалі.

Пасля шпіталя Саша стаў сувязістам, пасля вайны скончыў вучылішча сувязі і лейтэнантам быў накіраваны ў Германію — там тады яшчэ была акупацыйная зона. Верагодна, плацілі афіцэрам добра, бо ён дапамагаў двум братам, якія вучыліся ў горным інстытуце ў Кемераве, двум сёстрам

(настаўніцам) і маці. Акрамя таго, купіў сабе грамадзянскую вопратку, бялізну і пасцельныя прыналежнасці. Ён усё жыццё марыў пра аўтамабіль, таму сабраў грошай на «Победу» — тады яна каштавала 16 тысяч рублёў.

### ПРАЦЯГ АПЕРАЦЫІ «БАГРАТЫЁН»

Саша вельмі годна, смела ваяваў. У яго былі два медалі «За боевые заслуги», ордэн Славы III ступені — ён падпаліў самаходную пушку, калі не памыляюся, «Фердынанд». Здарылася гэта так: яму падалося, што ў ляску нешта бліснула, і ён пачаў разварочваць танк. Немцы таксама ўбачылі рускі танк і таксама пачалі разварочваць гармату. Па словах Сашы, нашы гарматныя вежы (калі я не памыляюся ў назве) разварочваліся хутчэй, ды і танкісты разварочвалі гармату з усяе моцы. Саша выстраліў першым і адразу патрапіў у ворага. За гэты подзвіг (паспрабуйце самі ў такой сітуацыі не разгубіцца, халаднакроўна накіраваць пушку і дакладна патрапіць) ён атрымаў ордэн Славы III ступені. А вось яшчэ. Ён вырашыў правесці танк па дну ракі на той бок, дзе стаялі ворагі. Законапацілі ў танку ўсе дзіркі прамасленымі робамі, анучамі — і так нечакана пад носам ворага з'явіўся наш танк.

Вось такім воінам быў мой муж, Аляксандр Фёдаравіч Буднікаў, а калі нашчадкі будуць чытаць мае радкі, то ваш бацька, дзядуля, прадзед. Ён быў стойкі, доблесны салдат.

* * *

Пасля заканчэння вучобы і службы ў Германіі Аляксандр Фёдаравіч быў накіраваны ў Беларускі ваенны округ, у Калодзішчы. Там ён пазнаёміўся з лейтэнантам Рэзнікам Анатолем. Абодва былі непітушчыя, не курылі, хацелі атрымаць вышэйшую адукацыю і пачалі рыхтавацца паступаць у Ленінградскую ваенную інжынерную акадэмію сувязі імя С. М. Будзённага.

Толік Рэзнік быў вядомы ў Мінску як пляменнік вядомага ўрача-тэрапеўта Рэзніка. Тады вышэйшая пахвала ўрачу была «клініцыст», паколькі толькі галава і рукі робяць урача таленавітым. Таму і Саша быццам бы атрымаў рэкамендацыі ад Толіка, бо мой бацька-ўрач, ды і дзядзька Інсараў Іван Анісімавіч (міністр аховы здароўя БССР) добра ведалі Рэзніка і разумелі, што яго пляменнік сябраваць з недастойным чалавекам не будзе.

Пазнаёміліся мы ў 1951 годзе на практыцы, куды Толік разам з Сашам прыехалі наведаць нявесту Толіка — Саню Гольдштэйн. Там Саша і ўбачыў мяне. Па яго словах: «Міма прабегла бландзінка, блакітнавокая, у блакітнай сукенцы, уся такая ладная, складная, сімпатычная, неперадавальная». І з той пары мы разам з ім рука аб руку ішлі 60 гадоў (без некалькіх месяцаў).

Маладосць наша прайшла ў Ленінградзе, тут мы пачалі спасцігаць адно аднаго, і я зразумела, як мне пашанцавала, які клапатлівы, умелы мой муж. У яго ніколі не было панікі, ён не губляўся ні перад якімі перашкодамі, усё вырашалася ім адразу, спакойна, найлепшым чынам.

Тады Ленінград яшчэ выглядаў блакадным, толькі звонку дамы падмазалі, а ў двары — непрыбраныя сляды пажараў. Пакой, які ён зняў, не быў прыведзены ў парадак. Я ўвайшла і застыла: падлогі няма, ляжаць недзе ўнізе сталёвыя бэлькі, а паміж імі смецце, бруд. Ні на імгненне Саша не разгубіўся: пачакай, я зараз. І праўда, праз нейкі час прынёс кардон, паслаў на падлогу — хадзі. Прывялі ў парадак сцены, і мой малады муж кажа: «Цяпер гавары, што табе трэба». Я адказваю: «Мне няма дзе чытаць кніжкі». Адказ: «Добра, зараз зраблю лежбішча». Прынёс тры скрыні, паставіў у даўжыню, на іх паклаў дзверы, якія зняў з кладоўкі. Паслалі ватныя коўдры, пярыну (маю), накрылі гэта посцілкай беларускай — вось і лежбішча. Пасля муж зрабіў шафу. І я падумала, што ён нейкі Чараўнік Смарагдавага горада.

А калі я ўбачыла, як сур'ёзна, з якой поўнай аддачай ён займаецца вучобай, не пакідаючы нічога нявырашанага і незразумелага, не пасуе перад цяжкасцямі, а пераадольвае іх, — я зразумела, што з ім не прападу, што разумнага і ў куце відаць.

Так пачыналася наша маладосць, наша сямейнае жыццё. Назіраючы той клопат, якім ён мяне абкружыў, пяшчоту і любоў, я пачала

адказваць яму тым жа. «Ціхім каханнем к табе разгарацца з гэтай пары я пачаў».

Наша маладосць прайшла пад мачтай Ленінграда, кожную вольную хвіліну мы беглі ў горад — да гэтых велічных будынкаў, мастоў, музеяў. Саша вельмі любіў будынак галоўнага штаба, асабліва пастаяць пад аркай, пад якой сапраўды адчуваеш упэўненасць, што ўсё стаіць «неколебимо, как Россия».

Кожны дзень нёс радасць спасціжэння адно аднаго. Здавалася, такому стану душы не будзе канца, што адчуванне чароўнае кахання будзе доўжыцца ўсё жыццё.

Цяпер успамінаеш той час як міраж, няспраўджаны сон, чароўны і незваротны.

Па прыездзе ў Мінск, па месцы працы мужа, адразу кінуліся ў матэрыяльныя клопаты. Галоўны — дзе жыць. Нарадзіліся дзеці — двое сыноў-пагодкаў. Неабходна было забяспечваць іх. Саша адразу пачаў дабівацца жылля, і нам, як іншым сем'ям, выдалі пакоі ў былой казарме: два вялікія памяшканні на другім паверсе, з пячным атапленнем.

Я не ведала ніякіх турбот пра побыт, усё з'яўлялася ў доме быццам само сабою. Тата назваў майго мужа «залатым чалавекам», шчыра любіў яго і аберагаў.

І вось новае выпрабаванне. Мужа адпраўляюць на Кубу, як сувязіста, развіваць сродкі сувязі. Можа быць, вы памятаеце так званы карыбскі крызіс, калі Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў размясціў ракеты на Кубе, а амерыканцы засеклі іх аэрафотаздымкамі.

Аляксандра Фёдаравіча накіравалі другой партыяй, а першыя, што вярнуліся дадому (па словах Аляксандра Фёдаравіча), хварэлі на гепатыт, адзін знаёмы вярнуўся з паралізаванымі нагамі.

У мяне адразу з'явіўся жах перад тым, як я буду спраўляцца: трэба паліць тры печкі на другім паверсе, а дровы далёка, унізе, у двары, і крамы — далёка, і дзяцей у садок вадзіць не змагу — мы жылі на вуліцы Маякоўскага, а садок размяшчаўся ля генштаба. Аляксандр Фёдаравіч, назіраючы мой стан, сам страшна расхваляваўся, пачаў мяне суцяшаць, казаць, што зробіць усё магчымае для нас, ніколі не кіне, і калі будзе хоць якая лазейка, то абавязкова яе выкарыстае. Але я, бачачы яго стан, кідані, каго б знайсці мне ў дапамогу (дзеці 3 і 4 гадоў, бацька стары), раптам зразумела, што не маю права ні на страх, ні на хваляванне. Я раптам успомніла, што я — руская жанчына, што ў мяне ёсць усе якасці маёй мамы — стойкасць, працалюбства, вера ў свае сілы, вернасць абавязку, сям'і, мужу. Мая мама выратавала мяне ад голаду ў вайну, выцягнула бацьку з нямецкай турмы, сабой закрыла нас ад немцаў.

Я адразу супакоілася сама, супакоіла мужа, сказала, каб ехаў, выконваў свой воінскі абавязак, як таго патрабуе служба, а я, маўляў, спраўлюся з усімі цяжкасцямі, бо цяпер жа не вайна, усё ёсць, і, увогуле, мільёны жанчын жывуць у цяжэйшых умовах і ў іх няма ні такога мужа, ні нават такой кватэры.

Муж паехаў спакойны, зноў паўтарыўшы словы, што ён нас ніколі не кіне, пастараецца знайсці лазейку.

Праз нейкі час ён вяртаецца і кажа, што яго адпусцілі, бо ён прад'явіў рэзоны, па якіх не хоча ад'язджаць:

1) ён сібірак і не выносіць субтрапічнага клімату, таму працаваць там не зможа;

2) ён добраахвотна пайшоў абараняць сваю Айчыну, а абараняць чужую не хоча;

3) яго сям'я жыве ў казарме, і калі з ім самім нешта здарыцца, то яна апынецца на вуліцы, без жытла — ад такой незабяспечанай сям'і ён ад'язджаць не хоча;

4) ён па спецыяльнасці эксплуатацыйнік, а не рамонтнік (можа быць, наадварот, — не памятаю), а там патрабуюцца нейкія канкрэтныя спецыяльнасці.

Аляксандр Фёдаравіч выйшаў са строю (ён ужо быў пераапрануты ў грамадзянскае), яму працадзілі скрозь зубы: «Ну, капітан, не быць табе маёрам», на што ён адказаў: «Яшчэ і генералам стану». І яго вярнулі дадому.

Клопат пра сям'ю быў для Аляксандра Фёдаравіча няспыннай працай. Спачатку ён атрымаў кватэру («хрушчоўку», але з усімі дабротамі, і спачатку яна здавалася нам раем). Аляксандр Фёдаравіч вельмі дапамагаў мне ў афармленні кандыдацкай дысертацыі (усю тэхнічную працу ўзяў на сябе), дамовіўся пра абарону ў Віцебскім медінстытуце, даставіў туды ўвесь навуковы савет (пры дапамозе камандзіра дэсантна-

га палка). Старыя прафесары сабраліся і імгненна прагаласавалі «за». Мае знаёмыя, якіх я запрасіла на абарону, у адзін голас сказалі: «Мы за цябе спакойныя — у цябе не муж, а жалезабетонная абарона».

Увесь клопат пра ўмовы жыцця, побыт сям'і ён браў на сябе. Я жыла як у кокане. І ведала толькі клопаты пра дзяцей і пра яго. Дзякуючы мне, майму бацьку і клопатам мужа дзеці атрымалі выдатную адукацыю, выраслі культурнымі, дасведчанымі людзьмі. Ён ганарыўся сваімі сынамі. Старэйшы, Дзмітрый, — гігіеніст, кандыдат медыцынскіх навук, працуе ў Інстытуце санітарыі і гігіены. Малодшы, Пётр, — падпалкоўнік КДБ, працуе ў групе «Алмаз», старшы выкладчык на кафедры псіхалогіі, адзін з лепшых лектараў кафедры.

На маю думку, яму, Аляксандру Фёдаравічу, у жыцці не пашанцавала двойчы: калі ў штаб округа прыйшло запрашэнне на паступленне ў Акадэмію генштаба, Саша даў згоду, напісаў заяву, але аказалася, што туды бяруць толькі да 40 гадоў, а яму ўжо быў 41 год. Другі раз яму не пашанцавала… з такой жонкай як я. Яму прапанавалі генеральскую пасаду ў Барысаве, але я раптам пашкадавала толькі што атрыманую чатырохпакаёвую кватэру, а яму сказала: «едзь адзін». Ён адказаў, што без нас яму там рабіць няма чаго. Я, зразумела, адразу перадумала, але ён ужо (у тую ж гадзіну) адмовіўся. І толькі праз нейкі час, калі ён мною пакамандаваў (ён любіў ставіць мяне «во фрунт»), а я яму жартоўна адказала: «Слухаю, mon colonel», ён сказаў: «А калі б паехала са мною, то я б у цябе быў mon general», — я зразумела, што душа яго поўніцца горкімі шкадаваннямі.

Мы пражылі разам амаль 60 гадоў. І толькі калі побач няма любага, разумееш, якім ён быў моцным, мужным, надзейным. Як я любіла яго ў мундзіры, з усімі рэгаліямі, як ганарылася ім. З таго часу ў мяне засталася любоў да ваеннай формы, і калі я бачу вайскоўцаў, мне здаецца, што яны стаяць на прыступку вышэй за нас, з больш высокім пачуццём абавязку, з больш сумленным стаўленнем да сям'і, Айчыны, і што яны ступяць першымі, калі будзе ў тым патрэба.

Я ўспамінаю незваротны час нашага сумеснага жыцця і разумею, колькі не было сказана слоў кахання, падзякі за вялікі клопат. Як мала цаніла дні, калі мы былі разам, я дакараю сябе за тое, што мала радавалася кожнаму нашаму дню, каханню. І як мне хочацца сказаць усім: цаніце кожнае імгненне, кожную гадзінку, калі вы разам, бо нічога нельга вярнуць, ніхто пасля не пачуе ні вашых слоў кахання, ні просьбы даравацъ за нанесеныя крыўды.

Што прамінула, тое ўжо ніколі не настане! Хачу прывесці словы нашага вялікага беларускага паэта. Гэтыя радкі можа аднесці да сябе кожны. І калі ёсць яшчэ наперадзе светлая далячынь, — радуйцеся кожнаму дню.

О, як бы я хацеў спачатку
Дарогу жыцця па парадку
Прайсці яшчэ раз, азірнуцца,
Сабраць з дарог камені тыя,
Што губяць сілы маладыя, —
К вясне б маёй хацеў вярнуцца.
Вясна, вясна! Не для мяне ты!
Не я, табою абагрэты,
Прыход твой радасны спаткаю, —
Цябе навек, вясна, хаваю.
Назад не прыйдзе хваля тая,
Што з быстрай рэчкай уплывае.

Якуб КОЛАС

***Пераклад з рускай***
***Святланы ДЗЯНІСАВАЙ***

